УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)-44
К85

*Серыя заснавана ў 2007 годзе*

На ўклейцы — фотарэпрадукцыі
карцін мастака Янкі Рамановіча,
героя дакументальна-мастацкай аповесці «Богаў сон»

**Крэйдзіч, А. М.**
К85 Роднае, шчымлівае : кніга прозы / Анатоль Крэйдзіч. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2012. — 208 с. — (Лімаўскі фальварак).
ISBN 978-985-6994-85-5.

Кнігу прозы Анатоля Крэйдзіча склалі дакументальна-мастацкая аповесць пра вядомага беларускага мастака Янку Рамановіча, які жыве ў в. Моталь Іванаўскага раёна і прымае актыўны ўдзел у выставах у дзясятках краін свету, а таксама нарысы пра вядомых і адметных людзей Брэстчыны, літаратурныя роздумы пра рэчаіснасць у аўтарскім праекце «150 пісьменніцкіх радкоў», філасофскія і жартоўныя мініяцюры…

Усе творы — ад аповесці да мініяцюр — публікаваліся ў літаратурных часопісах і штотыднёвіку «ЛіМ».

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6994-85-5**

Дакументальна-мастацкая аповесць

# БОГАЎ СОН



**Паміж…**

Дзіўнае гэта адчуванне: бяжыш, бяжыш што ёсць сілы, даганяеш будучыню, але не маеш сілы дагнаць, адно аддаляешся ад мінулага; твая ўласная будучыня аддаляецца ад цябе, а ты — ад свайго ўласнага мінулага. І вось ты ні там, ні тут. Пасярэдзіне. Па-за часам і па-за прастораю.

Гэта як у сне: няма за што ўхапіцца ні наперадзе, ні ззаду, і… заходзішся ў адчаі.

Але то была ява. Няхай сабе і падобная да сну. І быў ён. І было ў яго ўласнае мінулае, якое не адпускала, моцна трымала, колькі б ні аддаляўся, і будучыня, якая таксама не адпускала, вабіла, гіпнатызавала невядомасцю і прадчуваннем… Прадчуваннем незвычайнага.

Ён бег за гарадскім аўтобусам па чужой яму мінскай вуліцы, абліваючыся потам ад хуткага бегу па гарачым асфальце, палымнеючага ў грудзях страху і таксама ж гарачага сонца над галавою. І той бег быў, як яго сёння ні ўспамінай, усё ж такі сном, хоць і быў яваю.

А можа, усё яго жыццё — Богаў сон? І ён творыць тое, што сніць сам Творца творцаў?

У аўтобусе сядзела яго маладзенькая настаўніца Ірына Аркадзьеўна і чытала кнігу. Колькі год таму яна прыехала ў Моталь са сталіцы пасля заканчэння мастацкага вучылішча імя Глебава, каб рэалізаваць сябе як мастачку. Уладкавалася ў вясковую школу мастацтваў, а ён ужо год як займаўся ў гэтай школе. І заўважыла яго. А праз паўгода павезла адзінаццацігадовае хлапчанё ў сталіцу здаваць экзамен у рэспубліканскую школу-інтэрнат музыкі і выяўленчага мастацтва імя

Івана Ахрэмчыка, які пасля быў перайменаваны ў ліцэй, пасля — у каледж, пазней — у гімназію-каледж. Бацькі нават не паспелі скеміць, куды адпраўляецца дзіцё. Далі на дарогу «чырвонец», і…

Трэба ж, прыгоды пачаліся ў першыя хвіліны па прыбыцці ў сталіцу! Зачыталася юная настаўніца на прыпынку гарадскога аўтобуса ў Мінску, ускочыла, ледзь адарваўшыся ад кнігі, у аўтобус і нават не заўважыла, што яе маленькі спадарожнік застаўся на вуліцы. А ён бег і бег за аўтобусам па чужым яшчэ Мінску. Прабег некалькі прыпынкаў. Аддаляўся ад уласнага дзяцінства, ад вёскі, ад бацькоў, якія і не заўважылі яго ад’езду, бо было свята, і яны святкавалі разам з суседзямі, а аўтобус няўмольна аддаляўся ад яго. Аддалялася яго настаўніца. У нейкі момант яна ўсхамянулася і пачала шукаць свайго вучня. Не знайшоўшы, кінулася да выхаду. Вярнулася на той самы прыпынак. Няма. Села ў наступны аўтобус з надзеяю: раптам ён дабраўся да месца сам. А ён, глытаючы слёзы, пытаўся ў людзей, як дабрацца да школы-інтэрната. Праз пяць прыпынкаў яны зноў апынуліся разам, бо ён сеў у той самы аўтобус, у якім побач з вадзіцелем стаяла і шукала яго вачыма на тратуарах і на прыпынках яна. Вучань і настаўніца не хавалі ад здзіўленых пасажыраў-спадарожнікаў сваёй радасці.

Прыгода так і засталася той мяжою, якая падзяліла жыццё на БЫЛО і БУДЗЕ.

Экзамены яны здавалі разам. Ён, Янка Рамановіч, якому крыху болей чым праз тры месяцы, 19 лістапада, споўніцца 12 год, у рэспубліканскую школу мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка. Яна — Ірына Аркадзьеўна Сізова, якой яшчэ не было дваццаці, адправілася ў Ленінград, каб здзейсніць чарговую сваю мару — стаць рэжысёрам.

Пасля яна наведае першую персанальную выставу свайго вучня ў сталіцы і прызнаецца, што хоць і бачыла ў ім талент, і верыла ў яго, але ён узняўся недасягальна вышэй, чым чакала. Серыя «Беларуская Атлантыда» — выразныя, эмацыянальныя адбіткі вёскі адыходзячай — заваражыць жанчыну, яна не здолее стрымліваць слёзы, а пасля падорыць свайму лепшаму ў жыцці вучню ўласны эцюднік. Тады ж прызнаец-

ца: «Хоць я і не сцвердзіла сябе ў Моталі мастаком, дзеля чаго падалася ў глыбінку, але не шкадую, бо знайшла цябе і паспрыяла з’яўленню непаўторнага таленту».

Зрэшты, тое было пазней. А пасля выдатнай здачы экзаменаў хлопчык вярнуўся дахаты і застаў бацькоў за тым жа сталом з гасцямі — зноў было свята. І толькі пазней, калі дома ўцямілі, што сын будзе жыць у Мінску і вучыцца «на художніка», бацька цяжка ўздыхнуў: «Такога хлопца сапсавалі. Хіба ж “художнік” — прафесія. А такім быў бы памочнікам на трактары». У вёскі свая філасофія жыцця. Гэта ад яе — такой — ён аддаляўся, даганяючы аўтобус у сталіцы. Каб да яе ж вярнуцца і даганяць тое, што вёска страчвае. Даганяць ужо не аднаму, а разам са шматлікімі прыхільнікамі свайго таленту, якіх ужо не злічыць. Ды, пэўна, ужо з усёй Беларуссю.

**Свет навобмацак**

О свет вялікі, свет чароўны… Толькі пачнеш цябе пазнаваць, навобмацак, торкаючыся туд-сюд, нібы сляпое кацяня, паўсюль — патарчакі, якія раняць, раняць, раняць… Галоўнае тут — не адступіцца, бо хіба без ран гэтак востра пазнаеш жыццё? Вунь колькі іх на целе, рубцоў — знакаў таго, што свет пазнаваўся напоўніцу, наўпрост, без зважанняў на боль.

— Іваначка, ну куды ж ты зноў улез? На што ж гэта ты напароўся шчакою? Божа мой, Божа, костка тырчыць.

Маці ледзь прытомнасць не страціла. Яшчэ ж малое, мо якіх тры гады. Дый помнілася, як гадавалым напароўся ці не гэтай жа шчакой на відэлец, зваліўшыся з прыпечка.

Не паспее зацягнуцца адна рана, як тут табе новая.

— Іваначка, у цябе ж усё вока ў крыві. Ці не выкалаў ты яго? Давай прамыем.

А ён вырываўся. І калі параньваў нагу альбо руку, то і сам не зважаў, і нікому не паказваў. Боль зрабіўся звыклым. Валіўся з печы, з дрэваў, захлынаўся ў рэчцы, ачомваўся, зноў за нешта чапляўся, зноў абыходзіўся без лекаў і бальніц… Сінякі сыходзілі, раны зажывалі-зарубцоўваліся, боль забываўся. Усё гэта незваротна патанала ў велічнай празе пазнання свету.

І вось ужо хлапчанё без страху і сумнення выходзіць за вароты дзіцячага садка, сядае ў рэйсавы аўтобус і… едзе. Куды?

— Куды ж гэта ты едзеш, такі маленькі? Чый жа ты? Як цябе завуць?

Бабуля-маталянка бачыць, што хлопчык сам, без дарослых. Яна хвалюецца, каб чаго з ім не здарылася. А яму хоць бы што, смела расказвае, што ён Іван, што прозвішча яго Рамановіч, што бацьку завуць Мікалай, а маці Надзея, што ў яго ў Моталі ёсць дзед Павел і баба Зіня, а ў Асаўніцы маміны бацькі — дзед Міша і баба Люба, а яшчэ ў яго — маленькі брацік Юра… А едзе куды? Ды нікуды. Проста яму вельмі цікава ездзіць.

Дарослыя, дазнаўшыся, чыё ж гэта такое дзіцё, вярталі яго «пад родны дах». Праходзіў месяц-другі, і ён зноў выпраўляўся ў сваё пакуль яшчэ неўсвядомленае падарожжа, здаралася, дабіраўся да самога Іванава-Янова, ды дарослыя яго і адсюль вярталі. Балазе хлопчык гаманкі, расказваў усё, што ведаў, а ведаў ён дастаткова для таго, каб чарговая бабка альбо цётка маглі вызначыць, на які аўтобус яго садзіць.

Яшчэ больш звыклым было балота. Тут штолета нашыхоўвалі сена для каровы, бычка ды меншай жыўнасці. А жыўнасці трымалі — не злічыць па галовах. Нават тхаркі ды нутрыі гадаваліся ў клетках. З іх ці то самі шылі шапкі ды каўняры, ці прадавалі як сыравіну. Гэта ўжо як выпадала.

Балота не дужа далёка, таму начаваць не заставаліся. Бацька вазіў сваім «Запарожцам», які яшчэ хлопцам прыдбаў па інваліднасці (заматала нагу ў камбайнавы шнэк, перажавала, калі пасля школы працаваў на жніве), каб ездзіць да дзяўчыны, сваёй будучай жонкі, на спатканні ў Асаўніцу.

У малога аж рукі свярбяць: як бы гэта самому праехацца хоць метр. Не вытрымаў: покуль дарослыя займаюцца сваімі справамі, павярнуў ключык, нешта націснуў… Бацька як аслупянеў: машына едзе, а за рулём — нікога, бо сын маленькі і яго не бачна. Пад колам стаяў слоік з пітвом. Але што той слоік, калі аўтамабіль у раку прастуе, тры метры да вады засталося. «Хана машыне», — махнуў знясілена рукою бацька. І машына перад самай ракою спынілася. Знайшоў-такі тормаз. Ды бацькавага гневу не пазбег: «Марш дахаты, каб вочы мае цябе не бачылі! Шафёр, такую тваю растакую, знайшоўся». Доўга ішоў, праклінаючы сябе і шкадуючы бедных тату і матулю, якіх гэтак напалохаў. Дзіва што, ледзь сам не ўтапіўся

і машыну ледзь не ўтапіў. А праз нейкі час дагнаў бацька: «Сядай, што з табой рабіць, бо пешшу да ночы не дабярэшся».

Схацелася папрасіць прабачэння за свавольства, ды язык ужо не паварочваўся. Але бацькі — на тое і бацькі, яны ўсё даруюць.

Асаўніца — вёсачка ў трох кіламетрах ад Моталя. Дарога туды — таксама вялікае падарожжа праз лес, у якім грыбы, ягады, птушыныя гнёзды, гуллівае сонца і густы водар — такі густы, што можна пакратаць рукамі… А ў дзеда, якога так рэдка можна пабачыць, бо ўсё будуе і будуе дамы калі не ў далёкай Сібіры, то ў сваёй Асаўніцы, у гэтага дзеда смачныя грушы і яблыкі, загадкавае гарышча з дзіўнымі старымі рэчамі, такая і не такая, як у Моталі, рэчка Ясельда. Там гэтак хораша купацца, асабліва ўначы. Над самай глыбокай мясцінай трамплін. Скачы колькі хочаш. Адно што гадзюкі ўначы таксама точацца бліжэй да вады, і ў рэшце рэшт адваявалі паўзучыя стварэнні ў прыхадня права на начное гаспадаранне каля рэчкі. А ён і не ў крыўдзе. Яны ж тут спаконвеку жывуць, а ён толькі госць.

У мотальскага дзеда — во дзе па-сапраўднаму пачуваешся гаспадаром, во дзе раздолле. Хатка старая, дасталася яшчэ ад прадзеда. А прадзед, чуў ад дарослых, быў кулаком. Відаць, моцны быў, калі кулак. А я ж унук, напэўна, таксама моцны буду. Каля той хаты гэткія ж урадлівыя грушы, яблыні, слівы, вішні… Усяго багата, а плады смачныя-смачненныя. Тут колькі ні бавішся — не надакучвае, хоць днюй і начуй на сене ў хляве ці на гарышчы. Ды нешта і тут пачало дзеяцца незразумелае. Проста на агародзе, каля хаты, незнаёмыя людзі пачалі ўзводзіць цагляны будынак, а за ім, з другога боку, яшчэ будынак. І ўжо і тут як не свой, ужо і тут нейкія іншыя гаспадары, незнаёмыя, чужыя… Дзед з бабаю парабіліся хмурыя, маўклівыя. Нібыта і яны ўжо не гаспадары на сваім пляцы. А аднаго дня прыбег — няма ўжо і хаты, адно печ пасярод асірацелага двара. Але дзед збудаваў хату ў новым месцы і бегаў ужо туды. Ды там не той настрой, не тыя гульні. І дзеда нешта ўсё няма і няма дома. Ён у полі. Добра, калі дзе недалёка, можна прыбегчы, праехацца разам на трактары, а як пашчасціць, то і самому пакруціць абаранак. Дзед любіць сваю працу, свой трактар. За гэтую працу яму

ўручаюць медалі і граматы. Але ён не ганарлівы, паскладаў іх у скрыначку і не выхваляецца ні перад кім. Усё ў полі ды ў полі альбо трактар рамантуе ды даглядае.

**Школа**

Дзень сонечны. Матуля ідзе поруч, у яе руках вялізны букет нейкіх яркіх бухматых кветак. За плячыма ранец. Двор Мотальскай школы № 1 таксама заліты сонечным святлом. У гэтым асляпляльным сяйве перамяшаліся дзеці, дарослыя, галасы…

Пасля такога гамузу нязвыкла ціха ў класе. Гучыць адно голас настаўніцы Алены Міхайлаўны Дайнека. Голас лагодны, разважлівы, вочы добрыя і спагадлівыя… Здаецца, слухаў бы і слухаў яе, глядзеў бы і глядзеў, як яна ходзіць па класе, паказвае на картках літары, гладзіць некага па галаве, і так хочацца, каб падышла і таксама пагладзіла. Але… Вунь колькі дзяцей, аказваецца, ведаюць ужо ўсе літары, некаторыя нават чытаюць па складах — дома навучыліся. А тут. Гадаваўся самапасам, без нагляду, без прынукі і да самай школы і не падазраваў, што гэта такое — літары. Калі настаўніца ўсё ж падыходзіла і спрабавала прыгладзіць непрычэсаныя валасы, якія дыбіліся на галаве куды ім хочацца, грудзі распірала жаданне перагнаць усіх ва ўменні чытаць і пісаць. І перагнаў. І прыйшло неўсвядомленае яшчэ, але моцнае жаданне: хоць у нечым быць першым, браць рэкорды. Вось вазьму і зараблю за месяц пяць пяцёрак толькі па адной дысцыпліне альбо за адзін дзень пяць пяцёрак па ўсіх дысцыплінах. А ў канцы месяца гартаў дзённік і вачам не верыў: шэсць пяцёрак. Па іншых дысцыплінах — таксама адныя пяцёркі. Толькі па рускай мове адна двойка. Але яна за тое, што не прынёс канверт на ўрок, на якім вучыліся пісаць пісьмы. Амаль увесь клас адхапіў за гэта «пары». Ну, і паводзіны дзе на якіх старонках пазначаны строгім словам «нездавальняюча». Неяк не атрымліваецца быць цалкам станоўчым выдатнікам. Нават на Дошку гонару чамусьці не вывесілі. Мо таму, што на ўсіх фотаздымках валасы занадта непаслухмяна тырчаць, і ўвогуле, знешнасць хутчэй на двоечніка выдае, а прычасацца неяк не стае часу. Усё нейкія дзіцячыя клопаты-забавы. Дый як тут не пагарэзуеш з хлопцамі, калі яны так і падбіваюць на ўсялякую дурату. А яшчэ ж адкрыў у сабе спартсмена.

Тое, што бегаў хутчэй за ўсіх, неяк мала грэла. А вось моцныя рукі — гэта крута. Гэта павага сяброў, усіх хлопцаў у школе. Гантэлі, гіры, штанга зрабіліся гэткімі ж звыклымі ў руках, як аловак ці асадка. Так і не знайшлося ніводнага, з кім бароўся на рукі, хто адолеў бы яго. Вось і яшчэ рэкорд.

***Мы разглядаем фотаальбомы***

*Іх, фотаальбомаў, у Янкі… Ат, збіўся з ліку.*

*— Я вельмі любіў фатаграфаваць, — кажа Янка. — З малога. Усё шукаў нешта такое, што звычайна не фатаграфуюць.*

*Ага, вунь хлопчык палівае са свайго краніка траву, смаленне вепрука, цётка з роварам, на рулі якога вісяць распухлыя ад пакупак торбы…*

*Яго таксама фатаграфавалі ў дзяцінстве.*

*У дзіцячым садку з групаю. Усе ў аднолькавых белых шкарпэтках, трусіках і майках. На руках у мамы. На сенажаці. З першым сваім фотаапаратам «Агат», падораным бацькамі пасля таго, як здаў экзамен у Мінску. А навучыў фатаграфаваць, праяўляць плёнку і вырабляць здымкі дзядзька Васіль Міхайлавіч Мендэль, заўзяты фотааматар і старшыня калгаса ў Брэсцкім раёне. Пасля была «Смена». Пасля сам ужо купляў «Зеніты». Цяпер іх назбіралася цэлая калекцыя — пыляцца разам з іншым фотаначыннем на гарышчы ў бацькоў.*

Невядома, адкуль яно ўзялося і з чаго пачалося, але аднойчы прыкмеціў, што ў яго ўжо назбіралася некалькі сотняў старых значкоў, медалёў, пагонаў… Аказваецца, ён збіраў усё гэта, як сапраўдны калекцыянер, адно што з памяці сплыло, як усё пачыналася. Затое да пятага класа сабралася досыць вялікая калекцыя, якую можна было б і выстаўляць дзе на конкурс. Але не паспеў. Пасля забыўся на яе. А яшчэ праз некаторы час большая яе частка згубілася. Ды што шкадаваць.

**Не музыка, дык мастак?**

— Як там наш сынок, добра сыграў на гэтым, як яго?..

— На піяніна, — малы не можа змірыцца з тым, што бацькі ніяк не запомняць, як называецца музычны інструмент, на якім ён ужо год займаецца ў школе мастацтваў.

— Як, як, — бацька (ён вярнуўся з экзамена не ў гуморы) бурчыць нешта пад нос. — Прапілікаў нешта там пра «кузнечыка». Гэта трэба было цалюткі год вучыцца, каб абы-што на экзамене пілікаць. Не, не будзе з яго музыкі. Але нічога, трактарыст будзе спраўны. Помніш, як па балоце на «Запарожцы» ліхачыў, а ў Ясельду, хоць і малы, не заехаў-ткі. Вось да чаго ў яго рукі цягнуцца. І бацька ўжо колькі разоў даваў праехацца на трактары. Га, сынок, любіш на трактары з дзедам Паўлам катацца? Га, любіш? Дзед хваліў цябе.

— Ну, люблю, — малому лёгка згаджацца, бо і напраўду яму ў ахвоту і баранак трактара круціць, і з дзедам Паўлам быць, з ім лёгка, цікава і пэўна.

— Гэта ты знарок адгаворваеш, каб не плаціць за тое, як яго… ага, піяніна, — маці гамоніць і корпаецца ў сваіх аўчынах. Прывозіць аднекуль аж з далёкіх Валгаграда ды гарадка Сальцы, што пад Ноўгарадам, цэлую гару гэтага дабра, доўга з ім валаводзіцца, а пасля шые кажухі. Тут паўвёскі гэтым займаецца. За кажухі і на хату зарабіла. Цяпер не зарабіла б, бо мода на іх прайшла, — гэта нават малы Янка ведае. А тады — ого! Маці, не адрываючыся ад важнага занятку, насядае: — Ну, дык што з хлопцам рабіць будзем? Няхай далей вучыцца, ці як?

— Ці як! — бацька, бачна, вызначыўся, і для яго гэтая размова скончана.

— Тады давай перавядзем у групу малявання. Бачыш, ён жа ўжо ўсё, што толькі можна, памаляваў. Да сцен дабраўся. На пяску нават малюе.

— На пяску ўсе дзеці, калі не ведаеш, малююць. Гэткі з яго будзе мастак, як і піяніст.

— Скупярдзяй. Шкадуеш на дзіцё капейку. Яму ж трэба развівацца.

— От і няхай развіваецца з дзедам на трактары.

Хлопчык слухае бацькоўскую перабранку і не бярэ нічога ў галаву. Як і не пра яго гэта. Сядзіць сабе каля печы, якая даўно ўжо — улюбёнае месца для заняткаў маляваннем, ды змалёўвае з памяці ў сшытак звяроў, якіх бачыў жывымі ці то на карцінках.

— То чаго ж ты яму алоўкаў ды фарбаў накупляў? — ніяк не адступаецца ад свайго ўчэпістая маці.

— От, няхай бавіцца, усё ж лепш, чым па завуголлях шнырыць ды кроў сабе пускаць. Галаву доўга не скруціў. Ён жа на адной шкодзе…

Маці, аднак, ужо не слухае бацьку. Выцірае даматканым грубым хвартухом рукі, падыходзіць да малога, назірае, як малы размалёўвае зялёным колерам зайца-шарака. Цяжка ўздыхае, але сумненні наконт мастацкіх здольнасцяў сына пакідае пры сабе:

— Паглядзі, як спрытна малюе. Зайчык як жывы. І вушкі доўгія, і хвосцік маленькі. Толькі зялёны, — і да сына: — Ты, дзіцятка, няхай бы шэранькім яго зрабіў, то зусім як на фотакартачцы быў бы.

— Шэры нецікавы, зялёны весялейшы, — па-даросламу разважае малы.

— Як «кузнечык», — знаходзіць паралель з сённяшнім экзаменам па музыцы бацька і задаволена хмыкае, маўляў, бачыш, жонка, а я што казаў, такі з яго мастак будзе, як і музыка. І ставіць тлустую кропку: — Зусім як агурэчык.

На тым, здаецца, спрэчка і захлынулася. А па восені маці запісала хлопчыка ў клас малявання да Святланы Уладзіміраўны Сырапушчанскай. Яна была ўжо сталага веку і спецыялізавалася большай часткаю на прыкладным мастацтве — на вырабах з саломкі ці якога іншага падручнага матэрыялу, таму ў новым вучні нічога асаблівага не заўважыла. Ці не паспела заўважыць, бо праз год сышла на пенсію. А на яе месца прыехала з Мінска васямнаццацігадовая Ірына Аркадзьеўна Сізова. І ўсё змянілася. Прынамсі, для яго, Івана Рамановіча, якому было дзесяць год.

— Я прыехала сюды тварыць, — прызнавалася з маладой задзірыстасцю і нават некаторай, як падавалася дзецям, самаўпэўненасцю. — І вас навучу разумець мастацтва — гэты высокі і найпрыгажэйшы свет, гэтую таямніцу таямніцаў, якою цалкам не дадзена авалодаць нікому, і толькі абраныя дакранаюцца да яе.

Яна прыходзіла ў клас лёгкая, усмешлівая, штораз з новаю кнігаю ў руцэ, а кнігі чытала запоем, кожнаму знаходзіла суцяшальнае слова, але з кожным урокам усё часцей падыходзіла да яго, Івана, доўга назірала, як працуе, нешта падказвала, папраўляла, і было бачна, што задаволена ім. А аднойчы сказала:

— Маю школу ты перарос. Табе трэба працягваць вучобу ў Мінску.

Але ж Мінск — гэта нешта дужа далёкае і недасягальнае. Адтуль прыехала яна — таксама недасягальна загадкавая. Дый бацькі хіба адпусцяць?

Пра свае сумненні, аднак, не расказваў. Маўчаў. А тым часам малюнкамі ўжо былі заняты амаль усе сцены ў школе мастацтваў. Галерэя, дый годзе. Людзі ходзяць, дзівуюцца, захапляюцца. Старшыня калгаса жыва цікавіцца.

Не, пра Мінск да апошняга дня і думаць не думаў. Ды вось настаў дзень. Самы непрыдатны. Бацькі свята з сябрамі-вяскоўцамі святкуюць, а тут настаўніца на парозе:

— Забіраю вашага Івана ў Мінск экзамены ў рэспубліканскую школу мастацтваў здаваць. Збірайце ў дарогу.

А што там збіраць. Ніхто толкам і не зразумеў, у якую гэта школу сабраўся хлапчына. Дзесяць савецкіх рублёў маці дала настаўніцы — і ўсе зборы. Балазе лета, не трэба дужа пра вопратку дбаць.

Далей былі пагоня за аўтобусам у Мінску, якую чытач толькі што перажыў разам з героем расповеду, быў экзамен, пачалося новае жыццё, якое яшчэ давядзецца перажыць…

**На «Запарожцы» — у Мінск**

Паўлета паміж бацькамі не сціхала сварка. Маленькі ліст-запрашэнне з адваротным адрасам «Мінск, Макаёнка, 14, Рэспубліканская школа-інтэрнат музыкі і выяўленчага мастацтва імя Івана Ахрэмчыка» парушыла размеранае жыццё сям'і.

Іван, які за дзіцячымі клопатамі зусім забыўся на сваё дзіўнае падарожжа ў сталіцу, на тое, што зусім не малечай забаўкаю быў экзамен у элітную мастацкую вучэльню, раптам убачыў перад сабою і заплаканы мілы твар Ірыны Аркадзьеўны, калі згледзела-знайшла яго, згубленага, у аўтобусе, і спачатку строгіх, а пад развітанне злагаднелых членаў экзаменацыйнай камісіі, і вяртанне дахаты аўтобусам, калі доўга-доўга ехаў да Моталя сам і насалоджваўся яздою, перажытым узрушэннем і самастойнасцю, і дзесяць савецкіх рублёў, якія прывёз неразмененымі назад дахаты, бо за ўсё плаціла Ірына Аркадзьеўна, ледзь не задыхнуўся ва ўспамінах і хоць зараз быў гатовы, хоць пехатою, дабірацца ў сталіцу. Тым больш

ліст быў запрашальны, у ім значылася, што ён паспяхова здаў экзамены і залічаны ў вучэльню.

Але ж бацька…

— Ты ж дома ледзь галаву не скруціў. А ў Мінску… У Мінску як ёсць прападзеш. Сядзі дома і не рыпайся.

З надзеяю зірнуў на маці: некалі ж адстаяла, каб у вясковай школе мастацтваў маляваннем займаўся. А яна раптам ледзь не заплакала:

— Хопіць, што мяне ўжо сястра адгаварыла вывучыцца на швяю. Я ж гэтак хацела шыць сукенкі, касцюмы, кофтачкі, спадніцы… Дурная, паслухалася і во ўсё жыццё шкадую. Няхай хоць ён не шкадуе пасля, што яго адгаварылі.

— Дык ты ж кажухі шыеш. А кажух — гэта табе не нейкая там марынарка ці сарочка.

— Кажухі ўжо не ў модзе. Ужо, кажуць, хусткі ў хаду. Даставай кросны, дык буду ткаць. Хлопцы-камерсанты і нітак навязуць, і тавар оптам забяруць. Толькі сядзі ды тчы.

— От сядзі і тчы. Хіба гэта горшае дзела, чым на машынцы шыць.

— Адна справа — рабіць з ахвотаю, а другая — так, каб зарабіць. То ў Івана ж бачыш, якая ахвота да малявання. І экзамены ўжо здаў. І запрашэнне прыйшло. Што мы будзем яму дарогу пераходзіць.

— А я хіба супраць? Я пра тое, што малы яшчэ. Я ж баюся, каб не прапаў там.

— Як яму прапасці, то дзе хочаш прападзе. А там жа ён не сам па сабе. Там пад наглядам.

І да сына:

— Іван, табе казалі, дзе там жыць, як харчавацца.

— Казалі. Я і сам бачыў: там у інтэрнаце сталовая.

— Платная ці бясплатная?

— Бясплатная, — кінуў, каб толькі пагадзіліся адпусціць ды адчапіліся, бо ўжо абрыдла гэтая сварка. А самому і не ў галаве, якое там тое харчаванне. Хіба гэта так важна.

Спрэчкі на тэму «адпускаць — не адпускаць» не-не дый узгараліся з новай сілаю. Прычым дзе заўгодна: на сенажаці, у лесе, у хаце, у двары, сам-насам і пры староннніх…

А на сыходзе жніўня бацька сказаў:

— Збірайся, хлопча, павязу цябе ў твой Мінск.

І вось яны ўсе ў «Запарожцы». Уся сям'я. Вучэльня прыняла ветліва. Дырэкцыя арганізавала экскурсію. Бачна было: нават бацька расчуліўся, разглядаючы карціны, майстэрні, класы, слухаючы настаўнікаў, якія падкрэслівалі, што гэтая ўстанова — не для ўсіх, а толькі для адораных дзяцей. Трэба ж, і сын сярод такіх, абраных. Ну, то няхай хіба вучыцца. Вунь якія тут разумныя, добрыя, прыязныя настаўнікі. Мо і добра будзе малому, мо і не прападзе. Адно вялізны жылы пакой на пятнаццаць ложкаў крыху збянтэжыў. Няўжо тут усе будуць жыць, як салдаты ў казарме?

— А гэта і ёсць казарма, — усміхаюцца экскурсаводы. — Былая, канечне. Пакуль пажывуць так, а там бачна будзе, нешта зменіцца.

Здаецца, яны паехалі ўсцешаныя. Нават бацька не бурчэў. Маўчаў, праўда, але па вачах, па выразе твару добра было бачна: яму тут падабаецца. Як развітваліся, то і ўсміхнуўся неяк нібыта задаволена. А маці пусціла адвечную мацярынскую слязу, у якой бліснулі надзея і гонар за сына.

Праз тыдзень новыя жыльцы пакоя асвоіліся тут канчаткова і нават зрабілі заваёўніцкую вылазку ў суседні пакой, у якім пасялілася прыкладна такая ж колькасць музыкантаў. Падушкі лёталі ў паветры, нібы ядры. А паступова цалкам уцягнуліся ў вучобу. Дзівосны свет усё шырэй і шырэй расчыняў свае дзверы, і часам зноў прыходзіла здагадка, што гэта не жыццё, а нешта большае, нешта падобнае на… Богаў сон.

***Янка і трускаўкі***

*Ён малюе трускаўкі. Толькі-толькі сарваныя з градкі, раскладвае на кардоне то колам, то крыжыкам, а на палатне яны… О-о, якое гэта дзіва — трускаўкі-клубніцы на цёмна-пярэстай фактуры палатна.*

*Мастак складае з дзевяці палотнаў адно, расшывае іх дубовымі планкамі, якія тырчаць ва ўсе бакі, і… Новае дзіва. Гэта гульня ў крыжыкі-нулікі. Адно палатно без клубніц. Такі закон гульні.*

*— Той, хто купіць усе дзевяць карцін, зможа раскладваць іх па свайму густу. Альбо выйграе, альбо не. А можа разглядаць кожную трускаўку, якіх вунь сотні, паасобку.*

*Ягады натуральныя, жывыя, шурпатыя, апетытныя. Кожная — непаўторнасць.*

**Парнат**

Хто першы прамовіў гэтае слова? І калі? Няйначай, у пачатку 1960-х, калі школа была заснавана. Тады першыя яе выкладчыкі ездзілі па ўсёй рэспубліцы і збіралі адораную дзетвару, з якой пасля вырасла цэлая плеяда выдатных жывапісцаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кампазітараў і музыкантаў…

Жылі вучні ў інтэрнаце, а пачуваліся не раўнуючы як на Парнасе. Дык як не нарадзіцца ў творчым асяродку з двух вядомых слоў наватвору — *Парнат*? Тым больш што назвы вучэльні змяняліся, і кожная была доўгая, вымаўляць яе было складана. Нават вядомы мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар, старшыня Беларускага саюза мастакоў з 2008 года Уладзімір Савіч першую сваю alma mater называе не іначай як Парнат. Паўвеку жывучае гэтае слэнгавае слоўка ніхто расшыфраваць не можа. Дый навошта расшыфроўваць? Важна ведаць іншае, прыкладам, тое, што створана вучэльня настойлівымі клопатамі славутага дзеяча беларускай культуры Рыгора Шырмы, які, па сутнасці, ажыццявіў сваю запаветную мару: «…каб вучыліся дзеткі беларусаў, адзначаныя Божым дарам мастацкасці».

Першае імя ўстановы — Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя Івана Ахрэмчыка для асабліва адораных дзяцей. У 1991-м школу перайменавалі ў ліцэй, а ў выніку рэформ 1997-га яна набыла назву, нават даўжэйшую за першапачатковую: Беларускі рэспубліканскі вучэбны комплекс гімназія-каледж мастацтваў імя Івана Восіпавіча Ахрэмчыка.

…Ды ўсе як называлі вучэльню Парнатам, гэтак і называюць, і будуць, пэўна, называць вечна.

Паўвеку пануе ў сценах дзевяці карпусоў гэтага аазіса беларускай культуры дух таленту, творчага пошуку, высокай паэзіі ў музыцы, песнях, фарбах… Згодна з запаветам незабыўнага мэтра, тут і сёння — канцэнтрацыя юных талентаў краіны. Па конкурсе, прычым вельмі жорсткім, сюды паступаюць будучыя мастакі, скульптары, музыканты-інструменталісты, дырыжоры, хормайстры…

Іван адпачатку займаўся на аддзяленні жывапісу. І калі ўжо гэтая вучэльня мела (і мае) «мянушку» (маецца на ўвазе Парнат), то што казаць пра вучняў-выхаванцаў. Вось і мотальскі хлапчына спярша быў РІНам. Ад літар, з якіх пачынаюцца прозвішча, імя, імя па бацьку. Пасля РІМам — тое ж самае, адно што па-беларуску. Пасля Арлом. Пасля Бармалеем. Пасля — цяпер ужо назаўсёды: Янка. Янка з Моталя. Янка Рамановіч. Проста Янка. Але то пасля.

А напачатку было…

Было яшчэ дзяцінства. Былі заняткі — звычайныя, школьныя… Было жыццё — бесклапотнае і поўнае штукарстваў.

У першы ж дзень усіх падзялілі на групы.

— Будзем знаёміцца, — сказала кіраўнік той, у якой апынуўся Іван, і павяла свой «парнатаўскі вывадак» у Парк Чалюскінцаў, да якога пяць хвілін хады. — Мяне завуць Кацярына Яўгенаўна Цюрына. Я буду выкладаць у вас выяўленчае мастацтва. А вас як завуць? Давайце вашы рукі, праверу, ці ж дужыя вы ў мяне.

Паздароўкаліся за рукі, змацавалі руканнем знаёмства.

— О, Іван, мабыць, самы дужы, вунь як моцна сціснуў, — жанчына па-змоўніцку падміргнула яму.

— Гэта ён вас за пальцы схапіў, — пазайздросціў нехта.

— Можа і так. Усе вы ў мяне мацакі.

Парк Чалюскінцаў стаў родным. А Батанічны сад праз нейкі час — стрыечным.

— Вы, парнатаўскія, мне ўжо надакучылі. Колькі можна красці кветкі. Каб я вас тут больш не бачыў, — каторы ўжо раз праганяе малых вартаўнік, а яны рагочуць і лезуць зноў. А колькі кветкавых нацюрмортаў тут перамалявана — не злічыць!

Няпроста, вох як няпроста з гэтымі маленькімі геніямі.

— Ці ўсе на ўроку? Адзін, два, тры… Адзін вучань адсутнічае. Давайце праверым, каго няма, — настаўніца гісторыі строгая ва ўсім — што ў дысцыпліне, што ў выкладанні прадмета.

— Усе ёсць, — ледзь не хорам выгуквае клас.

— Я ж бачу, што аднаго няма.

— А вы ў акно паглядзіце.

— Вох, божачкі! А ты чаго тут вісіш? Не хапала, каб упаў з другога паверха ды ногі паламаў! Ану, паднімайся.

І настаўніца, маленькая, па-мужыцку хвацкая, жылістая, дапамагае вучню, што ўчапіўся за падваконне рукамі і вісіць сабе з таго боку, узняцца і перакуліцца ў класны пакой.

— А што гэта вы мне такую тлустую кропку ў журнале паставілі? — атакуе настаўніцу хіміі яшчэ адзін малы гумарыст.

— Як тлустую? Я ставіла звычайную маленькую кропачку.

— Гэта не кропка, а чорны круг, — смяецца клас. — Гэта карціна такая.

Добры матэматык увесь час апынаўся на месцы боек і разнімаў ды мірыў праціўнікаў.

Ціхмяная выкладчыца англійскай мовы цярпела ўсё. А настаўніца рускай мовы і літаратуры не цярпела невукаў. Затое беларускую філалогію наведвалі з задавальненнем — так хораша ўмела гутарыць з класам Паліна Рыгораўна. Урокі фізкультуры праводзіліся ў Парку Чалюскінцаў. Іван цягнуў на юніорскі разрад, але нашто ён, калі ў галаве мастацтва. «Зубная паста — гэта атрута, — казала настаўніца біялогіі. — Зубы чысціць трэба мылам». А яны не толькі мылам — бяліламі спрабавалі адбельваць свае разцы. А на ўроках малявання замест бяліл выціскалі з цюбіка зубную пасту. Дзеці як дзеці. Заняткі керамікай спадабаліся настолькі, што аднойчы прабраліся з сябрамі-аднагрупнікамі ў майстэрню ўначы і вырабілі за некалькі гадзін паўсотню гаршкоў, чым вельмі здзівілі настаўніка. Яшчэ больш здзівіў выкладчыка працы: «Гэта вы ўсім класам нарабілі гэтулькі падрамнікаў?» «Не, гэта я рабіў», — быў адказ Янкі. «Навошта ж ты на ўсіх сам рабіў?» «А я не на ўсіх, толькі для сябе. Я проста малюю многа». «Ого! — толькі і мог выдыхнуць педагог. — Пры мне такога яшчэ не было». На заняткі па стылізацыі чамусьці амаль не хадзіў, а экзамены здаваў на «выдатна». Педагагічная практыка прадугледжвала выкладанне ў школах мастацтваў. Пасля некалькіх заняткаў дзеці яго чакалі на ганку школы, так ім спадабаўся няўрымслівасцю і багатай фантазіяй, рознымі прыдумкамі-гульнямі гэты сямнаццацігадовы педагог.

***Мы працуем***

*Янка пастрыжаны налыса. У яго чарговы этап у жыцці. Ён заўсёды стрыжэцца «пад нуль», калі сканчаецца нейкі перыяд у жыцці і пачынаецца новы. Пастрыгся і нават пагаліўся, як пачынаў працаваць алеем, як скончыў Парнат*

*і паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Гэта год 1996-ы. Як скончыў акадэмію і вярнуўся ў вёску — год 2002-гі. Як майстэрню ў будынку былога — даваеннага — маслазавода, дзе пасля быў дзіцячы садок і школа мастацтваў і дзе ён, па сутнасці, вырас, бо хадзіў і ў садок, і ў школу, памяняў на сваю ўласную майстэрню ў старэнькай хаце. Вясна 2009-га.*

*Ён працуе, прыкрыўшы лысіну шапачкай. Казырок павернуты назад — няйначай, каб не мяшаў.*

*Аднекуль прывалок два мяхі чарапоў жывёл і раскладае іх на падлозе і лаве, выбірае пяць тых, якія патрэбны для працы, выстройвае на паліцы па ранжыру. Першы, самы буйны — чэрап быка. Другі, меншы — каровы. Трэці — малога бычка. Чацвёрты — цялушкі. Пяты, самы маленькі і вузенькі — сабачы.*

*— Family portrait, — прамаўляе, задаволена аглядаючы кампазіцыю, што ў перакладзе з англійскай азначае «Сямейны партрэт». — Пасля падпішу гатычнымі літарамі: тата, мама, сын, дачка і… пастух.*

*З гэтым словамі прымацоўвае да мальберта чарговае палатно з гатовай ужо фактурай.*

*— Нешта пасля трускавак цяжка настроіцца на чарапы.*

*Але наносіць пэндзлем першыя мазкі. Тут зусім іншая, прыглушаная, у адрозненне ад яркіх трускавак, колеравая гама.*

*На камп'ютарным маніторчыку яшчэ толькі пачатак парнатаўскай адысеі.*

*Паміж намі бетонны квадрат на месцы былой грубкі, якую Янка разабраў,ператвараючы хату ў майстэрню. Ад грубкі яшчэ засталася дзірка ў столі — гэта комін, ён добра выцягвае цыгарэтны дым. Разабраў Янка і сцены, каб было прасторна. Пакінуў адно старыя, выраблены ў дзевятнаццатым стагоддзі, шафы, шафкі, сталы, лавы… На бетонным квадраце раскладзены цюбікі з фарбаю, бутэлькі з разбаўляльнікамі, пэндзлі, анучкі…*

На ліпень і жнівень абавязкова ехаў дахаты. Можна было падавацца ў Крым, балазе заўсёды прапаноўвалі пуцёўкі, многія карысталіся імі, ды ў яго ў Моталі гэтулькі спраў, што хоць бы паспець за гэтыя месяцы. У першыя свае ва-

кацыі знайшоў вольную хвіліну, прыхапіў эцюднік і на рэчку — разгарнуў на прыродзе. Непадалёку ідуць старэйшыя хлопцы. Адзін паказвае на яго пальцам і рагоча: «Глядзі, нейкі прыдурак малюе». Засаромеўся, пісаць пейзаж на вачах у некага адразу ж расхацелася, таму хуценька згарнуў эцюднік і — хутчэй, подбегам, дахаты. Аднак гэтая насмешка была першая і апошняя. Звычайна людзі падыходзілі і захапляліся малюнкам, хвалілі. Гэта заўсёды дадавала імпэту і настрою.

***

Наступнай восенню перасяляліся ў пакоі. Спачатку жыў удвух з цёзкам Іванам Лукіным, высокім хлопцам з мяккім, прыветным характарам. Ён цяпер працуе на Галоўпаштамце, малюе маркі.

А пазней — перасяленне за перасяленнем: то ў пакой на пяць ложкаў, то на тры ложкі… Але заўсёды перасяляўся не сам, а з сябрам, з Лукіным.

**Каханне**

Рамантыка зімовых і летніх наездаў у вёску ў адзін спякотны ліпеньскі дзень, на самым краечку месяца, раптам і неўзаметку ператварылася ў нешта большае — праўда, напачатку незразумелае, але такое пяшчотна-мілае, што гэтае пачуццё захапіла ўсяго цалкам.

Гэты дзень пазначаны на адваротным баку адной карціны, на якой алеем напісана… яна. Яе партрэт.

Па даўняй завядзёнцы ён падаўся да дзеда Мішы ў вёску Асаўніца. Тут у адным з пакояў дзедавай хаты абсталяваў сабе майстэрню. Адсюль пабег да бліжэйшай канавы пакупацца. Як заўсёды ў спякотную пару, ваду ў гэтай зручнай для адпачынку, досыць глыбокай, бо непадалёку быў знарок перакрыты шлюз, мясціне каламуціла дзетвара. Дзяўчына ішла па беражку, і хлопец неўпрыкмет залюбаваўся зграбнаю, лёгкаю паходкаю. І ўвесь стан дзяўчыны прываблівау гнуткасцю і жаноцкасцю. Сэрца затахкала, а ногі самі панеслі да яе.

— Ты адкуль прыехала? Нешта я ніколі цябе тут не бачыў, — загаварыў запраста, смела, як тое прывык рабіць у сталіцы. Ды і па натуры хлопец не з сарамлівых ці баязлівых.

— Ніадкуль, — гэтаксама смела і проста адказала незнаёмка. — Я тут жыву, у Асаўніцы.

— Такую прыгажуню я адразу заўважыў бы.

— Я цябе таксама не бачыла.

— А як цябе зваць?

— Таня.

— Мяне Іван. Хадзем купацца?

І яны пабеглі ў ваду. І было так хораша і проста. Пырскаліся, гарэзавалі, абдымаліся, рагаталі… Радаваліся жыццю і ні на кога і ні на што не зважалі.

Пасля ён прапанаваў:

— Давай я намалюю твой партрэт.

— А ты што — мастак?

— Я вучуся ў Мінску ў рэспубліканскай школе мастацтваў. Нам трэба шмат маляваць. У мяне тут у дзеда і майстэрня ёсць. Заўтра вазьму эцюднік, і ты будзеш мне пазіраваць. Добра?

Яна прамаўчала, але па ўсім было відаць, што не супраць.

Накупаўшыся, яны пайшлі ў вёску.

— Хадзем да цябе, — сказаў ён.

— Хадзем, калі бацькоў не баішся.

— А чаго іх баяцца, — здзівіўся.

— Хлопцы звычайна баяцца ці саромеюцца знаёміцца з бацькамі дзяўчат, з якімі гуляюць.

— Я ж яшчэ не гуляю.

Яны зайшлі ў хату і прычыніліся ў зале. Як след пазнаёміўся з бацькамі ўжо наступным днём. Маці накрыла багаты стол са шкваркамі.

Відаць, спадабаўся гаспадарам гэты ўсмешлівы, шчыры і гаманкі шаснаццацігадовы юнак, бо ніводзін візіт пасля не абыходзіўся без добрага пачастунку. І самі яны — таксама вясёлыя, простыя і бясхітрасныя, з імі пра што заўгодна можна гаварыць.

Калі прыходзіў у вясковы клуб на танцы, на якіх часам узгараліся бойкі, да яго таксама ставіліся з павагаю. Тут існавала няпісанае правіла: «Художніка не чэп, ён недатыкальны». І яго не чапалі.

Партрэт Тані спадабаўся ўсім, і ён намаляваў яшчэ партрэт яе малодшай сястры, і малога брата, і яшчэ шмат каго.

І ўсё гэтае багацце разам з мноствам эцюдаў ды кампазіцый павёз у Парнат.

— Во, гэты папрацаваў дык папрацаваў. Даўно ніхто гэтак не радаваў, — казалі выкладчыкі.

Сталічнае жыццё таксама было да краёў запоўненае і юначымі прыгодамі, і вучобаю ды сур'ёзнаю працаю, адточваннем майстэрства, паходамі ў тэатр — абавязковаю часткаю вучэбна-выхаваўчага працэсу, і ўсім тым, чым заўсёды жылі і будуць жыць юныя жыхары парнатаўскага інтэрната.

Гэтае шчаслівае жыццё змянялася яшчэ болей шчаслівымі канікуламі. Зімовыя патраплялі якраз на Каляды. Бацькі чакалі, каб закалоў свінчо, бо аднойчы паспрабаваў, і ў яго атрымалася, як у запраўскага свінабоя. Каханая чакала, каб наталіцца прысутнасцю мілага, а яе бацькі, каб нагаманіцца і ўпэўніцца, што кандыдат у зяці застаецца з дачкою.

Ён станавіўся на лыжы і лёгка дабіраўся да Асаўніцы, праведваў дзеда Мішу і бабу Любу і застраваў надоўга ў Тані. Альбо з яе малым братам Сяргеем каталіся на лыжах па некалькі кругоў ад Асаўніцы да Моталя і назад, пасля яшчэ круг, пасля наступны… Аж да знямогі.

…Каханне, якое б яно светлае і моцнае ні было, наўрад ці ў каго ўдаецца бязвоблачным. Былі і тут непаразуменні, ды такія, што ім здавалася — усё, на гэтым кропка, і ніхто і нішто ўжо не здолее іх прымірыць. Але званіў яе малы брат Сяргей і знаходзіў такія словы, што пасля размовы з ім усё вярталася на свае месцы, а крыўды здаваліся дробязнымі, нікчэмнымі, прыдуманымі з нічога.

Ах, гэта ж самае-самае юнацтва. Гэта прага жыцця і прага творчасці, у ёй раствaралася, нібы ў фарбах, усё, і каханне набывала новыя адценні і новыя эмоцыі.

Вяртаўся дахаты, і фарбы пачуццяў зліваліся з фарбамі жыцця, кахання, фарбамі на чарговым палатне…

У ваколіцах вёскі Буса — гэта далей за Асаўніцаю, праз раку ад вялікай і знакамітай вёскі Моладава — штолета нашыхоўвалі сена. Тут прымеціў непаўторныя, некранутыя рукой чалавека ясяльдзянскія і прыясяльдзянскія краявіды, якія так і прасіліся на палатно.

Да Бусы ад Моталя — кіламетраў пятнаццаць, да месца — крыху болей. Ды што маладому і дужаму гэтыя кіламетры.

На самаробным трактарчыку дастаўляліся ва ўрочышча разам з касцамі палотны — нацягнутыя на падрамнікі і прапітаныя клеем ці жэлацінам ды грунтоўкаю кавалкі грубай мешкавіны, якою забяспечвала маці. Палотны чакалі, пакуль скончыцца касавіца (Янка касец запраўскі, як бярэцца за справу, дык ніхто за ім не ўгоніцца), і толькі тады на іх клаліся першыя мазкі. Алею не хапала, ён быў дужа дарагі, і мазкі былі эмалевыя, гэта значыць з дамешкам эмалевых бяліл — тых самых, якімі фарбуюць вокны, дзверы. Эмаль плыла, і трэба было пільнаваць кожны рух, падхопліваць, здымаць лішак. Гэта адцягвала ўвагу і нават нервавала, нерваваў і дождж, які чамусьці заўсёды падпільноўваў яго, як толькі раскладваўся ў аблюбаванай мясціне, таму стараўся схавацца з эцюднікам пад густою галінаю. Часам бывала, што дождж уносіў свае карэктывы ў малюнак, прычым як таленавіты сааўтар. Як бы яно ні было, пакупова краявід паўставаў у новым сваім харастве на палатне, і наплывала салодкае пачуццё, так падобнае да пачуцця закаханасці. Дождж сціхаў, і не высахлае яшчэ ад эмалі немалое (165 на 65 сантыметраў) палатно акуратна прывязваў да руля паперадзе, а эцюднік да багажніка ззаду, ускокваў на ровар і імчаў, супраціўляючыся ветру альбо коцячыся з яго падмогаю, калі ён дзьмуў ззаду ў парус-карціну, дахаты.

— Художнік едзе, — кідаў нехта з павагаю ці то насмешліва.

Але што яму, у яго карціна ўдалася, ён зноў схапіў вечнасць за яе такі капрызны, такі няўлоўны аеравы загрывак.

А вецер абдувае, развявае на ветры даўгія валасы, і ўсё тут зліваецца ў адно: родны кут, сталіца, каханне, творчасць… Усё неяк ладна і годна злучаецца ў нешта адно цэлае-адзіннае, імя якому — Айчына.

А жыццё… Яно не спыняецца.

У дзясяты клас Таня пайшла ў Мотальскую школу, бо ў Асаўніцы была дзевяцігодка, і апынулася ў адным класе з яго братам Юрам.

Пасля паступіла ў Брэсцкі тэхнікум электрасувязі, і ўжо прыязджаў да яе ў Брэст. У інтэрнаце, дзе жыла, панавалі строгія правілы, але яго чамусьці прапускалі без лішніх пытанняў-дакучанняў і дазвалялі жыць колькі трэба.

Мо таму, што даверліва гутарыў з камендантам ды вахцёрамі, ці што адзін толькі выгляд выклікаў давер, ці падоранаю карцінаю ўлагодзіў…

Калі ў інтэрнат прыйшло пісьмо з Мінска, адрасаванае Тані, ад жадаючых зірнуць на канверт не было адбою. Усе разглядалі выяву на ім і не верылі сваім вачам. Круцілі так і гэтак, выказвалі здагадкі, што гэта, можа, звычайнае падабенства, але ў рэшце рэшт прызнавалі, што гэта яна, Таня, яе фота, і ніяк не маглі зразумець, чым жа іх сяброўка гэтак праславілася, што ўжо і на канверце яе выява. А яна і сама не разумела напачатку, хіба здагадвалася, як яе здымачак патрапіў сюды, пакуль каханы не растлумачыў, што зрабіў канверт сваімі рукамі, а выяву выдрукаваў на ксераксе. Пра існаванне такіх апаратаў, праўда, мала хто тады яшчэ ведаў, і прыходзілася расказваць, для чаго ён і як працуе.

І жыццё доўжылася. Да Парната… Пасля Парната…

**Апендыцыт, дзённік, развагі…**

У перадапошні год вучобы зрабілі аперацыю на апендыцыт. Якраз рыхтаваў серыю нацюрмортаў для прагляду. А прагляд — экзамен строгі. Тут не схібіш, бо вопытнае вока экзаменатара як бач выявіць фальш. І трэба ж, у самы той момант, калі на чарговым палатне ўжо праглядваўся дабротны нацюрморт, боль у жываце абвастрыўся так, што трываць не ставала сіл. Цярпеў і мазок за мазком давяршаў, давяршаў карціну. Ажылі на ёй старэнькі кошык, глечык, драўляная ступа і ярка-жоўтая грушка на пярэднім плане справа. Усё гэта гарманічна глядзелася на фоне пярэстай і цёмна-сіняй тканіны. Давяршыў-такі, насуперак болю, які пачаў перарастаць у здранцвенне. З апошніх сіл прыняў душ, прыйшоў у свой трынаццаты пакой і сказаў хлопцам:

— Выклікайце хуткую, нешта мне зусім кепска.

Яго ўжо ўсяго калаціла.

Хірург, які рабіў аперацыю, паўшчуваў, калі быў ужо накладзены апошні шоў:

— Што ж ты, хлопча, гэтак давёўся, у цябе ж апендыцыт разышоўся задоўга да таго, як прыехала «хуткая». Ты хоць разумееш, што ў любую хвіліну мог памерці. У цябе ўжо змесціва апендыкса расцяклося па жываце. Гэта перытаніт,

а з такім дыягназам рэдка хто выжывае. Табе пашанцавала — арганізм моцны.

Пасля аперацыі нахлынула нешта светлае, думкі пераганялі адна адну, і ўсё гэта карцела выліваць не толькі на палатно, але і на паперу. Тады завёў дзённік — тоўсты сшытак, у якім запісваў і запісваў думкі, а яны наплывалі і наплывалі. Пазней сшытак знік, а жывапіс як быў, так і застаўся. «Кожнаму сваё», — сказаў сам сабе і ні пра што не пашкадаваў. Балазе ёсць галоўная справа жыцця.

Дзённік памог асэнсаваць зробленае і пафіласофстваваць пра мастацтва і сваё месца ў ім, пра тое, што ж у мастацтве нацыянальнае, а што не мае нацыянальных межаў. І чым далей паглыбляўся ў разважанні-даследаванні, тым болей пераконваўся — калі ты сапраўдны мастак, то як жа ты можаш быць не нацыянальным. Яна ж, гэтая прыналежнасць да сваёй зямлі, свайго народа, свайго радзіннага кутка, так ці іначай выяўляецца ў творах-палотнах.

І якім жа сляпым трэба быць, каб век беларускае школы жывапісу ўсяго толькі векам, у сэнсе стагоддзем (няхай сабе нават з гакам), вымяраць, а дзе-хто наогул гэты адлік вядзе з моманту ўтварэння БССР. Гэта, напэўна, усё з-за таго, што мала, вельмі мала ў нас гаворыцца пра тых, хто быў першы і хто быў дастаткова вялікі, каб іх вывучалі ў школах, надавалі вуліцам іх імёны, устанаўлівалі ім помнікі, расказвалі пра іх па тэлебачанні і радыё, мала ўслаўлены такія выдатныя родапачынальнікі рэалістычнай школы беларускага жывапісу, як Мікадым Юр’евіч Селівановіч, Сяргей Канстанцінавіч Заранка (абодва нарадзіліся ў самым пачатку XIX стагоддзя ў сем’ях прыгонных сялян), Апалінар Гілярыевіч Гараўскі… Першы з іх упрыгожваў Ісакіеўскі сабор у Пецярбургу і тут ствараў сусветныя шэдэўры мазаічнага мастацтва, але рысы глыбока нацыянальнага выявіліся ў яго перш-наперш у жывапісе. Другі (Заранка) быў вучнем Венецыянава, а пасля ў яго вучыліся Пяроў, Макоўскі, Саўрасаў… Пасля Саўрасаў вучыў Левітана, а Левітан — Бялыніцкага-Бірулю. А ўжо Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля вучыў (ну, няхай сабе ў яго вучыліся — ці не адно і тое ж?) ягоных, Янкі Рамановіча, настаўнікаў. Не, не выкладчыкаў, ці, лепш сказаць, не толькі выкладчыкаў, а якраз настаўнікаў, тых, на каго арыен-

таваўся, у каго вучыўся, хто быў найбольшым аўтарытэтам. Натуральна, з ліку сучаснікаў, з кім сустракаўся, з кім хацелася пазнаёміцца бліжэй, пераймаць тыя ці іншыя сакрэты майстэрства. Пачаў прыгадваць, дзе сустракаў, бачыў, магчыма, нават загаворваў з кім, пакуль яшчэ недасяжных, але ўжо добра вывучаных Міколу Селешчука, Леаніда Шчамялёва, Гаўрылу Вашчанку, Аляксея Марачкіна, Мая Данцыга, Аляксандра Ксяндзова, Віталія Герасімава, Міхася Савіцкага… Шмат хто з іх лічыў сябе прадаўжальнікам традыцый Бялыніцкага-Бірулі, быццам бы да яго нікога не было і з яго ўсё пачалося. А былі ж, ды якія. Быў Язэп Драздовіч. Няхай сабе да яго майстэрства ў Янкі дваістае стаўленне, але ж… Добра, што яму помнік у сталіцы паставілі, як і Вітольду Каятанавічу ў Магілёве. Такога ўшанавання варты дзясяткі мастакоў, прычым варты ніяк не меней, чым той жа Драздовіч. Ну, хто, напрыклад? Ю. Пэн, Я. Кругер, Л. Альпяровіч, Ф. Рушчыц, Г. Вейсенгоф, К. Стаброўскі?.. Чаму б і не. Але не яму рашаць. Ёсць каму тым займацца.

І вось жа што цікава: вучылі нашых геніяў рускія альбо заходнія, а яны захавалі беларускі дух (во які ён невынішчальны, глыбінны, грунтоўны) і паклалі пачатак якраз нацыянальнай школы жывапісу. Побач з выстаўленай упершыню Рэпіным у Траццякоўцы славутай карцінай «Бурлакі на Волзе» месцілася «Галава бабулі» Гараўскага, і гэтыя геніяльныя работы на роўных спаборнічалі ў водгуках публікі і знаўцаў-крытыкаў. І як сёння ўявіць іх побач, то расійскі і беларускі каларыт розніць іх між сабою абсалютна і ярка. А яднае майстэрства, даведзенае да геніяльнасці. А ўзяць лёсы. У адзін час тварылі Станіслаў Жукоўскі і Бялыніцкі-Біруля. Першы загінуў у фашысцкім канцлагеры ў Варшаве і там пахаваны, а другі пахаваны ў Маскве. Яны былі розныя ў выканальніцкай манеры і нават у выбары колеравай гамы. Жукоўскі ажно палае чырванню, а Бялыніцкі-Біруля са сваімі празрыстымі ізумрудна-блакітнымі адценнямі — як процілегласць, як халодны душ да той гарачыні. І абодва, зноў жа, падобныя, бо, нягледзячы на ўплыў рускай школы жывапісу, захавалі нацыянальны дух і нацыянальны каларыт у сваіх творах. Значыць, атрымліваецца, што сапраўднае мастацтва папросту не можа быць не нацыянальным. Аднак тут і ўмоўнасцей — не так

лёгка ва ўсім разабрацца. Як быццам бы рамяство можа быць проста рамяством. Не, і яно ж у кожным краі сваё.

Ёсць і яркі прыклад земляка Напалеона Орды. Ён, канечне, не жывапісец, і школа графікі ў яго заходнееўрапейская, нават можна сказаць канкрэтней — французская. Цяжка сказаць, наколькі нацыянальны ён па выканальніцкай манеры, але ж дастаткова таго, што красамоўна паказаў нам праз пакаленні ўсю сядзібна-палацавую архітэктуру нашага краю. Ён быццам бы прадчуваў, што ўсё гэтае хараство хутка знікне, і імкнуўся як мага паўней захаваць яго для нашчадкаў. Вось у гэтым — яго нацыянальная прыналежнасць, нацыянальны дух. У нейкай меры ён, Янка, паслядоўнік Орды.

А ўвогуле, трэба яшчэ добра пра ўсё падумаць-памеркаваць. А галоўнае, паболей чытаць пра мастацтва, паболей ведаць, каб на гэтых ведах засноўвацца ў творчых задумках і выбудоўваць уласную творчую манеру, філасофію, увесь свой мастацкі свет. Але ж наперадзе нацыянальная акадэмія мастацтваў. У акадэмію трэба паступаць абавязкова, бо шмат яшчэ трэба спасцігнуць. Адно цяпер ясна і абсалютна зразумела: беларуская школа жывапісу — гэта велічны культурны пласт, і калі ты абраў лёс жывапісца, што ж, будзь у гэтай школе. А як ты, да ўсяго, не просты сузіральнік, калі прагнеш новага, нязведанага — узбагачай гэтаю навізною нацыянальны набытак, не распыляй свой талент па дробязях. Паслядоўнікі тых жа Жукоўскага ды Бялыніцкага-Бірулі зусім не падобныя да іх, яны дазволілі сабе шмат вольнасцей, якімі толькі ўзбагацілі жывапісны набытак Беларусі, і ён не павінен быць падобны ні на кога, але мусіць быць беларускім.

Такімі думкамі-разважаннямі запаўняліся старонка за старонкай дзённіка. Ды дзе яны, тыя запісы? У памяці? Так, але памяць не ўсё трымае.

Найлепшая памяць для мастака — яго карціны. Памяць прыватная, нацыянальная, сусветная…

**Парнат, бывай! Жыві, Парнат!**

Сем год — не жарты. Час ад дзяцінства да сталага юнацтва.

Сем год у Парнаце — з пятага па дванаццаты клас — гэта час існавання ў двух сусветах адначасова: рэальным і ма-

стацкім. О, колькі ў іх, у гэтых сусветаў, агульнага і колькі невымерна align рознага!

— Табе, Янка, няма чаго хваляваецца. У цябе тры сцяны во карцінамі завешаныя, — зайздросцяць аднагрупнікі, але і ў іх работы — хоць у акадэміі выстаўляй. Іх групу выкладчыкі адкрыта называюць вельмі моцнай.

— А я і не хвалююся, — ён смяецца так бесклапотна і непасрэдна, быццам бы ўсё гэта гульня, а сур'ёзныя, глыбокія па сэнсе і майстэрстве палотны не яго, а падораныя небам. Магчыма, так яно і ёсць?

Якраз прыгадаў, як яшчэ некалькі год таму занёс дзе-якія работы ў акадэмію мастацтваў і пачуў… Па сёння той голас песціць слых:

— Неверагодна! Далёка не кожны выпускнік акадэміі можа пахваліцца такім высокім майстэрствам.

Можна было б разняволіцца і цешыцца тым, што ёсць. Усё адно іншым даганяць яго і даганяць. І ці дагнаць яшчэ. Ды рукі самі цягнуцца да пэндзля, бо не ўтрымаць у сабе тое, што так і просіцца на палатно. І ўсё не адпускае, кліча да сябе родная мотальская баба Зіня. Колькі ўжо яе партрэтаў напісана, і ўся яе хата той ці іншай дэталлю прысутнічае на карцінах, а нешта ж ды не дагаварыў, нешта галоўнае, сутнаснае не паказаў. А яно вось, тое сутнаснае — бабуля за кроснамі. Яны — як адно цэлае. Трэба ж гэтак зжыцца за доўгія-доўгія гады. Што можа быць лепшым за гэтую карціну для дыпломнай работы! Але ж яе яшчэ трэба напісаць. Што скажаш, бабуля?

Баба Зіня, як піянерка, — заўжды гатова. Бабе Зіні толькі скажы. У ўнучка Вані яна ўжо мадэль са стажам. Хапілася за чаўнок адной рукой, другую на ніткі паклала — малюй, хлопча, я табе, як хочаш, яшчэ і ўсміхнуся.

Так і ўсміхалася сваёю няўлоўнаю ўсмешкаю прафесарам, што прымалі дыпломную працу, а рукі яе з імі гаварылі гэтак жа прыязна, як і вочы.

Дзіваваліся ўсе: у яго ж гэтулькі сапраўдных шэдэўраў; любы з многіх дзясяткаў цягне на самую высокую адзнаку; а на галоўны свой экзамен прадставіў новы, дасюль нябачаны. Парадаваў дык парадаваў.

Тады яшчэ найвышэйшым балам была пяцёрка. Але было нешта і вышэйшае за пяцёрку.

— Што тут скажаш? Гэты хлапчына ўжо ў гісторыі беларускага мастацтва, дарма што дыпломнік, — казаў мэтр.

— Ён улавіў сутнасць, аснову нацыянальнага мастацтва. То каму, як не яму, удасканальваць беларускую школу жывапісу, — падхоплівалі члены камісіі.

І ўсе сыходзіліся на адным: гэта кандыдат нумар адзін на паступленне ў акадэмію.

Гм, у акадэмію… Колькі ўжо думана-перадумана пра тое, што без гэтай галоўнай мастацкай вучэльні краіны яму ніяк не абысціся, ды раптам зноў нейкі сумнеў. Маўляў, а ці не памыляюся, ці ж напраўду так важна паступіць сюды. Можа, лепей дахаты, у вёску. Ды тварыць, тварыць, тварыць… Замест таго каб «пераЖоўваць» тэорыю, як выказваецца хтосьці з аднагодкаў… Так прыкідваў-меркаваў, кідаўся з крайнасці ў крайнасць. Бывала, што і ўначы даймалі гэтыя сумненні. Але ж… Як наканавана, гэтак і сталася.

На час паступлення ў акадэмію парнатаўская медсястра прапанавала пажыць у яе незаселенай кватэры. Добрая, мілая жанчына. Яна нават не схацела ніякай платы за гэтую кватэру, хоць, ведама, магла наняць кватаранта і мець добры прыбытак. Гэты хлапчына чамусьці стаў ёй за гэтыя гады як родны, а тое, што выпраменьвалі яго работы, песціла вока; яна і ведала, і адчувала, што гэта — Майстар. Пачуўшы, што ён вагаецца — паступаць у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў ці не, вырашыла: каму, як не яму, паступаць. І ахвяравала на лета кватэру.

Калгас тым часам выдзеліў майстэрню ў будынку, які называўся «Культурна-спартыўны комплекс». У ім месціліся і праўленне сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва, і сельсавет, і Дом культуры, і нават спартзала. Уся фасадная сцяна ў гэтай майстэрні зроблена са шклоблокаў, таму тут заўсёды светла. З невялічкага акна добра бачны цэнтр Моталя. Старшыня сельгаскааператыва Вячаслаў Мікалаевіч Каштальян тонка разумее мастацтва і добра ведае здольнасці мотальскага мастака. А карціны купляе здаўна. За першую некалі атрымаў ад калгаса столькі грошай, што бацька, даведаўшыся, прысвіснуў, маўляў, ого, мне за год гэтулькі не зарабіць. Усяго ж за парнатаўскі перыяд калгас са згоды кіраўніка купіў іх не менш чым дзясятак. Добрая падтрымка маладому

творцу, якому толькі на самае неабходнае — падрамнікі, палатно, фарбы, пэндзлі, разбаўляльнікі ды шмат што яшчэ — патрабаваліся немалыя грошы, не кажучы пра апратку і ўсё астатняе.

Да старшыні заходзіў, бадай, без сумненняў, што памяшканне будзе выдзелена, і так яно і атрымлівалася. Вячаслаў Мікалаевіч нават і з радасцю, зацікаўлена рупіўся пра майстэрню для такога мастака. Дзе-хто, праўда, дакараў, маўляў, нашто табе гэты калгас, ты ж можаш зачапіцца ў сталіцы, там жыць, а сталічнае жыццё — гэта табе не вясковае. Яны ж не ведалі, што тут ён — часова. Хоць і не супраць быў застацца. Яму ў вёсцы хараша, дыхаецца вальней, чым у вялікім горадзе. Пра ўсё гэта і са старшынёй — разважлівым, мудрым — гаманілі.

Там напісаў каля трох дзясяткаў эцюдаў цэнтра Моталя. Залазіў на дах папулярнай у вёсцы кавярні «Чабарок», і на палатне з’яўляліся родная школа, якая стаіць праз пляц ад кавярні, універмаг, велізарны будынак, у якім была яго майстэрня, пошта... Атрымалася дэталёвая, дакладная панарама Моталя, якая складалася з некалькіх палотнаў. І была панарама на адным агромністым палатне — яна, мабыць, ужо навечна прапісалася ў школе мастацтваў на сцяне перад уваходам.

Неяк па-асабліваму добра працавалася па начах. У Парнаце начныя вылазкі ў майстэрню былі звыклаю справай, і вось і тут затрымаўся дапазна, творчы імпэт выцесніў і стому, і сон, не прыкмеціў нават, як сцяна са шкляных блокаў засвяцілася ранішнім святлом; палілося яно і праз акно. Спачатку нясмелае, набрынялае шэрасцю, пасля блакітам, а пасля ўсё ярчэйшае, зыркае.

Творчы імпэт, між тым, не прападаў, і тады адразу ж адсюль падаўся з эцюднікам і новым палатном на звыклае месца на даху «Чабарка», унутраныя сцены якога гаспадары гэтай шматлюднай па вечарах, ды і не толькі, увесяляльнай установы неўзабаве таксама аздобяць яго арыгінальнымі палотнамі.

У час працы забываўся пра ўсё, ды раптам да слыху данёсся такі знаёмы голас. Гэта маці стаяла ўнізе, занепакоеная, што не начаваў дома, пыталася, ці не галодны, а пасля дастала з кішэні некалькі «Снікерсаў» і закінула на дах:

— Паеш, сынок, па тэлевізары казалі, што гэтая ежа на ўвесь дзень сілы дае, ці як яе, энергію, во!

— Ідзі дахаты, бо людзі, бач, ужо смяюцца з тваіх снікерсаў.

Але з'еў ласунак. Гэта ж і напраўду прагаладаўся. Ну, маці, паддалася, бач, на рэкламу, якая наіўная. Але ж і напраўду смачна.

Неўпрыкмет настаў час, калі трэба ехаць у сталіцу і рыхтавацца да паступлення ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Там чакала ўжо кватэра парнатаўскай медсястры, і ўсё гэта як бы падахвочвала да паступлення, маўляў, нават няма чаго і сумнявацца, чакаюць цябе ў Мінску з распасцёртымі рукамі.

О, як рада была ўбачыць учарашняга лепшага выпускніка-парнатаўца гэтая добрая і шчырая жанчына. Пераначаваўшы ў яе кватэры, бліжэй пазнаёміўшыся з сям'ёй, заняў — адзін — асобныя апартаменты ў яе другой кватэры. Тут насалоджваўся роздумамі пра мастацтва, пра вытокі і верагодную будучыню беларускай школы жывапісу, чытаў, рыхтаваўся да паступлення.

Вычытаў недзе цікавую думку пра тое, што ў гісторыі мастацтва фарміраванне кожнага мастацкага кірунку адбываецца разам са станаўленнем педагагічнай сістэмы і што менавіта гэтая сістэма фарміруе яго прынцыпы. Вось тут і пашкадаваў, што згубіўся дзённік з былымі, парнатаўскімі, роздумамі-запісамі. О, як бы зараз дапоўніў тыя запісы, прысвечаныя пошуку нейкага найдакладнейшага і самага трапнага азначэння нацыянальнай школы ў мастацтве і выразнага азначэння асобна ўзятай беларускай школы, яе асаблівасцяў, адрозненняў ад іншых школ, бо ўспрымаў тое большай часткаю інтуітыўна. І вось: «Новы змест, які ўносіць грамадскае жыццё, нараджае не толькі новае мастацтва, але і адпаведную яму мастацкую педагогіку, гэта значыць школу спасціжэння творчага вопыту. Асноўная задача школы ў тым, каб актыўна спрыяць сцвярджэнню мастацкага кірунку, які яе спарадзіў. Паспяхова яна вырашаецца ў тым выпадку, калі ў ёй самой складаецца метад, які цалкам адпавядае грамадскім патрэбам новага мастацтва і дае магчымасць выхаваць пакаленні мастакоў, якія працягваюць развіваць традыцыі, здольныя да сапраўднага эксперыменту». Гм, во, дачытаўся да галоўнага, што шукаў

і чаго чакаў — да… эксперыменту, да пошуку. Без пошуку не можа быць развіцця. А калі не развівацца, то што? Занядад, што ж яшчэ! У межах жа нацыянальнай школы жывапісу існуюць школы канкрэтных майстроў-жывапісцаў. Значыць, і самому трэба шукаць свой непаўторны стыль, сваю манеру, свае колеравыя і пластычныя вырашэнні творчай задачы, дый ідэі павінны быць арыгінальнымі, арганічна маімі. Па-сутнасці, гэта я сам павінен быць арыгінальным, непаўторным і… цікавым. Да ўсяго, цікавым менавіта як носьбіт нацыянальнага. Вох, як жа гэта цяжка — быць у мастацтве. Якая ж гэта вялікая праца розуму, душы і якая вялікая адказнасць.

Тым часам карціны чакалі яго ў мотальскай майстэрні, адкуль перавёз іх дахаты на гарышча ў першы ж прыезд ужо з новага месца вучобы, бо трэба было вызваліць памяшканне для новых гаспадароў — аркестра сельгаскааператыва.

Акадэмія расчыніла такія знаёмыя і родныя ўжо дзверы. І цяжка было вызначыцца, якія раднейшыя: бацькоўскай хаты, Парната альбо гэтыя — на рагу вуліцы Сурганава і праспекта Францыска Скарыны, перайменаванага крыху пазней у праспект Незалежнасці.

**Акадэмія**

У прасторным пакоі на другім паверсе інтэрната па вуліцы Сурганава пасяліліся восем чалавек. На суседнім ложку — Аляксей Пузыроў. Ён абраў дызайнерскі факультэт, аддзяленне інтэр’еру. Адразу ж і пасябравалі. Абодва таленавітыя. Аляксей аказаўся кулінарам якіх пашукаць, навучыў шмат якім сакрэтам гатавання ежы з самых простых і танных прадуктаў, а калі трэба, то і з экзатычных, заморскіх. Вельмі хутка яны адкрылі адзін у адным яшчэ і спартсменаў.

Калі дужэйшых рук за Іванавы ва ўсім пакоі не было, то ногі… Адным словам, Аляксей прапанаваў памерацца, хто хутчэйшы. Янка ўсміхнуўся, маўляў, мяне яшчэ ніхто не пераганяў. Ды тут… на самым фінішы сябра робіць рывок і апярэджвае. Усяго на крок, але ж… А пасля смяецца: «Я ж маю разрад па бегу. Дзіўна, што ты не маеш». І яны пасябравалі яшчэ мацней і надоўга. Аляксей выпраменьваў не толькі фізічную і творчую сілу, але і жыццёвую. З ім надзейна, і гэтая надзейнасць, адчувалася, надоўга. Ён абраў сваім ста-

лым заняткам рэкламную дзейнасць, а гэта значыць, адназначна прыбытковую. Ён і ў рэкламе застаўся творцам.

У пакоі разам ужываліся, ды яшчэ як дружна, жывапісцы, дызайнеры, рэжысёры, акцёры… Гэтае сяброўства замацавалі, шчодра скінуўшыся з першай стыпендыі.

Тройка гомельскіх хлопцаў — Юрый Платонаў, Генадзь Фядотаў ды Сяргей Ігнаценка — самая дружная. Гэтак жа дружна яны сябравалі з ім, які набраў самы высокі бал пры паступленні ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў — 54. Яны падзялілі на траіх другое месца — 41 бал. Пасля, атрымаўшы дыпломы, гэтак жа дружна вернуцца ў Гомель і будуць працаваць разам у Гомельскай мастацкай вучэльні.

Напрыканцы вучобы гэты першы «акадэмічны» пакой пад нумарам 10 стаў яго, Янкі, майстэрняй. А жыць пачаў у трынаццатым. Разам з неразлучным Аляксеем Пузыровым. Той, праўда, скончыў вучобу годам раней, і сустракаліся яны ўжо дома адзін у аднаго. Гэтае сяброўства, напэўна, вечнае.

Жыццё ў акадэміі падобнае да парнатаўскага і не падобнае. Тут сталоўкі няма. Гатуйце самі — дарослыя ўжо.

І гатавалі на купленай за агульныя грошы плітцы ўсе стравы, балазе з віртуозным кулінарам Аляксеем тое было не праблемай, нават у пэўным сэнсе мастацтвам. Пасля лепшым студэнтам выдалі квіткі на харчаванне ў рэстаране, што месціўся ў будынку акадэміі. Выходзіў адтуль, аднак, галодны. Да таго ж, дужа доўга даводзілася чакаць, покуль прынясуць ежу. А чаканне — яно ж таксама галоднае. З гэтага, бывала, спазняліся на заняткі. Паскардзіліся ў адміністрацыю, маўляў, альбо карміце па-людску, альбо не трэба нам такія квіткі. Пасля гэтага абеды сталі ўеднымі. Але… Спазненні на заняткі з-за маруднага абслугоўвання працягваліся і ўрэшце абрыдлі. Адмовіліся ад рэстарана зусім, і ім была прадастаўлена сталовая. Яна славілася дранікамі, якіх набіраў чым паболей і частаваў імі сяброў і сябровак.

Тут, у акадэміі, ні табе нянек, ні куратараў ці класных кіраўнікоў. Самастойнасць! Наведванне лекцый хоць і не вольнае, ды і не дужа строгае. Але тут і адказнасць — персанальная.

Мастаку вывучаць эканоміку, ці то англійскую мову, ці то паліталогію — не дужа прыемная справа. Ды ўжо свядомасць дарослая, сталая, ужо добра разумееш — веды па жыцці за плячыма не насіць.

Затое профільныя дысцыпліны… Жывапіс, малюнак, кампазіцыя, гісторыя мастацтва, перспектыва, пластычная анатомія, тэхніка жывапісу і тэхналогія жывапісных матэрыялаў, эстэтыка — усё гэта ўспрымалася арганічна, удыхалася, як паветра. Паспрабуй пражыві без паветра. Гэтак і тут.

Малады яшчэ, але ўжо вядомы мастак Віталь Герасімаў загадваў кафедрай і выкладаў усю практычную частку. Пад яго кіраўніцтвам добра было ўдасканальваць майстэрства. Энергічны, ён паспяваў паўсюль, умешваўся ў рабочы працэс, нават трохі замнога было гэтага ўмяшання, бо хацелася волі, а ў творчасці — волі абсалютнай. Праз нейкі час жывапіс пачаў выкладаць Май Данцыг, і з ім было вальней. І ўжо абсалютную волю даваў Аляксандр Ксяндзоў. Неўпрыкмет яны і зусім перасталі паводзіць сябе з гэтым няўрымслівым хлопцам з далёкага палескага Моталя як са студэнтам і зрабіліся сябрамі. Роўнымі з роўным. А славуты Аляксей Марачкін у першую ж сустрэчу звярнуўся запраста і па імені, якім яго дагэтуль рэдка хто называў: Янка. Ён сам пры знаёмстве з некім часам дадаваў да імені:

— Янка з Моталя.

Бадай, адсюль, ад гэтай сустрэчы са знакамітасцю яго ніхто ўжо іначай і не называў, як толькі Янка. Так хутка і неяк неўпрыкмет імя гэтае злілося з ім, нібы насіў яго ўсё жыццё. Зрэшты, чаму ж не насіў. Насіў. У сабе. Як той жа талент, як сваю геніяльнасць і сваю некрыклівую, някідкую, ды натуральную і нязмушаную любоў да Айчыны, да ўсяго нацыянальнага, роднага… Яно выспявала, што тое зерне ў раллі, ва ўрадлівым сэрцы, прарасло і выспела. І цяпер арганічна і натуральна асацыіруецца з нацыянальным жывапісам.

Часта прыходзіў народны мастак СССР, акадэмік Міхась Савіцкі. Ён не выкладаў дысцыпліны, не чытаў лекцыі, але яго мудрыя, тонкія, трапныя падказкі, якія ніколі не былі навязлівымі, часам каштавалі болей, чым дзясятак шматгадзінных лекцый. Чалавек, які прайшоў праз фашысцкія канцлагеры, пакутнік і руплівец, які ўсё жыццё аддана служыў Ра-

дзіме і мастацтву, уганараваны як мала хто з калег, — жывая легенда для маладых мастакоў. Яго слова — важкае, з магутным зарадам жыццёвага і мастацкага досведу — клалася ў падмурак вопыту і майстэрства трывала, навек.

Прагледзеўшы Янкавы палотны, патрыярх беларускага жывапісу запрасіў яго да сябе ў творчую майстэрню, а яна была — толькі для абраных. Накшталт аспірантуры. І яны працавалі ў сумежных пакоях, праз сцяну, у хвіліны адпачынку пілі каву, гаманілі пра жыццё-быццё, пра мастакоў, пра мадэрн і традыцыю ў мастацтве. Чаго Савіцкі не прымаў у творчасці, дык гэта мадэрн у любых яго праявах. Рэалізм і толькі рэалізм, а ўсё астатняе ад нячысціка — паўтараў бясконца і нястомна. «Што ж, і ў вялікіх ёсць слабыя бакі», — падумаў, здзіўлены, сам сабе, але з вялікай павагі да майстра ні з кім гэтаю сваёю думкаю не дзяліўся. Адно кожны раз, пачуўшы ад настаўніка зняважлівы выпад на адрас мадэрну і яго носьбітаў, дзіваваўся: як жа такое можа быць, што ён, Янка, зусім юны, разумее важнасць пошуку (а гэта ж той самы мадэрнізм) у мастацтве, а вось уганараваны ўсімі магчымымі званнямі пашанотнага ўзросту акадэмік не разумее? І нічога, калі б размова ішла пра «Чорны квадрат» Малевіча. Тут і Янка разумее, што гэта хітрыя штукарствы спекулянтаў ад мастацтва (трэба ж, падвялі пад той «квадрат» тэарэтычную базу, маўляў, у выяўленчым мастацтве ўжо ўсё сказана, усё выяўлена, і Малевіч сваім «шэдэўрам» паставіў тлустую квадратную кропку, і ўсё, што паяўляецца пасля яе — толькі перапевы з ужо створанага, з некалі ўжо адкрытага; на роўным месцы намалявалі патарчаку, і хоць насамрэч яе няма, ды ўсе аб яе спатыкаюцца). Але ж калі элементы рэалістычнага падаюцца ў аўтарскай мастацкай інтэрпрэтацыі ды аздоблены адмысловаю мадэрновай знаходкаю, якая арганічна дапаўняе замысел — гэта ж здорава, гэта і ёсць развіццё, якое перакрэслівае сабою ўсе тыя квадраты-кропкі-патарчакі. Хіба Шчамялёў, Марачкін, Вашчанка, Селяшчук, Тоўсцік ды іншыя глыбока нацыянальныя мастакі чыстыя рэалісты? Ні ў якім разе. Ды і самі вы, Міхась Андрэевіч, на палатне не заўсёды выяўляецеся рэалістам. Так што…

А апошнім часам на палотнах настаўніка з’явіўся Сталін. «Настальгія», — тлумачыў здзіўленаму выхаванцу. І ў той жа

час з-пад пэндзля выходзілі хрысціянскія, рэлігійныя матывы. Сапраўды, дзівосныя справы твае, Госпадзе.

Янка тым часам эксперыментаваў, і ўсё часцей яго палотны казыталі эстэтычныя прыхільнасці настаўніка новымі і новымі «ізмамі», як ён іх грэбліва называў. Ды патрыярх так і не дазволіў сабе ні словам, ні позіркам выказаць непрыязнасць да тых практыкаванняў-эксперыментаў. Ці то з павагі да таленту маладога мастака, ці такі, не высмактаны з пальца, а псіхалагічна і па-філасофску апраўданы, заглыблены, вывераны, мадэрн яго задавальняў?

Як бы там ні было, працаваў тут узрушана, многа, і праца гэтая прыносіла незвычайную асалоду. Тут і дыпломную сваю работу напісаў, якая атрымала найвышэйшыя адзнакі камісіі і якую доўга і на ўсе лады расхвальвалі выкладчыкі акадэміі.

О, як доўга намацваў ён гэтую тэму і гэты сюжэт, як доўга шукаў гэты няўлоўна-дасканалы вобраз. На канікулах ехаў у родны Моталь і шукаў, шукаў іх, тыя вобразы, у тварах бабуль, покуль не спыніўся на 99-гадовай і 101-гадовай.

У вёсцы Буса знайшоў старэнькую знахарку, і яна стала каларытнай гераіняй карціны. Такія карціны-пошукі з'яўляліся новыя і новыя, у тым ліку намаляваў бабулю, у якой пасля вучобы ў акадэміі купіў хату, а яна пераехала ў горад да дзяцей, і кожная — сусвет, свой, палескі, вясковы, кожная — мастацкае адкрыццё. Дык навошта шукаць яшчэ, гэтага больш чым дастаткова. А ён шукаў і шукаў…

…І — жыў.

***Мы перабіраем палотны***

*Яны ў скрутках на стэлажах у той частцы хаты, якая завецца сянямі. Але ў яго гэта не сені, а частка майстэрні. Тут і палотны, нацягнутыя на падрамнікі. Іх тысячы. Яны паўсюль. Гадзінамі праглядаем іх і не паспяваем усе прагледзець.*

*Карціны-этапы.*

*Серыі, серыі, серыі, серыі…*

*Пейзажы, выкананыя на грубай мешкавіне.*

*— Гэта з часоў вучобы. Эмаль. Калі б рабіў алеем, ніякіх грошай на фарбы не хапіла б. Гэта ж якія памеры! Ну, прыкладам 165 см на 65. Але эмаль дужа плывучая, цяжка ёю*

*працаваць. Праклейваць, грунтаваць такое грубае палатно таксама няпроста, ды што зробіш, калі прага маляваць ну проста неадольная.*

*Ад папулярных, нашумелых, у станоўчым сэнсе гэтага слова, серый (да таго ж даволі аб'ёмных) мала што засталося. Вось «Вялікдзень». Людзі выстраіліся вакол царквы, у іх ля ног карзінкі з яйкамі, мясам, каўбасамі, над кожнаю карзінаю гарыць свечачка, поп са світаю ідзе і асвячае святочны пачастунак.*

*— Былі «Каляды», «Спас яблычны»… Многа было палотнаў з серыі народных святаў беларусаў, прычым вялікіх памераў — два на паўтара метра. Стварыў яе ў акадэміі. Але такія карціны надта добра раскупляліся. Буду працягваць тэму. Яна бясконцая.*

*Яшчэ адна бясконцая тэма, распачатая таксама ў акадэміі: «Рэха мінулага». Вось яны, прыглушанага попельна-шэрага колеру фрагменты старых сцен хаты, паленніцы, паркана, вось вароты, возік… Гэтая серыя перарасла з часам у «Беларускую Атлантыду» і ўжо заваявала масавую прыхільнасць аматараў прыгожага не толькі ў Беларусі, але і далёка за межамі краіны.*

«*Рэклама» — чарговы распачаты ў акадэміі цыкл. Гэта аголеныя натуры з элементамі этнаграфіі. Дзяўчаты як бы рэкламуюць спрадвечныя побытавыя рэчы палешукоў: дзежкі, саламяныя карабы, гаршкі, збанкі, вугальныя прасы, падковы ды шмат усяго іншага. Яшчэ ёсць цыкл аголенай натуры, выкананай у вельмі яркіх, палаючых колерах.*

«*Сонечныя сны» — цыкл, прысвечаны дзецям. Каля паўсотні палотнаў. І кожнае — шэдэўр. Дзеці тут купаюцца ў сонечных промнях, сонечных зайчыках і ў сапраўднай асалодзе дзіцячых сноў.*

*На стэлажах сотні пленэрных эцюдаў, пейзажаў, арыгінальныя партрэты, выкананыя на драўляных сценках ночваў альбо поцесяў, сотні нацюрмортаў з валошкамі, макамі, каларытныя серп і молат.*

*А вось серыі, якія толькі-толькі нарадзіліся, а першыя палотны яшчэ не паспелі высахнуць. Гэта «Беларуская экзотыка», «Прысвячэнні». Першае — з выявою ярма і драўляных колаў ад воза — пісьменніку і журналісту Міколу Еляневёўска-*

*му, які і даставіў мастаку ярмо, што захоўваў у сваім рэдактарскім кабінеце ў рэдакцыі пінскай раённай газеты «Палеская праўда». Апошняю па часе нарадзілася серыя сакральных работ. Гэта нешта накшталт мадэрну ў іканапісе.*

У часіны глыбокіх роздумаў, якія час ад часу захліствалі то гарачаю, то пяшчотна-цёплаю, а то і ледзяною хваляю, у каторы ўжо раз пацвярджаў даўняе адкрыццё, што колькасць карцін — абсалютна не самамэта і нічога не значыць. Проста калі адно за другім запаўняеш палотны, пэндзаль у руках робіцца разняволеным. Фарбы амаль адвольна кладуцца на палатно і ўтвараюць нечаканыя нават для самога сябе эфекты. Удасканаліць майстэрства без практыкі немагчыма, а адтачыць яго да нейкага абсалюту — тым больш. Таму не знаходкі павінны быць цікавыя, а сам пошук як працэс. Знайшоў — і пайшоў далей. Вось які прынцып павінен быць у аснове ўсёй творчасці. Дзякаваць Богу, ідэямі перапоўнена галава, адно паспявай іх увасабляць у вобразах, колерах, пластыцы…

**Вяселле. Дзеці**

Як і ў кожны свой прыезд дахаты, спяшаўся ў Асаўніцу. Там чакалі каханая і яе бацькі, чакалі дзед Міша з бабаю Любаю. Усе любілі гаманіць з ім, распытваць пра сталічнае жыццё, смяяцца і радавацца.

Бацькі Тані звыкла накрывалі смачны стол. Традыцыйныя чарка і шкварка — і зноўку жарты, гамана…

— А вось мы возьмем ды і пажэнімся з Таняю, — кавалер разышоўся не на жарт. — Таня, я раблю табе прапанову.

— І то праўда, колькі ж ужо хадзіць. Чатыры гады ўжо валаводзіце, а ніякага толку з вашага кахання.

— Ах так? Усё, прыйду ў сваты.

Дажартаваліся.

Размова была ўлетку, а на Каляды сваты тут як тут. Сапраўднае вяселле атрымалася з гэтага сватаўства. Народу назбіралася поўная хата. Хоць і не рабі таго вяселля — адразу пад вянец. Ды не, тут жа, за святочным і багатым сталом, дамовіліся: вяселлю быць 26 красавіка. Так яно і сталася. Чатыры дні гулялі ў Мотале ды Асаўніцы. Янку лёгка адпусцілі з заняткаў — як жа, святая справа.

А ў сталіцу ён павёз віно хатняй вытворчасці. Уласнымі рукамі збіраў вінаград, ціснуў сок, напаўняў ім вялізныя бутылі, сачыў за працэсам і гатовы напой разліваў у бутэлькі і тыя ж бутылі.

Віно атрымалася смачнае і п'янкое. Добра адзначылі ім падзею з выкладчыкамі ды сябрамі.

Гэта быў другі курс Беларускай акадэміі мастацтваў. Дваццаць год. Час росквіту і сталення.

Жыццё працягвалася — такое і не такое, як да вяселля.

Праз год нарадзіўся сын, якога ахрысцілі Арцёмам. Яшчэ праз два гады паявілася на свет Дар'я.

Дзеці — новыя фарбы ў жыцці. Светлыя, нават асляпляльныя, як сонечныя зайчыкі. Засела ў памяці і ў патрэбны час заблішчала на кончыку пэндзля бабуліна: «Дзеці — тое золата, што не блішчыць».

У існага мастака жыццё і творчасць непадзельныя, і сонечныя зайчыкі зайгралі-засвяціліся на палотнах. Не адразу, праз некалькі год, затое атрымалася цэлая серыя «Сонечныя сны», у якой каля паўсотні карцін, знітаваных адною — дзіцячаю — тэмаю: «Гульні ў сонечным промні», «Салодкі сон»… Дзіцячыя тварыкі на іх выпісаны як жывыя, а жывыя напраўду не блішчаць, яны пяшчотна-матавыя. Затое адсвечваюць сонечныя блікі на іх і па ўсім палатне, а залацістае абрамленне (адмысловы, вынайдзены ім самім, Янкам, тэхнічны прыём) нібыта запазычана з іконы. Няйначай, гэта акцэнт на дзіцячую непагрэшнасць і наогул святасць самога дзяцінства.

Што праўда, то праўда: дзеці — радасць. Самі па сабе, на карцінах, самі карціны. Яны пабывалі на мностве выстаў і выклікалі фурор. Але тое — пасля акадэміі. У акадэміі ж выспявала тэма.

Адначасова выспявала і тэма дыпломнай працы. Тая самая, з векавымі бабулькамі на вясковай лаве ля плота. Пісаў іх у вёсцы Буса, дзе жыве жончына бабуля, пісаў у Моталі. У белых святочных даматканых строях з выбітымі каляровымі нацыянальнымі ўзорамі, у кажушках і хустках, па адной, па дзве, па тры, а як падрос сын, то і з ім. Як сімвалам будучыні.

Жонка перасялілася да бацькоў у Моталь. У 99-м скончыла каледж сувязі. Тады ж нарадзіла першынца. У Моталі праходзіла практыку. Раз-пораз наведвалася з бацькамі ў ста-

ліцу да мужа. Гадавала дзяцей і чакала, чакала, калі ўжо яны зажывуць сапраўдным сямейным жыццём.

Чакаў і ён. Пісаў лісты — ды якія. Цэлыя паэмы. Распісваў жыццё ў сталіцы ва ўсіх яго праявах, шчыра дзяліўся і перажываннямі.

**Практыка**

Аднойчы прыехалі бацькі, і так закарцела напісаць іх партрэты. Пасадзіў маці пазіраваць, ды яна і паўгадзіны не пратрымалася, заснула. Стамілася за дарогу. Так і атрымалася на карціне сонная. Ён скруціў палатно, і яно дасюль захоўваецца ў скрутку. Бацька, каб не заснуць, кульнуў чарку. Такім і атрымаўся — пад хмяльком. Гэты партрэт таксама захоўваецца ў скрутку.

***Мы паднімаем чарку***

*— Чацвёртая — за мастацтва, так заведзена ў мастакоў, — кажа Янка.*

*— У пісьменнікаў таксама, — падношу сваю чарку, каб чокнуцца. — А ў журналістаў чацвёртая — за справу, якая корміць.*

*У прынцыпе, сэнс супадае, бо Янкавы карціны добра прадаюцца не толькі ў Беларусі, але і ў замежжы, і ён мае ад іх неблагі прыбытак. Мы закусваем кропам і цыбуляй, што нашчыпалі ў гародчыку ля хаты-майстэрні.*

*У гародчыку яшчэ растуць бульба, гарбузы, кабачкі, салата, стаіць цяплічка, а ў ёй — гуркі ды памідоры.*

*Янка маляўніча распавядае, як падчас вучобы ў акадэміі паднімаў чарку з «лепшым паэтам Беларусі» Анатолем Сысам. Той сам сябе гэтак адрэкамендаваў. Пасля таго як убачыў Янкавы работы, прыходзіў часта і называў яго «лепшым мастаком Беларусі», падкормліваў, калі меў такую магчымасць, а пасля раптам памёр…*

*— Што ж, ён сапраўды вялікі паэт. За цябе, Анатоль.*

*Мы цяжка ўздыхаем.*

Адначасова займаўся ў Міхася Савіцкага — там, на Някрасава, 3, была самая вялізная майстэрня. Сюды неўзабаве перавёз усе свае палотны, якіх назбіралася каля сотні. Пер-

шая партыя запоўніла ўвесь кузаў грузавіка. А грузавік быў іванаўскі.

Пасля сваякі яшчэ неаднойчы памагалі з транспартам, бо такую колькасць карцін можна перавозіць толькі ў кузаве альбо прычэпе. Яны ж дастаўлялі ўсё яго багацце па заканчэнні акадэміі ў Моталь, ужо ў майстэрню на першым паверсе вясковай школы мастацтваў.

Значная частка работ знаходзілася на гарышчы бацькоўскай хаты. Да іх дадаваліся дзе-якія новыя. Нарэшце палотнаў сабралася столькі, што прагнуліся бэлькі, і бацькі не на жарт устрывожыліся. Што ж рабіць: вызваліў тыя палотны з рам ды падрамнікаў і паскручваў у тоўстыя скруткі. Крыху пазней на тым жа гарышчы абсталяваў сабе невялічкую, ды ўтульную майстэрню.

Першая практыка — у Полацку, там і партрэты рабілі, другая — капійная, малявалі копіі ў Нацыянальным дзяржаўным мастацкім музеі (Янка абраў турэцкі матыў), далей — адвольныя… Прагляд па адной з іх нават прапусціў, не ведаў, што якраз у гэты дзень праводзіцца. Прыехаў, а яму: «Учора прагляд быў». Дзякуй кіраўніку практыкі Маю Данцыгу. Выручыў, паклапаціўся. Як толькі дамовіўся з членамі камісіі, прыбег узрушаны: «Хуценька выстаўляй карціны, усе, якія ёсць». Пейзажаў хапала, выставіў іх шмат, і ўсе спадабаліся экзаменатарам. Наступны прагляд быў партрэтны. Завесіў партрэтамі ўсю сцяну. І ўсе вырашана было перадаць у акадэмічны фонд. Лепшай адзнакі нельга нават прыдумаць. Ды тут давялося запратэставаць. Гэта ж партрэты сваякоў, знаёмых, сяброў, а яны хочуць мець свае партрэты. Дзякуй, прыслухаліся, хоць асобна давялося адстойваць дужа ўдалы партрэт дзядзькі, за які ўчапіліся асабліва настойліва.

Перaддыпломную падзяліў на два перыяды: на радзіме і ў сталіцы, у майстэрні, дзе захапіўся аголенай натурай. Атрымаўся шматстайны і цікавы цыкл. Выявы натуршчыц аздабляў старымі рэчамі, і палотны набывалі новае, філасофскае гучанне.

***Разглядаем старыя рэчы***

*На сцяне ля ўваходу ў майстэрню — поцесі. Разабраныя. На дошчачках — лікі святых, выкананыя па ўсіх законах іканапісу. Тут асобы сэнс: з аднаго боку — кожная прылада працы ў вяскоўцаў святая, а самі яны — набожныя.*

*Бочкі. Маленькія і вялізныя, цэлыя, моцныя і з вышчарбленымі ад часу клёпкамі, абручы на іх з металічных пасаў і звычайнага дроту. Назбіраў іх па сваяках і знаёмых. Самую вялізную і, бадай, самую каларытную падарыў сябра Андрэй Юшкавец, які працуе ў Іванаўскай школе бондарства.*

*Саламяныя карабы самых розных канфігурацый — у выглядзе збаноў, тазікаў, гаршкоў. Дзе-якія велічынёю з бочку. Яны ўвасоблены на шмат якіх карцінах.*

*— Гэты саламяны тазік з ручкамі падарылі незнаёмыя жанчыны. Убачылі мяне на вуліцы, перапыталі, ці праўда, што я мастак, дый падарылі. Відаць, прачулі, што збіраю такія рэліквіі. А ім ужо не трэба.*

*Вялізную, метровай даўжыні, лыжку ды каромыслы прывёз з Быкаўскага пленэра, з Віцебшчыны.*

*Патэфон сябры — свае, вясковыя — за пляшку загналі.*

*— Грае. Пакруціў быў ручку, паставіў іголку — чысцюткая музыка.*

*Самавар сусед аддаў, маўляў, мне ўжо не трэба, а табе паслужыць.*

*Медную ступачку з таўкачыкам і старэньку пішучую машынку сярод металалому знайшоў. Ступачка каларытная і цяжкая-цяжкая, хоць і маленькая, велічынёю з гранёны стакан.*

*Калаўрот — трафей з Ордаўскага пленэра.*

*— Там шмат усяго прапаноўвалі, ды хіба ўсё пацягнеш на сабе.*

*Сплецены з саломы чамадан — падарунак варацэвіцкага музея, таго самага, дзе мастацкая галерэя Напалеона Орды.*

*Драўлянае кола ад воза ўбачыў у двары нейкага дзядзькі.*

*— Кажу, прадайце мне яго. А той смяецца, кажа: «Бяры так, яно ўжо не трэба мне».*

*Вугальных прасаў штук восем назбіралася, ужо і забыўся, адкуль яны тут.*

*Шафа засталася ад былых гаспадароў хаты.*

*— Трэба ж, яны хацелі пасекчы гэтую шафу на дровы. А гэта прывітанак з дзевятнаццатага стагоддзя.*

*Тут уся мэбля адтуль — равесніца Напалеона Орды. Нефарбаваная. Дрэва ўвабрала ў сябе пыл стагоддзяў.*

*Ад былых гаспадароў засталіся і хамут, і тузін вянкоў. Усё гэта знайшоў на гарышчы.*

*— Вянкі сухія, але сама такія, што просяцца на палатно. Во зараз якраз вазьму ўстаўлю вянок у хамут і напішу. І назаву карціну «Каханне».*

*— Чаму каханне? — мяне распірае цікавасць.*

*— Пасля скажу. Тут філасофія.*

Вясковы перыяд прысвяціў працы ў Асаўніцы, у дзедавай хаце. Тут знайшоў дужа каларытную старую хату, гэткі ж каларытны плот. Прыехаў папрацаваць разам аднагрупнік Юра Платонаў. З ім лавілі ў перасохлых вадаёмах уюноў і смажылі іх.

Юрый пісаў нацюрморты з дзедавымі яблыкамі. Дужа спадабаліся яны сябруку.

А ён, Янка, прападаў на аблюбаванай закінутай сядзібе. Тут прываблівала ўсё: пачарнелыя ад часу, патрэсканыя, паточаныя сцены, вышчарблены слоік на акенцы кладоўкі, гонтавы дзіравы дах, спарахнелы, пахілены плот, а дакладней, парэшткі гэтага плота з латанымі-пералатанымі жэрдкамі і коллем-штыкетнікам.

Бяліл якраз не было, купіць іх дзе паблізу таксама не выпадала, і карыстаўся эмаллю. Яна цякучая, дадавала нязручнасцей, пасля адблісквала на гатовым, нават пасля поўнага высыхання, палатне, затое яе хапала на любыя плошчы. Спалучаў яе з усімі колерамі алею і пісаў, пісаў…

Асабліва спадабалася выкладчыкам пасля, на праглядзе, карціна, на якой на пярэднім плане каларытны плот, а за ім — гэткая ж каларытная старая хата, што пачала паціху рассыпацца сама па сабе. Пісаў гэтую хату з розных ракурсаў, здаля і зусім зблізку, знутры — увесь інтэр’ер або нейкую яго дэталь. З гэтага пазней нарадзілася ідэя стварэння цыкла «Беларуская Атлантыда» — аднаго з некалькіх, якія прынеслі мастаку славу.

Час ад часу наведваліся разам у Моталь. Тут неяк трапілася на вочы маляўнічая гара рознакаляровых, яркіх прыгажуноў гарбузоў. Неўзабаве размясціліся ля яе з эцюднікамі.

Завершаную работу Юрый вырашыў пакінуць, каб высыхала, тут жа ў невялічкай пуні. Калі наступным днём вынеслі яе на святло, ахнулі.

— Гэта лепшая мая карціна за ўсё маё жыццё, — Юрый свяціўся радасцю і ажно крычаў ад узрушэння. — Глядзі, як здорава дапоўнілі яе пацукі.

Сапраўды, на палатне, па ўсёй яго плошчы, добра так кідаліся ў вочы маленькія, ды выразныя адбіткі пацучыных ступачкоў. Яны, гэтыя адбіткі, як бы паядноўвалі, цэментавалі ў адно цэлае фон і ўсе дэталі карціны і пры гэтым выглядалі тут досыць гарманічна, нібыта мастак адпачатку задумаў гэткае аздабленне.

— Янка, як добра, што я прыехаў працаваць менавіта да цябе. У цябе нават пацукі і тыя нейкія незвычайныя, бач, як паспрыялі мастацтву, — доўга яшчэ не мог утаймаваць свае эмоцыі сябрук.

**Дыплом**

Дыпломную работу назваў «Бабіна лета». Яе адразу ж ацанілі на «выдатна» і адзначалі як адну з лепшых з усяго выпуску.

Калі праз тры гады ў сталічным Палацы мастацтваў адкрылася выстава «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў — 60 год», прысвечаная юбілею акадэміі, на якой экспанаваліся лепшыя работы выпускнікоў навучальнай установы, гэтая карціна апынуліся ледзь не ў цэнтры ўвагі наведвальнікаў. Вось як апісала свае ўражанні журналістка Вольга Барабаншчыкава ў артыкуле «Народжаныя са святла» ў нумары «Настаўніцкай газеты» за 15 лістапада 2005 года: «Вельмі ўразілі жывапісныя работы вучняў дацэнта БДАМ А. Ксяндзова, якія, нягледзячы на непаўторную манеру пісьма, аб’ядноўвае схільнасць да пераасэнсавання духоўнай тэмы. Героі палотнаў выходзяць да гледача нібыта з моцнага праменя святла… Адчуванне спакою, лёгкай тугі выклікае жывапісная работа Івана Рамановіча “Бабіна лета”, на мой погляд, адна з лепшых на выставе. Тварам да гледача максімальна набліжаны дзве старыя бабулі, якія сядзяць на лаўцы ля вясковай хаты з кошыкамі, поўнымі яблыкаў. У гэтае ж імгненне з расчыненай драўлянай брамкі, усё роўна як прамень святла, выбягае да бабуль маленькі хлопчык з тварам, падобным на яблычак. Відавочна, што ў адрозненне ад радаснага дзіцяці, у якога наперадзе яшчэ ўсё жыццё, старыя жанчыны выглядаюць стомленымі. Але побач з маленькім хлопчыкам, дзіцём, у гэтых бабуль, якія шмат чаго пабачылі за свой век, па-ранейшаму працягваецца жыццярадаснае “бабіна лета”».

Карціна, пра якую прачытаў, якраз у мяне за спінаю, над канапаю, на якой сяджу і пішу гэтую аповесць. Пазіраю знізу: бабуля, якая бліжэй да хлопчыка, глядзіць на мяне. Устаю, адыходжу: бабуля пільна ўзіраецца ў мяне. Гм. Адыходжу пад вострым вуглом управа, далей, да самага вакна. Яна і тут свідруе мяне старэчымі мудрымі вачыма. Улева далёка адысці не дае старадаўні кухонны стол-шафка. Але гэтага дастаткова, каб зразумець, што і ў гэтым баку мне не схавацца ад гэтага ўсюдыіснага пагляду.

Дзялюся адкрыццём з аўтарам. Янка смяецца, маўляў, гэта ён знарок шукаў сакрэт менавіта такога выяўленчага эфекту. І, як бачна, знайшоў. Але карціна ўтрымлівае ў сабе яшчэ некалькі сімвалаў. Вось, прыкладам, штыкетнік. Дужа ж ён няроўны.

— Гэты штыкетнік сімвалізуе няроўнае, пакручастае, дзе шчаслівае, а дзе няшчаснае ці то зусім гаротнае жыццё бабуль-векавух. Парасткі ж на дрэвах і святло, што выліваецца з расчыненай брамкі, гэта ўжо сімвал жыцця новага. А вянец гэтага сімвалу — маленькі хлопчык. Дарэчы, з сына змалёўваў.

І Янка шчасліва ўсміхаецца.

Тады, пасля бліскучай абароны дыпломнай, паўстаў перад сур'ёзнейшым выбарам. Можна было застацца ў творчай майстэрні Міхася Савіцкага, якая мела адну вельмі важную перавагу — была нечым накшталт аспірантуры і гарантавала ў далейшым тую ці іншую неблагую пасаду ў той ці іншай творчай установе і ўвогуле забяспечанае сталічнае жыццё і пашанотнае становішча ў грамадстве. Такі гонар выпадаў абраным, і каб не скарыстацца магчымасцю — на тое павінны быць нейкія вельмі важкія прычыны. А ў яго, Янкі, такая прычына ёсць? Ну так, сям'я ў Моталі, двое дзетак. Старэйшаму Арцёмку трэці год ідзе, а Дашы хутка год споўніцца. Канечне, можна было б зачапіцца ў сталіцы пакуль самому, а там і сям'ю перавезці, а можна і адразу з сям'ёю, неяк перабіліся б па першым часе, а там, глядзіш, не прыкмецілі б, як прыжыліся. Не, тут іншая загваздка. Тут, у гэтай майстэрні, увесь час вісіць над табою, нават фізічна тое адчуваецца, небяспека патрапіць пад чужы творчы ўплыў. А што можа быць

страшней для творчай асобы (калі ты, вядома, пачуваешся асобаю) за страту хоць дробачкі ўласнай адметнасці і згоду на тое, каб вызваленую прастору заняло нешта непрымальнае, тое, што належыць іншаму творцу і разбурае тваю адзінасць і самасць?

Не, лепей вярнуцца ў родную вёску, да сям'і, да ўсяго таго, што пачаў распрацоўваць ва ўласнай творчай лабараторыі; а гэта старыя хатнія рэчы, якія назаўсёды выйшлі альбо выходзяць з ужытку, паўразваленыя хаты і клуні, паваленыя парканы і старыя дрэвы, якія таксама знікаюць з твару зямлі…

З карціны, якой даў назву «Выхад», пачалася серыя «Беларуская Атлантыда», якая, напэўна, будзе доўжыцца столькі часу, колькі сіл хопіць тварыць.

Намаляваўшы на палатне звычайныя дзверы звычайнай вясковай хаты, аздобіў карціну не звычайнымі багетамі, а… парэпанымі дубовымі ліштвамі, на якіх, да ўсяго, накрэсліў (выпаліў адмысловым прыборам, які купіў даўным-даўно, у дзевяцігадовым узросце — тады якраз вучыўся ў Мотальскай школе мастацтваў) адначасова будзённыя і паэтычныя фразы, на якія натхніўся, чытаючы беларускага паэта-наватара Алеся Разанава. Адна за адной нараджаліся карціны, назвы якіх даўно круціліся ў галаве: «Свет у ваконцы», «Дзіравы дах», «Мяжа», «Сцяна»… Нашмат пазней з'явілася брамка — каларытная, прадаўняя, струхлелая ад часу; гэтую карціну назваў «Уваход ёсць».

У той жа час неяк непрыкметна для самога сябе выспявала яшчэ адна знакавая серыя — «Вясковы акварыум». Спачатку намаляваў «Залатую рыбку», якую адразу ж купілі, нават не паспеў і фотакопію зрабіць. Задумаўся: рыба — гэта ж добры знак, а вада… Вада — тое ж, што і час. Нездарма кажуць: час сплывае, як вада. А разам з гэтаю вадою-часам сплываюць у нябыт шмат якія рэчы, без якіх беларус нядаўна ніяк не мог абысціся. Гэта ўжо і не рэчы нават, а знакі — знакі свайго часу: вугольны прас, хамут, драўлянае кола, кош, кораб… Узяць ды намаляваць усю гэтую этнаграфію ў выглядзе рыбін. А назва серыі ўжо гатовая — «Вясковы акварыум».

Сказана — зроблена. І робіцца зараз, сёння, у гэтую хвіліну. І, пэўна, будзе рабіцца. Галоўнае, мець паболей часу для

творчасці, паболей быць аднаму, бо ў самоце найлепш выношваюцца стыхійныя ідэі-вобразы і канчаткова акрэсліваюцца ў нешта завершанае, якое пасля ўвасабляецца ў карціне. І, натуральна, патрэбна майстэрня, прычым па магчымасці прасторнейшая. Па-першае, у акадэміі прывык да прасторных майстэрняў, асабліва працуючы ў Міхася Савіцкага. Па-другое, для стварэння задуманага трэба задзейнічаць мноства, каля сотні, а то і болей, розных рэчаў, а іх трэба ж недзе размясціць. Па-трэцяе, патрабуюць вялікіх плошчаў тысячы гатовых карцін, да якіх дабавяцца новыя, бо далёка не ўсе з іх прызначаюцца для продажу.

Як ні круці, а ўтульная майстэрня на гарышчы бацькоўскай хаты — гэта толькі, так бы мовіць, для забавы. Тут можна накідаць эцюд, нацюрморт, яшчэ што дробнае. А каб цалкам развязаць рукі…

— Выручайце, шаноўны Вячаслаў Мікалаевіч. Патрэбна прасторная майстэрня.

**Дома**

Старшыня СВК «Агра-Моталь» Вячаслаў Каштальян не вагаецца з прыняццем рашэння. Для Моталя гонар, што тут працуе творца такога высокага ўзроўню. Ну і што, што не ў гаспадарцы. Пачуццё патрыятызму — яно выходзіць далёка за рамкі ўзначальваемага сельскагаспадарчага прадпрыемства. Балазе цяпер у Моталі розных прадпрыемстваў — з ліку саб’ешся. Дык і добра было б, калі б кожнае набывала карціны свайго мастака, каб кабінеты і памяшканні яго карціны ўпрыгожвалі, як упрыгожваюць шмат якія салоны, дамы, офісы Беларусі, а таксама блізкага і далёкага замежжа. Да ўсяго, і госцю падарыць карціну майстра з роднае вёскі ці роднага раёна — значыць засведчыць лішні раз, які багаты гэты край на таленты, тым самым і свой статус падвысіць у вачах далёкага ці не надта далёкага калегі альбо партнёра. Такая пазіцыя кіраўніка самага значнага ў вёсцы прадпрыемства дазваляе без праблем займець прасторную майстэрню ў будынку насупраць Мотальскага музея народнай творчасці. Некалі тут быў дзіцячы садок, які ў маленстве наведваў і сам Янка.

Будынак гэты памяняў на сваім вяку шмат гаспадароў. Таўшчэзныя мураваныя сцены, да ўсяго, такія высозныя, што

некалі тут нават спартыўная зала месцілася, — гэта, зразумела, добра. Але тут заўсёды, нават у летнюю спёку, холадна і сыра. А яшчэ і высокія старыя дрэвы сваімі кронамі засланяюць сонца і не дапускаюць ні да сцен, ні да велізарных вокнаў ніводнага праменьчыка. Але і тое яшчэ паўбяды. Сапраўды бяда — злодзеі. Панадзіліся яны па начах выбіваць ці вымаць шыбіны ў вокнах ды лазіць у майстэрню і выносіць адтуль усё больш-менш каштоўнае: магнітолу, ліхтары, тэлевізар, электрачайнік і кававарку… Добра, карціны не выцягнулі; відаць, дужа дэградаваныя асобы — такім хіба дойдзе, што менавіта карціны тут самыя дарагія, самыя каштоўныя. Надакучыла за гэтымі злыднямі вокны шкліць. А зімою дык і зусім холад даняў — сцены інеем іскрацца.

Сем год цярпеў-цярпеў, за гэты час хату купіў і пасяліўся ў ёй з сям'ёю, а тады знайшоў непадалёку ад дома яшчэ адну старэнькую хатку пабудовы канца дзевятнаццатага стагоддзя, купіў і яе, вынес перагародкі і печ ды абсталяваў пад майстэрню. Тут не гэтак прасторна, як у мураванай будыніне, ды для майстэрні прастору хапае. На месцы, дзе стаяла печ, выкладзецца невялічкі камін, і агменьчык усяму, што тут ёсць, надасць утульнасці. А ў сянях і каморы размясціліся стэлажы, на якіх хапіла месца амаль усім карцінам у скрутках, на падрамніках і ў рамках.

***Мы з Янкам у новай-старой майстэрні-хаце***

*Я ў сталіцы... Сталіцы беларускага жывапісу. Яна тут, у майстэрні Янкі Рамановіча ў вёсцы Моталь па вуліцы 17 Верасня, 17. На сцяне хаты шыльда, даўняя-прадаўняя, драўляная, на якой накрэслена — па-польску: ul. Wieleszkut, 21. Так і не памянялі яе былыя гаспадары. І Янка не мяняе. А сама хата збудаваная ажно ў 1880 годзе. Яе сцены мудрыя, як свет. Сюды мастак перасяліўся вясною 2009-га (гэтую вяху трэба запомніць) з не надта ўтульнай, хоць і дужа прасторнай, мураванай будыніны, якая некалі была дзіцячым садком, а яшчэ раней, да вайны, местачковым міні-маслазаводам.*

*Гэта сама той час, той момант, калі мастак заваёўвае свет.*

*Пішу кнігу пра яго, а ён піша палотны пра вечнае і адвечнае.*

*Тут будзённае і высокасусветнае паяднаны арганічна і натуральна, як само жыццё.*

*Маё месца — каля дзвярэй, на змудраванай Янкавымі рукамі канапе. На старой, не кранутай фарбамі табурэтцы — ноўтбук, папяльнічка і запалкі. Перада мною, праз тры крокі, за мальбертам у крэсле-качалцы — ён.*

За гэтыя сем год стварыў велізарныя цыклы «Вясковы акварыум», «Беларуская Атлантыда», «Сонечныя сны», серыі пейзажаў, нацюрмортаў, эцюдаў, пачаў увасабляць на палатне абсалютна новыя ідэі-адкрыцці. І за гэты час паўдзельнічаў у дзясятках буйных выстаў і пленэраў.

Па прыездзе з'явіўся на вочы начальніка аддзела культуры Іванаўскага райвыканкама Уладзіміра Шэляговіча. Яшчэ раней Уладзімір Васільевіч пры сустрэчах прапаноўваў: «Вернешся дахаты — адразу да мяне. Будзе табе ўсялякая дапамога». Як не зайсці да чалавека, які і па службоваму абавязку, і па натуры сваёй — вялікі падзвіжнік і аматар нацыянальнай культуры, а што тычыцца рэгіёну, дык проста апантаны народным мастацтвам, якое прапагандуе ўсімі магчымымі і немагчымымі сродкамі. Ён прапанаваў адразу тры пасады: выкладчыка Мотальскай школы мастацтваў, Іванаўскай школы мастацтваў ды Іванаўскай школы бондарства. Не адмовіўся ні ад адной. Пачаргова вёў заняткі ва ўсіх трох. Пасля застаўся толькі ў Іванаўскай школе мастацтваў імя Напалеона Орды. О, як няпроста быць выкладчыкам. Асабліва калі ты творца і ў цябе не хапае часу на тое, каб увасобіць на палатне свае шматлікія, а часам здаецца, што і бясконцыя, ідэі. А яшчэ ж час патрэбен на пленэры, выставы, іншыя мерапрыемствы.

Вельмі шчодрым на цікавыя сустрэчы і на творчасць (літаральна хваля натхнення захліснула ўсяго, з галавой) выдалася лета 2005-га. Не паспеў распусціць сваіх выхаванцаў у раённай школе мастацтваў імя Напалеона Орды на канікулы, як паступіла запрашэнне на міжнародны пленэр у Польшчы, які праходзіў у горадзе Седльцы і доўжыўся 15 дзён. Сюды з'ехаліся мастакі з Расіі, Літвы, Беларусі, Украіны, Германіі, Злучаных Штатаў і… Японіі. Ведама, былі і самі палякі. Гурт сабраўся размаіты, але цікавы. Можа, найперш

гэтай размаітасцю цікавы. Расія — гэта лепшыя рэалісты з Санкт-Пецярбурга, Кірава, Масквы. Беларусь (Мінск, Брэст і… Моталь) прадстаўлялі ў асноўным прыхільнікі школ сюррэалізму і постмадэрнізму. Літоўцы — са сваёй не падобнаю ні на якую іншую акварэллю, украінцы — таксама з адметнай тэхнікай выканання, якая нагадвае роспісы па шкле. Палякі дэманстравалі пераважна так званы еўрапейскі стыль. Яўна без якога-кольвек прафесіяналізму: нешта накшталт сумесі авангарду з прымітывізмам. Але адна плынь дапаўняла другую, і атрымлівалася паліфанія. Японец Казік (такую мянушку далі пяцідзесяцігадоваму мастаку Якумоце Казукі) увесь час маляваў палескае балота з жабамі, мушкамі, конікамі, матылькамі. Азіяцкая школа — своеасаблівая, Янка ніколі нічога падобнага не бачыў і нават не ўяўляў сабе. Тут і пісьмо адмысловае, і задума. З Казікам пасябравалі. Гутарылі пераважна па-англійску. Доўгімі вечарамі пілі разам польскае «малэ піво», бавілі час творчымі размовамі.

Аб’ездзілі за некалькі тыдняў паў-Польшчы ад Казімежа да Варшавы, пабывалі ў шматлікіх гістарычных мясцінах. І працавалі, працавалі… Пасля таго як кожны мастак стварыў па некалькі палотнаў, у Седльцах адкрылася выстава. Прыйшло надзіва шмат наведвальнікаў, столькі, што і ў Мінску гэтулькі не бачыў.

Пасля той вельмі важнай і цікавай мастацкай тусоўкі японец Казік паабяцаў прыехаць на пленэр у Беларусь, а ён, Янка, атрымаў некалькі заказаў. Як толькі выканаў іх, падаўся на пленэр, прысвечаны жыццю і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Ладзіўся ён у глухіх мясцінах пад Оршаю. Жылі ў палатках. Увесь асяродак — беларускі. Побач працавалі і пісьменнікі. Некалькі вершаў яны прысвяцілі яго, Янкавым, карцінам. А ўсяго тады стварыў 25 палотнаў.

На справаздачнай выставе ў Оршы былі падведзены вынікі творчых пошукаў удзельнікаў пленэра. І трэба ж! Янку Рамановічу — першае месца сярод маладых мастакоў. Другое і трэцяе месцы падзялілі калегі Саша Камянец з Мінска ды Ігар Скавародка з Брэста.

Пасля аршанскага дэсанту зачыніўся ў майстэрні. Распачаў серыю работ (каля сарака палотнаў) для выставы за мяжой. Ад запрашэнняў у Расію адмовіўся, бо ўжо не стрымліваў

эмоцыі, выхліставаў іх фарбамі на палатне. І так за лета дэманстраваў свой талент ажно ў васьмі масавых паказах. А восенню, гэта значыць праз пару месяцаў, паўдзельнічаў у выставе беларускіх мастакоў у Кіеве, у юбілейнай выставе Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, наладзіў «персаналку» ў сталічнай галерэі «Вільнюс». І гэта яшчэ не поўны пералік.

Прыём у Беларускі саюз мастакоў прыйшоўся на гэты ж год. На ўсё жыццё запомнілася гэтая цырымонія. З усіх прэтэндэнтаў ён апынуўся адзіным, за каго члены камісіі прагаласавалі аднагалосна і без аніякіх ваганняў. Покуль прыехаў дахаты са сталіцы, іванаўскія калегі, сябры ўжо аднекуль пранюхалі пра тую адзінасць у падтрымцы юнага таленту сталічнага мастакоўскага бамонду. Ад віншаванняў было не адбіцца.

Але ж і гэта яшчэ не ўсё. Далёка не ўсё. Біяграфія вялікага беларускага мастака з Моталя толькі пачынаецца. Нават нягледзячы на тое, што яго творчаму набытку пазайздросціў бы любы творца з непараўнальна, непараўнальна большым стажам. На гэты час, пачынаючы з 1994-га, ён паспеў паўдзельнічаць у сотні міжнародных, рэспубліканскіх, абласных мастацкіх выстаў і пленэраў. Больш за два дзясяткі выстаў — персанальныя.

Адзначаны дыпломам вышэйшай ступені Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (2004).

Па выніках рэспубліканскай выставы «Падарожжа-2004» (Мінск) стаў лаўрэатам у намінацыі «Жывапіс». У 2005-м заняў І месца па выніках рэспубліканскага пленэра, прысвечанага Уладзіміру Караткевічу. З 2001 года — у аб’яднанні маладых мастакоў і мастацтвазнаўцаў. З 2005-га — сябра Беларускага саюза мастакоў і творчага аб’яднання «Пагоня».

І такімі насычанымі, багатымі на справы і здабыткі сталіся кожны наступны месяц, кожны год… А 2007-ы дык і сустракаў на пленэры. І запомніў тую сустрэчу на ўсё жыццё. Як жа, гэтулькі роднасных душ сабралася — недзе каля паўсотні. А яшчэ ж і пісьменнікі. Ды дзе! На радзіме Язэпа Драздовіча (!) — на Віцебшчыне. Як і павінна быць, выпілі за 2006-ы, за наступленне новага 2007-га. Выйшаў пасля ўсяго праветрыцца, а там… Дождж ліе гэтак спорна, што гурбы снегу пад ім проста на вачах асядаюць, растаюць, чарнеюць,

па сцежках цурбоняць ручаінкі. Авохці, які густоўны вобраз адлігі, якое непаўторнае хараство! Хуценька, хуценька сюды мальберт, фарбы, палатно… Хоць бы паспець.

А раніцай карціна ва ўсім сваім хараستве, усёй сваёй непаўторнасці — перад удзельнікамі пленэра. Атрымалася нямая сцэна — у калег перахапіла дыханне ад захаплення. Знайшоў, знайшоў, як перанесці на палатно сутнасць з'явы, адлігі, якая забрала ў палон у навагоднюю ноч. І вось гады ў рады карціна на самых прэстыжных выставах. Нават і на афішы змясцілі рэпрадукцыю. Колькі разоў прапаноўвалі за яе добрыя грошы. Але кожны раз адмаўляў пакупнікам, нешта не дазваляла развітацца з шэдэўрам. І ўжо, відаць, нізавошта не развітацца.

**Аповесць напісана — жыццяпіс працягваецца…**

Урыўкі з гэтай аповесці паспелі ўжо дайсці да чытача праз іванаўскую раённую газету «Чырвоная звязда», брэсцкую абласную «Народная трыбуна», дзе публікаваліся штопятніцы пачынаючы з верасня-кастрычніка, праз часопіс «Маладосць» (11-ы нумар за 2009 год), а Янка за гэты час распрацаваў новыя буйныя тэмы-цыклы. Адна з іх — так званая сакральная. Яна і раней прысутнічала ў мастакоўскай практыцы: на пленэрах, у майстэрні не-не дый з'яўляліся на свет лікі святых. Гэта адмысловыя, падобныя і непадобныя да кананічных, абразы. Не, гэта не твары, а менавіта лікі, выпісаныя па ўсіх законах іканапісу. З бліскучымі, як і на іконах, німбамі. І ўсё гэта… на дрэве. Вось толькі дрэва не тое, на якім пісаліся іконы ў старажытнасці. Яны — на старых, пачарнелых ад часу поцесях альбо драўляных ночвах-балеях. І тут мастак не адышоў ад сваёй глыбока, а нават і глыбінна нацыянальнай сутнасці. І тут знайшоў магчымасць знітаваць, паяднаць у адзінае цэлае неба і зямлю, Боскае і чалавечае, духоўнасць у яе найвышэйшым разуменні і не меней высокім разуменні нацыянальным.

Нібыта рыхтаваў сябе да нечага важнага, велічнага. Таму і не застала яго знянацку абвешчаная восенню 2009-га ў Познані міжнародная выстава «Сучасная ікона і культавы пейзаж». Акрамя выяваў на поцесях прадставіў на ёй істотных памераў палотны, выкананыя алеем.

Дужа тонкая гэта справа. За яе не возьмешся так, знянацку, не вызваліўшыся ад душэўных згрызот. Тут трэба быць

чыстым і прасветленым, трэба забыцца на сваё фізічнае існаванне, трэба прадстаць перад палатном такім, каб не адчуваць свайго грахоўнага цела. Няпроста гэта. Тут і без посту не абысціся, і без неверагодных духоўных высілкаў.

Вось гатовыя для работы чатырнаццаць новых палотнаў. На белую грунтоўку нанесена адпаведная фактура. Засталося яе прасушыць, і можна брацца за пэндзлі. Усе чатырнаццаць загатовак выстаўлены пад сцяною хаты-майстэрні, пад страхою, каб даставаў ветрык і не даставаў хоць і квёлы, але дожджык. Раптам адно з палотнаў на вачах адрываецца ад зямлі, пралятае метры чатыры і плаўна апускаецца на зямлю. Ніцма, гэта значыць фактураю ўніз. Падхапіў яго, каб паставіць на месца, агледзеў, і… як апякло ўсяго. Якраз на гэты фон павінна накласціся выява «Нізвяржэння ў пекла». Праццяла здагадка: ці не знак гэта звысоку? Ветрык жа слабенькі, ледзь павявае, а тут такі парыў і выхапіў якраз во гэтае палатно. Занёс яго ў сені і на нейкі час страціў спакой.

Так і стаіць яно, покуль пішуцца іншыя карціны. Праз нейкі час пачаў рабіць раму для гэтага палатна. У сваім стылі — дубовую, парэпаную, якімі шмат сваіх карцін аздобіў. А як зрабіў — палюбаваўся. Так, усё да месца, гармонія формы і зместу. Раптам на вачах гэтая рама пачала трэскацца і канчаткова пераламалася. Вачам не паверыў. Узрушыўся яшчэ болей. Але час ідзе, праца зацягвае. І ў гэтых клопатах неяк нават і забыўся пра тую карціну. Ды вось новае дзіва. Ніколі не браўся за гэтую тэму нават на трэці дзень пасля чаркі, а гэта забыўся, што ўчора з сябрамі дазволіў сабе хай невялічкую, але слабасць. Нараніцу толькі паднёс пэндзаль да чарговай работы, як лямпа над мальбертам патухла і ў майстэрні запанаваў паўзмрок. Наступным днём яна ўжо гарэла-свяціла як ні ў чым не бывала.

«Не, усё ж не выпадковыя ўсе гэтыя знакі, — то ўжо была не здагадка, а амаль што ўпэўненасць. — Ад нечага ж яны засцерагаюць. І зусім няцяжка здагадацца, ад чаго».

…*Бягучы год стаў адметным для маладога мастака не толькі завяршэннем вучобы ў акадэміі. Янка Рамановіч не стаў чапляцца за сталіцу, а вырашыў вярнуцца ў родную вёску, дзе пачаў выкладаць у мясцовай школе мастацтваў.*

*…Янка Рамановіч, малюючы мінулае, працуе на будучыню. Бо тое, што ён робіць, безумоўна, ацэняць нашчадкі. Так, як ацанілі мы зараз вандроўніка і «дзівака» Язэпа Драздовіча. Дарэчы, вядомы жывапісец Аляксей Марачкін, знаёмячы нас, так і адрэкамендаваў Янку: наш сучасны Драздовіч.*

Яўген КАЗЮЛЯ. Свет у акенцы
(«Голас Радзімы», верасень 2002 г.)

*…Упэўнена і прыцягальна прадстаўлены творы Янкі Рамановіча, у якіх спалучаны этнаграфічны рэалізм, фальклорная сімвалічнасць і сучаснае яскравае колеравае вырашэнне. Асабліва ўражваюць дзве нізкі яго работ: адна — з дзецьмі, што «гуляюцца ў колер», а другая — выявы этнаграфічнага плана, глыбокія і шматзначныя, як паэзія Алеся Разанава. Гімнам усёй выставе гучыць палатно «Прысвячэнне каню»: дэталі старога рыштунку, у цэнтры — хамут, унутры яго — ці то барвовая плоць, ці то распаленае вуголле, ці то нейкая інтымная выява — карацей, аўтарскае імкненне перадаць неўтаймоўную сілу жыцця.*

Алесь СУХАДОЛАЎ.
Берасцейцы захапілі «Vilnius»
(«Літаратура і Мастацтва», …)

*Жывапіс Янкі Рамановіча моцны, каларыстычны. Трэба бачыць, з якой любоўю ён піша дачушку Дашу і сына Арцёмку. Вабяць вока наведвальнікаў пейзажы. Не застаецца глядач абыякавым да нацюрмортаў, дзе як жывая сакавітая садавіна, якую так і хочацца паспытаць. Але гэта не мае нічога агульнага з натуралізмам. Тое трэба бачыць. Ведама, што ў словах немагчыма перадаць усё хараство і багацце колераў. Толькі на выставе, якая будзе працаваць да сярэдзіны снежня, глядач па-сапраўднаму ацэніць убачанае.*

ІрМа. Мастак з Моталя
(«Наша слова», снежань 2005 г.)



*«Абразы», 2011 г., прасніцы, алей.*



*«Мяжа», 2001 г., палатно, алей.*



*«Святло ў ваконцы», 2001 г., палатно, алей.*



*«Уваход ёсць», 2002 г., палатно, алей.*



*«Хамут», 2002 г., палатно, алей.*




*«Залатая рыбка», 2004 г., палатно, алей.*




*«Рыба-хамут» з серыі «Беларуская Атлантыда»,*
*2001 г., палатно, алей.*



*«Салодкі сон», 2003 г., палатно, алей.*



*«Сланечнікі», 2006 г., палатно, алей.*



*«Вечная нявеста», 2007 г., палатно, алей.*



*«Ясельда», 2002 г., палатно, алей.*



*«Бабіна лета», 2002 г., палатно, алей.*



*«Адліга», 2007 г., палатно, алей.*

# ПАД НЕБАМ ЗАВЕРШСКІМ

*Песня мая — Заверша.*
*На золку як сэрца — сонца.*
*А неба чысцей і вышай,*
*Пяшчотней гараць ваконцы,*
*Чым дзе, у маім Завершы.*
Аўтар

**Пачатак свету — глыбінка**

Калі часам наведваюся ў вёсачку Заверша, што ў Драгічынскім раёне, у палескай глыбінцы, дзе нарадзіўся і вырас, дзе ціха і вольна, ніколі не мінаю тутэйшую бібліятэку. Звонку яна — звычайная невялічкая цагляная хата, абгароджаная металічным плотам, абсаджаная кветкамі, парэчкамі. У памяшканнях таксама мноства зеляніны: і на падлозе яна, і на сценах, і нават пад столлю, дзе цвітуць мясістымі белымі сукveццямі нейкія ліяны.

З юнай бібліятэкаркай Марыяй Астаповіч няспешна гутарым — разважаем пра жыццё-быццё, пра моладзь, якой, аказваецца, не так і мала ў Завершы. Марыя ўзначальвае мясцовую «пярвічку» БРСМ, а гэта каля трыццаці чалавек: механізатары, жывёлаводы, педагогі, медыкі…

Хоць, заўважае субяседніца, раней васьмігодка штогод выдавала атэстаты двум і болей дзясяткам выпускнікоў, а цяпер і дзесяці не набярэцца.

— Хлопцаў у нас хапае, а вось дзяўчат…

— То няхай шукаюць тых дзяўчат дзе ў іншых месцах, — спрабую жартаваць.

— Не ведаю, шукаюць ці не, а на танцы ездзяць. У Сорацні, напрыклад. Але ж усе навакольныя вёсачкі яшчэ меншыя, чым наша Заверша. У суседняй, Крамно, 15 чалавек у клуб зойдзе, і ўжо не павярнуцца ў ім. А ў нашым прыгожым сучасным ДК тыя ж 15 чалавек ледзьве прыкметныя ў вялізнай зале.

— Значыць, — працягваю жартаваць, — трэба зрабіць так, каб дзяўчаты з усяго наваколля з'язджаліся ў Заверша на танцы.

— Дзяўчаты да хлопцаў? — На Марыіным твары здзіўленне. — Мы да такога яшчэ не дажыліся. На такое здатныя хіба лядавіцкія дзяўчаты.

Вёска Лядавічы, якая ўжо зраслася з вёскамі Туляцічы і Опаль, месціцца на тэрыторыі суседняга Іванаўскага раёна. Ад Заверша яе аддзяляе ўсяго якіх паўтара-два кіламетры. Вось і атрымліваецца: то іванаўцы наведваюцца да драгічынцаў, то драгічынцы — да іванаўцаў.

Гартаю тоўсты альбом «Пра нас пішуць», у якім сабраны газетныя выразкі пра вёску Заверша і яе жыхароў, мясцовы калгас імя Дзімітрава (цяпер СВК «Белы груд»), школу і г. д., пачынаючы з 1970-х. Зараз вядзе яго, зразумела ж, Марыя.

Цікава… Бачу сваю колішнюю публікацыю ў «Чырвонай змене». Загаловак: «Вёска без моладзі, што хата без даху». Знаходжу прозвішчы васямнаццацігадовых на той час даярак Святланы Шпак і Алы Валашчук, крыху старэйшай, замужняй ужо Галіны Юскавец. Дзе яны цяпер? Які іх лёс? «Пройдзе год-другі, — пісаў я ў той карэспандэнцыі, — і Святлана з Алай таксама створаць сем'і. Балазе, выбар багаты. Адных механізатараў ды слесараў тры дзесяткі, і ўсе халасцякі».

Ала Валашчук сапраўды хутка выйшла замуж. За Рыгора — мясцовага механізатара. Дзіця ў іх нарадзілася якраз у час мінулагодняга жніва.

А вось артыкул карэспандэнта «Драгічынскага весніка» Ніны Ткачук васьмігадовай даўнасці пра юнага — толькі-толькі скончыў школу — памочніка камбайнера. Чытаю: «…пазнаёміўшыся з Мікалаем Жытковічам, зрабіла для сябе просты вывад: той, хто па-сапраўднаму любіць зямлю, не баіцца працы і прывык дбаць пра дзень заўтрашні, ніколі не пакіне вёску». Час пацвердзіў, што Мікалай і зямлю сваю любіць, і працы не баіцца. Пасля службы ў войску ён вярнуўся ў калгас, за-

раз шчыруе ў сталярным цэху; калі спатрэбіцца, гатовы сесці за «штурвал» камбайна. Жыў у суседняй невялічкай вёсачцы Мікіцк, цяпер пасяліўся ў Завершы. Калгас пабудаваў яму дыхтоўны дом. У Мікалая двое дзяцей. Ажаніўся з украінскай дзяўчынай, што працавала на тутэйшым міні-льнозаводзе. Вось жа, нібы ў ваду глядзеў, калі пісаў у цытаваным ужо артыкуле, што «…кіраўніцтва калгаса загадзя паклапацілася аб ураўнаважанні жаноча-мужчынскага "балансу", адрамантаваўшы і запусціўшы старэнькі льнозавод, на якім знайшлі сабе справу больш за дваццаць дзяўчат, якія прывабныя не толькі сваёй знешнасцю, але і (прабачце за прозу) заробкам».

Ільнозавод, праўда, зноў не працуе. Ну, а жонка Мікалая часова ў жывёлавода перакваліфікавалася.

Ажно тройчы сустракаю ў альбоме здымак маладога механізатара Міхаіла Супруна.

— Гэта лепшы механізатар калгаса, — кажа Марыя.

Пра тое, што Міхаіл лепшы, сведчаць і подпісы пад здымкамі з мноствам зайздросных эпітэтаў: працавіты, адказны, сапраўдны прафесіянал, які аднолькава выдатна арэ, сее, траву косіць, салому ў агромністыя рулоны скручвае…

Марыя называе іншых маладых перадавікоў: Мікалая Ясюкевіча, Аляксандра Мартыновіча, Мікалая Кудрыцкага, а таксама лепшых камбайнераў — Мікалая Гутаўца ды Віктара Мартыновіча. Летась яны занялі першае месца на жніве. Намалацілі камбайнам «Ніва» 270 тон збожжа.

Сёлетняй вясной згулялі вяселле Валерый і Галя Астаповічы. Абое — жывёлаводы. Галя яшчэ школьніцай бегала на ферму дапамагаць матулі. А пасля школы засталася тут працаваць. Цяпер яна таксама перадавая. І актывістка, як і муж Валерый. У свой час, калі дзейнічаў танцавальны гурток, рэгулярна наведвала заняткі.

Узгадаўшы пра танцавальны гурток, Марыя не магла не назваць імя Алега Дашкуна.

— Вой, гэты ўсім актывістам актывіст. Як толькі з'явіўся ў Завершы (трапіў сюды па накіраванні фельчарам на мясцовы ФАП), дык хлопцы і дзяўчаты адразу вакол яго толькі і завіхаліся. Алег арганізаваў гурткі пантамімы, танцаў… З ім заўсёды весела і цікава. З радасцю выступае ў камандзе КВЗ. Яшчэ ніводзін конкурс без яго не абышоўся.

Пакуль што Алег жыве з жонкаю і дзіцём на кватэры. А калгас тым часам будуе яму дом. Па напрацаванай за многія гады схеме: атрымлівай, навасёл, каробку, а астатняе — твой клопат. Хоць і даводзіцца пакруціцца, затое гаспадар робіць сваё жытло такім, якое яму па душы.

Артыкул самой Марыі Астаповіч «Каб мацавалася сувязь часоў» — аповед пра разнастайныя мерапрыемствы, што праводзіліся на працягу мінулага года, — заняў паўстаронкі «Драгічынскага весніка». Тут і свята кнігі «Там пакінуў я душы часціну», і выступленні літаратурна-паэтычнай групы «На зямлі яго не згасне след» (усё гэта праводзілася ў рамках святкавання 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча). З краязнаўчай праграмай «Каб не страціць святое штосьці» выступалі, і досыць паспяхова, перад дырэктарамі ЦБС Міншчыны, перад калегамі ў райбібліятэцы, на выязной сесіі раённага Савета дэпутатаў, перад кіраўнікамі гаспадарак Бярозаўскага раёна, перад школьнікамі, дарослымі, вяскоўцамі.

Мерапрыемстваў праводзілася шмат, і ўсе яны, так бы мовіць, не «папяровыя», не дзеля справаздачы… Вось табе і глухамань, правінцыя, маленькі калгас, невялічкая вёсачка, сціплая бібліятэка.

...Не хочацца развітвацца з ветлівай, гаманлівай, усмешлівай гаспадыняй бібліятэкі, пакідаць утульнага пакоя, дзе і сталы засланы саматканымі ручнікамі. Але ж я сюды не раз яшчэ заеду. Не для таго каб «набраць матэрыялу» для чарговай публікацыі, а проста каб адпачыць душой.

**За вершалінамі — рай**

Едуць і едуць карэспандэнты. Фатаграфуюць і фатаграфуюць. Адтуль, з-за вершалін, прыязджаюць, і за імі ж, за старым хвойнікам, праз які шаша да райцэнтра (Драгічына) пралягла, знікаюць. А пасля ў вёску прыходзяць газеты, дзе ён, Міша Супрун, на здымках.

***Формула шчасця***

Тут, у глыбінцы, такая (газетная) слава нібыта і не патрэбна. Ніколі не думаў не гадаў пра яе. Хацелася жыць як усе людзі: вольна, годна, з усімі працаваць і з усімі адпачываць, асабліва не вылучацца... Яно нібыта так і атрымліваецца. Аднак жа

ўзялі ды на раённую Дошку гонару памясцілі. Аказваецца, так мала трэба для таго, каб стаць заслужаным. Толькі працуй шчыра і старанна, не лянуйся. Дык ён, каб і хацеў, не ўмее ленавацца. Узяўся касіць — касі... А як жа. Ці, можа, яму толькі здаецца, што гэта так проста — добра, ад душы папрацаваць, бо як прывучыў змалку і рукі, і галаву да любой работы, дык тая прывычка і вядзе па жыцці. Бо, калі разабрацца — якое ж тут «проста», якое «лёгка». За дзень наскачашся ў кабіне, рычагамі ды баранкай жылы павыцягваеш, пылу наглытаешся, аглухнеш ад ляскату жалеза... А калі яшчэ што сапсуецца, не дай Божа... Ідзеш дахаты — ногі падкошваюцца. Проста ніколі не думаў, што жыць можна і лягчэй. Кожны жыве так, як яму наканавана. Калі б нейкага іншага, лягчэйшага жыцця шукаў недзе там, за вершалінамі, як шмат хто з маладзейшых вяскоўцаў, то гэта быў бы не ён, не Міша Супрун. У іх увесь род цягавіты: што дзядулі з бабулямі (цяпер ужо нябожчыкі), што маці з бацькам. Бацька на працы і загінуў, зваліўся з даху будынка, які будаваў (хай будзе зямля яму пухам). Затое ў памяці ўсяе вёскі ён жыве і, пэўна ж, доўга яшчэ жыцьме як узор гаспадара, майстра, клапатлівага бацькі і мужа, проста добрага чалавека. Значыць, струнка гаспадарская — не толькі ад выхавання, але і спадчынна перадалася. Як маці кажа: «Натура». Яна калі ўжо за якую справу ўхопіцца, дык цягне што ёсць сілы, надрываецца, але не кіне, пакуль не зробіць усё як след. І толькі на наступны дзень вохкае, маўляў, от дурная, усё не пераробіш, а падарванае здароўе ўжо не вернецца. Ды гэта толькі словы. Зараз во прывязе сын поўны двор сена, дык не спыніцца, не адпачне, пакуль не паносяць усё ў хлеў альбо не паставяць стажка. Сапраўды — натура. Цяжка працаваць, а сядзець склаўшы рукі — яшчэ цяжэй. Можа, гэта і ёсць тая самая формула яго — Мішы Супруна — шчасця.

***Зацішак***

Вёска Заверша, пэўна, таму гэтак і называецца, што схавалася ад тлуму жыццёвага за вершалінамі высозных хвояў. Душы, сэрцу тут заўсёды зацішна. Ну, што там за рай такі па той бок вершалін, што маладыя так і пруць туды. Дурныя. Як па яго мерках, дык там суцэльны скразняк, няма тае ўтульнасці сардэчнай, якую тут адчувае, якая дае сілы жыццёвыя.

Гасцяваў ён у горадзе: чад там, смурод, не прадыхнуць. А яго трактар яму чамусьці пахне. З дзяцінства. Няхай сабе часам і чадзіць, нібы паравоз. А чаму той дым смярдзіць, а гэты пахне, ён пра гэта не думае. Проста так ёсць.

Усё ж, што ні кажы, мудры быў тагачасны старшыня гаспадаркі Міхаіл Шульжык, змалку прыкмеціў у ім гаспадарскую жылку, тое галоўнае, пра што ён цяпер кажа: «Во, гэта маё». Трэба ж, па сённяшні дзень помніцца, як вабіў да сябе пах машын, машынна-трактарнага парка. Маленькі быў — бегаў з такімі ж, як сам, падшыванцамі за трактарамі, чапляўся за борт і гэтак ездзіў, падрос — зайграла жаданне самому за руль сесці. Ды што там жаданне — проста сверб нейкі.

Старшакласнікам ахвотна вучыўся ў вучэбным камбінаце на трактарыста. Гэта было ўжо ў суседняй вёсцы Бездзеж — цэнтры сельсавета, дзе ёсць сярэдняя школа. Заверша хоць і цэнтр сельгаспрадпрыемства, але тут толькі дзевяцігодка дзейнічае.

І тады ж атрымаў запрашэнне старшыні Шульжыка на трактар. І — перасеў са школьнай парты за баранку «Беларуса». Праўда, вольнага трактара не знайшлося, таму працаваў разам з вопытным трактарыстам Іванам Ефімуком. Удвух яшчэ й лепш. Іван аказаўся добрым, цярплівым, дасведчаным настаўнікам. Дзякуючы яго ўніверсітэтам шмат якія сакрэты механізатарскай справы спасціг. Каб працаваць на трактары, трэба шмат чаго ведаць і ўмець.

Перад адыходам у войска вывучыўся ад ваенкамата на шафёра. Амаль два гады праездзіў на УАЗе ваеннай аўтаінспекцыі. Марыў: вернецца дахаты, папросіцца на грузавік. Але…

— Усе машыны занятыя, — сказаў старшыня. — А губляць такога работніка, як ты, шкада. Папрацуй пакуль на трактары, а там нешта прыдумаем…

Што ж, на трактары дык на трактары. Праз паўгода даверылі навюткую касілку «Д-101». Здаецца, балгарскай вытворчасці. Тэхніка спадабалася. У надзейных руках, мабыць, любы механізм добра працуе, тым больш новы. Як прыняў яе гадоў сем-восем таму, так і не пакідае. Амаль усё калгаснае сена — яго рук справа. Косіць, падварушвае, цюкуе… А прыходзіць час бульбу капаць, чапляе камбайн «Е-682» ды зноў цэлы дзень у пыле і чадзе. Следам пачынаецца вываз ар-

ганікі… Пасля сяўба, сенакос, жніво… Такі вось атрымліваецца сялянскі кругазварот.

Цяжка. Фізічна цяжка. Добра, што пра адпачынак неяк і не думаецца, бо, калі б думаў пра яго, можа, было б цяжка яшчэ й маральна. Міша не разумее, якая можа быць людзям радасць ад адпачынку, калі яны сапраўднай стомы не ведаюць. Гэта ўжо лайдацтва, распуста, сорам… Ён — зведвае. Але стома ад любімай справы неяк не прыгнятае. Няхай сабе рукі, ногі смыляць, затое душы, сэрцу ўтульна, зацішна…

***Лёгкі хлеб***

Вось кажуць: лёгкі хлеб, цяжкі хлеб. Ці цяжкі ён у механізатара Мішы Супруна? На змярканні садзішся за стол, бярэш бохан напрацаванымі, да цяжару прызвычаенымі, хоць і маладымі, ды ўжо загрубелымі, цёмнымі ад мазуту, пылу, загару (нічым не адмыеш) рукамі, і такі лёгкі той спечаны матуляй у печы пульхны і пахкі хлеб.

Не, няпраўда, што лёгкага хлеба не бывае. Яшчэ які лёгкі, калі рукі да цяжкай працы прызвычаены.

***Жыві і радуйся***

«Шчаслівы той чалавек, які шчаслівы ў сваёй сям’і», — сказаў класік.

Шчаслівая была сям’я, у якой вырас Міша разам са старэйшымі сястрычкамі Таняй, Марыяй ды Нінай. Руплівыя, паважаныя ва ўсёй акрузе бацькі паставілі ў свой час у цэнтры вёскі прасторны дом, завялі вялікую гаспадарку, дзяцей гадавалі ў адносным дастатку.

Бацьку, найдабрэйшага ў свеце чалавека, доўга аплаквалі. Мішу тады споўнілася васямнаццаць. Ды што ж век гараваць. Бацька ж хацеў, каб дзеці шчаслівыя былі. Жывым жыць трэба. І яны жывуць, шчыруюць за сябе і за бацьку. Таня васямнаццаць год брыгадзірыла тут, у Завершы, Марыя — у Брэсце, працуе ў славутай «Санце», Ніна — бухгалтарка ў адным з тутэйшых, драгічынскіх, калгасаў.

Міша, кажуць, у бацьку ўдаўся. У яго нават імя бацькава. І гэткі ж гаспадарлівы, разваротлівы, прыветны… Цяпер ён у бацькоўскім доме гаспадар. Ужо і сам дастойных нашчадкаў гадуе. Светка дык яшчэ зусім маленькая — два годзікі.

Яна — вылітая баба Надзя. Асабліва калі смяецца. Віцьку пяты пайшоў.

Сына неяк браў з сабою рамантаваць прэс-падборшчык, дык той гэтак моцна гайку закруціў, што і падцягваць не спатрэбілася. Кажа:

— Гэта каб «цюкарня» не паляцела, каб многа «нацюкаваў».

Вось табе і падзея для сям'і. Яго, Віцьку, ад трактара сілком трэба адцягваць. Бацька яшчэ толькі пад'язджае да вёскі, яшчэ да яе некалькі кіламетраў, а Віця па гуку пазнае ўжо: тата едзе. І бегма сустракаць. Ледзь стрымлівае яго баба Надзя. Або разам, усёй сям'ёю, ідуць на мехдвор. Старшыня Канстанцін Юрашэвіч прыпыняе «Ніву»:

— Ну, і куды гэта выбраліся ўсе разам?

— Да нашага таткі, — адказвае няўрымслівы Віцька.

Аднойчы, вяртаючыся з балота, узяў ды на свае соткі завярнуў трактар. Віцька пачуў знаёмае тарахценне, кулём сігануў за вёску. Шукаюць яго маці з бабуляй, напалохаліся: прапаў малы, як скрозь зямлю праваліўся. А ён не прапаў і не праваліўся, нібы з-пад зямлі вырас ля трактара на сотках.

— Адкуль гэта ўзяўся? Сам прыбег? — бацька вачам не верыць. Да вёскі ж больш чым кіламетр. Але ў малога такі шчаслівы выгляд, што і сварыцца на яго знікае ўсялякае жаданне.

Шчасце, якім сэрца перапаўняецца, не дае насварыцца на малога. А якое шчасце, калі вяртаешся з работы дадому, падыходзіш да абсаджанай яблынямі ды парэчкамі сядзібы, а да цябе імчаць з распасцёртымі рукамі твае сонейкі, прыліпаюць да цябе, нешта радасна шчабечуць. Маці па старой завядзёнцы сядзіць на ганку, абірае бульбу, жонка соліць, кансервуе агуркі, памідоры. Зараз паднімецца, падагрэе на пліце вячэру, замітусіцца, забегае з кладоўкі на кухню з прысмакамі… Балазе сала, мяса, яйкі, малако, агародніна — усё ёсць. У хлеўчуку дзве каровы, чатыры кабанчыкі ды парасяты, птаства ўсялякае… На такую гаспадарку добра трэба ўсяму сямейству працаваць, затое заўсёды, у любы час ёсць чым і самому пачаставацца, і гасцей прыняць-пакарміць. Гасцей тут увогуле без пачастунку не заведзена адпускаць. «Няможна», — і ўсё, як ні адкручвайся.

Завершскі самапечаны хлеб, здаецца, еў бы без аніякіх іншых страў. Смакоцце, ніякія пернікі-пячэнні не дакажуць. А калі да яго яшчэ шкварка добрая…

***Асабістае жыццё-быццё***

— А ведаеш, як я са сваёй Галяй пазнаёміўся? — Мы ўсё ж не абышліся падчас вячэры без чаркі, і ў не надта шматслоўнага Мішы крыху развязаўся язык. — Была позняя восень. Паехалі з сябрам на матацыклах у Бездзеж, на дзеўкі. Галя да майго таварыша падсела, яе сяброўка — да мяне. Пакаталіся, пагаманілі, пажартавалі… Ды нешта не ляжала ў мяне душа да тае дзяўчыны. Кажу сябру: «Давай памяняемся». І памяняліся. Праз які тыдзень зрабіў ёй прапанову. А ў студзені 91-га вяселле згулялі.

Можа, і добра, што мы крышачку прычасціліся, бо інакш цяжка разгаварыць Мішу пра асабістае жыццё-быццё. Ён больш пра тэхніку любіць распавядаць. І ўвогуле ледзь згадзіўся, каб пра яго ў «газетку» пісалі. Колькі ж можна: едуць і едуць карэспандэнты, фатаграфуюць і фатаграфуюць. Які я тут лепшы, такі, як і ўсе. Ды ўсё ж здаўся: ат, у мяне пятага жніўня дзень нараджэння. То няхай будзе і такі падарунак.

Эх, чаму ж маўчаў, адразу не прызнаўся. За твае трыццаць і адзін год, Міша. Будзь здароў. А рай, ён і напраўду за вершалінамі. Толькі не там, а тут. У Завершы.

**Радзімка**

— А помніце? А помніце?

Перакручваю ў памяці ўчарашнюю сустрэчу выпускнікоў Завершскай базавай…

— Алена Ягораўна, вы не змяніліся. А вы ж вучылі не толькі нас, але і нашых бацькоў-пенсіянераў, вашых некалі першакласнікаў. Вы часта сніліся мне такой, якою і з’явіліся перад намі: з пяшчотнай радзімкай на шчацэ, мудрым усёдаравальным паглядам, мяккай усмешкай бабулі, ведамі вучонага і вострым на слова гумарыстам.

— Надзея Андрэеўна, вы не пазналі мяне?

Мой першы класны кіраўнік напружвае памяць:

— Толічак? Гэта ты?

І я, сапраўды, адчуў сябе маленькім сарамлівым Толічкам.

Яна ўсхліпвае, абдымае мяне, цалуе, пра нешта пытаецца, але я аглух ад наплыву пачуццяў.

З Надзеяй Андрэеўнай мы вырошчвалі на прышкольным участку ўсё, што толькі можа расці на зямлі: кветкі, гародніну, садавіну, садовыя кусты… Мы даглядалі вазоны, хадзілі ў лес у паходы, вязалі бярозавыя венікі… Вязалі толькі хлопчыкі, а дзяўчаты ацэньвалі і ставілі адзнакі.

З Лідзіяй Апанасаўнай мы пісалі сачыненні. Па беларускай мове і літаратуры. З Аляксеем Васільевічам рашалі задачы, з Мікалаем Васільевічам спасцігалі сакрэты фізікі, з Лідзіяй Мікалаеўнай знаёміліся са светам на ўроках геаграфіі. Слаўная, мілая Лідзія Мікалаеўна, мне здавалася, што вы любілі мяне мацней, чым іншых вучняў. Смешна, праўда? Кожны вучань лічыў сябе вашым любімцам, бо вы аднолькава моцна любілі ўсіх. Таму і прыемна было пачуць пра вашы поспехі, пра тое, што нядаўна вам прысвоена ганаровае званне «Выдатнік адукацыі».

А вось не зацемнены ні гадамі, ні шкельцамі акуляраў, крыху гарэзлівы і вельмі ж цёплы позірк… Ну, вядома ж, гэта Мікалай Лявонавіч, які ўмее рабіць літаральна ўсё. Разам з ім мы ганялі мяч, габлявалі і пілавалі дошкі, майстравалі шпакоўні, стралялі з пнеўматычных стрэльбаў, малявалі конусы, збанкі, табурэткі…

Мы ўзгадалі яго афарміцельскі почырк, як толькі згледзелі на сценах падрыхтаваныя знарок для сустрэчы плакаты і сценгазеты… Прасторны, як прасцірадла, ліст ватману аздоблены рознакаляровым кляновым лісцем, у кожным лісточку — важная інфармацыя: «Школа мае 87 (цяпер, напэўна, ужо больш. — *А. К.*) агульнаадукацыйных грамат, 10 — ДТСААФ, 31 — спартыўную…»; «Два гады школа змагалася за права насіць імя земляка — акадэміка М. К. Юскаўца, і ў 1990-м гэтае імя было афіцыйна зацверджана»; «Сёлета спаўняецца трыццаць гадоў ад пачатку будаўніцтва новага будынка школы…»; «Сярод выпускнікоў — артыст Белдзяржфілармоніі, дацэнт інстытута, дактары, настаўнікі, архітэктары. У сям'і Алены Ягораўны Мартыновіч усе чацвёра дзяцей атрымалі вышэйшую адукацыю, у сям'і Марыі Аляксандраўны Капітан — трое…».

Школа помніць усіх сваіх выхаванцаў і клапоціцца пра іх, як родны дом. Мы, тыя, хто тут вучыўся, таксама не забываем пра сваю «крынічку жыцця»…

Убачыўшы Марыю Іванаўну, чамусьці ніякавееш і па звычцы, выпрацаванай гадамі вучобы, спрабуеш уявіць сябе збоку. Надта ж строгі яна кантралёр — чысціні, акуратнасці, паводзін… Паспрабуй не паслухацца такую, калі перад вачыма яе ж уласны прыклад. Яна вытанчаная, інтэлігентная, апранаецца з густам, у яе паставе грацыёзнасць, абаяльнасць. Марыя Іванаўна дзесяцігоддзі запар у ліку лепшых дырэктараў школ, мае дзяржаўныя ўзнагароды — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, знак «Выдатнік асветы СССР», не кажучы ўжо пра граматы.

Усім дружным гуртам прыгадалі, што чвэрць веку таму ў школе навучаліся 211 вучняў (цяпер 57, аднак гэтая лічба ўжо не зніжаецца, а расце), 48 з іх скончылі год без троек. І панеслася па азораным іскрыстымі вачыма школьным кабінеце такое натуральнае: «А помніце?..»

— А помніце, Алена Ягораўна, як адпойвалі нас гарачым чаем проста на занятках?

— А помніце, дзеткі, вы яшчэ варэнні да чаю з дому прыносілі?

— А заварку з маліны, парэчак запарвалі. З вецця.

— А як грыбы пад партамі збіралі?

— Ага, пластылінавыя.

— Зарадку рабілі.

— А помніце, я босы на першы свой урок прыйшоў.

— Бачыш, родненькі, запомніў першы ўрок. Малайчына. А помніш, дзетачка, я прасіла цябе, каб больш не прыходзіў у школу босы, каб абуў хоць што-небудзь? Вось сярод вас тут ёсць старшыні калгасаў: ці памагаеце сваім школам, вучням, каб не бедавалі, як тое здаралася іншы раз у вашыя дзіцячыя гады?

— Кормім…

— Абаграваем…

— Рамантуем…

— Выдзяляем…

…Рапартуюць наперабой перад настаўніцай-легендай дзеткі-старшыні. Іх тут пяцёра: браты Міхаіл ды Мікалай

Радэні, Мікалай Астаповіч, Васіль Шпак, кіраўнік тутэйшай гаспадаркі Канстанцін Юрашэвіч. І бачна як на далоні іх шчырасць, бо хлусіць Алене Ягораўне — найвялікшае святатацтва.

Зноў хваля пакацілася:

— А помніце, калі будавалі гэтую школу, мы з муроў любілі на жоўты пясочак скакаць?

— А мы ганялі вас, неслухаў.

— А потым яшчэ і давучваліся ў гэтым будынку.

— Дрэўцы садзілі…

— А бачылі, якія цяпер там магутныя дрэвы, які ладны скверык…

— Як і вы, дзеткі нашы, выраслі, узмужнелі, вунь якія волаты…

Расчуліўшыся, госці падарылі Алене Ягораўне чайнік (напамінак пра чаяпіцці), дырэктару Марыі Іванаўне — шахматы (сведчанне таго, што помняць і цэняць яе розум, практычнасць, талент), а школе — тэлевізар, відэамагнітафон, музычны цэнтр. У загадчыцы аддзела адукацыі Ганны Багданавай якраз дарэчы знайшліся відэакасеты, і яна таксама ўручыла іх разам з мячом. Кіраўнік галіновага прафсаюза Юльян Соўпель падарыў экскурсійную паездку ў любы, на выбар, куток Беларусі.

Зрэшты, падарункамі тут былі ўсе: вучні для настаўнікаў, настаўнікі для вучняў. А для ўсіх разам узятых — цяперашнія школьнікі, арганізаваныя баявым намеснікам дырэктара Таісіяй Іванаўнай. Яны спявалі і таньчылі пад акампанемент выкладчыка музыкі Сяргея Міхайлавіча, надаючы святу асаблівую ўрачыстасць. Няйначай, да сустрэчы грунтоўна, не адзін тыдзень, рыхтавалася ўся школа.

Ды ўсё ж галоўны козыр вечарыны — чысціня і цеплыня чалавечых адносін. На развітанне Марыя Іванаўна сказала: «Калі, не дай божа, вам будзе блага, прыязджайце да нас у Завершскую школу, мы вас выслухаем, зразумеем, здымем усе трывогі»…

**Нараджэнне святка**

Прыемна назіраць, як узводзіцца новы дом. Значыць, сямейны род мае працяг.

Калі новы храм вырастае, гэта азначае, што жыццё не проста працягваецца, але й набывае новае духоўнае напаўненне.

Вёсачка Заверша ўступіла як бы ў новую эру свайго існавання. Гэты пераходны, гістарычны, можна сказаць, момант мае часовыя і прасторавыя каардынаты: 3 чэрвеня 1999 года, перакрыжаванне дарог на выездзе з вёскі ў кірунку райцэнтра — Драгічына… Месца навідавоку, на грудку.

Па-святочнаму апранутыя людзі абступілі абгароджаную саматканымі вырабамі пляцоўку. Атрымалася нешта накшталт маляўнічага, светлага ад белых тэнісак, сукенак, накрухмаленых узорыстых ручнікоў ды абрусаў варушлівага чатырохкутніка. Пасярэдзіне ў ім — чорныя рызы. Святары моляцца. Сярэдзіна жывога чатырохкутніка — гэта і сярэдзіна будучага праваслаўнага храма. Аб формах апошняга можна меркаваць па выкапаных пад падмурак траншэях. У адну з гэтых траншэй кладзецца і замуроўваецца растворам першы камень. Царкоўны хор спявае малітоўныя песні. «До-о-оўгія ле-е-ета, до-о-оўгія ле-е-ета!» — лунае па-над агорнутай сонечным сувоем вёсачкай. Калышуцца ў мроіве дрэвы, будынкі, поплаў… Калышуцца коні на поплаве.

Прыемна робіцца, калі на твар трапляюць расінкі святой вады, якою святар асвячае мясціну.

Будучаму храму ўжо дадзена імя візантыйскага цара Канстанціна. Напэўна, наведваючы яго, людзі будуць згадваць не толькі гэтага вялікага хрысціянскага дзеяча, але і ўладыку Канстанціна, архіепіскапа Брэсцкага і Кобрынскага, што, нягледзячы на сталы ўзрост, упрыгожыў сваёй прысутнасцю важную для вёскі падзею, і, напэўна, кіраўніка сельгаскааператыва «Белы груд» — таксама Канстанціна. Ён, Канстанцін Антонавіч Юрашэвіч, усклаў на свае плечы функцыі і гаспадара свята, і гаспадара будоўлі. Адказная гэта справа, нялёгкая, затое ганаровая. Добрую ж справу людзі доўга памятаюць ды яшчэ й наступным пакаленням перадаюць-пераказваюць.

Разам са святарамі ўсярэдзіне будучага храма дзеткі з кветкамі. Яны й самі нібы кветачкі.

Дзяўчынка з вядром абыходзіць знутры пярэста-светлы людскі чатырохкутнік. Вядро на вачах поўніцца купюрамі... Грошы для такой будоўлі, вядома, мізэрныя. Але прысутныя паабяцалі перадаць на ўзвядзенне і буйнейшыя сумы. Дапамагчы бяруцца суседнія гаспадаркі, прадпрыемствы і арганізацыі раёна, кіраўнікі розных узроўняў, маленькай радзімай якіх з'яўляецца Заверша або суседнія вёсачкі Мікіцк, Белая, Крамно. Разам, супольна — і лягчэй, і хутчэй, і весялей.

Такім чынам, «святок» свой вёска ўжо мае. Штогод жыхары Заверша 3 чэрвеня будуць святкаваць дзень закладкі першага каменя і асвячэння месца пад храм. Цяпер гэта ўжо не вёска — сяло.

# НАДЗЁННЫ ХЛЕБ СТАРШЫНІ СУХАРЭВІЧА

Малады кандыдат на пасаду старшыні гаспадаркі з першай хвіліны, як толькі з’явіўся ў паўнюткай зале Імянінскага Дома культуры, адчуў непрыязнасць местачкоўцаў-упаўнаважаных. «Чужы, чужы, чужы», — пульсавала ў скронях трывога. Усе незнаёмыя, і ён ім незнаёмы, невядомы, як ёсць чужаніца. Да ўсяго — «заканаўскі», а на прыезджых з-за Дняпроўска-Бугскага канала жыхары Імянін і навакольных вёсак спаконвеку пазіраюць як бы звысоку. Несправядліва гэта. З яго ж мілай Малінаўкі (адна назва пасялення чаго варта!) выйшла столькі таленавітых кіраўнікоў, спецыялістаў, творцаў, проста добрых, працавітых людзей. Дый, калі ўжо на тое, ён не з-за канала сюды ідзе, а з лепшай гаспадаркі раёна — саўгаса (цяпер племзавод) «Заказельскі», дзе прайшоў выдатную школу гаспадарання, кіравання, наогул жыцця, працуючы намеснікам дырэктара. А дырэктар — знакаміты Мікалай Якоўчык. У яго ёсць чаму павучыцца.

Эх, няпроста з людзьмі. Іншы раз дзіву даешся: ну чаму, чаму яны гэткія нецярпімыя! Але ён ужо й іншае ведае: варта гэтым жа людзям убачыць, што высільваешся дзеля іх і з гэтых высілкаў нешта атрымліваецца, калі адчуюць хоць нейкі клопат пра сябе — падтрымка з іх боку забяспечана. А ён адчувае ў сабе сілы. І толькі па гэтай прычыне застаецца ў непрыветнай зале.

Шмат усяго праносіцца ў галаве за тыя некалькі хвілін, покуль абмяркоўваецца яго кандыдатура. Цяжкае і адначасова светлае, цёплае дзяцінства на ўлонні дзівоснай прыроды

ў сваёй Малінаўцы, што стаіць пасярод лесу амаль на мяжы з Украінай, вучоба ў горацкай акадэміі… Але вось над залай ускідваецца лес рук. Пераканаў-такі старшыня райвыканкама даць «перспектыўнаму кіраўніку» праявіць сябе.

**Праца, напоўненая сэнсам**

Адразу пасля сходу маладога галаву калгаса «Радзіма» Драгічынскага раёна Уладзіміра Сухарэвіча акружаюць жанчыны: «Мы, бачылі ж, галасавалі за вас, дык і вы не адмоўце нам у просьбе. Памажыце праваслаўны храм у вёсцы паставіць. Нашай зямлі нельга без храма».

Храм? Упершыню пачуў такую навіну. Адразу нават разгубіўся: адкуль узяць грошы на будоўлю, калі іх на самае неабходнае не хапае. А пасля грунтоўнай гутаркі з верніцамі нібыта адкрыццё зрабіў. Усяго якіх паўгадзіны таму дакладна ведаў, што трэба рабіць найперш, ды раптам... Нечаканай думкай быццам апякло: я ж найгалоўнейшае выпусціў з-пад увагі. У людзей павінна быць нешта куды больш важнае, чымсьці ўсё тое, з чаго збіраўся пачынаць на новым месцы. Сучасныя тэхналогіі, усемагчымыя эканамічныя праекты і проста праца не павінны быць самамэтай, яны толькі тады маюць каштоўнасць і прыносяць асалоду, карысць, калі на духоўнасці грунтуюцца і ў духоўнасць жа скіраваны. Гэта тое, што надае сэнс любой справе.

Па меры азнаямлення з гэтым куточкам Драгічынскай зямлі, які мае глыбокія хрысціянскія карані і які некалі называўся Тараканню (па назве яшчэ сярэднявечнага тут Тараканскага манастыра), канчаткова ўпэўніўся ў слушнасці сваіх думак. Зямля — не толькі тое, што дае чалавеку хлеб для наталення так званага фізічнага голаду. Каб узрасціць хлеб, дастаткова некалькіх месяцаў, а традыцыі, культура ўзрошчваюцца стагоддзямі. Яны — штодзённае харчаванне для духу. Таго самага, на якім сэнс жыцця трымаецца. Значыць, таксама хлеб. «Хлеб наш надзённы», як гаворыцца ў малітве.

Згледзеўшы на тэрыторыі імянінскай фермы буйны фрагмент сцяны старажытнага храма (ён ляжаў на дне глыбокай варонкі, пакінутай у пасляваенны час сапёрамі і парослай асінкамі), ператварыў яго ў помнік. Прычым усталяваў на тое самае месца (святое, намоленае), дзе калісьці ўзвышаў-

ся храм. На вяршыні гэтае глыбы з цэглы і бетону паставіў металічны крыж, прымацаваў да яе шыльду з надпісам: «Сей камень — фрагмент фундамента православной Богоявленской церкви, построенной в 1780 году, которая являлась центральной частью Тороканского Богоявленского православного монастыря, основанного в 1710 году», паперадзе ў дзясятку-другім крокаў збудаваў сімвалічную цагляную арку і ад яе да помніка вымасціў тратуарнай пліткай сцежку. Гэта была першая на новым месцы ягоная справа. У будаўніцтве праваслаўнага храма таксама паабяцаў аказваць дапамогу, але папярэдзіў: не звальвайце на мяне ўвесь будаўнічы клопат, я ўсяго толькі памочнік вам.

Калгас выпаў маладому старшыні самы буйны ў раёне. Агульная плошча зямлі — 7744 гектары. Сельгасугоддзяў — 5693, ворыва — 2366 гектараў. Спецыялізуецца на вытворчасці насення льну, бульбы, іншых культур. Дойны статак — 1290 галоў.

Не ўсе вяскоўцы разумелі, навошта старшыня распыляецца на ўсялякія помнікі, скверы. Тут на гаспадарчыя справы ні рук, ні сродкаў не хапае. Аднак такіх — цёмных — у Імянінах становіцца ўсё меней. Людзі назіраюць за дзеяннямі новага кіраўніка і робяць для сябе дзіўныя высновы: чым болей навокал прыгажыні, тым мацнейшая гаспадарка. І наадварот.

Ад аркі, за якою помнік, рукой падаць да пасторнага прыгажуна саду. Раўнюткія шэрагі невысокіх, адно ў адно, дрэў цягнуцца ад гарызонту да гарызонту. 120 гектараў — цэлае яблыневае царства-гаспадарства. Прычым 70 гектараў гэтай плошчы — на карлікавай прышчэпе, гэта значыць інтэнсіўнага тыпу.

Сад — у аднолькавай ступені эстэтыка і эканоміка. Як і гектар чорных парэчак, які ў бліжэйшы час будзе павялічаны ў дзесяць разоў. Як і дагледжаныя плантацыі гародніны. Уласна кажучы, усё, што робіцца з душой і веданнем справы, — і прыемнае, і карыснае.

У 2004 годзе рэнтабельнасць садавінна-агародніннай прадукцыі склала 93 (!) працэнты. У наступныя гады было крыху меней з-за умоў надвор'я, але тым не менш... Выручка ад яе рэалізацыі дасягала 126 мільёнаў рублёў. І гэта прытым, што ў гаспадарцы няма свайго гароднінасховішча. Яно яшчэ толькі будуецца.

Палеткі, куды ні кінь вокам, раўнюткія, абараныя і абкошаныя, на кожным шыльдачкі з поўнай інфармацыяй пра культуру, якая расце тут; сакавітае зяленіва радуе вока. Дарогі абсаджаны бярозкамі, рабінамі, іншымі дрэўцамі. Іх прыдарожны стаж не нашмат меншы за старшынёўскі стаж Уладзіміра Сухарэвіча. Гэта ўжо як бы й не дарогі, а калідоры. Ехаць альбо ісці па іх пехатою — адно задавальненне.

**Светлая душа імянінскага каменя**

Такія калідоры — па ўсёй тэрыторыі гаспадаркі. Звярнуў з аўтатрасы Кобрын–Гомель каля ўказальніка Віры (гэта вёсачка такая каля Імянін), і з першых жа метраў — цікаўнасць да мясцовасці. Агромністы валун, увенчаны крыжам, за якім цягнецца да сонца будучы прыгажун парк, надоўга спыняе позірк. Якая ж спатрэбілася тэхніка, каб даставіць сюды гэты прыродны маналіт?!

Як тое ні дзіўна, аднак калгас якраз да патрэбнага моманту набыў магутны пагрузчык на базе трактара «К-702» у Санкт-Пецярбургу. Дзеля гэтага ў паўночную сталіцу Расіі ў свой час давялося адправіць некалькі фур другога беларускага хлеба. Дый панервавацца — ці не сарвецца здзелка. Балазе ўсё абышлося. Тэхніка аказалася ва ўсіх адносінах незамянімай для гаспадаркі. У тым ліку і для транспарціроўкі каменнай глыбы як нельга лепш прыдалася.

Пра тое ж, дзеля чаго атрымаў тут пастаянную прапіску волат-валун, асобная гісторыя.

Напрыканцы мінулага стагоддзя былы пракурор Драгічынскага раёна, аўтар шматлікіх публікацый у перыёдыцы па краязнаўстве і на тэмы маралі Анатоль Дзенісейка загарэўся ідэяй пазначыць векавы і тысячагадовы рубяжы памятным знакам. Звярнуўшыся да аднаго-другога кіраўніка, ён у рэшце рэшт знайшоў саюзніка ў асобе калгаснага старшыні Уладзіміра Сухарэвіча. Перашкод было надта ж многа. Напачатку вырашылі пасадзіць ля дарогі дзве тысячы дубкоў. І яны былі высаджаны. Ды вось неспадзяванка: амаль усе насаджэнні панішчыў мароз. А яшчэ ж і месца нізкаватае. Затое побач, за перакінутым праз канаву мастком, узвышанасць. Для вырошчвання сельгаскультур яна непрыдатная. Затое для парку...

Сюды і быў дастаўлены камень. Чалавечымі — духоўнымі і фізічнымі — намаганнямі ён увасобіўся ў культавы знак.

Каштаны, бярозкі, хвойкі прыжыліся, і ўжо няма сумнення — будучаму парку прыродныя катаклізмы не пагражаюць. А пачынальнікі гэтай добрай справы цвёрда вырашылі прымножыць парк усё тымі ж дзвюма тысячамі дубкоў. Між тым мясціна нават у цяперашнім сваім выглядзе звяртае на сябе ўвагу. Яна ўзаконена райвыканкамам і асвечана епіскапам.

Адразу за Вірамі ў кіламетры-другім ад парку і валуна — той самы сад. Нават два сады. Малады — нізенькі, дагледжаны, акуратны, абнесены агароджай. І стары: высокі і здзічэлы. На маленькіх дрэвах расце вялізная садавіна, а на вялікіх... Карацей, прыйшоў той час, калі старасць вымушана саступіць месца юнацтву.

За садам, крыху не даязджаючы да аркі, старэнькая старшынёўская «Джэта» збочвае ў вёску.

Пасяленне на першы погляд нічым не адрозніваецца ад падобных сабе ў гэтым кутку Беларусі. Вось толькі нязвыклыя жоўтыя пражылінкі-трубы працягнуты паабапал сцен. Вяскоўцы даўным-даўно карыстаюцца прыродным газам. Райцэнтр яшчэ не меў такой раскошы, а жыхары Імянін мелі. Страшна ўспомніць, колькі клопату было адно з «прабіваннем» праекта, не кажучы ўжо пра работу. Дзякаваць богу, прайшоў усе бюракратычныя бар’еры і працягнуў тую блакітную нітку з суседняга Бярозаўскага раёна. Не меншая праблема — падвесці трубы непасрэдна пад хату. Надта ж дорага. А багацце ў вяскоўца вядома якое. Давялося хітраваць. Узвёў у процілеглых канцах пасялення дамы, прадугледжаныя прэзідэнцкай праграмай развіцця жыллёвага будаўніцтва на вёсцы, а да іх адпаведныя службы павінны без фінансавага ўдзелу жыхароў пракласці трубы. Пасля да іх хоць кожны падключайся за прымальную плату. І людзі сапраўды пачалі ствараць адпаведныя вулічныя кааператывы. Працэс, як кажуць, пайшоў.

«Джэта» імчыць па засланым унізе асфальтам, а зверху зацягнутым аблачынкамі жывым рабінава-бярозава-вязавым калідоры да жывёлагадоўчай фермы. Калі дрэвы вырастуць, столлю стануць іх зялёныя ў цёплую пару кроны. Вось толькі

калі яшчэ тое будзе? Зрэшты... час ляціць гэтак хутка, што восем старшынёўскіх гадоў здаюцца проста імгненнем. Хутка справаздачны сход. Трэба паспець падрыхтаваць даклад. Людзям надта ж многа ўсяго сказаць трэба. Шкада, на абед дахаты не завярнуў. А ўжо тры гадзіны. Яблык — кісла-салодкі, сакаўны — якраз тое, што трэба. У роце пасвяжэла, забыліся голад і смага.

**Імгненне кожнае нібыта важкі колас**

Ферма. Яна пакуль што не радуе вока, хоць адзін будынак выглядае ўжо досыць прэзентабельна. А калі будуць рэканструяваны ўсе, калі прылеглая тэрыторыя зазелянее насаджэннямі, успыхне яркімі клумбамі, акрэсліцца роўнымі лініямі агароджы... Тады зусім іншы настрой будзе. Гэта ж ключавы аб’ект гаспадаркі. Нядаўна казалі — аб’ект будучыні. Але ж якой будучыні, калі гэта ўжо дзень сённяшні. Дзякуючы яму скарацілася колькасць ферм у гаспадарцы. Іх было ажно дзевяць. Між тым як аптымальная колькасць — тры, ад сілы чатыры. І абавязкова з удасканаленым механізмам кармлення, утрымання, догляду.

— …Аляксандравіч!

Яшчэ не паспеў выйсці з машыны, а прараб ужо тут як тут:

— Нізкаватыя дзверы для гэтага корпуса, — разводзіць рукамі. — І ўвогуле будынак нізкі. Жывёла ж будзе утрымлівацца на высокай падсцілцы. Падніме яна статак пад самую столь. Трэба бетонную падлогу зрываць.

Вось яна — чарговая праблема. Памяшканне сапраўды нізкае. Аднак калі сарваць падлогу, ці не хлыне сюды вада падчас дажджу альбо паводкі? Але ж гэта дадатковыя (ды якія!) выдаткі, між тым старыя сцены хоць і не надта прывабныя з выгляду, затое моцныя, добротныя. Але ж неяк і гэтая праблема вырашыцца. Так бы мовіць: вочы баяцца, а рукі робяць. Галоўнае, даільны цэх ужо ўведзены ў эксплуатацыю. Падобны да цыстэрны герметычны халадзільнік пачаў прымаць малако. Ахаладжваючыся, яно награвае ваду. Вось гэта эканомія. Для даення абсталяваны адмысловы цэх з клеткамі для жывёл і паглыбленнем для аператара, каб зручней было падключаць даільныя апараты. Усё прадумана і скіравана на максімальную эканомію сродкаў. Напрыклад, для ачышчэння

паветра не патрэбны вентылятары, а невялічкая кацельня працуе на драўніне.

Менавіта тут максімум пагалоўя неабходна сканцэнтраваць. Выйсці на чатырохтысячныя надоі, якіх патрабуе і эканамічная мэтазгоднасць, і ўдзел у рэспубліканскай праграме «Малако», асобныя дробныя фермы проста не ў стане. Так што ўзбуйнення цэнтральных і ліквідацыі аддаленых МТФ у любым выпадку не пазбегнуць.

Пры адпаведнай кармавой базе ўсё згаданае абавязкова дасць вынік. А ў раслінаводстве ўжо зроблены істотныя крокі. На дзве тысячы тон павялічаны ў параўнанні з папярэднім годам валавы збор зерневых, на 2356 тон — цукровых буракоў; колькі год не прымяняецца ручная праца пры іх вырошчванні. Атрымалі рэкордную колькасць (300 тон) элітнага насення бульбы...

Добра, што да пасяўной паспелі з’ездзіць са спецыялістамі ў суседні СВК «Аляксеевічы-Агра» да Міхаіла Шульжыка. Ён — дока ў жывёлагадоўлі. У яго навучыліся даступнымі метадамі вызначаць скрытыя масціты для паляпшэння якасці малака і без кансервантаў сенажыраваць зернебабовыя.

Набліжаецца справаздачна-выбарчы сход. На ім абавязкова трэба паведаміць пра змены ў калектыўнай дамове: пры надоях у чатыры і чатыры з паловай тысячы кілаграмаў малака даяркам выплачваюцца прэміі памерам дзесяць і пятнаццаць базавых велічынь адпаведна; столькі будуць атрымліваць тэхнікі-асемянатары, якія забяспечылі выхад 90 і 95 цялят ад ста кароў. А даярка, якая атрымала больш чым пяць тысяч кілаграмаў малака ад каровы, забяспечваецца добраўпарадкаваным жыллём з газавым ацяпленнем. Гэта справядлівая і, галоўнае, дзейсная шкала заахвочванняў.

Пра людзей наогул колькі ні думай — усяго не перадумаеш і ўсяго не ўлічыш. І нейкую адзіна правільную формулу найбольш эфектыўных узаемаадносін не выведзеш. Скажам, былі б усе спецыялісты такія, як «камандуючы» другой брыгадай Аляксей Чэб, аграном Марыя Бандарчук, інжынер Вячаслаў Гранік. Але ж усе яны ва ўзросце. Пра дастойную змену трэба думаць. Часткова яна ўжо вымалявалася. То ў Драгічынскім аграрна-вытворчым ліцэі прыгледзеў хлопца, то ў Ляхавіцкім. Выпускнікі мясцовых школ таксама займаюц-

ца ў аграрных навучальных установах. Натуральна, у родную гаспадарку ім лацвей за ўсё вярнуцца.

Зноў-такі самых лепшых утрымаць няпроста. Адным толькі жыллём не замацуеш на зямлі. Значыць, не абысціся без больш істотнага стымулу. У бліжэйшы час трэба перагледзець памеры акладаў, прэмій... Прафесія агранома, інжынера, заатэхніка, ветэрынара павінна стаць больш прэстыжнай, чым шмат якія гэтак званыя гарадскія прафесіі...

Знаёмы кожнаму вяскоўцу старшынёўскі аўтамабіль імчыць у адваротным кірунку. Зноў няма часу зазірнуць дахаты, перакусіць. У калектыўнай гаспадарцы без пастаяннага кантролю ніяк не абысціся. Нават тых, каму больш за ўсіх давяраеш, без нагляду пакідаць нельга. Такі няпісаны закон. Яго не перайначыш.

Гэтак жа хутка, як гэты, праносяцца астатнія дні. Ужо гаспадарка называецца не калгас «Радзіма», а СВК «Імянінскі». Праваслаўны храм урачыста адкрыты. Справаздачны сход, да якога рыхтаваўся хоць і ўрыўкамі, але грунтоўна, даўно ззаду. У зале знаходзіліся тыя ж людзі, што і восем год таму, калі рашаўся яго лёс. Праўда, глядзелі яны на свайго старшыню ўжо зусім па-іншаму. З даверам і павагай. І з надзеяй. Наперадзе яшчэ столькі спраў і здзяйсненняў. І патрабуюць яны вой колькі высілкаў. Аднак калі на цябе так людзі глядзяць — усё пад сілу.

# ІРЫНІНА ПОЛЕ

Надоўга, можа, назаўсёды, засела ў памяці першае, што пачуў ад яе:

— Гэта маё поле.

Сімпатычная, модна апранутая дзяўчына ў зацемненых акулярах з радыкюльчыкам на плячы стаяла на самай мяжы паміж лесам і разварушаным полем, якое пераварочвалі плугамі, напаўняючы прастору ляскатам, жалезныя асілкі. Зрэшты, у яе ўзросце нават самая звычайная ўсмешка здаецца загадкавай.

У калгасе імя Машэрава Іванаўскага раёна якраз святкавалі Дзень поля. Конкурс аратых — галоўная дзея мерапрыемства. А дзяўчына, як высветлілася, — мясцовы брыгадзір. Яе імя — Ірына Гецька.

Шчыра кажучы, якраз у ролі калгаснага брыгадзіра цяжэй за ўсё было ўявіць сабе гэтую маладзенькую прыгажуню. Яшчэ цяжэй было ўявіць, што ўсяго толькі ўчора яна, гэткая свежанькая ды жыццярадасная, мітусілася, гойсала пад дажджом па гэтым жа полі, забівала ў гразкую, слізкую зямлю колле, нешта падграбала, аддавала загады і пры гэтым час ад часу змахвала з вачэй мокрыя пасмы валос.

**Сцежкі ў жыце і дарога ў жыцці**

— Дурненькая, — бедавала ўжо падчас другой нашае сустрэчы памочніца Ірыны (у яе і пасада такая — памочнік брыгадзіра) пенсіянерка Марыя Дзмітрыеўна Займіст. — Моладзь у горад, да ўсялякіх выгодаў пішчом лезе, а яна, выдатніца, у вёсцы асела. Ды ў якой — неперспектыўнай, маленькай.

— Некаму трэба і вёскі падымаць, — у Ірыніным голасе ні пафасу, ні выкліку. Проста яна так разважае.

Сама Марыя Дзмітрыеўна, калі па шчырасці, да гарадскога жыцця абыякавая:

— Нядаўна ляжала ў бальніцы. Суседкі па палаце хваляцца, маўляў, я ў такой прэстыжнай канторы працую, другая — а я ў такой. Я іх слухала-слухала, а пасля не ўтрымалася, кажу: няма ў горадзе работы, лепшай за маю. Выйдзеш з хаты, гэткая раскоша навокал. Адразу за хатаю — поле. Ідзеш па сцяжынцы — жыта паабапал калышацца. Хлебны пах. Жаўранак над галавой звініць. Жыць хочацца. А што ў горадзе, у гэтым каменным мяшку… — Жанчыны ківаюць галовамі: можа, і вашая праўда.

...Няўжо і юнага брыгадзіра Ірыну Гецька прыгажосць тутэйшых мясцін, гэты сельскі Эдэм, прываражыла, не адпускае? Але ж жыццё не толькі з рамантыкі саткана. Куды больш у ім цяжкіх, шэрых будняў, далёкіх ад паэзіі клопатаў. Калгасная доля — не мёд.

Калі распавядае Ірына, зразумелымі робяцца і яе выбар, і ўзнёслае выказванне Марыі Дзмітрыеўны. Цяжкая сялянская праца ў яе неяк натуральна, нібы дзявочая каса з вянком, пераплятаецца з рамантыкай.

— У школьныя гады, летнімі канікуламі, бывае, гуляем з дзяўчатамі, песні спяваем ля вогнішча да зары, а на світанні толькі да падушкі дакрануся, як ужо ўсхопліваюся ды еду з бацькам збіраць малако. На ўласным грузавіку. Бацька сам змайстраваў. Пакуль з посудам каля адной хаты затрымаецца, я бягом да іншай. Лягу на лаўку, прыдрамну.

Ірына колькі сябе памятае, столькі і працуе.

З першага класа на бураках. Даўгія, тады здавалася — бясконцыя, радкі палола. Бабулі на свінаферме памагала. З трынаццаці гадкоў сама пачала зарабляць. Адно лета пошту разносіла, другое — падменнай даяркай, трэцяе — у цяпліцах, а ў адзінаццатым класе ў малаказборшчыцу перакваліфікавалася.

Наіўна было б пытацца, ці цяжка гэта: штодня ўставаць у чатыры гадзіны раніцы, цягаць саракалітровыя флягі, мыць іх, паласкаць — кожны раз трыццаць штук, асобна прамываць і пасля сушыць на штыкетніку гумкі-ўшчыльняльнікі да іх... І толькі марыць, калі ж нарэшце пашчасціць па-сапраўднаму выспацца.

Цяпер Ірына ўжо не марыць пра асалоду ранішняга сну.

— Нібы запраграмаваная, без будзільніка, ускокваю з ложка роўна ў чатыры...

З гэтымі словамі гаспадыня напраўду ўсхопліваецца, нібы ілюструе тое, пра што казала:

— Вой, я гэтак і хлеб прабалаболю...

Хлеб у тутэйшую краму завозяць праз дзень, і калі, не дай бог, не паспееў да прыбыцця «будкі», застанешся без надзённага прадукту.

Што адметна: пра дзіцячыя мазалі, пра недаспаныя школьныя канікулы Ірына гаворыць як пра нешта светлае і бязмежна дарагое.

— Калі яшчэ конь у нас быў, я і сена сама касіла. Намахаешся за дзень, ногі гудуць, рукі ломіць. Пасля коніка прадалі. Упрасіла бацьку. Хапае і грузавіка.

І зноўку асляпляльная ўсмешка на твары. З гэткай жа дакладна ўсмешкай яна сустракала нас у двары. Прыставіла да плота вілы (тут іх называюць «гнаявілы»), бо толькі во падсцілала ў хляве, пляснула, як гэта звычайна робяць вясковыя жанчыны, рукамі, завойкала, павяла гасцей у маленькую старэнькую хатку, якую, пакуль узводзіцца ім калгасны катэдж, арандуюць у вёсачцы Заруддзе. Без каровы ды гаспадаркі Ірына сваё жыццё не ўяўляе, хоць малако ды смятану і ў рот не бярэ. Затое малочныя стравы даспадобы трохгадоваму Максіму ды пяцігадовай Наташы. Ды яшчэ Івану, мужу.

Без працы Ірына таксама не ўяўляе сваё жыццё. Як у дзяцінстве завялася-закруцілася, так і не можа спыніцца. Двое дзетак, а што такое дэкрэтны адпачынак — не ведае. Улетку ад досвітку да поўначы ў калгасных клопатах, у полі, ля камбайнаў, на таку, на сваіх градах. Узімку — то ў хлеўчыку, жыўнасць корміць, доіць, падсцілае, то ля печы, гатуе, то чыгуны носіць, то мые альбо шые («апраткі на ўсіх не накупляешся»), а як паснуць усе — хутчэй за падручнікі, за курсавыя, кантрольныя. Ірына завочна вучыцца ў Пружанскім сельскагаспадарчым тэхнікуме на агранома.

— Паступіць сюды параіў старшыня калгаса Фёдар Раманавіч Алесік. Самой у такім узросце цяжка зарыентавацца...

У такім узросце нітачкі, што вядуць у будучыню, яшчэ параскіданы недзе ў падсвядомасці, нібы сцежкі ў жыце,

і не ведаеш, у якую адну-адзіную, магістральную, так бы мовіць, дарогу сальюцца яны праз гады. І хто дапаможа выбраць гэты галоўны — магістральны — напрамак, каб найпрасцей вынырнуць з вузенькіх сцяжынак-хадоў у жыцце на шырокі бальшак жыцця.

— Бацькі, па-нашаму кажучы, не вучаныя, не маглі параіць, куды паступіць. У такой справе яны цалкам давяраюць мне самой. Дый ва ўсім давяраюць. Быў бы дзед жывы, ён не тое што тэхнікум — акадэмію змусіў бы скончыць. Вой, строгі ў мяне быў дзед. Дубчыкам, бывала, як свісне па нагах. А калі б яшчэ даведаўся, што я, выдатніца, ледзь не засталася без адукацыі...

Цяпер Ірыне — дваццаць тры. Сёння яна ўжо дакладна ведае, што без вёскі яе жыццё не мела б сэнсу. Але й без навукі таксама. Пасля тэхнікума збіраецца працягваць вучобу ў інстытуце. Да гэтай думкі сваім розумам дайшла. Вучыцца не дзеля паперкі-дыплома. Хоць пасля школы не адзін год мінуў, апошнюю сесію адолела на «выдатна».

Неяк гады два-тры таму муж прапанаваў пабудаваць у райцэнтры, у Іванаве, кааператыўную кватэру (была магчымасць атрымаць жыллёвую пазыку), дык і слухаць не схацела. Не змагу ў горадзе, і ўсё тут. Хлебнае поле за хатай, валошкі ў жыце, сельская рамантыка трымаюць? Яна пра гэта не думае. Ужо й не верыцца, што ў жыцці Ірыны быў момант, які мог крута ўсё змяніць. Але тады дарогу ў горад перагарадзіў, сам таго не падазраючы, дый, пэўна, не жадаючы, той жа Іван Іванавіч, муж.

Адразу пасля школы Ірына за паўгода скончыла Брэсцкае вучылішча чыгуначнікаў. Крыху папрацавала ў Іванаўскай таварнай канторы на станцыі Янаў-Палескі. Падала дакументы ў Гомель, у чыгуначны інстытут. Неўзабаве, магчыма, стала б неблагім кіраўніком у чыгуначным ведамстве. Але тут патэлефанаваў з Украіны, дзе жыў і дзе яго радзіма, Іван і паведаміў: еду ў сваты.

**Маладыя, ды раннія**

Хоць і чакала Ірына прапановы ад хлопца, з якім пазнаёмілася на вяселлі і па якім патаемна ўздыхала, усё ж заспела яе тая прапанова знянацку. Хіба гэта жартачкі — у васямнаццаць год уласную сям’ю ствараць. Помніцца, замітусіла-

ся тады: і падабаўся хлапец, і страшнавата. Хутчэй да маці. А маці сама выскачыла замуж пятнаццацігадовай, так і не скончыўшы дзевяць класаў. У васямнаццаць яна ўжо мела траіх дзяцей. Не скажа ж, што яшчэ ранавата, што трэба вучыцца. Ірына яе адказ помніць даслоўна: «Усё ў тваіх руках, дачушка...»

У Гомель, натуральна, болей не паехала. Першы год разам з мужам малако збіралі. Пасля ён уладкаваўся ў Іванаўскую райбальніцу вадзіцелем. Ад Заруддзя да горада блізенька — пяць-шэсць кіламетраў, а ад Крытышына — цэнтральнай сядзібы, дзе жывуць бацькі, — каля дзесяці. Вунь ён, райцэнтр, за лясочкам...

**Маятнік**

Калі Ірыне прапанавалі ўзначаліць калгасную ферму, у яе лёс умяшалася бабуля — Надзея Калістратаўна Сацута. Яна ў васямнаццаць гадоў перадавой свінаркай была. Пасля паляводам. Таксама перадавым. Аўтарытэт. Не пажадала, каб унучка працавала на ферме. Відаць, вырашыла, што ў сям'і дастаткова аднаго знанага жывёлавода.

Зараз бабулі семдзесят тры, а хоць бы адзін грыб, хоць бы адна ягадка ад яе ў лесе схаваліся. Усіх апярэдзіць. Без яе ні адна больш-менш важная падзея ў акрузе не абыходзіцца. Кажуць, Ірыне ўвесь яе характар перадаўся. Дырэктар школы, Настасся Максімаўна, нядаўна пры сустрэчы так і сказала:

— Мы толькі што пра цябе гаварылі, маўляў, ну, Ірыначка наша знайшла работу якраз па сваім характары.

Легендарная Надзея Калістратаўна ахрысціла яе Маятнікам. Гэткай трохсэнсоўнай мянушкай: і на думку пра пакутніцкае існаванне (ад рускага слова «маяться») яна наводзіць, і слову «маеш» сугучная, і пра настойлівасць, цярплівасць, нястомнасць, якія дэманструе гадзіннікавы маятнік, сведчыць.

Яна напраўду, нібы маятнік, ад цямна да цямна завіхаецца, і канца-краю яе клопатам няма. А за поўнач да мужа пад крылца заб'ецца, ногі-рукі смыляць, галава ад кніг гудзе, уздыхне, маўляў, табе, Іван, усё ж лягчэй, ды як бач у сон праваліцца. Праўда, перад тым як заснуць, паспявае адчуць, як за хатаю разам з ёю захутваецца ў густы, нібы асенні туман, сон яе, Ірыніна, поле.

**Тая, што ў эпіцэнтры**

У маленькай Ірынінай хаціне хоць і цесна (пакойчык ды кухня), затое ўтульна. Цёпла. Туляцца да мамы дзеці. Уражанне такое, нібыта яна іх адначасова корміць, пераапранае, разводзіць, калі пачынаюць тузаць адно аднаго за адзежу, ушчувае, галубіць... І ўсё шчабеча, расказвае пра сваё жыццё, гэткае насычанае і неабсяжнае ў дваццаць тры гады. Ёй і самой дзіўна: здаецца ж, зусім яшчэ юная, а столькі ўсяго паспела пабачыць-перажыць.

Заскочыла гэткая ж жвавая і ўсмешлівая суседка Людка (яна, калі Ірына на сесіі, хатнюю жыўнасць корміць), вярнуўся з работы Іван Іванавіч. Усе слухаюць яе, тую, што заклікана быць у эпіцэнтры, гаспадыню хаты і ваколіц плошчаю паўтысячы гектараў. Пачутае кожны бачыць па-свойму.

...Вось яна выходзіць у поле. І ўсё на гэтым полі ёй трэба рабіць упершыню: уносіць угнаенні, араць, сеяць, даглядаць... Што рабіць і як, падказвае шматвопытная Марыя Дзмітрыеўна, а калі трэба, дык і іншыя спецыялісты, старшыня. А вось дзе тых шараговых работнікаў знайсці? Адны пенсіянеры ў яе «неперспектыўным» Заруддзі. Моладзь даўным-даўно па гарадах — ужо і ўцякаць няма каму. Тры маладыя сям'і на ўсё сяло. Вось Людкіна. Людку ўгаворвае па выхадзе з дэкрэтнага адпачынку замяніць Марыю Дзмітрыеўну, якой даўно пара на заслужаны адпачынак. Людка нібыта й не супраць, але баіцца, што бацькі запратэстуюць. Вельмі ж яны над ёю трасуцца.

Уся надзея на старых, якія і працуюць так, што можна не правяраць, і агульную мову з імі знайсці прасцей. Але ж і падыход да іх патрэбен адмысловы.

— Ведаеце, чым выганяю людзей на працу? — Ірына не рашаецца адразу выдаць сакрэт. — Дабрынёй, падыходам. Старыя людзі вельмі ахвотна адгукаюцца на добрае слоўца.

Дзіўна гучыць гэтае яе: выганяю дабрынёй...

Кожны раз, апынуўшыся ля чыіх-небудзь веснічак, Ірына спыняецца ў нерашучасці: як падысці да гэтага чалавека, каб паслухаў ды выйшаў папрацаваць. Ён пенсіянер і мае поўнае права адмахнуцца ад маладзенькай «брыгадзіркі», як ад надакучлівай мухі. І яна выкарыстоўвае ўсе свае дыпламатычныя здольнасці. Пачынае, зазвычай, здалёку, маўляў, як жывяце, дзядзька, як дзеці, мо наведваліся ў госці; падабраўшы зручны момант, падсалодзіць гутарку кампліментам. І вось ужо чалавек крыху

пасвятлеў, засвяціліся вочы, можна падыходзіць бліжэй да справы. Вось буракі звозім з поля, трэба накрываць, а няма каму. Шмат на брыгадзе ўсялякай іншай работы (то салому грэбці, то лес нарыхтоўваць для загародак на фермы...), а рук не хапае, хоць крыкам крычы. Дзевяноста чалавек у Заруддзі. Толькі летась дзесяць жыхароў памерлі. Вёсачка на вачах сцягваецца, драбнее. А поле не змяншаецца. Чалавек разумее, чаго дамагаецца ад яго дзяўчына-«начальніца». Ідзе, бывае, загнуўшы сакавіты мацюк, у хляўчук па вілы-гнаявілы. Ну і дзякуй богу. Сварыся, крычы, абзывай сабе брыгадзіра, што не дае сваю гаспадарку ўпарадкаваць, але выйдзі, выруч, даражэнькі.

Неяк восенню маразы рана стукнулі. Тады бурты з бульбаю былі яшчэ зусім слаба накрытыя — ніхто рэзкага пахаладання не чакаў.

Усхапілася з ложка, бягом да Дзмітрыеўны: што рабіць, бульба памерзне? Ды якая бульба — элітнае насенне, гатунак «санта». Катастрофа, дый годзе. На тую бяду яшчэ й завіруха ўсчалася. Ды такая, што добры гаспадар сабаку на двор не выганіць, не тое што сам выйдзе. Дзмітрыеўна, як заўсёды, супакойвае, а пасля разам прадзіраюцца праз снежную кудзелю, шукаюць, каб хто дапамог накрыць калгасную каштоўнасць. Знайшлі-такі мужыкоў, навазілі з імі саломы... Працавалі без адпачынку, без абеду амаль да змяркання. Баяліся, што мужыкі не стрымаюцца, здабудуць «падагрэў», і калі, не дай божа, занадта нагрэюцца, дык і гэтых памочнікаў страцяць. А самі ўжо з ног валяцца, крывавыя мазалі на руках. Ды мужыкі, дзякуй ім, цвёрда трымаліся, не пакінулі ў бядзе.

Некалі гэтая брыгада была ў ліку перадавых. На ферме па чатыры тысячы кілаграмаў малака ў год ад кожнай каровы надойвалі. Парадак быў, чысціня. Прэміі часта давалі то з раёна, то з вобласці.

Куды ўсё падзелася? Цяпер, каб адрадзіць тую моц, дужыя маладыя рукі патрэбны. Як ні круці, без моладзі нікуды. Так што кола зноў замыкаецца на Ірыне ды на такіх, як яна.

*Пасляслоўе.* Ірына Гецька на момант выдання кнігі працуе спецыялістам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Іванаўскага райвыканкама. Клопатаў шмат, але яна шчаслівая.

# ГАЛОЎНАЯ ПРЫВІЛЕЯ ІРЫНЫ СВІБОВІЧ

Знайсці самы новы ў Лунінцы шматпавярховік было б няпроста, калі б не спаткаў нас на самым бачным месцы Віктар. Кодавы замок уваходных дзвярэй у пад’езд, якому гэтак радавалася ў пісьме жонка Віктара Ірына (маўляў, мы пад надзейнай аховай), ужо не дзейнічаў, а ліфт яшчэ не працаваў. Пафарбаваныя сцены дзятва паспела апаганіць непрыстойнасцямі.

Ірына і Віктар Свібовічы зясяліліся сюды нядаўна, пасля дзесяці год чакання ў інтэрнаце. Яны — рабочыя лунінецкага завода «Палессеэлектрамаш». Выхоўваюць сына і дачку — Руслана і Людмілу.

Ірына — чалавек гаваркі. Распавядаючы пра сябе, пераскоквае (па-жаночы натуральна, без паўз-пераходаў) з працы на паэзію, з паэзіі на рэцэпты страў, з рэцэптаў на дзяцей, на мужа, на сямейнае жыццё, на рыбалку, на якую-небудзь іншую тэму…

**Завод**

— На заводзе падабаецца. Ведама, гэта не медыцына, пра якую марыла ў школе, але я задаволена, што працую ў «штампоўцы», а не, скажам, у «абмотцы». У нас не бывае аднастайнасці. І вока трэба каб спрактыкаванае было. Ледзь не так загатоўку паклала, глядзіш — брак. Нат і пінцэтамі карыстаемся. Дый брак ад стандарту трэба ўмець адрозніць.

Загружанасць — як калі. Вагона сталі хапае на тры-чатыры дні. А тыя вагоны не надта часта паступаюць. Тады займаемся драбязой. Было: у месяц сем-дзевяць дзён працавалі. Такі й заробак. Добра, у Віці ў два разы большы.

Я ўвогуле нейкая нешчаслівая. Ужо восем гадоў, як палец адцяло на станку, а ён усё смыліць, баліць, асабліва па начах і перад непагаддзю. Гэтак ужо круціць, гэтак круціць — хоць воўкам вый. Помню, тады сон якраз «у руку» прысніла. Прыйшла на працу, а праз хвілін сорак — чах… Няшчасны выпадак. Ведама, трэба было асцерагацца — прэс на той час ужо на «аўтамат» спрацоўваў. Крыўдна, што на любімай аперацыі такое здарылася. Дзякаваць богу, на другой руцэ ацалеў.

Ніколі не забуду, як мне руку разбінтоўвалі: зірнула, а яна сіняя, апухлая. Прыйшла дахаты, і такі мяне адчай ахапіў — жыць не хацелася. У такім стане і застаў мяне Віця. Адразу насварыўся, маўляў, распусціла нюні, а пасля:

— Ідзі рыбкі з’еш, я для цябе костачкі павыбіраў.

**Віктар**

— Ён можа быць такі злы, такі злы… Затое па натуры, наадварот, добры-добры. І рукі ў яго залатыя. Усё ўмее рабіць. Дзяцей лепш за мяне спавіваў. І ножкі ім парыў, і «банькі» ставіў, і ўколы рабіў… Помню, Руслану тры гадкі, Людачцы — пяць. Дактары параілі звазіць сыночка на мора. Я з ім усе адпачынкі ў лячэбніцах праводзіла. Дык Віця падхапіў іх на рукі і кажа: яны для мяне аднолькавыя. І «дзікуном» паехаў. А «дзікуну» на курортах тых з маленькімі вой як няпроста. Але ж ён такі рызыкоўны.

…Боты не паспелі стаптацца, мы яшчэ й не заўважылі, а ён ужо падшыў, падклеіў. У Руслана неяк шкарпэткі шарсцяныя парваліся, дык сеў і новыя звязаў. Няхай сабе не надта ўдалыя — як-ніяк, першыя. Затое сам. А я не магу: колькі радоў прайду і… плачу. Усё гэты палец.

…Палатку Віця таксама сам змайстраваў. Укралі. Цяпер новую шые. Плужкі зрабіў ды дачу імі пераворвае. Дакладней, разам арэм: ён — замест каня, я — замест аратага. Да маці адно ў двор — ужо нешта майструе.

У кватэру перасяліліся — хутчэй за інструмент. Грошай ні на пярэдні пакой, ні на кухню ніяк не маглі сабраць, дык сам выштукаваў. Мэбля атрымалася не горшая, чым фабрычная.

Амаль усе ўпрыгожанні на сценах кватэры зноў жа ўмелымі рукамі Віктара зроблены.

Ля выхаду, над дзвярмі, ласіная галава з галінастымі рагамі-сохамі. Некалі яму гэтыя рогі — сапраўдныя, адно без галавы — падарылі сябры. Галаву ўжо сам з пянька выстругаў.

У зале, над канапай, чучала ястраба з распасцёртымі крыламі. На тэлевізары таксама чучала — савы вушастай. Іх памагалі зрабіць сябры.

За шклом на палічках шафы-сценкі паблісківаюць лакам рак, краб, ласка, за якімі ледзь паспяваюць жучкі-павучкі…

На кухні — самаробны акварыум. Віктар шчоўкае выключальнікам, і ў акварыуме ўспыхвае святло, узнімаюцца з дна на паверхню бурбалкі. Рыбкі замітусіліся, кідаюцца ад сцяны да сцяны.

— А вось — бачыце? — На дне нешта варухнулася. — Гэта смоўжык, — паказвае пальцам натхнёны Віктар.

Аазіс утульнасці, — толькі й падумалася.

**Гняздзечка**

— Вой, які ўжо тут аазіс утульнасці. Бедната. Калі перад засяленнем па заводзе чутка прайшла, што нейкі падатак трэба плаціць за кватэру, я ледзь не самлела. Дзякаваць богу, чуткамі ўсё й абмежавалася. Тут за ордэр дзвесце тысяч ледзь назбіралі. А яшчэ за антэну ды за тэлефон заплацілі. Няхай сабе сума й не надта вялікая, але для нас кожны рубель дарагі.

Наваселле было для нас і радасцю, і галаўным болем. У нас з Віцем розныя густы. Пайшлі, напрыклад, купляць шпалеры для кухні. Выбар вялікі, але яго зазвычай не задавальняе тое, што падабаецца мне. Так ні з чым вярнуліся дахаты і паклеілі тымі, што ў нас былі са старога запасу. Абы не голыя сцены. Падлога ў адной спальні такая шурпатая, штоануча чапляецца. Дый прахалодна ў параўнанні з інтэрнатам. Дык дзяцей у вялікай — лепшай — спальні пасялілі, і Віця там балконныя дзверы і акно ўцяпліў. Мэблю расставілі. Хоць менш з-за яе сварыцца будзем. А то спрачаемся, да якой сцяны канапу лепей паставіць; аднаму падабаецца галавою да сцяны спаць, другому — да акна… Неяк вечарам спрачаліся, спрачаліся, а раніцай наступнага дня ў яго вока заплыло і невыносна балела. Як рэжуць яго — стагнаў. Высветлілася, на працы металічны пыл трапіў, а пад вечар яшчэ й на матацыкле ездзіў.

Адправіўся ў бальніцу. Гэтулькі нацярпеўся, пакуль чысцілі набалелае вока. Як ён вытрымаў? Тады я і падумала: цьфу, баба неразумная, ну якая розніца, дзе той старой канапе стаяць! Галоўнае — разумець адно аднаго, саступаць адно аднаму… Бо і я ж таксама не падарунак — упартая. Вось убачыла ў краме шафку для кухні. Нішто сабе такая. А я адпускныя якраз атрымала. Віця спачатку згадзіўся купіць, а вечарам: так і так, ёсць у мяне брускі, ДСП, саб'ю табе тую шафку. Грошай жа ў абрэз: штомесяц на працягу сарака гадоў пазыку трэба сплачваць. Мяне раптам такая крыўда агарнула: і на яго, і на жыццё гэта нашае ўбогае, і на мізэрныя зарплаты… А ранічкою ў 6.00 ускочыла з ложка як апараная і яму спаць не дала — трэба мне шафка, і ўсё тут.

Эх, не шанцуе мне ў жыцці, не тое што ў рыбалцы…

**Лавіся, рыбка, вялікая…**

— Маленькую мой Віця адразу ж адпускае назад у рэчку. Я, бывае, адмаўляюся адпускаць (шкада ўлову), дык ён так холадна зірне — мароз па скуры. Беражлівы да прыроды. Нічога, акрамя вуды, не прызнае. Прынцыпова.

Нядаўна і мне ўдача ўсміхнулася. У тую раніцу паехалі з Віцем удваіх. Каляску ён адчапіў, каб менш бензіну згарала, і ехаць было нязвыкла і нават страшна. Вуду закідала з берага. А Віця ў лодцы плаваў і прыгаворваў: «Ану, шчупакі, плывіце да маёй Ірынкі». Але шчупакі нешта ўпарта не слухаліся. Тады мы перанеслі лодку праз кусты да Прыпяці. Тут ужо было раздолле. Бераг доўгі, чысты, не страшна, што блешня зачэпіцца. Першы шчупак у мяне пад самым берагам сышоў — дрэнная прыкмета. Ну, думаю, усё, нічога ўжо не злаўлю. Аж не, хвілін праз пяць зачапіўся другі. Адцягнула яго па беразе далей ад вады. А што далей рабіць, не ведаю. Віця звычайна хрыбет ламае. А я баюся — яна ж вялізная, страшная. Пасля на вагах паказала два кілаграмы. Каб вы толькі чулі, якога я ляманту тады на ўвесь бераг нарабіла. Віця ўсё кінуў і як бач прыбег. «Ну, — сказаў, — ты сапраўдная рыбачка».

Ён тады нічога не злавіў і вельмі радаваўся маёй удачы.

Як ехалі на рыбалку, я ўсю дарогу любавалася прыродай і вельмі шкадавала, што не нарадзілася мастачкай. Іначай аба-

вязкова намалявала б падгледжаную асляпляльна-прыгожую карціну: тры бярозкі, зарослая канаўка, высокая белая трава між імі і ўсё гэта на фоне агромністага ўзыходзячага сонца. Увогуле, я ў душы паэт.

**Часцінка душы — паэзія**

— Іншы раз нешта як нахлыне. Па хаце работы процьма, а я сяджу і верш складаю. У «Лунінецкіх навінах» ужо шмат гадоў друкуюся. Нядаўна гэтая газета памагла выдаць кнігу. Яе назва — «Зорны карнавал». Калі ў абласной «Зары» дэбютавала, неяк адразу свайго верша й не прыкмеціла. І раптам сябры тэлефануюць, віншуюць.

Шчыра кажучы, я з вершаванай граматай ніяк не знайду паразумення. Верш жа — часцінка душы, і мне чамусьці здаецца, што калі пачнеш падганяць яго пад нейкі стандарт, шліфаваць, то часцінку гэтую лёгка згубіць.

Неяк удзельнічала ў конкурсе «Ад роднае зямлі, ад гоману бароў». Не заняла прызавога месца, але ўсё роўна задаволена. Галоўнае — удзел. Мне й «заахвочвальны прыз» (Дыплом і кніга) вельмі дарагі і прыемны. А паэзія для мяне — накшталт санаторыя: у ёй знаходжу найлепшы адпачынак, найперш, вядома, для душы. Гэта мая галоўная прывілея.

*Пасляслоўе.* Вясной 2011 года гераіні гэтага нарыса не стала. Цяпер жыве яна ў дзецях, у мужы, у гэтым нарысе.

# ЦАР ЯЎХІМ І ЯГО НАШЧАДКІ

Спытайце ў любога жыхара вёскі Сасноўка Лунінецкага раёна, дзе жывуць Харкевічы, — не кожны так хутка і адкажа. Затое кожны імгненна зрэагуе на мянушку Цары. І як бач пакажа на Царову хату з белымі вугламі. Кажуць, мянушка гэта бярэ пачатак яшчэ ў XIX стагоддзі.

Царкву ў тыя далёкія часы наведвалі ўсе. А калі ў храм заходзіў Яўхім Харкевіч, дык шмат хто азіраўся на яго. У абліччы гэтага селяніна, у яго паглядзе і рухах было столькі велічы, што людзі не маглі адвесці вачэй.

— Глядзіце, — казалі, — нібы цар, стаіць наш Яўхім.

Калі нехта падчас размовы згадваў гэтае, дадатковае, імя, кожны разумеў, пра каго ідзе размова.

Неўзабаве мянушка Цары, Царовыя распаўсюдзілася на ўсю сям'ю, а пасля і на нашчадкаў.

Акрамя таго, што Яўхім меў па-царску годную паставу ды што загінуў на руска-японскай вайне напрыканцы XIX стагоддзя, больш пра яго ніякіх іншых звестак не захавалася. Дакладна вядома толькі, што набытае ім прозвішча не адышло ў нябыт. Калі аднаго з двух сыноў Яўхіма — Якава — называлі Царовым, дык Рыгора змалку ахрысцілі Царом. Нібы каранавалі. Вось толькі жыла гэтая сям'я зусім не па-царску. Рыгору яшчэ й дзесяці год не споўнілася, як абхадзіў старцам (жабраком) усё наваколле. Праўда, не хлеб прасіў, а лазу. З лазы плёў пасталы — так называюцца на Палессі лапці. І сабе, і на продаж. Часам выбіраўся з дарослымі на балота. Дык па дарозе, здаралася, мужыкі яго цягнуць разам з лазою на плячах, а на сушы дадуць колькі вярчоў

(пучкоў-васьмёрак), і… цягні, хлопча, прывыкай з малога да цяжкай сялянскай ношы…

І Рыгор прывыкаў. З трынаццаці год араў, сеяў, касіў упоравень з дарослымі. А самога было — ад зямлі два вяршкі. У Язвінскую царкоўнапрыходскую царскую школу чатыры гады прахадзіў без штаноў. Сарочка ды лапці — уся апратка. Пасля чацвёртага класа чакаўся экзамен, і настаўніца папрасіла Рыгораву маці, каб тая хоць якія порткі пашыла, маўляў, давядзецца ў прысутнасці важных асоб выходзіць да дошкі, адказваць на пытанні. І маці, як умела, змудравала першыя ў жыцці «цара» Рыгора штаны з саматканага палатна. Экзамен здаў на «выдатна», чаго і трэба было чакаць: кемлівы і старанны хлопчык на ўроках заўсёды радаваў настаўніцу. Далей у навуку ён, аднак, не пайшоў. Не да навукі, калі сям'ю карміць трэба. Дый не так проста было тады выбівацца ў людзі.

Выбіваўся па-свойму, па-сялянску, усе свае спадзяванні ўсклаўшы на зямлю ды на ўласную цягавітасць. А разам з тым і на мудрасць, бо неабдуманая праца, як пазней ужо сваіх дзяцей вучыў, усё адно што ежа без солі. Калі ў яго надараўся які прыбытак, увесь пускаў у справу: купляў у пана пакос, парослыя хмызняком няўдобіцы. Яны і таннейшыя, і, калі пальеш іх як след уласным потам, такім ураджаем адораць, што ніякае абжытае поле не дакажа. Здаралася, прыкупляў палоску-другую зямлі ў тых, хто выбіраўся ў пошуках лепшага жыцця ў далёкую Амерыку.

Вайсковая служба яго абышла — ростам не ўдаўся. Рэвалюцыя — таксама, бо нічым, акрамя зямлі, не цікавіўся.

У 1920 годзе ажаніўся з аднагодкай Фядорай. Нягледзячы на тое, што жылі яны ў прыгранічнай зоне, на польскім баку, вяселле ім згуляць дазволілі. Адно папярэдзілі, каб не спявалі і не крычалі, бо зусім побач, у Мікашэвічах, стаяць бальшавікі.

У Рыгора на момант жаніцьбы сваёй зямлі было менш як гектар. Апрацаваўшы яе, меў час дапамагаць удовам, тым, хто не меў коней, калекам. Сабраўшы такім чынам грошай, купіў адразу цэлы гектар добрага ворыва. І дарэчы, бо якраз дзеці пачалі паяўляцца: Кастусь, Васіль, які мянушку Цар панёс далей па жыцці, Сяргей, Мікалай, Вольга, Іван.

Не паспеў Рыгор Цар нацешыцца набыткам, як польскія ўлады аб'явілі рэформу: палосы адмяніць, зямлю — «да гуры»... Малазямельныя тады атрымалі ў агульнае карыстанне падлесак у ваколіцах Дубравы (былая назва Сасноўкі), прычым у значна большым памеры, чым мелі да гэтага. Да таго ж падлесак — мара шмат каго з сялян. Кожны гектар яго каштаваў тады 100 злотых. Горшыя землі — 15–30 злотых, паша — 5, балоты — 2 злотыя.

Рыгор на той час ужо займеў славу дбайнага гаспадара, і яму адмералі ажно 14 гектараў. Сюды ў 1936-м і перасяліліся з вёскі. За зіму ўвесь свой участак ад лесу вызвалілі. Лішкі драўніны прадалі і прыдбалі тры цялушкі ды пару коней. Летам аралі раскарчаваныя ўгоддзі. Да 1938 года ператварылі ў палетак восем гектараў лесу. З дзяцей больш за ўсіх працавалі шаснаццаці- і васямнаццацігадовыя Кастусь і Васіль, мой дзядуля. Частку зерня прадалі, і статак папоўніўся двума бугаямі і шасцю дзясяткамі авечак. Ды малацілку з Бяла-Падляскі прывезлі. Ні ў кога навокал падобнага механізму не было, і малацілка стала пастаяннай і надзейнай крыніцай прыбытку. Акрамя таго Цары прадавалі маладую бульбу. Малаком гандлявалі круглы год. Прадавалі нават сена, не ленаваліся цэлае лета махаць косамі. 1938 год выдаўся самым прыбытковым для сям'і. Прыйшлі да Рыгора, яго жонкі і дзяцей павага аднавяскоўцаў і прыхільнасць улады. Гміна (мясцовая адміністрацыя пры Польшчы) адорвала ў той час самых гаспадарлівых коньмі або сельскагаспадарчым інвентаром. Атрымліваў такія дарункі і Рыгор. Нарэшце адпала патрэба абмяжоўваць сябе ў ежы, як раней. Галадалі толькі падчас пастоў. А пасты выконвалі строга.

Прыкладна праз год жыццё Цароў зноў крута мяняецца. Дакладней, памянялася ўлада. Польская на савецкую. Восенню 1939-га. А ўжо зімою над сям'ёй Рыгора Харкевіча залунаў падатак — 5 тысяч рублёў. Гэта былі вялікія грошы. Зрабілася крыўдна: нажытае сваім потам і крывёю ўзяць ды аддаць адным махам.

Напісаў Рыгор скаргу-прашэнне. Цалюткую ноч выводзіў на шэрым аркушы каліграфічныя знакі, падрабязна апісваў усё сваё гаротнае жыццё-быццё. Калі зачытвалі гэты ліст перад вясковым сходам, людзі плакалі ды праз слёзы запэўнівалі ўпаўнаважаных:

— Які ж Рыгор кулак? Пабойцеся Бога, ён жа сірата, пакутнік. А што нажыў гэтулькі дабра, дык усё выцягнуў на ўласным гарбе, нават парабкаў не трымаў.

Неўзабаве з райкама прыйшоў Рыгору адказ: факты, выкладзеныя ў пісьме, пацвердзіліся, вы не кулак, а добры гаспадар.

Даведаўшыся, што Цароў абышоў вялікі падатак, кінуліся пісаць пісьмы мясцовыя багацеі. Але ніхто больш не ўратаваўся. Неўзабаве кулакоў пачалі высылаць у Сібір, пакідаючы на месцы амаль усю іх маёмасць.

Цары спалохаліся, што і яны могуць неўзабаве патрапіць у далёкі халодны край. Употай сушылі сухары. У 1940 годзе іх выратавала пісьмо Рыгора, а ў 1941-м адзіным выратаваннем бачыўся падзел зямлі. Камусьці з сыноў трэба было тэрмінова ствараць сваю сям'ю, каб мець магчымасць падзяліць зямлю. Кастусь адмовіўся. Тады 19-гадовы Васіль заявіў:

— Калі ўжо на тое пайшло, ажанюся. Але пры ўмове, што падчас падзелу зямлі мой голас будзе першы.

За зямлю чапляўся-хапаўся, як яго цёзка з мележаўскіх «Людзей на балоце». Ці не таму гэтая кніга ў хаце Васіля Цара заўсёды ляжыць на самым ганаровым месцы разам з Бібліяй. Мая бабуля так і казала: «Гэта пра нас кніга».

Калі ў Васіля спыталі, да каго збіраецца сватацца, адказаў:

— Мая справа.

— Бяры Вольгу Чорную, — параілі.

— Добра, — згадзіўся дзед Васіль. А сам быў бясконца ўдзячны бацькам за тое, што назвалі менавіта тую, якая сэрцам завалодала.

Купіў паўлітэрку гарэлкі, пабег сватацца. Ды раптам адмова. І не таму, што не падабаўся дзед Васіль. Іншага яна баялася.

— Ты на вайне можаш загінуць, а мне тады ўдавой век векаваць. Не, я лепей пачакаю.

— Пра якую вайну ты кажаш? — не зразумеў мой дзед.

— Як гэта «пра якую»? Немец жа вось-вось прыйдзе.

Васілю чакаць не выпадала. Небяспека высылкі не на жарт спалохала. Выйшаў ён ад сваёй няспраўджанай нявесты, падумаў-памеркаваў дый рушыў да аднагодкі Настассі (маёй бабулі). Жыла яна ў брата, была бедная — усё дабро ў куфры

ўмяшчалася. Затое якая вясёлая ды жвавая, да таго ж, гаспадарлівая.

— Выходзь за мяне, — прапанаваў дзяўчыне.

Тая і згадзілася. Адразу ж пасля вяселля яны пайшлі у Кажан-Гарадок шыць якую-ніякую вопратку. Пакуль сядзелі ў яўрэя-краўца ў чаканні гатовых адзежын, нехта прынёс вестку:

— Немец пайшоў на Расею.

Наступным днём і Васіль, і яго маладая жонка, мая бабуля, выйшлі раўняць дарогу. Яшчэ праз дзень па ёй запыліла на ўсход Чырвоная Армія. Пасля тыдні са два пабыло ціха.

Калі летам 1942 года партызаны пачалі дапякаць, фашысты адказалі крывавай аблавай. На тую бяду брат бабулі Настассі адправіўся ў лес па грыбы. Гестапаўцы не высвятлялі, чаму хлопец апынуўся ў лесе. Схапілі, кінулі ў часовы лагер. Даведаўшыся пра гэта, маці сабрала ў кошычак яек ды сала, пабегла што ёсць моцы выкупляць сына. Ды немцы і яе схапілі. У гэты ж дзень іх прывязалі да хвояў і падпалілі. Трэцяй ахвярай быў аднавясковец. Разам з імі быў спалены і хутар. Ноччу Васіль іх бачыў. Знарок бегаў праверыць-пагледзець, што там у цешчы нарабілася, чаму агонь шугаў. Хаваць на могілках не дазволілі. Усе трое леглі ў зямельку на тым жа месцы, дзе былі знойдзены — пад маладзенькімі ліпамі.

Цяпер гэтая мясціна і ўсё вакол — лясны масіў. Сярод лесу ёсць паляна. На паляне тры высозныя старыя ліпы. Яны выходзяць з аднаго кораня-камля. Пад ліпамі — крыж, пагорачак, агароджа, столік і лаўка. Калі ўся вялікая наша «царская» сям’я збіраецца разам, яна ўсім гуртам абавязкова наведваецца сюды і памінае нявінна забітых. Мы ўскладаем да падножжа крыжа велікодныя яйкі або кавалачак каляднага пірага.

Вайна зрабіла Васіля Цара інвалідам.

На фронт ён трапіў 15 верасня 1944-га. З 14 студзеня па 25 красавіка 1945 года наступалі. У 16 кіламетрах ад Берліна быў паранены. Лячыўся ў Лодзі.

Вярнуўся з Германіі ажно ў 1947-м. Калі ў стралках патрэба адпала, перакваліфікаваўся ў кухары. Карміў лётчыкаў. Камандзір прапаноўваў заставацца назусім. Сям’ю раіў перавезці. Палохаў, што, можа, у калгасе яшчэ і галадаць

давядзецца. А дзед Васіль пярэчыў, што ў іх мясцовасці калгасаў не будзе, бо ніхто ў іх не пойдзе. Толькі вярнуўся ён у родную Сасноўку, адразу ж стаў адным з арганізатараў калектыўнай гаспадаркі. У іх хаце і школа мясцовая размясцілася. А Васіль быў першым калгасным брыгадзірам. Пасля тры разы з гэтай пасады яго здымалі і столькі ж разоў вярталі. Здымалі, таму што царкву рэгулярна наведваў і маліўся шчыра. Вярталі, бо ніхто брыгадзірскія абавязкі лепш за яго не выконваў. Зямля — самае галоўнае, чым даражыў Васіль Цар больш за ўсё на свеце. За зямлю, вучыў ён, працаю трымацца трэба. Бывала, дзеці просяць, каб дазволіў пагуляць, а ў адказ:

— Дровы пакастрылі?

Калі адно палена няправільна ляжала ў кастры, увесь шыхт абрушваўся на зямлю. Голас пры гэтым не павышаў:

— Складзеце дровы роўна, гуляйце сабе на здароўе.

І гэтак ва ўсім. Аралі, касілі, грэблі, капалі, рэзалі, калолі, сеялі, жалі, пасвілі, даілі… А сталі дарослымі — разляцеліся хто куды з «царскага» гняздзечка. Тацццяну Васільеўну Кузьміч кожны ў Лунінцы ведае як дасведчанага педыятра і добрую жанчыну. Цётка Яўгенія Грабовіч — настаўніца ў вёсцы Ракітна. Іван ды Васіль — вадзіцелі грузавікоў у Лунінцы. Першы сабраў з металалому невялічкі трактар, другі — грузавік. Аруць і возяць імі, не разбіраючы, сваё гэта, бацькоўскае альбо сваякоў… Нібы жывуць не асобнымі сем’ямі, а ўсё яшчэ адной. Па сутнасці, так яно і ёсць. Усе, хто ведае Цароў, дзівяцца: трэба ж, якія дружныя. Уладзімір — кандыдат геалагічных навук. Жыве ў Львове. Піша шчымлівыя вершы пра свой родны куточак:

Белы туман разаслаўся на ўзлессі
Ў роднай старонцы, па-над Палессем.
У вырай ляцяць пералётныя гусі.
Надта ж я рады сустрэчы з матусяй.

Белы туман разаслаўся над полем.
Сумна стаіць пры дарозе таполя.
Матка старэнькая каля ваконца
Чакае, чакае сыночка бясконца.

Сплывае туман самы белы на свеце.
Звонка жаўрук заспяваў сваю песню.
Сонейка яснае радасна свеціць —
Да мамы ў Сасноўку прыехалі дзеці.

Рыгор — высокапрафесійны хірург у Мінску. Калі прыязджае ў вёску, сыходзяцца ў дом пад буслiным гняздом хворыя з усяго наваколля, нават з горада. Яго дыягназ, парада, практычная дапамога — бездакорныя. Самы малодшы — Віктар — у кампаніі лепшых студэнтаў Белдзяржуніверсітэта ляцеў зімою 1985 года ў Ленінград на экскурсію і разбіўся. Самалёт пацярпеў катастрофу.

Малодшай засталася Тамара. У яе многа вершаў пра сваю маленькую радзіму, «дзе сэрца ніколі не чуе маны, дзе зорачкі ў небе звіняць на марозе, нібыта не зоркі яны, а званы». Гэта цытата з яе верша. Працуе Тамара Васільеўна настаўніцай пачатковых класаў у Іванаўскай СШ № 4.

***

На вялізным вязе каля Царовай хаты даўным-даўно жывуць буслы. Аднойчы адну з гэтых птушак застрэліў малады аднавясковец. Пасля гэтага яго кінула жонка. Хлопец спіўся. Бабуля, сустрэўшы яго, параіла пазрэзваць галіны на вязе, каб буслам зручней садзіцца ў гняздо было, і праз гэта як бы пазбавіцца ад наслання. Іначай, прыпалохала, гэтак няшчасным на ўсё жыццё і застанецца. Той паслухаўся, і жыццё яго праз нейкі час сапраўды наладзілася. Як у ваду глядзела Царова Настасся, стаўшы, сама таго не падазраючы, жывым персанажам сапраўднай прытчы пра чалавека і бусла. Зрэшты, усё жыццё дынастыі сасноўскіх Цароў — таксама адна вялікая прытча. З той хіба асаблівасцю, што яна, насуперак законам жанру, не завершана. І ў гэтым яе галоўная каштоўнасць. Прытча ж — пра жыццё.

# ДЗЕДАВЫ РЭКОРДЫ

Кожны дзень ён тупае яшчэ досыць паслухмянымі ў яго больш чым дзевяностагадовым узросце нагамі па маршрутах уласнай баявой славы. Памяць сама па сабе пераносіць з аэрадрома на аэрадром, з аднаго ваеннага эпізоду да наступнага, а ногі самі па сабе шоргаюць па нябесна-паднебных ваенных дарогах. І гэта не такая ўжо і метафара, сказаў гэта не дзеля якога прыўкраснага слоўка. Бо, дапраўды, усё-такі ёсць — пад дыванком на падлозе (у двухпакаёўцы на праспекце Машэрава ў Брэсце), якраз на выхадзе з пакоя, ляжаць, складзеныя ў стос, выкананыя ім жа, во гэтымі рукамі, карты-схемы ўласных баявых палётаў. Іх, гэтых карт, шэсць. Калі прымастаколіць іх адну да другой, атрымаецца нешта накшталт шырокай і доўгай стужкі. Мяркуючы па назвах гарадоў і мястэчак ды па напрамку стрэлак, стужка гэтая выцягнута з Усходу на Захад. Пачатак стрэлкі бяруць ад Курска, перасякаюць мноствам стрэлачак Украіну, Малдову, Румынію, Югаславію і абрываюцца ў Венгрыі. Тонкія і прамыя месцяцца шчыльна, што струны на арфе, — гэта ўсё баявыя вылеты (а бомбачкамі ў канцы кожнай стрэлачкі пазначаны месцы бамбардзіровак ды іншых баявых аперацый). Таўсцейшыя і дугападобныя — гэта пералёты з аэрадрома на аэрадром: Ракаўшчына, Барысполь, Бузава, Іванкаўцы…

Першы баявы вылет прыгадваецца ў самыя нечаканыя і непрыдатныя для ўспамінаў часіны: у святочны Дзень Перамогі на мітынгу ў Брэсцкай крэпасці-герої; як разгаворыцца з сябрам — таксама Героем Савецкага Саюза — Канстанцінам Лазаненкам; на аўтобусным прыпынку, калі чакае марш-

рутку, каб дабрацца на дачу; калі пераварочвае рыдлёўкай зямлю…

Учора паварочаў трохі і зразумеў: трэба наймаць памочніка. Няма ўжо тых сіл, што раней. Як-ніяк, колькі год таму дзясяты дзясятак размяняў. Гэта быў 2007-ы — а ён з векапомнага 1917-га родам. Віншаванні сыпаліся адусюль — з ваенкамата, з былой работы, са школ… Прыехаў нават сам старшыня абласнога выканаўчага камітэта Канстанцін Андрэевіч Сумар. Прывёз з сабою падарункі, цёплых слоў не шкадаваў… Даўгавата так гаманілі. Кіраўнік вобласці распытваў пра жыццё-быццё, пытаўся, ці ёсць якія праблемы. А якія тут праблемы? Старасць — галоўная праблема. Але яе ніякая ўлада не заменіць на маладосць. А ўсё астатняе ў парадку. Пенсія нармальная, лекі выдаюць бясплатна. А ўвогуле, без іх неяк трэба абыходзіцца, трэба трымаць сябе ў форме, фізічна працаваць, наколькі тое магчыма. Пра ўсё гэта і перамаўляліся з высокім госцем.

І яшчэ доўга пасля развітання з Канстанцінам Андрэевічам трымаўся добры настрой, маладая бадзёрасць. Перад сустрэчай быў на дачы: збіраў ураджай (самы час — канец верасня), дык хутка стамляўся, а пасля сустрэчы — адкуль толькі тыя сілы ўзяліся — цалюткі дзень нешта ўсё рабіў не пакладаючы рук — і хоць бы што! І вось вясна: пазавіхаўся, як і ў былыя гады, з рыдлёўкай — не тое, не слухаюцца рукі і ногі; але нічога, маладзейшыя пакапаюць, трэба толькі заплаціць за добрую работу.

Так, за добрую работу. Гм… Заўсёды, праз усё жыццё нёс мамін запавет: калі за нешта бярэшся, то рабі як след, грунтоўна, добра, на славу, іначай — няма чаго распачынаць справу. Помніў пра гэта, калі вучыўся ў аэраклубе і ў школе чарцёжнікаў у Алма-Аце, працаваў слесарам на заводзе ў Петрапаўлаўску, тэхнікам у галоўным дарожным упраўленні Алма-Аты, нівеліроўшчыкам у вышуковых партыях, на службе ў войску, на фронце, пасля вайны, калі цэлы дарожна-эксплуатацыйны ўчастак узначальваў… Усё жыццё помніў, і па сённяшні дзень гэты наказ у крыві і плоці. А здымак, на якім маці з усёй сваёй раднёй, і зараз вунь — на сцяне над рабочым сталом. Вытанчаная, у прыгожым цёмным гарнітуры, з глыбокім і чыстым паглядам, у атачэнні інтэлігентных мужчын

у фраках і капелюшах. Адразу бачна — сабраліся інтэлігенты далёка не першага пакалення. А якога? Хоць і збіраў звесткі пра радаслоўную бацькі і маці, ды не дужа багата «накапаў».

Даведаўся, што продкі пасля адмены прыгоннага права перабраліся з Падмаскоўя на Урал. Дый як дабіраліся: кожны ехаў у вагоне са зброяй у руках, бо навокал поўна было бандытаў-рабаўнікоў. Спыніліся ў горадзе Курган, што каля Чалябінска. Бацька як бач заняўся гандлем — вазіў тавар у Сібір. Неўзабаве ажаніўся, заснаваў у горадзе ўласную краму. Сям'я пачала жыць заможна, а гаспадару было нададзена купецкае званне.

Напярэдадні рэвалюцыі, якая адмяніла і купцоў, і ўвогуле прыватную ўласнасць на што б там ні было, нарадзіўся ён, Мікалай. І маці змалку вучыла яго быць прыстойным і адказным. А аднойчы на ўскраіне Кургана, на шырокім лузе каля ракі Табол прызямліўся сапраўдны самалёт. Для басаногіх падлеткаў гэта быў цуд. Яны кінуліся, нягледзячы на дождж, з падворкаў да апарата, каб разгледзець яго зблізку. На борце «летака», пра які дагэтуль чытаў толькі ў кніжках, зырчэў надпіс «Ізабэла»; ён здаваўся таксама загадкава-фантастычным. Трэба ж, вось гэты жалезны дракон узнімаецца высока ў неба, і з яго можна глядзець на зямлю. Якія шчаслівыя гэтыя лётчыкі, вось бы сабе хоць на хвілінку ўзняцца хай сабе не надта высока! І тут: «Ану, смелыя, сядайце ў самалёт. Зробім кругаля над вашым Курганом». Усе ад нечаканасці знямелі: прасілі паглядзець знутры машыну, а ім палётаць прапаноўваюць. Ды хутка ажывілася дзетвара. Узняліся высока-высока, глядзяць на горад зверху, як на карту, пазнаюць вуліцы, дамы, заводы, шахты, рэчку, рыбакоў, што цягнуць невад… Усё нібыта лялечнае.

Доўга пасля расказвалі аднагодкам пра палёт. Коля — худы, нізкарослы — менш, чым хто іншы, быў падобны на будучага лётчыка. Затое мацней за сваіх сяброў захварэў на неадольную прагу лётаць. Нездарма школьнікам адразу ж паступіў у кружок авіямадэлістаў і планёрны, а як падрос — у Алма-Ацінскі аэраклуб. Пасля былі Тамбоўскае авіявучылішча, Чкалаўская школа пілотаў… У апошняй навучальнай установе «прыручыў» баявога штурмавіка.

…Развітаўшыся з губернатарам, вярнуўся ў пакой, каб папрыбіраць паперы. Узяў у рукі лётную кніжку. Прысеў. За-

думаўся. Маленькая, загорнутая ў газету. А колькі ў ёй усяго: і ваенных аперацый, і спатканняў са смерцю, і ўвесь ваенны лёс. Адных самалётаў вунь колькі асвоена ў дасканаласці: «По-2», «Р-5», «СБ», «УТ-2», «Іл-2», «Іл-10», «Як-18», «МіГ-15»... На ложку параскіданыя карты-схемы баявых вылетаў. Трэба схаваць іх пад дыванок, але позірк усё чапляецца за назвы гарадоў і вёсак, прыгожа выведзеныя некалі ўласнай рукой. Спатрэбілася школа чарцёжнікаў: у жыцці заўсёды ёсць магчымасць прымяніць набытыя веды і навыкі, няхай сабе працуеш у нейкай іншай сферы. Шмат якія з пазначаных на карце населеных пунктаў добра помняцца, некаторыя амаль забыліся. А іншыя дасюль не-не дый прысняцца. Качаў, Калясішча, Букрын, Чарнышы, Пішчальнікі, Станіслаў, Піўцы, Ліпавы Рог, Пушчая Вадзіца, Васількава... Яны не проста помняцца — памятнае кожнае, звязанае з імі, імгненне. Кожнае імгненне — як нерукатворны помнік. І лічба 31 — таксама ж помнік. Такі бартавы нумар меў першы баявы штурмавік, на якім вылецеў на першае баявое заданне.

Тое было на Курскай выспе. 61 штурмавы авіяполк узняўся ў неба перад досвіткам. Праз чад праглядваецца зямля, па якой паўзуць варожыя танкі. Чатыры сотні. Паспрабуй адбіцца ад гэткай армады артылерыстам і пяхоце. Добра, што падаспелі. Паляцелі ўніз стокілаграмовыя супрацьтанкавыя фугаскі. Пярэднія шэрагі змяты. Другі заход — і вось ужо бачны перавернутыя «тыгры», адарваныя башні з пушкамі і разарваныя гусеніцы, шмат якія танкі дымяць альбо палаюць. Сэрца напоўніла радасць — збілі пыху. Цяпер трэба прыцэльна біць. Вунь танк налазіць на акоп пехацінцаў. Ён якраз у прыцэле. Ракета разбівае гусеніцу. Але радавацца рана — другі танк прасуе артылерыйскі разлік. Ракета трапляе яму пад самую башню, і машына абвалакваецца дымам.

Тут, на Курскай дузе, зрабіў 51 баявы вылет. Усе яны нібыта зліліся ў адзін, доўгі-доўгі. Кожны нёс ворагу значныя страты, кожны быў смяротна небяспечны для самога. Трэба ж, а тады пра небяспеку і не думалася. І пра геройства не думалася. Проста трэба было паспяваць біць ворага і добра высыпацца, каб не страчваць звышпільнасць. А яна патрэбна была кожную хвіліну. Нездарма калі яму падарылі шаўковы шалік, то сказалі: «Гэта — каб шыю не нацёр, як надта бу-

дзеш круціць галавой». Няхай сабе тое гаварылася з гумарам, але… Добра, што неўзабаве ў яго штурмавіку з'явіўся яшчэ адзін баец — стралок Іван Падсветаў. Пасля чарговай бамбардзіроўкі неяк крычыць па ўнутранай сувязі: «Збаў хуткасць і адвярні — "фокер" насядае». Так і зрабіў. Зверху пранёсся знаёмы па шматлікіх сустрэчах у небе «фоке-вульф». І толькі той трапіў у прыцэл, як штурмавік ударыў з абедзвюх бартавых пушак. «Фокер» як бач задыміў. А як было прыемна на наступны дзень, пасля апрацоўкі фотаплёнак, пачуць: «5 ліпеня 1943 года лейтэнантам Далжанскім знішчаны чатыры каралеўскія "тыгры" і адзін знішчальнік ворага».

Штодзённы подзвіг успрымаўся ўжо як звычайная работа. Ну, небяспечная. Але, аказваецца, можна звыкнуцца і з небяспекай. Са смерцю таварышаў-аднапалчан — ніколі, а пра сваю смерць неяк не думалася. І толькі калі ўзнагароджвалі ордэнам Чырвонага Сцяга за Курск — расчуліўся, адчуў сваю немалую ролю ў гэтай вялікай бітве і ўсю сваю адказнасць перад Радзімай. І зноў работа — прафесійная, адточаная да драбніц.

У баях за Кіеў групу штурмавікоў сустрэлі дзве васьмёркі варожых знішчальнікаў. Адна скавала суправаджэнне, другая накінулася на «Ілаў». Яго, Далжанскага, які замыкаў групу, атакавалі адразу тры «Ме-109». Але наш стралок аказаўся пільным — своечасова адкрыў агонь. Другую машыну праціўніка падбіў ён сам. Гэтак жа рашуча дзейнічалі экіпажы астатніх «Ілаў». Небяспечная атака адбіта. А вось і пункт прызначэння. Паляцелі на галовы фашыстаў бомбы. Тады было знішчана 8 танкаў і 19 грузавікоў, не кажучы пра салдат і афіцэраў.

Баі ў раёне горада Станіслава, што ля падножжа Карпат, выдаліся асабліва гарачымі. Пасля іх у жніўні 1944-га, якраз напярэдадні Яса-Кішынёўскай аперацыі, полк пераймяноўваюць з 61-га ў 165-ы гвардзейскі штурмавы авіяцыйны Станіслаўскі Чырванасцяжны полк. Гэта дадало імпэту.

На рацэ Прут трапілі ў акружэнне буйныя элітныя часці гітлераўцаў. Але нейтралізаваць іх доўга не ўдавалася, бо яны ўвесь час аднекуль падсілкоўваліся. Але адкуль? Недзе павінна быць пераправа. Паветраныя разведчыкі падчас яе пошуку загінулі.

— У пячонках ужо яна сядзіць, гэтая праклятая пераправа, — стаіць у вушах і дасюль, нават часам у сны ўкліньваецца зычны голас камандзіра палка маёра Рассмотрава. — Ну дзе, дзе яе шукаць?

— Як на маю думку, то трэба шукаць пераправу позна вечарам. Напэўна, яны наводзяць яе на змярканні, а да світання прыбіраюць, — спакойна развaжыў Далжанскі.

— Вось вам і ляцець. На Букрынскім плацдарме хто ў непраглядны снегапад навёў на танкавую калону ворага полк штурмавікоў? Далжанскі. А хто пад Жытомірам таксама ў непагадзь знайшоў дарогі, па якіх гітлераўцы падкідвалі ў абласны цэнтр жывую сілу і боепрыпасы? Далжанскі! Жадаю і тут удачы!

І вось ужо два штурмавікі свідруюць аблокі над Прутам. Вышыня — 900 метраў. Няма за што зачапіцца воку. У адным месцы тырчаць фермы падарванага моста і болей нічога. Праз нейкі час зноў праляцелі над ракою. І зноў — нічога. Раптам вока выхапіла з сумежнага з ракой лесу калону тэхнікі з пантонамі. Яна рухалася па лясной дарозе да ракі. Адвярнулі, каб ніхто іх не заўважыў. А пасля зайшлі з адваротнага боку і пачалі фатаграфаваць. Немцы якраз спешна ўкладвалі ды замацоўвалі пантоны, на беразе сабралася вялікая колькасць баявой тэхнікі. Ледзь скончылі фатаграфаваць — адкуль ні вазьміся фашысцкія знішчальнікі.

Лейтэнант Аляксей Полях да аэрадрома не дацягнуў, «жыватом» упёрся ў бугор бліндажа пехацінцаў. Добра, хоць перадавую перасёк. Ён жа садзіўся на аэрадром па прамяні пражэктара. Толькі сеў, як заглох матор — кончылася паліва. Калегі вачам не верылі: як на такім рэшаце (крылы, фюзеляж, хваставое апярэнне — усё ў суцэльных дзірках) можна было ляцець?!

Пасля жартаваў: гэта ж 113 баявы вылет. А 13 — самі ведаеце, што за лічба. Сябры смяяліся ў адказ: калі жывы застаўся — то для цябе гэта шчаслівая лічба.

Яно і праўда — шчаслівая. Калі новаму камандуючаму 2-й паветранай арміі далажылі пра вынікі паветранай разведкі на рацэ Прут і расказалі пра лётчыка, што выконваў заданне, той адразу ж загадаў камандзіру палка афармляць дакументы на прысваенне Далжанскаму звання Героя Савецкага Саюза.

Узнагароджанне адбывалася ў Бухарэсце. Кастрычнік 1944-га. Напышлівая, зіхоткая зала рэстарана. Камандуючы фронтам генерал-палкоўнік Талбухін моцна цісне руку і ўручае Залатую Зорку, ордэн Леніна, канверт. У канверце — вялікая сума грошай. На сяброўскай вячэры ў палку, якую не прамяняў на банкет у рэстаране, аб’явіў, што ўсе грошы перадае на ўтрыманне дзіцячых дамоў у родным горадзе Кургане. І пачуваў сябе ў той момант шчаслівым. Можа, не столькі з-за ўзнагароды і не таму, што адначасова яшчэ і ў званні быў павышаны да капітана, а па той простай прычыне, што побач была дзівоснай прыгажосці, з пучком цёмных валасоў, дзяўчына Шурачка, радыстка батальёна аэрадромнага абслугоўвання, якую асабіста запрасіў на святочную вячэру і з якою танцаваў увесь гэты вечар пад трафейны патэфон. Яшчэ ў адным рэстаране гэтага ж горада, дзе таксама было весела, але…

Словам, выпілі і з’елі яны там столькі, што амерыканскія лётчыкі, якія бамбілі ў Румыніі нафтавы раён Плоешці і з якімі тут, у рэстаране, пазнаёміліся, пазасыналі п’яныя за сталамі, а ім, рускім, афіцыянт паднёс падарунак ад установы — пляшку дарагога чырвонага віна. Пілі яны з піўных кружак, бо чаркі былі на тонкіх нязручных ножках, а пра стограмоўкі тут і не чулі ніколі, а віно афіцыянт наліў у келіхі. Натуральна, на ножках. Нехта неасцярожным рухам перакуліў шкляную пасудзіну, і па белым абрусе расцяклася агромністая чырвоная пляма. Рубінавыя кроплі цяжка падалі на падлогу і пырскамі разляталіся ўбакі. Усе адразу працверазіліся… Колер крыві…

А праз тыдзень над гарамі Трансільваніі загінуў Сашка Шараў. Бамбілі фашысцкую батарэю і не заўважылі, як з’явіліся васямнаццаць лятаючых танкаў — «ФВ-190». А іх усяго шасцёра. Выстраіліся ў кола. Але тыя адусюль атакуюць. Сашка аднаго збіў, а ў гэты час другі яму ў хвост зайшоў і…

Успомніў пра той рэстаранны знак бяды ў гутарцы з Канстанцінам Андрэевічам Сумарам. Разам пасмуткавалі. Але жыццярадасныя натуры абодвух хутка вярнулі іх да здольнасці жартаваць.

Гэта была ўжо вясна 1945-га. Але фашысцкае логава яшчэ не было ўзята. Яны стаялі ў Румыніі. На аэрадром, заўважылі, прыязджае нейкая важнецкая асоба. Выганяе з ангара «Месершміт-109» і вырабляе ў небе такое, што не

захапляцца яго пілатаваннем было немагчыма. Хутка высветлілі: гэта мясцовы граф купіў самалёт дый цешыцца. Відаць, у дзяцінстве гэтаксама, як і Коля Далжанскі, марыў пра неба і сніў самалёты. Неяк ён прапанаваў кампалка маёру Калініну правесці вучэбны паветраны бой. «Месер» і «Як-3» рабілі ў небе «бочкі», петлі, жвавыя развароты, піке… «Месершміт» цяжэйшы, але і ён следам за «Якам» паспяхова выйшаў з піке, ды так нізка, што паветраны паток прымяў траву. Але ў хвост «Яку» так і не здолеў зайсці. Таму, калі жонка-прыгажуня паднесла графу-лётчыку традыцыйны паднос з паўнюткім бакалам віна, ён перадаў яго маёру Калініну, які прапанаваў выпіць за перамогу над Германіяй.

Неўзабаве Вялікая Перамога сапраўды прыспела. А служба працягвалася. З 1945 па 1948 год Далжанскі — слухач Вышэйшай афіцэрскай школы штурманаў у Краснадары. Наступныя шэсць год — на Сахаліне, старшы штурман палка. З ліпеня 1954-га — у Беларускай ваеннай акрузе. Да звальнення ў 1958-м у запас — старшы штурман Пінскага штурмавога авіяпалка, падпалкоўнік.

І заўсёды поруч — надзейная, верная спадарожніца Шура. Памочніца ва ўсім і проста каханая. Распісаліся з ёю перад самым адлётам на далёкі-далёкі Сахалін.

Вялікая біяграфія. Дый геаграфія — не меншая. Доўжыцца яна і цяпер. У цывільным жыцці вярнуўся да будаўніцтва дарог. І прарабам пабыў, і начальнікам дарожна-эксплуатацыйнага ўчастка. У 1964-м скончыў Гомельскі дарожна-будаўнічы тэхнікум. Вунь, сярод шматлікіх дакументаў — дыплом з адзнакай. Пераехаў у Брэст, дзе пасля выхаду на заслужаны адпачынак пайшоў працаваць тэхнікам на Брэсцкі электрамеханічны завод. 14 год аддаў гэтаму прадпрыемству разам з сябрам, таксама Героем Савецкага Саюза, Канстанцінам Фролавічам Лазаненкам. Ён і ўладкавацца сюды дапамагаў. Так да 74-гадовага ўзросту і шчыраваў не пакладаючы рук. І заставаўся рэальна ў сваім 165-м штурмавым авіяпалку — з 1978-га па 1988-ы ўзначальваў Савет ветэранаў гэтага праслаўленага падраздзялення, арганізоўваў сустрэчы аднапалчан у Кіеве, Івана-Франкоўску, Маскве…

Пасля гасцей у пакойчыку, як заўсёды, — вэрхал. Паўсюль: на стале, на ложку, на этажэрцы, нават на падло-

зе — стосы фотаздымкаў і дакументаў, карты-схемы баявых вылетаў (палюбаваўся тэхнікай выканання — прафесійна вычарчана; пра яе можна сказаць тое самае, што пазначана ў лётнай кніжцы: «Тэхніка пілатавання выдатная, лётае смела і ўпэўнена»), таўшчэзныя падшыўкі газет «Ніва» 1902–1915 гадоў — у так званы савецкі час купляў іх па 100 рублёў за кожную, затое столькі ўсяго даведваўся пра жыццё краю, дзе жыве, альбом з маркамі, найбольш — з выявамі самалётаў, па іх можна вывучаць гісторыю развіцця авіяцыі. А раней і манеты калекцыяніраваў, ды мінуў той азарт.

Можна было б, вядома, папрасіць каго з малодшай радні папрыбіраць паперы (якраз у зале шумна пра нешта гамоняць, гатовыя ў любы час кінуцца на дапамогу легендарнаму дзеду, а яго ж у арміі маладзейшыя саслужыўцы таксама дзедам называлі), але не, лепш самому — няспешна, роздумна. Губернатара сустракаў з адной толькі Залатою Зоркай Героя на лацкане святочнага касцюма. Яе нумар — 3499. А ўзнагароды… вунь яны — узнагародныя кніжачкі: ордэн Леніна, два ордэны Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Аляксандра Неўскага, Айчыны I ступені, «За службу Радзіме» III ступені, мноства медалёў.

Памяць пракручвае, як кадры кінахронікі, эпізоды даваеннага, ваеннага, пасляваеннага жыцця. Цяжкія яны былі? Небяспечныя? Трывожныя? Гераічныя? Як тут сказаць? Нічога такога гераічнага, здаецца, і не здзяйсняў. Проста жыў напоўніцу, адказна ўспрымаў кожны свой абавязак, добротна засвойваў прафесійную, лётную, жыццёвую навуку, як вучыла маці.

За сцяною — гарэзлівая моладзь. А любай, каханай Шуры ўжо няма. Сам сотні разоў сустракаўся са смерцю і кожны раз перамагаў яе. А яна сустрэла і… Але й Шура ўся не адышла. Яе ўсмешка, рухі, рысы твару, валасы лёгка ўгадваюцца ва ўнуках і праўнуках. От, цікава, а ці вялікі род Далжанскіх? Колькі, напрыклад, носьбітаў гэтага прозвішча ў Маскве? Хвілінку! Набраў маскоўскі нумар сына. Аказалася, у Белакаменнай усяго васямнаццаць Далжанскіх. Сын — дзевятнаццаты. Няшмат — затое якія! Колькі жыве, столькі выхоўвае і радню маладзейшую, і чужых, выступаючы ў школах і калектывах. А галоўнае выхаванне — уласны прыклад. У 93 гады — з рыдлёўкай на лецішчы. Ану, хто паб’е дзедаў рэкорд?

## …ЗОРКАЮ БЛІСНЕ СЛЯЗА

Бывае, чалавек сядзіць дома альбо ідзе ціха-мірна па вуліцы, і раптам — імгненне, а няма ўжо чалавека. Ці то бліскавіца, ці хвароба, ці хуліганскі напад, ці проста нейкая трагічная неспадзеўка… А бывае: ходзіць штодзень цягам месяцаў, гадоў пад кулямі, глядзіць у твар смерці так часта, што радзей «твар жыцця» бачыць, і жыве, жыве, жыве, перажывае тых, хто ніколі ад нараджэння не бываў у смяротных абдоймах… Во ён які дзіўны — лёс. Лёс чалавека. Як у Канстанціна Сіманава ў аднайменным апавяданні, чытаным-перачытаным у даўні і нядаўні часы… Як жа ж там у яго: «Не, не толькі ў сне плачуць пажылыя, пасівелыя за гады вайны мужчыны. Плачуць яны й наяве. Тут галоўнае — умець своечасова адвярнуцца. Тут самае галоўнае — не раніць сэрца дзіцяці, каб ён не ўбачыў, як бяжыць па тваёй шчацэ пякучая і скупая мужчынская сляза…» Герой таго апавядання Андрэй Сакалоў страціў жонку ў вайну, бомба проста ў хату трапіла, калі ўся сям'я, акрамя сына Анатоля, была дома. А пазней і сыночка фашысцкі снайпер застрэліў... Яны ж з жонкаю пражылі шмат год душа ў душу, пакуль сама не адышла. Можна сказаць: трохі нібыта й нажыліся. І дзяцей пагадавалі. Але і то сляза не-не дый набяжыць.

Падумалася так пасля страты ў 2000-м самага роднага чалавека, жонкі, з якою было звязана ўсё пасляваеннае жыццё. Яно і сёння з ёю, і заўсёды будзе… Усімі хатнімі рэчамі, успамінамі, якіх хопіць яшчэ на адно жыццё, фотаздымкамі, якіх, праўда, назбіралася не так і шмат, ды ці мала чым. Вунь, дзецьмі таксама. Двое сыноў не-не дый нагадаюць пра яе

то нейкай рысай характару, то голасам, то жэстам, то знешнасцю. Яны таксама тут, у Брэсце. І ў іх таксама свае дзеці. У старэйшага дачка і сын. Яны вучацца ва ўніверсітэтах. У малодшага дачка. Трое ўнучкаў, значыць. Дзеду асалоду прыносіць дапамагаць ім вучыцца. Так бы мовіць, рублём заахвочвае. А яны з задавальненнем прыбіраюць хату. Неяк добра так сталася, што жонак сыны пабралі таксама, лічы, пад Брэстам. Адзін у Страдзічах знайшоў сваё шчасце, другі — яшчэ бліжэй, каля аэрапорта. Як гаворыцца, уся радня побач. Але цяпер з хворымі нагамі і гэтая адлегласць непераадольная. Вох-вох-вох.

Вось ужо і чарговы Дзень Перамогі прамінуў. Віншаванні ад родных, ад абласной і гарадской улад, з ваенкамата, з былой працы… Гэтым разам завітаў старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў Мікалай Басалай — мілы чалавек, з якім так хараша было пагаманіць пра жыццё-быццё, пра ўсё, што дзеецца ў вобласці і ў краіне, пра поспехі землякоў-берасцейцаў. Ён прынёс букет светлых гваздзікоў, смачны торт, шарсцяны плед, зачытаў віншавальную паштоўку. Шкада, на свята ў Брэсцкую крэпасць-герой ужо не здужаюць несці ногі. Нямала яны ваенных сцяжын патапталі, а яшчэ больш — мірных. Маюць права адпачыць, хаця душа просіцца на прастору, туды, дзе ўрачыста ўшаноўваліся і ўшаноўваюцца бясстрашныя абаронцы цвярдыні над Бугам. Героі, дзякуючы якім і крэпасці прысвоена званне Героя. Чамусьці з часам прытупляецца адчуванне ўласных гераічных учынкаў на фронце. Сотні разоў расказваў пра свой подзвіг, за які прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза, а ўнутры нейкая адасобленасць. Адно калі выпадае застацца сам-насам з успамінамі (а такое апошнім часам надараецца ўсё часцей і часцей), бывае дзіўнае адчуванне, нібыта во зноўку апынуўся ў той халоднай вераснёўскай вадзе шырокага Дняпра.

Па тонкім, апрацаваным азакерытам, провадзе — усё ніжэй і ніжэй у ледзяную прорву, у гімнасцёрцы і ботах, якія, намоклыя, цягнуць на дно. Першы раз нырнуў, не трымаючыся за провад, і прамахнуўся. Вынырнуў, хапіў паветра, паклікаў хлопцаў, каб падстрахавалі, і… рукі ўпёрліся ў катушку.

За тыя хвіліны, праведзеныя пад вадой, пранеслася столькі ўсяго ў галаве — на некалькі ўрокаў вучням расказваць

хапіла б. А першае, што набегла, гэта як не надта даўно на Волзе высочваў ворага. Нехта кожную ноч абрываў лінію сувязі, і камандзір паслаў яго, Канстанціна, абясшкодзіць нягодніка. Доўга тады сядзеў у кукурузе на схіле лагчыны. Глыбокая ноч непад'ёмным грузам апусцілася і ціснула, ціснула на павекі. А тут яшчэ нудная, санлівая цішыня. Ды раптам: што за шамаценне? Эге, вунь ён, гітлеравец пракляты, крадзецца з-за кустоў. Добра бачна яго пад поўняй: у касцы, з аўтаматам. Поўная, так сказаць, экіпіроўка. Да яго метраў сто — далекавата, але бачна, як выхапіў аднекуль з-за рэменя абцужкі і перакусіў провад у двух месцах. «Эх, добра якраз цэліцца», — падумаў і ўскінуў карабін. Але тады ж і апусціў. «Не, нейкі ён невялічкі, ды і акуляры блішчаць у месяцавым святле. Слабак, няйначай. Стукну сапёрнай рыдлёвачкай па галаве, аглушу, дык яшчэ й "языка" прывалаку. Якога-ніякога, але ж…» Прыкінуўшы так, папоўз да куста, за якім віднелася галава ворага. Вось яна на адлегласці выцягнутай рукі. Замахнуўся. Тарганулася галава ў касцы, упалі на дол акуляры.

У кукурузу зацягнуў яго лёгка, бы дзіця — нейкі нягеглы, лёгкі выдаўся. Звязаў дротам рукі-ногі і кінуўся да перакушаных канцоў проваду. Хуценька злучыў іх і сігануў назад у кукурузу. Немец пакорліва сядзеў і нават не спрабаваў развязаць ногі. Затое як толькі згледзеў чырвонаармейца, памыкнуўся ўскочыць на ногі, толькі ў яго нічога не атрымалася. Давялося развязаць ногі. Пасля гэтага нацягнуў на галаву каску і скамандаваў ісці.

Падобнага кшталту аперацыі надараліся часта, прывык да іх. А камандаванне расцаніла іх са сваёй вышыні (камандаванню, сапраўды, відней) як подзвіг, і ў яго, тады радавога, неўзабаве на грудзях заззяў медаль «За абарону Сталінграда».

І вось Днепр. Шырэйшы, чым Волга, хоць, канешне, не настолькі, каб рэдкая птушка даляцела да яго сярэдзіны, як пісаў Гогаль; тут пісьменнік загінуў.

На гэтым участку фронту ў раёне вялікай вёскі Барадаеўка, што расцягнулася доўгім ланцугом хат уздоўж берага, рака раскінулася на васемсотметровую шырыню.

Там, на тым баку, замацаваўся вораг. Позна ўвечары 25 верасня, пад прыкрыццём цемры, стралкі 25-га гвардзейскага корпуса 7-й арміі распачалі фарсіраванне ракі. Байцы

асобнага 133-га гвардзейскага батальёна сувязі злучылі берагі тэлефонным провадам.

— Твая задача — дзяжурыць на гэтым беразе каля апарата. Сачы за намі адсюль, покуль дабярэмся да правага берага. Калі з намі здарыцца бяда, бяры запасную лодку і дацягвай провад да берага, — загадаў камандзір аддзялення старшы сяржант Чарнышоў, прымацаваў канец провада да адмысловага слупа і падключыў да яго тэлефонны апарат, пасля чаго адплыў разам з радавым Белайваненкам на лодцы на той бераг, размотваючы драўляную катушку з провадам.

Покуль збіраліся-выбіраліся — ужо й поўнач. Цёмна і ціха. Няхай бы так і было, няхай бы цішыня пратрымалася яшчэ хоць хвілін дзесяць-пятнаццаць. Толькі гэтак падумаў, як у небе засвяціліся лямпачкі-ракеты. Вунь яны, Аляксандр з Мішам, вяслуюць з усіх сіл сярод дзясяткаў іншых лодак і плытоў з воінамі-стралкамі на борце. Ужо адолелі сярэдзіну ракі, усё бліжэй і бліжэй пасоўваюцца да таго берага.

Ды раптам… Аднекуль з-за Барадаеўкі ці то з самой вёскі ўдарылі мінамёты ды буйнакаліберныя кулямёты. Асноўныя сілы паспелі дапяць да берага і цяпер ад агню іх засцерагалі кручы. Самы раз было б прыдушыць агнявыя кропкі праціўніка прыцэльным агнём сваёй артылерыі, пасля чаго ўзабрацца на тыя кручы і тады… Тады хоць у рукапашную.

Тэлефонны апарат, аднак, маўчаў, хоць па часе павінен бы ўжо падаць сігнал. Тым часам на правым беразе ўжо завязаўся бой. Далей марудзіць нельга: укінуў у лодку ўсё неабходнае і рушыў, трымаючыся за провад, следам за таварышамі на той бок Дняпра. Побач тут і там ірвуцца снарады, свішчуць кулі, а трэба неяк абавязкова дабрацца да мэты і забяспечыць сувязь.

Провад раптам вырываецца з рук і, нібы цеціва лука, разразае чорную паверхню вады, хаваецца ў глыбіні. Усё ясна — у гэтым месцы на дне ляжыць катушка. Значыць, і таварышы загінулі тут. Сэрца зашчымела, але зараз не да сантыментаў. Трэба нешта рабіць. Але што? Ныраць, што ж яшчэ! Знайшоў провад і прывязаў да яго лодку. Апошні раз агледзеўся. Вада вакол кіпела, ускідвалася ўгару… Ага, вунь двое плыўцоў аддаляюцца ад правага берага. Эге, дык гэта ж Саша з Мішам — Аляксандр Чарнышоў і Міхаіл Белайваненка! Жывыя! Чакаць

доўга не прыйшлося: таварышы ўхапіліся за борт, дапамог ім залезці ў лодку, а сам, не распранаючыся, нырцануў у халодныя хвалі. Некалі ў дзяцінстве ныраў лепш за любога з аднагодкаў і нават старэйшых сябрукоў. Вось і згадзіўся навык. Усёй вялікай Радзіме згадзіўся. Доўга шукаў катушку, але тая як скрозь дно правалілася. Вынырнуў, хапіў паветра, папрасіў, каб сябры нацягнулі провад, і цяпер апускаўся на дно па ім — усё ніжэй і ніжэй у ледзяную прорву, у гімнасцёрцы і ботах, якія, намоклыя, цягнуць на дно. Гэтым разам хутка ўхапіўся рукамі за катушку. Адарваў ад дна, а далей ужо лягчэй было ўзнімаць яе на паверхню. А там таварышы падхапілі.

Ну ўсё, праз некалькі хвілін доўгачаканая сувязь будзе ўстаноўлена. Ды не, рана радаваліся. У якіх двух метрах ад берага фантан вады, узняты снарадам, перакульвае лодку. Але тут ужо мылка, намацалі нагамі дно і да берага, да берага. На сушы падключылі да провада тэлефонны апарат, і вось ужо пазіцыі ворага скаланаюць выбухі. Прыцэльныя, трапныя. Ура! Правы бераг Дняпра наш! О, як многа залежыць ад гэтага тонкага провада. Сэрца гэтак прыемна засмылела, калі на левабярэжжы загаманілі «кацюшы».

Тым часам часці Чырвонай Арміі бясконцым патокам дзень і ноч перапраўляліся праз раку. І покуль перапраўляліся, ён, Канстанцін Лазаненка, разам з аднапалчанамі-калегамі цягам адзінаццаці сутак штодзень адбівалі па дзесяць і болей атак праціўніка. Асабліва цяжка было ў першыя дні. Аднак выстаялі, а неўзабаве рушылі ў наступленне. Забяспечвалі сувязь і ваявалі побач з пехацінцамі, не даючы ворагу апамятацца.

«Пераправа, пераправа — бераг левы, бераг правы…» Так радком з паэмы А. Твардоўскага «Васіль Цёркін» назвала свой артыкул пра гэтыя падзеі гарадская газета «Брэсцкі веснік» напярэдадні 60-годдзя Вялікай Перамогі. Гэты артыкул разам з іншымі (іх не шмат — усяго пяць, прычым чатыры былі апублікаваны ў абласной газеце «Заря») заўсёды пад рукою. На здымках, якімі праілюстраваны тэкст, ён малады, у капітанскім званні з цыгаркаю ў руцэ, вялікі палец якой падпірае галаву. Прыгожы, усмешлівы, з Залатой Зоркай па-над шэрагам медалёў. А побач зусім іншы — сівы, з мудрым і спагадлівым паглядам — чалавек у званні падпалкоўніка. Як ка-

жуць: той самы чалавек — ды не той самы. А на фронце быў радавы. Перамогу сустракаў у Кіеве, у вучылішчы сувязі. Тут адначасова вучыліся сямёра Герояў Савецкага Саюза. З Кіева быў накіраваны для праходжання далейшай службы ў Міргарад, пасля ў Палтаву, у Белую Царкву… З 1949-га па 52-гі — у Польшчы, адкуль перадыслакаваўся з сям'ёй на Беларусь — у Слонім, а са Слоніма — у Брэст. Тут ужо больш як паўстагоддзя — з 53-га. Служыў да 1965-га і звольніўся ў запас у званні капітана. І адразу ж уладкаваўся на Брэсцкі электрамеханічны завод. І ажно чвэрць стагоддзя прысвяціў гэтаму прадпрыемству. Працаваў у аддзеле механізацыі і аўтаматызацыі.

У Брэсце жылі ўсяго некалькі Герояў Савецкага Саюза. А цяпер засталіся двое — ён, Канстанцін Лазаненка, ды Мікалай Далжанскі, ваенны лётчык, легендарны штурмавік. Покуль не пазнаёміліся на сустрэчы ў аблвыканкаме — не ведалі адзін аднаго. Затое пасябравалі як бач. Вясёлы, гаваркі, да любой справы здатны Мікалай Іванавіч і самому дадаваў жыццёвых сіл, хоць таксама даўнавата ўжо застаўся без любай спадарожніцы жыцця. Шчыраваў на дачы ў тым узросце, у якім многія ледзь нагамі варушаць. І ў самога вось ногі перастаюць слухацца. А тады, як толькі пазнаёміліся, яшчэ меў сілы. Прапанаваў таварышу:

— Давай да нас на БЭМЗ. Калектыў выдатны, заробак неблагі. Магу замовіць слова.

Рашэнне было прынята імгненна — няйначай, ваенныя лётчыкі-асы і ў мірны час застаюцца вернымі сабе, не любяць цягнуць ката за хвост.

— Я згодзен. Правядзі разведку боем, — быў кароткі адказ.

А праз некалькі дзён яны ўжо былі калегамі і досыць часта сустракаліся на працы дый пасля працы. І так гады ў рады. Аж покуль не адчулі, што ўсё — напрацаваліся, трэба даваць дарогу маладым, а самім патрэбен спакой… Але ж, як той казаў, спакой нам толькі сніцца. Выступленні ў школах, у навучальных установах ніхто не адмяніў з выхадам на пенсію. Як і прыём дзяцей дома. Такая работа — яна да апошняга выдыху. Яна ж і сабе ў радасць. Чым больш звяртаюцца дзеці, просячы аб сустрэчы, тым святлей на душы — значыць, традыцыі шанавання ветэранаў моцныя сярод берасцейцаў усіх пакаленняў.

О, гэта не Эстонія. Бач, да чаго дайшлі — судзяць Героя Савецкага Саюза, інваліда вайны. Гэта тое ж самае, калі б у Беларусі судзілі яго, Канстанціна Лазаненку, альбо таго ж Мікалая Далжанскага. Але ж у нас і памысліць пра тое немагчыма. Чалавек фашызм знішчаў, а яго судзяць. Няйначай фашысты і судзяць. Добра, што стэлефанаваліся з Мікалаем Іванавічам ды спаткаліся. Хоць нагаварыліся. І дагаварыліся да таго, што трэба некуды напісаць пра вялікую несправядлівасць. Пісаць усялякія заявы ды звароты яны не мастакі, куды лацвей у цэху лямку цягнуць, ды тут не ўтрымаліся. І вылілі радок за радком усе свае горыч і роспач: «У такое цяжка паверыць…» Ну, так, цяжка паверыць, і не верылі напачатку, аж пакуль не пераканаліся ўвачавідкі. «Тое, што нават у страшным сне не прыбачыцца, стала кашмарам рэальным — судзяць нашага франтавога брата, Героя Савецкага Саюза, інваліда Вялікай Айчыннай вайны Арнольда Канстанцінавіча Мэры. Абвінавачанні, якія прад'яўлены ветэрану, адназначна сфабрыкаваныя, яны не паддаюцца ніякай логіцы».

Цяжка ва ўнісон уздыхнулі і прыгадалі кожны сваё, ды такое аднолькавае: «Вайна ў нашае жыццё ўварвалася нечакана і стала праверкай на мужнасць, адданасць сваёй Радзіме, народу. Спатрэбіліся сапраўды гераічныя высілкі, каб не толькі спыніць ворага, але і раз і назаўсёды закрыць яму шлях на нашу зямлю. Праз 67 год з пачатку Вялікай Айчыннай вайны мы жывём у вольнай, квітнеючай краіне, імя якой — Беларусь. Сабраўшыся разам, прыгадваем часам дні ліхалецця, дні невыноснага гора ад страты блізкіх, дні бязмернай радасці перамогі. Усялякае было на фронце і ў жыцці кожнага з нас. Ваявалі на розных франтах. Адзін быў лётчыкам, другі — сувязістам. Мы не думалі тады пра ўзнагароды, пра славу, а марылі хутчэй прагнаць з роднай зямлі ворага, які падмяў пад сябе паў-Еўропы, і вярнуцца дамоў. Радзіма высока ацаніла нашы баявыя заслугі, прысвоіўшы кожнаму з нас званне Героя Савецкага Саюза».

Так, сапраўды, узнагароды, званні на фронце былі толькі заслужанымі. Нешта не прыпомніцца, каб камусьці з баявых таварышаў, няхай сабе і афіцэраў, уручылі медаль альбо ордэн проста так, ні за што. Гэта пасля зрабілася модным абвінавачваць штабнікоў, маўляў, хапалі ўзнагароды першымі,

а радавым ваякам кідалі «косткі», гэта значыць тое, што заставалася. Няпраўда. Прынамсі, у іх падраздзяленнях не прыпомняць ніводнай незаслужанай узнагароды. І выводзіць дрыготкая рука далей поўныя роспачы радкі: «Такое ж ганаровае званне прысвоена і нашаму таварышу, сабрату Арнольду Мэры. Зараз замест таго каб спакойна жыць, ён падвяргаецца ганенням, прыніжэннем, здзекам. Яго судзяць. І хто? Палітыканы, фальсіфікатары гісторыі. Крывёю абліваецца сэрца. Так і падмывае крыкнуць ва ўвесь голас: “Спыніцеся, спыніце ганебнае судзілішча! Ён ні ў чым не вінаваты”. Калі ў Эстоніі няма ніводнага чалавека, гатовага сведчыць пра сумленнасць і прыстойнасць франтавіка, то вінаваты ў гэтым час, які няўмольна забірае да сябе герояў Вялікай Айчыннай вайны, патрыётаў вялікай і магутнай Радзімы».

Вось і на ўсю Брэстчыну з Герояў Савецкага Саюза засталіся толькі яны. Два чалавекі. Калі б апынуліся ў становішчы Арнольда Мэры, хто іх абараніў бы, хто даказаў бы іх чысціню? Балазе ў Беларусі і тут, у Брэсце, яны ўсімі пакаленнямі ўспрымаюцца так, як успрымаліся дваццаць, трыццаць, пяцьдзясят год таму — сапраўднымі героямі. І гэта цешыць. І абавязвае ўступіцца за баявога таварыша.

«Жадаем табе, брат Арнольд, цярпення ў барацьбе са злом. Ты пераможаш. Мы верым у гэта. За гэтыя дні ты стаў нам яшчэ бліжэй. Яшчэ радней. Прыязджай да нас у госці ў Брэст пры першай жа магчымасці. Сустрэнем цябе так, як і належыць сустракаць героя».

Здаецца, во толькі пісалі гэты шчымлівы ліст, перажывалі; раней, у маладзейшым узросце, без чаркі такая справа не абышлася б, ды тут і без яе на вочы наварочваліся слёзы. А вось ужо і ў газеце «Советская Белоруссия» ён апублікаваны разам з іншымі лістамі. Добра, што ёсць каму працягнуць руку дапамогі трапіўшаму ў бяду герою-франтавіку, добра, што ёсць такая краіна Беларусь, а ў ёй яшчэ жывыя сапраўдныя героі Вялікай Айчыннай. А далей, праз дваццаць, трыццаць, пяцьдзясят год, што?..

Адказ безліч разоў бачылі ў вачах школьнікаў, студэнтаў, салдат тэрміновай службы… Ён быў адназначна абнадзейваючым: мы ніколі не забудзем вашага подзвігу і перадамо сваё святое пачуццё наступным пакаленням. Добра, калі так. Ды

ўсё ж цікава, што б яны ўбачылі ў вачах эстонскіх школьнікаў, калі б з’явіліся перад імі, як кажуць, пры ўсім парадзе, калі б пагаманілі з імі, расказалі пра вайну, пра фашызм, пра перажытае савецкім народам і пра подзвіг савецкіх воінаў?

Не-не дый цягнуцца рукі да фотаздымкаў у скрыначцы — да старых чорна-белых (яны пацёртыя ўжо, з абтрапанымі краямі, а дзе і надарваныя, ды такія дарагія, што вачэй не адарваць) і да новых каляровых. Дый каляровыя таксама даўнія. Вунь на гэтым ён паперадзе святочнай калоны разам з такімі ж героямі, як і сам. У кожнага на грудзях — Залатая Зорка. Тут на плячах у яго капітанскія пагоны, а тут ужо падпалкоўніцкія.

Не, яму грэх скардзіцца на лёс. На адсутнасць клопату і ўвагі — таксама. Род мае здаровы працяг. Усё як мае быць. Застаецца не забываць толькі вось пра гэта: каб ніхто не ўбачыў, як бяжыць па шчацэ пякучая і скупая мужчынская сляза.

## З ВЕТЭРАНАМ — ЛЯ ВЕСНІЧАК

З прыходам цяпла (дакладна гэта ведаю, бо так было і год, і два, і больш таму) часта буду спыняцца ля невысокіх веснічак з дагледжаным гародчыкам за імі, з выкладзенай бетоннымі квадратамі дарожкай, што вядзе да расцягнутага на дзве кватэры аднапавярховіка. Па той бок — хлеўчык і грады.

Вясковая ідылія ў атачэнні двух-, трох- чатырох- і пяціпавярховых дамоў. Метраў праз дзвесце адсюль — гарадская плошча. Цэнтр Іванава.

Быццам сёння — спыняюся, зрываю з галінкі спелую вішню-жучка, і доўга трымаецца на языку смак вёскі. І гутарка ў нас з гаспадаром па-вясковаму няспешная. Ён валодае рэдкім дарам распавядаць карцінкамі. Карцінкі гэтыя не змяняюцца, а адмыслова дапаўняюць адна другую, зліваючыся ў маляўнічыя каляровыя палотны. Слухаючы, разумееш, што апісваць словам — гэта не ад прафесіі; наадварот — прафесія ад гэтага прыроднага дару. Карцінкі пры жаданні можна пазначаць назвамі: «Першы ліст у газету», «Першы ганарар»...

А ўсё ж цікава, якім ён быў — першы свядомы ўчынак гэтага аўтарытэтнага чалавека, майстра слова, ветэрана журналістыкі, які даў пуцёўку ў жыццё многім — цяпер ужо вядомым літаратарам і журналістам, актыўнага ўдзельніка партызанскай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Аляксея Трафімавіча Каўко? Пералічэнне заслуг і тытулаў нагадвае звон медалёў. Пра гэты — урачысты — звон, аднак, забываеш, калі спыняешся каля веснічак.

…Лета. Яркае, цёплае сонца. Іграе на дудзе пастух. Маці выганяе з хлява Чарнуху і Маліну, загаворвае з суседкамі. Трох- ці мо чатырохгадовае хлапчанё ўпершыню больш-менш усвядомлена адкрывае для сябе гэты свет з вышыні трэцяй прыступкі прыстаўленых да сцяны драбін. Пасля самастойна адольвае шлях да канавы за гародчыкам, каб нарваць ці то каровам, ці то парсючкам травы, вяртаецца мокры і брудны, але з пукам зялёнай сакаўной смакаты. Зарабляе за гэта ад маці плескача і плача, не разумеючы, за што такая несправядлівая «падзяка»...

Першы ліст у газету «Піянер Беларусі». Трэці клас? Чацвёрты? У адказе надта ж здзівіў бацьку зварот «Паважаны таварыш...». Ці не занадта дробны для «паважанага таварыша», — прачытвалася ў яго цяжкаватым сялянскім паглядзе.

Калі вучыўся ў сямігодцы, часопіс «Іскра Ільіча» апублікаваў першае апавяданне «Вавёрачка». Тады ж з бярэзінскай райгазеты атрымаў першы ганарар. За частушкі. Па дарозе дамоў (грошы прыйшлі на адрас школы) купіў у краме поўную торбачку запалак. Абрыдла смыкаць з хаты, ідучы ў начное, па адной сярнічцы. Маці і здзівілася, і ўзрадавалася — не верылася ёй, што за «нейкія прыдумкі» нехта мог заплаціць. Сама ж рэдка трымала ў руках грошы. Калі надыходзіў час купляць падручнікі, сшыткі ды адрэз корту альбо паркалю для пашыву апраткі, прадавала ў мястэчку яйкі і масла, якімі самі хіба што на Вялікдзень ласаваліся.

Пра гэтак званы «антыганарар» таксама карцінка ёсць. І таксама адтуль, з дзяцінства.

У калгаснай насценгазеце з’явілася вершаваная заметка пра брыгадзіраў Івана ды Пятра, якія не забаранавалі засеянае поле. Доўга яна не навісела, а вось аўтара брыгадзір Іван злавіў на калгасным двары і ладна так паласнуў колькі разоў па худой спіне папругай.

Стаўшы неяк сведкам сваркі паміж суседкамі Аленай і Лучай, сачыніў доўгую сатырычную паэму, якую цытавала («шла Алена па ваду, стрэла Лучу на ходу. І давай крычаць услед: ах ты злодзей, дармаед!..»), заліваючыся смехам, уся вёска. Пасля гэтага Луча, праходзячы да калодзежа, кожны раз дэманстратыўна адварочвалася ад іхняга двара. І гэтак жа дэманстратыўна не размаўляла з маткаю.

Карцінкі дзяцінства... Дзяцінства было цяжкае, а карцінкі, вось, лёгкія. У дзяцінстве было шмат трагічнага (пераезд у Сібір, смерць браціка, вяртанне ні з чым у родную Міраслаўку, у дзедаву хату; горкая доля падпаска ў злога пастуха, калі на просьбу пашукаць вады, бо набегаўся за дзень і даймала смага, гучаў прыгавор: «Слёз напіся»), а на карцінках болей камічнага. Яны, карцінкі, як сонейкам, падсвечаны гумарам. А калі не гумарам, дык мудрасцю. А не мудрасцю, дык дабрынёй. Мудрасць, кажуць, менавіта на дабрыні замешана. Таму і свеціць, і грэе. Гумар жа ўласцівы і першаму, і другому.

Скончыўшы Сялібскую сямігодку, адправіўся на вучобу ў райцэнтр — мястэчка Беразіно. Пасяліўся разам з аднакласнікам Барысевічам (у будучым — прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі) недзе на ўскраіне, бо тут кватэры былі таннейшыя. Неяк у слоту якраз спатрэбілася бегчы ў краму па сшыткі. Калі вярнуўся, то замест дзесяці налічыў дванаццаць сшыткаў. Каб хутчэй супакоіць прадаўшчыцу, панёс два лішнія назад. Але кабета толькі грэбліва хмыкнула і абыякава шпурнула сшыткі на паліцу.

У параўнанні з чарговаю крыўдай гэтая, зрэшты, падалася не вартай увагі. Вось на карціне — агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці. У раённым доме культуры. Хор вёскі Паплавы выконвае частушкі. Юны аўтар гэтых частушак вісіць на падваконні, услухоўваецца-ўзіраецца праз шыбіну ў тое, што дзеецца на сцэне. Яго распірае гордасць (мае частушкі пяюць) і крыўда (не пусцілі ў залу, хоць рослыя аднакласнікі прайшлі, іх ніхто не супыняў; а яму: «Кыш, малы, дахаты»). Аднак варта было пагаманіць з аднавяскоўцамі — і крыўды як не было.

У карцін, прысвечаных юнацтву, суровы ваенны фон. На адной з іх яны (уся сям'я) разам з суседзямі хаваюцца ў загадзя збітым з бярвення бліндажы, а за вёскай ірвуцца снарады і трашчаць кулямёты. Усіх выганяе са схованкі і ставіць у шыхт нямецкі салдат. Пасля махае рукой і знікае. На наступнай — 19-гадовы юнак хавае пад паветкаю знойдзеныя ў ваколіцах вінтоўку, дзве гранаты, бляшанку з патронамі. Далей змяняюць адна другую партызанскія карціны: добрыя вочы кулямётчыка Жыгуліна, які ўзяў маларослага хлапца да сябе другім нумарам, баі, разгромы гарнізонаў і эшалонаў, 600-кіламетро-

вы марш 208-га партызанскага палка зімой 1943–1944 гадоў з магілёўскіх лясоў на Піншчыну, ваенны парад 23 ліпеня 1944 года ў Пінску, узнагароджанні... 22 гады і паўвяршка ад зямлі, а на грудзях ужо ордэны — Чырвонага Сцяга і Айчыннай вайны, медалі «Партызану Айчыннай вайны» 1-й ступені і «За Перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гадоў».

Курсы журналістаў у Пінску занялі два месяцы. На месцах патрабаваліся кадры, а на ўтрыманне «курсантаў» не хапала сродкаў. Працягвалася вайна, таму між партызанскімі і гэтак званымі газетнымі малюнкамі — некалькі штрыхавых накідаў паўразбуранага Пінска, лекцыі (іх чыталі вядомыя прафесары і нават акадэмікі), цяжкі шлях назад на Палессе ўжо ў якасці рэдактара, праўда, яшчэ не існуючай раённай газеты ў Пінскай вобласці.

І вось — вёска Малоткавічы, цэнтр тагачаснага Жабчыцкага раёна (Жабчыцы былі цалкам спалены). Сталага веку сакратар райкама партыі Якаў Пракопавіч Жукаў у пацёртай целагрэйцы і чаравіках з абмоткамі распавядае пра бандытаў, якія нападаюць на савецкіх актывістаў, пра тое, што трэба, нягледзячы ні на што, даваць фронту хлеб, нарыхтоўваць і адгружаць лес шахтам Данбаса, а яму, Аляксею Каўко, трэба знайсці хоць бы яшчэ аднаго чалавека з правам другога подпісу, адкрыць рахунак у дзяржбанку і атрымаць чэкавую кніжку. Развітваючыся, уручыў хлапцу пяць рублёў на выпадак голаду (маўляў, разбагацееш — аддасі) і адправіў яго адпачываць у кабінет, дзе размяшчаўся райкам камсамола.

Новая газета друкавалася ў Пінску. 12 кіламетраў туды — з рукапісам, столькі ж назад — з тыражом газеты. Пешшу.

Серыя «Сям'я» пачынаецца выявай рэдактарскага кабінета. Цеснага — у ім ледзь умяшчаюцца ложак, печ (яе самі зляпілі), некалькі пасудзін... Тут у жніўні 1947-га нарадзіўся першынец — Генадзь, у чэрвені 49-га — Віктар. Дачка Лілія нарадзілася ў 51-м ужо ў Лагішыне, дзе рэдагаваў палітаддзельскую газету, а сын Аляксандр — у 57-м у Лунінцы, дзе з 51-га па 64-ы працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты і нейкі час — рэдактарам раённай.

Іванаўская серыя — адмысловая. Яна пераплятаецца з сучаснасцю і сучаснікамі. І сягае ў будучыню. І самая бага-

тая на карціны. Яе пачатак супадае з нараджэннем мясцовай раёнкі — «Чырвонай звязды».

Малюнкі з 1965-га. Ноч напярэдадні 1 красавіка. Не да жартаў. Рэдакцыя — узбуджаны мурашнік. А раніцою ўсе стомлена, але светла заўсміхаліся: першы нумар газеты атрымаўся прыгожы — у колеры — і змястоўны: выступленне кіраўніка раёна Уладзіміра Самовіча, нарыс «Ой, бярозы ды сосны...» намесніка рэдактара Пятра Суцько (потым рэдактара абласной газеты «Заря» з трыццацігадовым стажам, заслужанага работніка культуры Беларусі і заслужанага журналіста, і таксама ж ардэнаносца), вершы настаўніка Моладаўскай школы (потым заслужанага настаўніка Беларусі і актыўнага пазаштатнага карэспандэнта) Васіля Туркевіча... На жаль, няма ўжо сярод жывых ні Пятра Пятровіча, ні Васіля Макаравіча.

На Іванаўшчыне — 38 гадоў. 17 з іх — рэдактарам. Сярод мноства карцін, прысвечаных гэтаму часу, — партрэты: школьнік з «боскай іскрынкай», супрацоўнік рэдакцыі, імя ў журналістыцы. І ўсё ў адной асобе. Такі шлях да прызнання прайшлі былы генеральны дырэктар БЕЛТА Якаў Аляксейчык, уласны карэспандэнт газеты «Белорусская нива» Мікола Панасюк, паэт Мікола Трафімчук, вядучая Беларускага радыё Вольга Аляксейчык... А Аляксей Трафімавіч — таленавіты «іскрашукальнік» і настаўнік. Праўда, не той, які вучыць, а той, у каго вучацца і з каго бяруць прыклад. Ён проста працаваў, разрываючыся паміж газетай і літаратурнай творчасцю. А літаратура — свет адмысловы, бязмежна прыгожы, прыцягальны і бязмежна цяжкі. Гэткія ж — адначасова светлыя і сумныя — ілюстрацыі да яго.

...Май 1947-га. Збор маладых пісьменнікаў заходніх абласцей Беларусі ў Брэсце. Расповед пра юнага партызанскага разведчыка чытае дваццаціпяцігадовы аўтар. Узнімаецца Янка Брыль: «У асобе маладога аўтара беларускія дзеці знойдуць добрага і цікавага сябра». Апавяданне выходзіць у рэспубліканскай газеце «Савецкі селянін».

Ліпень таго ж 47-га. Збор маладых пісьменнікаў у Мінску. Рэдактар «Бярозкі» Алесь Якімовіч дастае з партфеля яшчэ не сшытыя лісты чарговага нумара часопіса. А ў ім апавяданне Аляксея Каўко «Піянер». Янка Маўр просіць пачытаць. Пазней Ніл Гілевіч у кнізе «Перажыўшы вайну» ўзгадае:

«Запомнілася абмеркаванне апавядання “Піянер” журналіста з Палесся Аляксея Каўко. Усе дружна хвалілі (праз год-два я з прыемнасцю ўбачыў апавяданне ў школьнай чытанцы)». А тады з благаславення Янкі Маўра гэты твор трапіў у падручнік «Роднае слова» для 4-га класа.

Пасля такой раскошы, як «купанне ў літаратуры» разам з кумірамі, якія яшчэ нядаўна здаваліся недасягальнымі, газетныя будні здаюцца рабскімі. Магчымасць паехаць у Мінск на стацыянарную вучобу і зноўку акунуцца ў запаветнае зрываецца па сямейных абставінах. Але апавяданні пішуцца. Адно з іх — «Васіль прыехаў» — у 1952 годзе заняло другое месца на конкурсе «Чырвонай змены». Было перадрукавана газетай «Літаратура і мастацтва» і ўключана ў альманах «На сонечных сцежках». Апавяданне «Я і мая мама», апублікаванае ў часопісе «Работніца і сялянка», Алена Васілевіч назвала «вясёлым і слаўным».

Так і перамяжоўваліся з газетнымі буднямі літаратурныя пошукі. Творы (часцей за ўсё гумарыстычныя — байкі, гумарэскі) з задавальненнем публікавалі рэспубліканскія выданні, зазвычай «Вожык». І па сёння публікуюць. Для існага творцы няма пенсійнага ўзросту. У «Вожыку» паяўляюцца «Цюха-мацюха», «Містэр Біл з Падбалоцця», «Горка!», «Паставіў на ногі»... І будуць выходзіць падобныя шаржы на рэаліі сучаснага жыцця-быцця, бо яны запатрабаваны, бо трапляюць у самыя хворыя месцы грамадскага арганізма, бо...

— Пакуль магу — буду пісаць. Іначай жыццё губляе сэнс, а без сэнсу жыццё — не жыццё...

Нехта, можа, здзівіцца такому факту: дзясяткі, калі не сотні, твораў Аляксея Трафімавіча дасюль яшчэ не ўклалі асобны зборнік. Між тым атрымалася б вельмі прыстойнае сатырычнае выданне, у чым у свой час неаднойчы пераконваў аўтара паэт Мікола Федзюковіч. Але...

Зрэшты, выданні ёсць і самаробныя, у якіх на шчыльныя лісты ватману наклеены газетныя ды часопісныя выразкі. У адным з іх — «Мая сцежка» — успаміны. Яны напісаны, паводле сціплага прызнання аўтара, не для друку, а для дзяцей, унукаў і праўнукаў... У другім зборніку — апублікаваныя ў 1995 годзе ў раёнцы «Партызанскія былі». У трэцім — «Публіцыстыка» (выступленні — эмацыянальныя, пераканаўчыя,

па-сапраўднаму публіцыстычныя — у абарону роднага слова, дабрыні і праўды).

Што ў Аляксея Трафімавіча дасюль няма асобнага зборніка, не здзівіцца хіба той, хто яго добра ведае. Раней стрымлівала сціпласць, а цяпер яшчэ і гады, хваробы. Вось ужо без мыліц і ля веснічак нельга пастаяць.

«Я не здзейсніў ніякага подзвігу. Проста імкнуўся быць чалавекам. Ніколі і нікому я не перабягаў дарогу, не лез туды, куды мяне не прасілі, не карыстаўся пратэкцыяй, не расштурхваў локцямі чаргу, не браў чужога нават на капейку. Гэтаму ж вучыў і сваіх дзяцей...» Жыццёвае крэда творцы з правінцыі таксама свеціцца сціпласцю. Як іншыя яго ж выказванні гумарам, альбо дабрынёю, альбо болем...

***

З прыходам цяпла (я гэта дакладна ведаю, бо так было і год, і два, і болей таму) часта буду спыняцца ля невысокіх веснічак, каб перакінуцца словам-другім з чалавекам, які валодае рэдкай уласцівасцю расказваць карцінкамі. На гэтых карцінках усё, як і ў жыцці, толькі сонца крыху цяплейшае, людзі — дабрэйшыя, а сам — маленькі і непрыкметны... Можа, таму, што ў апавядальніку і ў сівыя восемдзесят, пры ўсёй яго пашанотнасці, жыве яшчэ не спакушаны чалавечымі заганамі сціплы вясковы хлапчына, які менавіта такім і бачыць навакольны свет.

*Пасляслоўе.* З жніўня 2009 года Аляксею Трафімавічу Каўко прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін Іванаўскага раёна». На момант выдання кнігі яму споўнілася 88 гадоў. Як і раней, мы часта сустракаемся з ім каля яго хаты, ля самых веснічак, і падоўгу гутарым пра жыццё-быццё.

# У МУДРЫМ ПАГЛЯДЗЕ — ДЗІЦЯЧЫ ДАВЕР

*Нарыс пра гэтага выдатнага чалавека, журналіста і рэдактара быў ужо практычна завершаны, калі газету «Заря» заспеў юбілей — 70 год з дня выхаду ў верасні 1939 года першага яе нумара. Так хацеў паспець, ды… Ды ўсё ж, падумалася, лепш пазней, чым спехам. Падумалася (з цёплай усмешкай, з нейкай нават утрапёнасцю), калі ўбачыў у юбілейным нумары слова самога героя расповеду пад загалоўкам «Запрасілі мяне на наваселле», дзе Пётр Пятровіч згадаў прыведзены ў нарысе эпізод пра першую сваю публікацыю ў раённай газеце «За перамогу» за 23 студзеня 1953 года. Трэба ж, 57 год таму; нумар газеты — усяго толькі сёмы. Загаловак тае публікацыі: «Праўда аб зялёным даху, або Бяздушныя адносіны да спажыўца». На беларускай мове. І гэты ўспамін 57-гадовай даўнасці — таксама па-беларуску. А я (аж сорамна за сябе зрабілася) напісаў нарыс па-руску — маўляў, ён жа рэдагаваў рускамоўную газету і цяпер, нягледзячы на ўзрост, працягвае ў ёй шчыраваць. Але ж во, вярнуўся да той мовы, з якой пачынаў і з якою, па-сутнасці, ніколі не развітваўся, бо хоць «Заря» — рускамоўная, роднае слова ніколі не сыходзіла з яе старонак, прысутнічала цэлымі рубрыкамі, аўтарскімі праектамі… Дый перавёўся ў абласную газету з раённай, якая была цалкам беларускамоўнай. Трэба ж, яна, тая раёнка, дзе Пётр Пятровіч быў намеснікам рэдактара, а рэдактарам — сам Аляксей Трафімавіч Каўко, легендарны ветэран вайны, журналістыкі і ў немалой ступені літаратуры, — гэта якраз іванаўская «Чырвоная звязда», якую воляю лёсу*

*ўзначальвае аўтар гэтых радкоў. Во які цесны свет. Цесны і ў часавым, і ў прасторавым вымярэнні.*

Эх, што тут паробіш! Бяру чыстыя аркушы і перакладаю напісанае пра вельмі паважанага мною чалавека, папярэдне дадаўшы прыведзены вышэй лідар-абзац, альбо папросту — ўступ.

Яго жыццё неяк не атрымліваецца падзяліць на цяперашняе і былое, даўняе, так званае дажурналісцкае. У прамінулым ён бачыцца, успрымаецца такім, які ёсць сёння, а ў сваім ужо даволі пашанотным узросце — гэткім усюдыісным гарэзаю з пружанскай вёсачкі Асошнікі, які — глядзі-глядзі (!) — абменьвае ў пастухоў свае яблыкі на іх хлеб (яблыкі такія прыгожыя, вялізныя, зайздросныя, а яму зайздросны хлеб), або… няўрымслівым студэнтам журфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, або надта ж «пісучым» старшым сяржантам тэрміновай службы — актыўным пазаштатным ваенкорам акруговай газеты «Во славу Родины», або…

Няйначай, такое наканаванне, такая сутнасць яго — заўсёды быць сучасным: для тых, хто жыў у пару яго дзяцінства і юнацтва, ён быў мудры, як у сённяшнім сваім узросце, затое ў сённяшні ўзрост перанёс усю дзіцячую непасрэднасць і юнацкую няўрымслівасць. Чытаеш кароценькія паведамленні-сюжэты ў «Заре» і аж языком прыцмокваеш: вось дык Пётр Пятровіч, вось дык падмеціў, вось дык «цукерачка» атрымалася. Здавалася б, маленькая заметачка, а ўвесь нумар газеты ўпрыгожвае. Чытаеш жыццёвую гісторыю, і сюжэт захоплівае з першых слоў, першых сказаў. Таго ж, калі быў галоўным рэдактарам, патрабаваў ад падначаленых журналістаў. А гэта ж здорава: падцягваць каманду да свайго ўзроўню, балазе ён дастаткова высокі. Прычым не толькі творчы, але і чалавечы, і грамадзянскі. А ёсць Узровень — значыць, ёсць і Асоба.

Зрэшты… Асобаю ён адчуў сябе яшчэ ў школьным узросце. Прычым якраз дзякуючы ўласнай жа публікацыі ў газеце. Цяпер ужо цяжка сказаць, ці той самай, пра якую размова ў самым пачатку гэтага тэксту — пра зялёны яловы дах, ці адтуль яшчэ, з ранняга дзяцінства, калі старэйшага брата адразу пасля вайны прызначылі паштальёнам.

Дзейснасць газетнага слова тады адчуў так, што тое ўражанне і па сёння свежае. А спярша спазнаў пачуццё су-

перажывання, ды такое, што сэрца заходзілася. Як жа так, дождж дзень і ноч пляжыць, а суседзі пад дахам-рэшатам сядзяць. Ад вады не схавацца ні ў якім кутку, не набрацца посуду, каб падставіць пад шматлікія цуркі. Лягчэй стала, як выпаў снег, ды хіба ж гэта дзела — у мароз і сцюжу пачувацца ў хаце як у шалашы. Здавалася б, гаспадары зрабілі ўсё дзеля таго, каб прыдбаць шыфер і накрыць ім хату, гэта значыць здалі кабана ў лік дзяржзакупу, ды той шыфер ім так і не прывезлі, і яны накрылі дах яловымі лапкамі.

Словам, заметка нарабіла вэрхалу. «І ўзняў яго во гэты падшыванец?» — не магло даўмецца раённае начальства. Ён, у сваю чаргу, таксама не мог даць веры: няўжо такую моц мае яго слова? Яго, такога малога, непрыкметнага і ціхутка-сарамлівага, адно хіба неабыякавага да несправядлівасці, чулага. Але ж вочы бачаць: прывезлі з горада шыфер і напрыканцы зімы суседскі дах з самага пачварнага ў вёсцы стаў самым прыгожым.

У першы дзень Вялікадня хлопчык быў запрошаны суседзямі ў госці. Наслухаўся ўдзячнасцей, аж галава кругам пайшла. Аказваецца, ён нават мацнейшы за дарослых. А ўсё таму, што словам валодае, ды такім, што яго газета друкуе, і нават высокае начальства да гэтага слова прыслухоўваецца.

Але ж гэта — не завяршэнне гісторыі. Праз нейкі час у Магілявецкую школу, дзе вучыўся і куды хадзіў штодня за некалькі кіламетраў, прыйшоў грашовы перавод. Імя, прозвішча, імя па бацьку — Пётр Пятровіч Суцько. Але ж які перавод, якія грошы — хлапчаню? На пошце, няйначай, нешта пераблыталі, вырашылі ў школе, і пасля непрацяглых пошукаў знайшлі-такі ў тых жа Асошніках дарослага чалавека з дакладна такімі ж імем, прозвішчам, імем па бацьку; дарэчы, далёкага сваяка. Вось яму і ўручылі квіток, а на пошце выдалі грошы. Па тым часе сума была не такая і малая. Калі ж яшчэ праз нейкі час высветлілася, што гэта ганарар і што адправіцелі адрасам не памыліліся, а памылілася якраз дырэкцыя школы, уся сума была як бач вернута яе сапраўднаму ўладальніку. Матуля тады не магла нарадавацца сыночку: трэба ж, малы, а больш за яе зарабляе.

І гэта яшчэ не завяршэнне гісторыі, а толькі яе пачатак.

Далейшы лёс хлапца, такім чынам, быў прадвызначаны. І не аднымі гэтымі падзеямі. Ён жа быў актыўным юнкорам,

прычым не толькі раённай, але й рэспубліканскіх газет, першнаперш «Піянера Беларусі». О, як чакаў кожны наступны нумар, перагортваў, спыняўся на знаёмым загалоўку, на… уласным прозвішчы пад нататкай. І сэрца заходзілася ад хвалявання, радасці, узвышэння і яшчэ нечага такога, чаго і сам ні зразумець, ні вытлумачыць сабе не мог.

Такім чынам, гісторыя з «зялёным дахам» не завяршылася па сённяшні дзень — яна перарасла ў раман. Бестэрміновы раман з… журналістыкай. Наўрад ці магло быць іначай, нават калі б у яго атрымалася пасля заканчэння сямі класаў паступіць вучыцца на качагара. Чаму менавіта на качагара? Усё проста, і як па сённяшнім часе, то ў пэўнай меры нават смешна. Справа ў тым, што старэйшы на некалькі год аднавясковец, які атрымліваў недзе ў вялікім горадзе гэтую спецыяльнасць, прыязджаў на канікулы ў дужа дабротнай і прыгожай форме з бліскучымі гузікамі, пятліцамі, з гэткай жа бліскучаю кукардай на фуражцы… Ад той формы было вачэй не адвесці. Аднак дакументы падаў у чыгуначны тэхнікум — у Брэст. Той Брэст здаваўся далёкім-далёкім. Канечне, як выдатніку можна было і ў Мінск падавацца — у любую вучэльню, ды ў маткі не хапала грошай, каб забяспечыць сыну хоць якое-кольвек існаванне ў сталіцы. Ды што там сталіца. У Брэсце таксама доўга не пратрымаўся з-за той жа беднасці. Паступіць то паступіў. А як жыць? Хлеб неўзабаве скончыўся, а грошай дык і адпачатку не было. Пагаладаўшы і не асмеліўшыся папрасіць у каго з багацейшых харчоў, без адзінай капейкі ў кішэні рушыў на чыгуначную станцыю. Як дабіраўся на цягніках, цяпер і сам памятае вельмі цьмяна. Нарэшце дабраўся і першага верасня паступіў у восьмы клас. Па заканчэнні васьмі класаў рушыў у Гродна — у культасветвучылішча. Настаўнік музыкі адзначаў яго неблагія здольнасці баяніста і наогул добры музычны слых, нават густ, і вельмі раіў заняцца гэтым відам мастацтва прафесійна. Ды і ў Гродна доўга не пратрымаўся ўсё па той жа прычыне — адсутнасці грошай. Тады, едучы дахаты, прыгадваў, як пасля заканчэння пачатковай школы перайшоў у наступны, так званы дарослы, клас, які па тым часе таксама ж яшчэ быў платны, і як настаўніца адправіла яго дахаты, бо маці не заплаціла за вучобу. Што тут паробіш: пайшоў куды вочы глядзяць, апынуўся на знаёмым

да кожнай травінкі лузе, дзе ўсё лета пасвіў статак кароў, сеў там і доўга глядзеў у адну кропку, аглушаны тымі словамі настаўніцы. І ў тым узросце ўжо па-даросламу думаў: адкуль жа матка грошы возьме, трэба самому нешта прадпрымаць. А што? Раптам прыгадаў суседа, які напісаў быў у газету, што яму ў майстэрні не адрамантавалі будзільнік. Пасля гэтага гадзіннік зноў зацікаў, а з рэдакцыі прыйшлі грошы, якія дарослыя называлі ганарарам. Во якое дзіва — газета. Здавалася б, проста папера з друкаванымі літарамі-радкамі на ёй. О, ён з маленькага знаёмы з гэтымі аркушамі. Старэйшы брат, працуючы паштальёнам, разносіў газеты вясковым камуністам, а ён разглядаў іх і дзіваваўся: нехта ж разбірае тыя знакі і разумее, што яны абазначаюць, абмяркоўвае напісанае з іншымі. Вось бы самому навучыцца разгадваць гэтую таямніцу.

Так ці прыкладна так думаў-гадаў тады на лузе паміж Магіляўцамі і роднымі Асошнікамі. А калі самому ўдалося апублікавацца, ды не адзін раз, то і думаць не падумаў, што гэта ж займеў ужо ключык ад таямніцы. Праз дзесяцігоддзі, праз цэлы век чалавечы і некалькі вякоў журналісцкіх, як і тады, у маленстве, пра гэта не думае. Між тым ключык даўным-даўно ў яго руках залаты. І золата тое неўпрыкмет назбіралася па пясчынцы цаною бяссонных начэй і напружаных дзён.

Пасля ўсіх папярэдніх удалых-няўдалых паступленняў у розныя навучальныя ўстановы, пасля працы ў калгасе, дзе як бач стаў сакратаром камітэта камсамола, пасля таго як яго прыкмеціў тады рэдактар ружанскай раёнкі Уладзімір Тарасевіч і на матацыкле прыехаў па хлапца ў вёску (о, як баялася матуля, куды гэта забіраюць сыночка), ён урэшце падае дакументы на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паспяхова здаў экзамены, з галавою акунуўся ў вывучэнне-асваенне дзівоснага свету журналістыкі. Завочна — адначасова працаваў у раёнцы. І ўжо не зважаў ні на голад, ні на якія іншыя нягоды. Што і казаць, сябе мог допісамінататкамі пракарміць. Хоць Ружаны і недалёка, да іх пятнаццаць кіламетраў, ды дома з нецярпеннем чакалі пабыўкі. Не толькі маці, але і родныя. Асабліва бабуля. Як прыедзе да яе пагасцяваць, дык такімі аладкамі накорміць, так шчыра пагамоніць, супакоіць, калі нечым засмучаны, што да яе найперш ногі нясуць.

Гэтым разам з сябрам завітаў. Ля веснічак папрасіў яго пачакаць, маўляў, збегаю праверу, ці дома гаспадыня. Адчыніў дзверы — а вось і яна, родненькая, вочы аж свецяцца дабрынёю, лагодаю…

— Заходзь, унучак, заходзь, я ж такая радая, такая радая пабачыць цябе. Аладачкамі пачастую.

— Дык я, гэта, не адзін. Са мною тут…

— А хто ж з табою?

— Ну, гэта, журналіст! Ён ля веснічак стаіць.

— А-а, журналіст! Ну то вазьмі ў хляве сенца, кінь яму, хай пажуе. Ды вяртайся хуценька.

Бабулі і не ў галаве, што журналіст — гэта не мянушка каня, а прэстыжная прафесія.

Ах, Пётр Пятровіч, як міла гучыць гэтая гісторыя з вашых вуснаў, як слухалі яе з вялікім захапленнем на розных афіцыйных і неафіцыйных мерапрыемствах, проста ў кампаніях. І кожны прыгадваў свае дзяцінства, юнацтва: авохці! Мы ж аднолькавыя, у адзін ці розны час сала смажылі за ваколіцай, кароў пасвілі, разам гародчыкі тапталі ўначы, разам ранкі сустракалі з дзяўчатамі… У розных раёнах, розных паселішчах, ды ўсё ж разам, разам, разам.

…Іх у мамы чацвёра. Бацька памёр у перадваенным саракавым, калі Пятру споўнілася ўсяго чатыры годзікі і памяць яшчэ не выспела настолькі, каб захаваць у сабе дарагі вобраз. Але ж гэтая, гэтая — крыху пазнейшая — іскрынка! О, якое полымя хвалявання запальвае яна ў хвіліны вяртання ў той далёкі пасляваенны час. Гарышча хаты. Таямнічае, з асаблівым, дасюль помным водарам. Невядома, з чым яго і параўнаць — хіба толькі з пахам вясковага дзяцінства. Там, на тым сухенькім цёплым гарышчы, да канька прымацаваны дрот, а на дроце вісіць кош. Гэта каб мышы ці пацукі не далезлі да таго, што ў кошыку. А ў ім смаката невераемная! Але ж і кош не просты — з вечкам, сплеценым, як і ўся пасудзіна, з ядлоўцавага кораня.

Пад вечкам ладны кус падсохлай (цяпер сказалі б — сыравэнджанай) паляндвіцы хатняга (а якога ж яшчэ!) прыгатавання. Во-о-х, як зацягвала яна ў свае абдоймы галодных малых, як хадзілі вакол яе, нібы каты вакол смятаны. І так-такі не вытрывалі: ай, можа, матка не прыкмеціць, адрэзалі ж на палец, ну, на

два — сама болей. Ну, на другі дзень яшчэ трошачкі, на трэці — хіба што на зуб… А як аднойчы адчынілі вечка — вачам не паверылі: пад ім адно засаленая, прапахлая смакатою анучка. Здзівіліся: калі ж гэта паспелі з'есці «стратэгічны» мясны запас сям'і, гэтак неабходны маме для нашыхоўвання сена, дроў… Чым яшчэ яна магла заплаціць памочнікам? Крыўда пякла-апякала. А да крыўды прымешваўся страх: старэйшы брат палохаў, маўляў, ад маці такога прачуханца атрымаем… Пасля пакутлівых пошукаў хоць якой магчымасці пазбегнуць пакарання выйсце нарэшце знайшлося: перакладзём віну на кацянят — з іх як з гуся вада. Сказана — зроблена. Кацянят злавілі і — у кош, пад плеценае вечка. Ды маці ўсё роўна раскрыла хітрасць. Вось толькі замест прачуханцу… неяк стомлена апусцілася на лаву і заплакала. І хлопчык раптам зразумеў, што існуе на свеце пакаранне, горшае за які б там ні было прачуханец. Няхай бы яна біла яго словамі, папругай, хварасцінай, чым заўгодна, абы каб не плакала, бо трываць яе слёзы не ставала сіл. Самае вялікае пакаранне — бачыць, як па тваёй віне пакутуе самы родны, самы дарагі, самы любы чалавек. Гэтую навуку з таго часу нясе праз усё сваё жыццё.

— Калі-небудзь я абавязкова напішу мініяцюру «Кацяняты ў кошыку», — сказаў некалі, даўнавата ўжо, калі мы прагульваліся па Брэсцкім гарадскім парку «1 Мая», Пётр Пятровіч… З той пары мінула шмат гадоў, з-пад бліскучага пяра героя нарыса выйшлі дзясяткі, калі не сотні, цёплых усмешакмініяцюр, замалёвак, гісторый з жыцця-быцця тых, чые лёсы кранулі, узрушылі, і толькі пра кацянят у кошыку дагэтуль нідзе так і не прачытаў. Няйначай, нешта не дазволіла занадта дарагія ўспаміныператварыць у газетнае, няхай сабе цікавае, смешнае, усцешнае, чытво. Што? Хто ведае, хто ведае…

Ці не ад тых кацянят у кошыку, якіх пранёс праз усё жыццё, — іскрыстая ўсмешка ў шмат якіх творах і радках. Пётр Пятровіч — майстар якраз такога, маляўнічага, абавязкова замешанага на гумары і ў той жа час па-філасофску заглыбленага жыцейскага сюжэта. Гэты сюжэт, бывае, умяшчаецца ў некалькіх дзясятках радкоў, але кожны радок — на вагу старонкі.

Аналагічна ацэньваў ён цягам трыццаці з гакам гадоў, калі ўзначальваў калектыў газеты «Заря», і творчасць падна-

чаленых. Заўважыў у тэксце «жывінку», той няўлоўны элемент, які спалучае напісанае з рэальнасцю, накладвае вобраз створаны на рэальны, і па ім вызначае адпаведнасць журналіста сваёй прафесіі.

Так, да журналіста шмат патрабаванняў (тут і цвёрдасць праўдашукальніка, і далікатнасць, дыпламатычнасць, бо ты ж умешваешся ў чужое жыццё, і цягавітасць-двужыльнасць, і сумленнасць…), але ж галоўнае — валоданне жывым словам, якое бярэцца толькі ад унутранага адчування жыцця. Нездарма кажуць: як жывеш — гэтак і пішаш.

Пётр Пятровіч пражыў свае семдзесят пяць так, што і самому ёсць што ўспомніць, і людзі згадваюць добрым словам. З кім ён хоць раз сустрэўся ды пагаманіў, той, будзь ён хоць вясковец з глыбінкі, хоць сталічны начальнік, з прыемнасцю ўспамінае і сустрэчу, і яго самога, і заўсёды гатовы спаткацца яшчэ, каб набрацца жыццёвага аптымізму і энергіі на гады. У гэтым неаднойчы пераконваўся, бо шмат хто на жыццёвых пуцявінах прамаўляў (удзячна і з непрыхаванай павагай) вядомае імя.

Сам Пётр Пятровіч з гэткімі ж непрыхаванымі ўдзячнасцю і павагай прамаўляе імёны сваіх рэдактараў. Тры прозвішчы — як тры апоры журналісцкага лёсу. Першае — Тарасевіч. Уладзімір Севасцьянавіч. Баявы партызан, педагог па адукацыі і прызванні. Гэта ён, будучы рэдактарам ружанскай раёнкі, прыехаў на матацыкле ў глухія Асошнікі, знайшоў хату, дзе жыў юнкор, угаварыў-пераканаў маці адпусціць на працу ў газету. Маці плакала і ўсё не магла зразумець, куды забіраюць сына, баялася невядомасці, ды ўсё ж здалася-згадзілася. Так упершыню за сваё пакуль яшчэ невялічкае, маладое жыццё Пётр Суцько адчуў, што гэта такое — надзейнае мужчынскае плячо. Уладзімір Севасцьянавіч, можна сказаць, замяніў яму бацьку — і наконт жытла паклапаціўся, і абуладкавацца дапамог, і рукапісы папраўляў цярпліва, не крытыкаваў, не злаваўся, а лагодна падказваў, як і што трэба рабіць. Нават юначыя штучкі-выхадкі даравАў — разумеў (можа, і па ўласным вопыце), што маладосць без ветрагонства не можа абысціся. Тут, у ружанскіх «Запаветах Леніна», да драбніц спасцігнуў усю журналісцкую навуку, прайшоў, так бы мовіць, усе ступенькі росту: карэктар, літсупрацоўнік, загадчык

аддзела, адказны сакратар… Далей на шляху гэтай лесвіцы паўстала служба ў Савецкай Арміі. Тры гады ў старажытным Полацку. Але ж і тут заставаўся журналістам, далей адточваў пяро, публікуючы (часта, ледзь не штотыдзень) заметкі і нарысы ў акруговай ваеннай газеце «Во славу Родины». І заставаўся сабою — неабыякавым, цікавым і цікаўным, а з узростам — грамадзянінам. І гэтая грамадзянскасць таксама была гэткаю ж натуральнаю, як і ўсё папярэдняе жыццё. Нездарма ж вельмі хутка стаў камсамольскім лідарам усяго палка. Як камсорг атрымліваў 25 рублёў зарплаты, ды ганарарамі акруговая газета адорвала шчодра. Дык частку грошай перасылаў матулі. А тая не магла нарадавацца сыну. Як з кім загамоніць у вёсцы, не стрымаецца, скажа, маўляў, от, вы сваім дзецям усё пасылачкі ў горад, а мой сынок сам мне грошы з арміі прысылае; часта — амаль штомесяц. Во якое дзіця ў мяне.

За тры гады пераводаў назбіралася столькі, што не злічыць. А ён іх і не лічыў. Проста радаваўся, што матка, якая ў жыцці ніколі тых грошай не мела, нарэшце здолее прыдбаць хоць самае неабходнае. Нават уяўляў сабе: вось заходзіць яна ў вясковую краму і не баіцца, што грошай на нешта не хопіць, не зіркае са страхам па баках, каб ніхто пра яе беднасць не здагадаўся, не лічыць-пералічвае капейкі, а смела заказвае патрэбную колькасць тавару. Якое ж было яго здзіўленне, калі пасля дэмабілізацыі пераступіў парог роднай хаты, а маці выклала перад ім на стол усе да капейкі ягоныя пераводы разам з квіткамі. Трэба ж, ні рубліка не патраціла, хоць ён ведаў, як цяжка даводзілася. Глядзеў то на акуратныя стосікі (адзін — грошы, а другі — квіткі), то на маці, і раптам гэткая пяшчота агарнула, нават з болем тых кацянят на гарышчы ў кошыку прыгадаў, ажно ледзь стрымліваў слёзы, якія падступілі да самых беражкоў вачэй і вось-вось выйдуць з гэтых беражкоў.

Маці вывела са здранцвення:

— Сынок, за гэтыя грошы купі сабе добры касцюм. У цябе няма ў чым на людзі выйсці. А як застануцца, то і малодшаму брату купі. Ён таксама абнасіўся.

У знак згоды толькі галавою кіўнуў, бо пачуцці спазмаю сціснулі горла. А праз колькі дзён купіў не толькі касцюмы сабе і брату, але і куртку матулі. Яна сварылася, што патра-

цію на яе грошы, ды твар усё роўна свяціўся радасцю. А які шчаслівы быў ён, гледзячы на маці. Тую куртку яна пранасіла немавед колькі год, берагла яе, абы-куды не апранала.

Пакуль служыў, Ружанскі раён знік з карты Беларусі — увайшоў у склад Пружанскага раёна. Не стала і ружанскай рэдакцыі, куды яго да службы ў войску прывёз Севасцьянавіч і з якою паспеў зрадніцца за той непрацяглы, але такі насычаны час.

У пружанскай раёнцы месца не знайшлося, затое знайшлося ў райкаме КПБ. Пра хлопца тут ведалі: адусюль, дзе працаваў, паступалі найлепшыя водгукі, рэкамендацыі. Два гады адпрацаваў інструктарам парткама калгаса-саўгаснага ўпраўлення. Працаваў і марыў пра рэдакцыю, пра журналісцкі лёс. Чыноўніцкія клопаты — не газетныя, хоць і на гэтай пасадзе не сумаваў. А як пазнаёміўся з Аляксандрай, сваёй будучай жонкай, жыццё, як той медаль, павярнулася да яго сваім бліскучым бокам. Ён пакахаў не хуткаспелым каханнем, а па-мужчынску стала, надзейна, бо быў ужо не юнаком — яму споўнілася 28 год. У першае ж спатканне зразумеў, што яна — яго лёс, і яны хутка згулялі камсамольскае вяселле. Канечне, камсамольскае, бо яна ж была камсамольскім лідарам цэлага раёна і ён таксама камсамольскі актывіст.

Калі ў 1965 годзе быў адноўлены Іванаўскі раён, яго кіраўнік Мікуліч набіраў энергічныя, дзеяздольныя кадры. Паступіла прапанова і Аляксандры.

— Я ж замужам, — адказала Шурачка, як яе тады ўсе называлі. Надта ж не хацелася ёй з’язджаць з роднага раёна, дзе столькі паспела зрабіць, займела безліч сяброўак ды сяброў… ды што там, прыкіпела-прырасла і да працы, і да людзей, і да ўсяго, што навокал.

— А муж хто? — спыталі ў Іванаўскім райкаме.

— Журналіст.

— Вой, нам якраз пазарэз патрэбны журналісцкія кадры. Калі раён аднаўляецца, то і газета павінна быць. А мы пакуль толькі рэдактара знайшлі. Вельмі моцны рэдактар. Дык яму і намеснік адпаведны патрэбен. Новы раён трэба ўзнімаць маладымі рукамі, розумам, энергіяй…

Тое ўжо гучала як загад партыі. А яны — партыйныя — загады калі і абмяркоўваюць, дык хіба што на кухні.

Так Пётр Пятровіч з жонкаю Аляксандрай Маркаўнай апынуліся ў Іванаве. З першага нумара газеты ён — намеснік галоўнага рэдактара. Яна — намеснік старшыні райвыканкама. А пасля нараджэння сына Юрыя — старшыня прафсаюзнага камітэта райсельгасхарчу. Ды які старшыня! Усё гарэла стваральным агнём у яе руках. Як, дарэчы, і ў яго руках. Яны аказаліся вартымі адно аднаго. Прынамсі, у працы. І, натуральна, ігралі заўважную ролю ў станаўленні адноўленай адміністратыўнай адзінкі.

У лёсе прагнага да рэальнай справы маладога спецыяліста з'явілася яшчэ адно дарагое імя, яшчэ адзін Рэдактар з вялікай літары — Аляксей Трафімавіч Каўко, цяпер Ганаровы грамадзянін горада Іванава і Іванаўскага раёна. Чалавек самабытны, справядлівы і не без гумару, ён вучыў не толькі творчасці, але і ўменню тактоўна абыходзіцца з людзьмі, заўсёды быў душою любога мерапрыемства.

Тры гады побач з гэтым выдатным чалавекам, чуйным не толькі да слова, але і да людзей, праніклівым, глыбокім, з вострым журналісцкім і пісьменніцкім зрокам — аўтарам шматлікіх баек ды гумарэск, апавяданняў, якія не сыходзілі са старонак рэспубліканскіх літаратурных выданняў, а найперш часопіса «Вожык», праляцелі як адно яркае, захапляльнае — аж дух займала — імгненне. Яно магло доўжыцца і далей, але жыццё, час, а найперш няўрымслівая натура патрабавалі, каб такіх імгненняў было болей, каб яны множыліся і разнастаіліся.

У адзін звычайны дзень, які раптам стаў незвычайным, пазваніў вядомы і тады, і тым больш сёння (на жаль, цяпер ужо пасмяротна) журналіст Андрэй Юдчыц:

— Ёсць прапанова: пасада ўласнага карэспандэнта «Сельскай газеты» (цяпер «Беларуская ніва». — *А. К.*) па Гродзенскай вобласці. Ну як? Прымаеш?

— Не ведаю, — сумеўся ад нечаканай прапановы, хоць унутры адразу ж зацяплілася — гэта ж вельмі аўтарытэтная, уплывовая рэспубліканская газета, дзе працуюць лепшыя журналісты краіны.

— Што значыць — не ведаю, — нібы адчуў той агеньчык добры сябар. — Гэта ж рэспубліканская газета. А пра пасаду ўласнага карэспандэнта марыць кожны сапраўдны журналіст. Якія могуць быць сумненні…

Покуль прыкідваў-разважаў, што ж рабіць, покуль раіўся з жонкаю, якой зноў «свяціла» перамена месца жыхарства, а яна ж ужо і да Іванава прырасла, выклікалі ў ЦК. Размова — усё пра тое ж. Нават не размова, а накіраванне… ну, канечне ж, у «Сельскую газету». Для праверкі, так бы мовіць. Прадстаўленыя матэрыялы рэдактару спадабаліся. Наступны этап — накіраванне ў творчую камандзіроўку на Гродзеншчыну. Паехаў разам з Аляксандрам Акулікам — тады пачынаючым, а сёння вядомым, можна сказаць, хрэстаматыйным журналістам, кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам, адным з першых лаўрэатаў рэспубліканскай прэміі «Залатое пяро». Рэйдаў, а па іх выніках публікацый, арганізавалі столькі, што ў рэдакцыі ўсе здзівіліся: такой пладавітасці ў гісторыі газеты яшчэ не было. Можна было не сумнявацца — ён паўнапраўны член творчага калектыву «Сельскай газеты». Але…

У той час, калі без пяці хвілін «собкор» Пётр Суцько асвойваў прасторы суседняй вобласці, у Іванаве, ды ўжо і на ўзроўні кіраўніцтва вобласці адбывалася наступнае. Як толькі ў райкаме партыі даведаліся, што амаль страцілі кваліфікаванага і перспектыўнага журналіста, адразу ж забілі трывогу. Занепакоіліся і ў абкаме, маўляў, як жа так, у нас саміх дэфіцыт журналістаў, і аддаваць такія кадры!..

Як бач адклікалі ў Брэст і строга прысаромілі: як гэта вы, кіруючая наменклатура рэдакцыі, намеснік рэдактара, дазволілі сабе такую вольнасць — пераводзіцца ў іншую вобласць, ды яшчэ й без дазволу непасрэднага кіраўніцтва. Можна было ў сваё апраўданне сказаць, што ўсё рабіў са згоды і нават па прапанове ЦК. І пад пільным наглядам ЦК. Але не сказаў: самому сорамна стала, што ледзь не здрадзіў роднай вобласці. Зрэшты, тады не думалася, што ён уяўляе сабою нейкую каштоўнасць у маштабах вобласці. Такая думка варухнулася толькі во ў гэтыя дні, калі яго ўшчувалі на ўсіх узроўнях улады вобласці і раёна.

Ужо на наступны дзень па вяртанні з Мінска напісаў заяву ў «Сельскую газету», што згадзіўся заняць пасаду рэдактара аддзела партыйнага жыцця ў Брэсцкай абласной газеце «Заря». Перажываў: па-добраму, трэба было з’ездзіць у сталіцу і ўсё патлумачыць, бо там не надта разумелі, чаму ён раптам адкінуў такую выгодную прапанову і вярнуўся дахаты. Але паехаць не змог — гарэў ад сораму.

Праз два з паловаю гады працы ў абласной газеце апынуўся ў Маскве — у Вышэйшай партыйнай школе. Адзіны беларус у групе — і… стараста. Праўда, вучыцца тут выпала ўсяго дзевяць месяцаў. За гэты час жанчына паспявае нарадзіць новае жыццё. Нарадзіў і ён новае жыццё. Гэтае жыццё — рэдактарскае. Так сталася, што галоўны рэдактар «Зари» Васіль Каленчыц па рашэнні таго ж ЦК Кампартыі Беларусі павінен быў перабрацца ў сталіцу — курыраваць увесь рэспубліканскі друк. А яму, Пятру Пятровічу, было прапанавана заняць адказнейшую ў маштабах вобласці пасаду кіраўніка вядучай газеты вобласці.

Дзень 13 верасня 1972 года на ўсё жыццё застаўся галоўнай датай у журналісцкай біяграфіі. Помніць яго да драбніц. Нават стан душы, унутранае хваляванне настолькі свежыя ў памяці, нібы ўсё адбывалася ўчора. Хваляванне сапраўды было такое, што параўнаць яго можна хіба што з цунамі. Дый як іначай: рэдакцыю яму перадаваў сам Каленчыц. О, Васіль Аляксандравіч — кіраўнік высокага палёту. Праніклівы, разважлівы, эрудзіраваны, спагадлівы… І да ўсяго — дзяржаўнік якіх пашукаць. Ён карыстаўся безумоўным аўтарытэтам у кіраўніцтве вобласці і нават рэспублікі. А для Пятра Суцько ён стаў трэцім Рэдактарам з вялікай літары. Ад яго пераймаў культуру зносін з людзьмі, здольнасць у поўнай меры валодаць праблемай, пастаянна знаходзіцца ў пошуку навізны. О, як здзіўляў ён сваёй эрудыцыяй, адукаванасцю. У ім дзіўным чынам арганічна спалучаліся жорсткая патрабавальнасць рэдактара і невымерная чалавечая дабрыня. Дзякуючы яму спазнаў і такую мудрасць жыцця: аказваецца, уменне паважаць людзей — гэта такі ж, ды нават большы, талент, як і ўменне тварыць.

Невыпадкова менавіта яму прапанавалі ўзначаліць сектар друку ЦК КПБ. Інакш кажучы, даверылі ўвесь перыядычны друк краіны.

Давер той Васіль Каленчыц апраўдаў напоўніцу, у чым ніхто не сумняваўся. А яму, журналісту-раёншчыку з невялічкім стажам работы ў абласной газеце, трэба апраўдваць давер свайго папярэдніка, калектыву, чытачоў, кіраўніцтва вобласці… Дзякуй Шурачцы, мілай Аляксандры Маркаўне, якая ў Іванаве падарыла яму сына Юру і цяпер, падчас пера-

езду ў Брэст, знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку. Яна тады сказала: «Я разумею, што праца ў “Зари” патрабуе поўнай самааддачы, што на сям’ю ў цябе наўрад ці будзе цяпер час, таму прашу не хваляваццa за хатнія справы — я іх бяру на сябе, усе, якія ёсць». Ён таксама разумеў, што на новай пасадзе часу на хатнія справы, на сям’ю ў яго не будзе, ва ўсякім выпадку, першыя гады, таму з удзячнасцю выслухаў жонку і належным чынам ацаніў яе ахвярнасць. А і сапраўды ж ахвярнасць: з яе здольнасцямі арганізатара, кіраўніка, ды ўжо і з аўтарытэтам, імем, можна было вельмі хутка і без асаблівых высілкаў зрабіць кар’еру ў абласным цэнтры. Не, яна ахвяравала такую магчымасць яму. І ён з галавою кінуўся ў акіян газетных спраў. Гэты акіян сапраўды аказаўся бяздонным і бяскрайнім. Мяркуючы па тым, што Васіль Аляксандравіч раз-пораз тэлефанаваў з Мінска і падхвальваў, маўляў, малайчына, добра ў цябе ўсё атрымліваецца, ён і сапраўды нікога не падвёў, дастойна працягваў справу свайго ўзорнапаказальнага папярэдніка.

Тыраж газеты рос і хутка перасягнуў сто тысяч экзэмпляраў. Перыядычнасць — пяць разоў на тыдзень. У штаце такі моцны журналісцкі корпус, што любая рэспубліканская газета пазайздросціла б. Старонкі дыхаюць жыццём, неабыякавасцю, майстэрствам… Прыбытак такі, што адных толькі падаткаў плацілі ў бюджэт 300 тысяч рублёў у год. Тых, савецкіх, важкіх рублёў. Неўзабаве газета ўзнагароджваецца ордэнам «Дружба народаў». Заслужаным ордэнам: разам з тагачасным начальнікам абласнога камітэта па друку Георгіем Тамашэвічам выпрацавалі інтэрнацыянальную палітыку газеты і, натуральна, вызначылі адпаведную тэматыку; адшукалі ў сябе ў вобласці прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і расказалі пра іх. Гэтая справа аказалася вельмі няпростай: па-першае, героі павінны быць адметныя, дый, па шчырасці, станоўчыя, пажадана перадавікі або хаця б добрасумленныя працаўнікі; па-другое, некаторыя дыяспары аказаліся настолькі малалікімі, што праекту пагражаў зрыў. Напрыклад, таджыкаў у вобласці наогул не аказалася. Тады знайшлі салдата — выдатніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Так і жылі — у пастаянным пошуку новых цікавых тэм, герояў, форм падачы матэрыялу… А напрыкан-

цы 1970-х вырашылі ўзвесці новы будынак рэдакцыі, бо дагэтуль туліліся ў прыстасаваным цеснаватым аднапавярховіку па вуліцы Камсамольскай. Абралі выгоднае месца ў цэнтры горада каля так званага «кобрынскага моста» і аўтобуснага прыпынку МОПРа. З гадамі, ужо ў постсавецкі час, гэты мост падзяліў цэнтральную вуліцу горада на дзве: усходняя яе палова так і засталася Маскоўскай, а заходняя, якая прадоўжылася да яшчэ адной цэнтральнай вуліцы — Леніна, займела імя Пятра Міронавіча Машэрава, які пакінуў яркі след у гісторыі Беларусі і непасрэдна Брэстчыны. Будаўніцтва доўжылася тры гады і завяршылася ў 1982-м — такой грандыёзнай падзеяй было пазначана дзесяцігоддзе рэдактарскай працы Пятра Суцько. Пасля будаўнікоў журналісты самі прыбіралі смецце, афармлялі ўнутраны інтэр’ер на свой густ і поўныя ідэй ды творчага імпэту перавозілі ўсё рэдакцыйнае начынне ў новыя кабінеты. То было сапраўды вялікае перасяленне. Вельмі сімвалічна, што знешне сяміпавярховы будынак меў форму кнігі. Ён і цяпер выглядае сучасным. «Заря» дала прытулак абласной друкарні, яшчэ адной абласной газеце «Народная трыбуна», раённай «Заре над Бугом», выдавецтву «Альтэрнатыва», абласным арганізацыям Саюза пісьменнікаў Беларусі ды Беларускага саюза журналістаў, уласным карэспандэнтам рэспубліканскіх газет…

І зноў — размераная, напружаная праца, новыя імёны, знаходкі, здзяйсненні, перамогі, узнагароды… Пётр Пятровіч тры скліканні запар — член праўлення Саюза журналістаў СССР. І прадстаўляў ён тут усю Беларусь. Яго аўтарытэт перасягнуў межы не толькі вобласці, але ўжо і рэспублікі. Ды нават Савецкага Саюза, калі ўлічыць, што ў 42-гадовым узросце ўжо прадстаўляў краіну на чарговай сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый у Нью-Ёрку.

Так жыў у напружанай працы, усяго сябе аддаваў справе (добра — любімай справе), здавалася, дзень забірае апошнія сілы, але назаўтра яны зноў знаходзіліся, і нават не ў галаве было, што нешта яшчэ можа быць цяжэйшым і, ведама ж, цікавейшым за тое, што ён робіць. Але… Зноў гэтае злавеснае «але». Гэтым разам дык і зусім бязлітаснае.

Адным словам, настаді часы, калі ўся гэтая перазагружанасць справамі падалася нечым лёгкім і простым. Змяніўся

свет, і ў гэтым новым свеце трэба было неяк вызначацца. Не, не ў сэнсе прыярытэтаў — тут усё зразумела: інтарэсы чытачоў, дзяржавы і газеты павінны быць адзіным непадзельным цэлым. Тут саму газету ўтрымаць бы. Пасля развалу КПСС гэтая праблема паўстала ва ўсёй сваёй сур’ёзнасці. На пячатцы пазначана: орган абкама КПБ. А ўжо ні абкама, ні КПБ, ні КПСС. І ніхто ва ўладзе не можа хоць нешта пэўнае сказаць, растлумачыць, памагчы. Між тым газету трэба выпускаць сёння, і пячатка таксама павінна быць сёння. Новая. Але якая? І вось ужо ў руках кілішак. Паставіў на паперу і абвёў алоўкам вакол донца. Адняў. Памер адпавядаў памеру пячаткі. Падумаў: як жа дзіўна ўсё дзеецца, як у сне. І ўсё ж гэта не сон. Вось ён — круг, а ў ім з’явяцца словы, іншыя, не тыя, што былі на былой пячатцы. І яны паяўляюцца. Ён выводзіць іх уласнаю рукою. Адно што герб тут ужо адсутнічае. А назаўтра ўся гэтая рукатворчасць увасобіцца ў афіцыйнае пацверджанне легітымнасці прадпрыемства. Так, самага што ні ёсць сапраўднага прадпрыемства пад назваю «Заря». Што цікава, гэтая пячатка дзейнічае і пасюль.

А Пётр Пятровіч падрахоўвае ўсё зробленае і як бы між іншым прамаўляе:

— Трыццаць год чатыры месяцы і сем дзён…

Ускідваю запытальна вочы.

— Мой рэдактарскі стаж у газеце «Заря» — трыццаць год чатыры месяцы і сем дзён.

— А ўвесь стаж у газеце?

— Сорак два гады.

— А ў журналістыцы?

— Пяцьдзясят сем. Гэта калі лічыць ад першай заметкі.

А адкуль жа яшчэ, Пётр Пятровіч! Вы ж выступілі як запраўскі журналіст! І ўспрынялі вас тады як журналіста, дарма што былі школьнікам…

# ДЗЕД І ЎНУК

Каля старога чалавека ў заваленай жалезам, драўлянымі брусамі і кавальскімі прыладамі кузні стаіць малы і прагна сочыць учэпістымі вачыма, як мяняецца пад ударамі молата форма распаленага ў горне дабяла металічнага прута.

— Што я раблю? — перапытвае дзед. — Звера на калёсах.

— Ог-го, — хлопчык прысвіствае і пачынае ўяўляць сабе то мядзведзя, то лісу, якія ляцяць з горкі гэтак шпарка, не ўсачыць за імі. А замест ног у іх — невялічкія драўляныя колы. Малога распірае гонар за дзеда, які ўсё ўмее і ўсё ў яго атрымліваецца як найлепш: і ступы, і наждакі, і прасніцы з механічным пасам, і мэбля, і механічныя маслабойкі, і плугі, і бароны… Таму хлопчык і не сумняваецца: калі наважыўся дзед зрабіць звера на калёсах, дык абавязкова зробіць.

— А ён не страшны будзе?

— Не, унучак, ён добры будзе. Памагацьме нам араць і баранаваць поле, вазіць дровы.

— Ог-го, мусіць, ты каня робіш.

— Каня-каня, унучак. Толькі жалезнага.

Малы выбягае на вуліцу, аднак гульні здаюцца нецікавымі, хочацца туды, дзе ствараецца таямніца. І ён вяртаецца, прымошчваецца ў куточку ды назірае, як натхнёна шчыруе стары.

Неўзабаве работа перакідваецца на вуліцу, бо ў кузні ўжо не хапае месца. Паяўляюцца калёсы. На іх ставіцца нешта вялізнае, падобнае на…

— Гэта ж млын, дзеду, — не верыць сваім вачам малы. — А ты казаў, што звера робіш.

— Не, унучак, не млын гэта, а конь. Ён яшчэ павозіць цябе.

Малога такі адказ цалкам задавальняе, і ён яшчэ з большай нецярплівасцю чакае таго моманту, калі можна будзе праехацца на дзіва-кані. Але стаяць надакучвае, і ён дастае са схованкі стрэльбу, якая страляе каменьчыкамі і якую таксама змайстраваў дзед. Цаляе з яе ў яблыкі ды ў вераб'ёў. А як з'явіўся на падворку бацька, вырашыў пажартаваць: стрэльнуў з-за вугла, і якраз у лоб той каменьчык патрапіў. Мусіць, забалела, бо пасля гэтага стрэльба апынулася ў печы, ператварылася ў попел.

Тым часам дзед ужо рыхтаваў свайго каня да першага, пробнага выезду.

…Усё гэта адбывалася напрыканцы 1950-х на хутары паблізу вёскі Трудавая. Хлопчыка звалі Іванам, як і дзеда. Іванам Адамавічам Нагурным. Цяпер на Іванаўшчыне яго мала хто не ведае, бо доўгі час кіраваў мясцовай друкарняй. А тады… Падзеі разгортваліся нежартоўныя.

Драўляны конь нарэшце гуртам вяскоўцаў быў выцягнуты за ваколіцу. Ён дужа падобны быў на вятрак. Над вялізнымі драўлянымі коламі ўзвышаліся пяціметровыя лопасці-крылы. На пляцоўцы пад імі дзед паварушыў рычагамі, крылы варухнуліся, закруціліся ўсё хутчэй і хутчэй, і ўся гэтая драўляная пабудова паехала-пакацілася па купчастым дзірване. Дзед зноў варухнуў рычагом, і вятрак спыніўся, а пасля даў задні ход. Людзі ахнулі. А найбольш радаваўся ды здзіўляўся хлопчык Іван. Калі ж пасля дзед пасадзіў яго побач, дык шчасце, здавалася, узносіла яго да нябёсаў. Пазней, калі стары выязджаў з плугамі ў поле, рабочыя суседняга торфапрадпрыемства «Агдэмер» кідалі працу і доўга назіралі, як вятрак пераварочвае плугам пласты зямлі, пакідаючы пасля сябе доўгую чорную стужку.

…Ішлі гады. Не стала дарагога чалавека. Трактар-вятрак ператварыўся ў рэліквію, а пасля ў адзін толькі ўспамін. Але засталося галоўнае: унук Іван пераняў ад дзеда ў спадчыну неадольную прагу да вось такой — тэхнічнай — творчасці. Толькі з жалязякамі і бавіўся. А як падрос, паступіў у бабруйскае ДПТВ-73, якое рыхтавала спецыялістаў бытавога абслу-

гоўвання насельніцтва. Прыкладна ў той жа час (ужо меў ад нараджэння дзевятнаццаць гадоў) змайстраваў першы свой трактар. Ведама, не драўляны, а больш сучасны, хоць і на трох колах. Пасля перарабіў яго на чатырохколавы. Праз некаторы час перайначваў яшчэ і яшчэ, дадаваў новыя механізмы. Апошні, ужо сапраўдны, нечым падобны да Т-25, трактар — шосты на яго рахунку. «З канвеера» сышоў у 1993-м. Гаспадару і яго суседзям, сябрам дапамагае ён абрабляць бульбу, вазіць грузы…

Бывала, прывязе некаму з поля ўраджай, а чалавек і цікавіцца, як ён такога жвавага жэўжыка скляпаў. І тады Іван Адамавіч пачынае распавядаць пра залатыя рукі свайго дзеда, пра тое, як сам майстраваў трактар, як завіхаўся — ужо будучы дырэктарам друкарні — доўгімі зімовымі вечарамі ва ўласным гаражы: зварваў, скручваў, кляпаў за зачыненымі дзвярмі. Гэтак цэлыя два гады тварыў. Прыйдзе з друкарні, перакусіць — і ў гараж. І жонка нічога супраць не мела. Наадварот, падахвочвала. Ёй самой падабалася мужава захапленне. А цяпер тым больш не нарадуецца. Самаробны трактар стаў найлепшым памочнікам у гаспадарцы. І з выгляду нішто сабе. А пачаткам быў той драўляны конь-вятрак. Добрую службу ён саслужыў нашчадку.

# ЖАНОЧЫЯ ТРАГЕДЫІ

*Ананімны трыпціх*

**Без надзеі**

У іх таксама было каханне… Усім на зайздрасць.

Ён — высокі, плячысты, энергічны і ўпэўнены ў сабе мацак. Да таго ж прыгажун, блакітнавокі бландзін. Гэта праўда, што каханне адбірае розум.

Яна — маленькая, кволая, нібы сцяблінка. Праўда, умеючы з густам апранацца і карыстацца касметыкай, выглядае досыць прывабнай. Дый, кажуць, інтэлектам аказалася вышэй за свайго абранніка. Гэтымі якасцямі, хутчэй за ўсё, і прывабіла юнака. Тады яшчэ юнака…Упэўненага ў сабе «дэндзі», за якім пачувала сябе як за каменнай сцяной. Божа, як даўно гэта было. З дзесяці пражытых з ім гадоў першая палова здаецца шчаслівым імгненнем, другая — сумнай бясконцасцю.

На жаль, абставіны не дазваляюць назваць сапраўдныя імёны герояў расповеду. Таму што яны рэальна існуюць. Яна пражывае ў невялічкім палескім гарадку, ён цяпер — за кратамі. З пяцярых ВІЧ-інфіцыраваных — жыхароў гэтага ж райцэнтра — яна адзіная, хто адважыўся на гутарку з журналістам. Як высветлілася, усе пяцёра — наркаманы. І заразіліся, вядома ж, шляхам ін’екцый.

Гутарым у кабінеце. Мінула дзесяць хвілін, як яе выпадкова знайшлі ў прыёмнай адной з арганізацый райцэнтра (прыйшла ўладкоўвацца сюды на працу). Хоць паселі за столікам насупраць адно аднаго, у вочы субяседніцы так і не выпала зазірнуць. Вочы свае яна ўпарта хавала. Затое адказвала

шчыра. Праўда, ціхенька (нават дыктафон не ўсе словы схопліваў), схіліўшы галаву гэтак нізка, што стваралася ўражанне, нібы гаворыць пад стол. Адказы нагадвалі споведзь.

— У мяне быў шанц змяніць жыццё, быў. Мы разам з мужам пачалі калоцца. Тады я яшчэ не разумела, наколькі гэта небяспечна. Нам было добра. Мы радаваліся жыццю. Калі б тады, дзесяць год таму, тэлебачанне, радыё, газеты гэтаксама актыўна, ярка, пераканаўча, як цяпер, папярэджвалі моладзь, якая яна небяспечная — наркаманія. Я спрабавала супрацiўляцца. Перастала калоцца. Перанесла страшэнную ломку. Мае пакуты не маглі аблегчыць нават у абласной лячэбніцы. Не знайшлося спецыяліста, які б ведаў, як гэта рабіць. І ўсё ж я кінула. Дамагалася, каб і муж кінуў. Упрошвала, плакала, бегала да яго бацькоў, маліла, каб паўздзейнічалі. Але… Не здолеў ён пераадолець залежнасць.

— Але ж вы, такая кволая, змаглі.

— Можа, таму, што я — нетыповая наркаманка. Нават калі калолася, ува мне не было гэтай залежнасці, я адчувала, што ў любы момант магу кінуць… І сапраўды кінула — літаральна праз паўгода пасля таго як пачала. З таго часу амаль дзесяць год прайшло.

— Наркотыкі ў той час лёгка было здабыць.

— Лягчэй, чым сёння. Варылі з макавай саломкі. А саломку куплялі ў бабуль, якія на сваіх градах мак вырошчвалі. Аднак для атрымання выцяжкі патрабаваліся і яшчэ дзе-якія прэпараты. Карацей кажучы, для прыгатавання дзённай дозы неабходна было долараў дзесяць выкласці.

— Штодня — дзесяць «зялёных». Адкуль такія грошы?

— На гэтую справу наркаману нічога не шкада. Усё прадасць.

На першы погляд, яна не выглядала асуджанай. Але толькі на першы погляд.

— Наркотыкі адабралі ў мяне ўсё. — У голасе адчуваўся надрыў. — Калі мне аб’явілі вынікі аналізу крыві, жыццё страціла ўсялякі сэнс. Адзінае, чаго я хачу: хаця б паспець сыночка на ногі паставіць. Не хочацца верыць, што так усё безнадзейна. СНІД — гэта ж не толькі хвароба, але і ганьба. Не верыцца яшчэ і таму, што адчуваю сябе цалкам здаровай. Вось толькі іншы раз такі адчай ахопіць: колькі ж яшчэ мне пажыць засталося — год, тры гады ці, можа, месяц. Ну, прос-

та сіл няма трываць. У такія хвіліны я цішком, каб ніхто не бачыў, гатую сваё страшнае зелле (мак сама вырошчваю, на градцы; колькі мне яго адной трэба), уводжу невялікую (не больш чым кубік) дозу, гэта значыць роўна столькі, колькі патрэбна, каб пазбавіцца ад невыноснай дэпрэсіі, і хоць на нейкі час дару сабе добры настрой, з задавальненнем раблю хатнія справы…

— Але ж гэтым вы яшчэ больш ускладняеце сваё становішча, набліжаеце той самы дзень, які так хацелі б адтэрмінаваць, — гэта ўжо ўключаецца ў размову ўрач-нарколаг, які таксама прысутнічае ў кабінеце.

— Каму, як не мне, разумець гэта. Але ж… Такой страшнай дэпрэсіі я проста не перажыла б.

— Можа, варта было б паспрабаваць чым-небудзь захапіцца. Па-сапраўднаму, да самазабыцця.

— Спрабавала. Не атрымліваецца.

«Пакінь надзею ўсякі, хто сюды ўваходзіць». Па Дантэ, гэтае выслоўе накрэслена на варотах пекла. Ці не азначаюць апісаныя вышэй падзеі, што пекла наблізілася да нас ушчыльную.

— Сына правяралі?

— Нядаўна атрымала вынікі аналізу. Слава богу, здаровы.

— Гэта муж прыахвоціў вас да наркотыкаў?

Маўчанне.

Людзі, якія ведаюць дзе-якія падрабязнасці жыцця гэтай сям'і, падказалі: «Каб вы толькі ведалі, што гэта ў іх было за каханне. Яна ж багатварыла яго. Яна ператварыла яго ў свайго ідала, выконвала любую яго прыхамаць. Гэта ж не жартачкі — такога прыгажуна адхапіла. Каханне і страх згубіць адзінага і непаўторнага зацьмілі ўсе астатнія пачуцці і інстынкты. Нават інстынкт самазахавання».

Іначай, сама па сабе, яна на тыя наркотыкі і ўвагі не звярнула б. У яе, заўважыў, дастаткова розуму, каб убачыць тую небяспеку, што сыходзіць ад наркатычнага зелля. Прычым небяспеку не толькі асабіста для сябе, але і для грамадства. Падчас гутаркі яна дэманстравала не толькі глыбокае разуменне праблемы, але і заклапочанасць: моладзь (гэтае бесшабашнае, няўрымслівае племя) трэба абавязкова абараніць ад пагібельнага захаплення. Ці ж ёй не ведаць, наколькі яно пагібельнае? Яна і іншае ведае: нават у яе маленькім сельскім райцэнтры

вельмі шмат маладых наркаманаў. Хто-хто, а яна іх вызначае беспамылкова. Па вачах. У гэтым сэнсе афіцыйная статыстыка — усяго толькі бляклае адлюстраванне рэальнай сітуацыі.

Хацелася яшчэ дзе-што распытаць пра мужа. Але стрымаўся. Здавалася, што гэтымі роспытамі толькі развярэджу незагоеную рану і памножу боль сваёй субяседніцы. Шчыра кажучы, тое, як яна паводзіла сябе і што гаварыла, выклікала не толькі жаласлівасць, але і пэўную павагу. Трэба ж, не дэградзіравала, не апусцілася пад цяжарам гора, што абрушылася на яе. Застаецца добрай, клапатлівай матуляй, галоўная мара якой — паспець дзіця на ногі паставіць. А каханне? Падалося, гэтае пачуццё для яе і па сённяшні дзень святое. Няхай сабе яно згубіла яе. Няхай сабе наркотык — усяго толькі зброя. Падумалася, што не толькі ў размове, але і ў думках сваіх яна ні разу ні ў чым не абвінаваціла свайго адзінага. І нікому не дадзена права судзіць, добра гэта ці блага. Паўтаруся: на любое пытанне, якое датычылася мужа, яна адказвала зацятым маўчаннем. Хоць увогуле аказалася досыць камунікабельнай.

— Шукаеце працу? — я памяняў тэму гутаркі.

— Я ўжо доўгі час не працую. Прапановы былі. Розныя. Напрыклад, у краму, прадаўцом. Аднак я не асмельваюся. Тыя, хто работу прадаўца прапаноўвалі, нічога пра маю хваробу не ведалі і вельмі здзіўляліся: чаму гэта я, нідзе не працуючы, адмаўляюся ад сапраўднага падарунка лёсу. Я разумела, што магла б і працаваць, бо СНІД жа перадаецца выключна ін’екцыйным альбо палавым шляхам, але… — яна схіліла галаву яшчэ ніжэй, — сумленне не пусціла.

— Відаць, няпроста сёння знайсці працу.

— Я ўжо шмат арганізацый абышла. Не прабіцца.

— Як жа ўсе гэтыя гады жылі? Без грошай.

— Так і жылі…

— Сюды ўладкоўваецеся з нейкай надзеяй.

— Надзея ёсць. Але вельмі слабая. Буду нешта шукаць, пакуль не знайду. Сын расце. Грошай трэба ўсё больш і больш. Апрануць, абуць, накарміць… Ён у мяне проста абавязаны вырасці шчаслівым, каб пажыць і за сябе, і за сваіх бацькоў. Ён — адзінае, што не дае мне канчаткова апынуцца ў палоне адчаю…

Яна гэтак жа ціхенька, як гаварыла, развіталася і без аніводнага гуку — нібы цень — прычыніла за сабою дзверы,

знікла ў сваім, перакрэсленым бязлітасным лёсам, асабістым жыцці. Мяне, агаломшанага незвычайнай сустрэчай, апаноўвала нейкая ўсеабдымная трывога.

Таго ж дня ў мясцовым аддзеле міліцыі выпала сустрэцца яшчэ і з гэтак званым тыповым наркаманам. Калі яму, высокаму, худому, з вачыма, якія, здаецца, вылузваюцца з арбіт, аб'явілі, хто зайшоў у кабінет (а разам з аўтарам гэтых радкоў тут былі кіраўнікі розных раённых службаў), прысутнасць журналіста ён чамусьці ўспрыняў асабліва непрыязна. Нібы ад кагосьці адбіваючыся, спалохана паўтараў: прычым тут газета, толькі не гэта, толькі не газета, аднак, відаць, упэўніўшыся, што карэспандэнт без фотаапарата, крыху супакоіўся. Праўда, ад яго халоднага позірку яшчэ доўга было не па сабе.

Як высветлілася, у Брэсце (па месцы жыхарства) ён стаіць на ўліку ў наркалагічным дыспансеры. Прыехаў у палескую глыбінку, па яго ж прызнанні, да сяброўкі. А сяброўка, паведамілі ў аддзеле, у мясцовага нарколага «на алоўку». І ўвогуле, у яе там сапраўдны прытон, ацэтонам за кіламетр смярдзіць.

Міліцыянеры прызнаюцца:

— Надакучыў ужо гэты гастралёр. Ездзіць і ездзіць сюды…

У яго ў поліэтыленавым пакеце ахоўнікі парадку знайшлі шпрыц. У кішэні — нож і ключы. Ад ключоў адхрышчваецца, маўляў, падабраў на тратуары.

З выгляду яму пад пяцьдзясят. Усе ахнулі, калі ён назваў сапраўдны свой узрост: 36 год.

Дарэчы, ён пацвердзіў, што наркаманаў сярод моладзі сапраўды вельмі шмат.

Уласна кажучы, таму і шмат, што такія, як гэты канчаткова дэградаваны гастралёр, нібы небяспечны вірус, вольна перамяшчаюцца ў часе і прасторы. Фармальных прычын ізаляваць яго ад грамадства няма. А ізаляваць варта было б. Надта ж дорага плацім мы за свабоду такіх, як ён. А асобныя нашы суграмадзяне і жыццём расплачваюцца.

**Лішняя**

Вось дык супадзенне: у адзін дзень і жаночае свята, і імяніны… 8 сакавіка 2000-га споўніўся 21 год. Вясна зямная і чалавечая. Хто-хто, а Алена Т., юны кандытар Аб'яднання грамадскага харчавання, павінна б радавацца і весяліцца ўдвайне.

Але яна сядзіць насупраць мяне за столікам у сваёй белазапэцканай робе і лье горкія слёзы крыўды і безвыходнасці. Захлынаючыся салёна-пякучай вадкасцю, яна глытае разам са слязьмі словы. Нас акружылі і плачуць разам з дзяўчынай яе калегі-жанчыны.

Аднак жа і свята, нічога не скажаш.

— Памажыце ёй. Яна будзе радая хоць бы самаму маленькаму пакойчыку ў інтэрнаце. Замоўце за яе слова ў газеце. — Жанчыны гамоняць і вядуць журналіста ў невялічкі кандытарскі цэх, паказаць рабочае месца імянінніцы. Тут выраблюяцца булачкі, пернікі, іншае печыва. Гарачыня невыносная. Але і такая праца дзяўчыне ў радасць. Яна не пераборлівая, не распешчаная лёсам.

…Дзесяць год таму, калі Алене было адзінаццаць, памерла яе маці, якая вяла кадры ў адным з калгасаў Іванаўскага раёна і якая перад гэтым нямала бальніц памяняла. Напакутавалася сама, а з ёю і дзецям давялося нясоладка. Бацька, калгасны будаўнік, усё болей у пляшку зазіраў. Якраз перад смерцю матулі яны як мнагадзетная сям'я атрымалі чатырохпакаёвую кватэру. Праўда, радасці было мала. Жыць у ёй засталіся толькі Алена, сястра ды двое братоў. Бацька перасяліўся ў старэнькую хату сваёй маці і з дзецьмі амаль не сустракаўся, махнуў на іх рукой. Пасля яны і кватэры пазбавіліся: брат звольніўся з калгаса.

Алена — самая маладая ў сям'і. Ёй тады споўнілася шаснаццаць. Неяк адзін з братоў (ён ужо займеў уласную сям'ю) сказаў: выбірай, дзе жыць будзеш, са мной ці з бацькам. Яна адказала: толькі не з бацькам.

І пачаліся хаджэнні па пакутах. Алена паступіла ў Брэсцкае гандлёвае вучылішча нумар 223. На вучобу патрабаваліся хоць якія грошы. І ад яе адвярнуліся: самім тых грошай не хапала на жыццё. Было, што і з хаты нявестка выганяла. А калі Алене стукнула васямнаццаць і яна прыгадала брату, што таксама мае права на частку матулінай пенсіі, той нібыта нjęzykродным зрабіўся. Грошы, праўда, хоць са злосцю, але аддаваў.

Дзе толькі яна ні жыла: і ў Драгічынскім раёне, і ў Пінску, і яшчэ невядома дзе. Не раўнуючы як той бомж. А сама ж і разумненькая, і працавітая, і сімпатычная. Вось толькі не даў Бог шчасця. Гады ж якраз такія, што сама весяліцца б, радавацца жыццю.

Нарэшце занеслі Алену жыццёвыя вятры-бураны зноўку на Іванаўшчыну, да старэйшай на тры гады роднай сястры.

— Жыве і жыць баіцца, — назвалі такое існаванне калегі-сяброўкі.

Свайго ж нічога яшчэ не нажыла. Ровар і той просіць у сястры, каб у Іванава на працу паехаць. Восенню ўладкавалася сюды кандытарам. Зарплата невялікая. Праца цяжкая (каля трох тысяч булачак неабходна выпечы за змену), ды яна не скардзіцца, нават радая, што хоць гэткі заробак мае. Ад вёскі да горада дзесяць кіламетраў — добра трэба пакруціць педалямі, каб не спазніцца на пачатак змены. Сяброўкі пытаюцца: чаму такая задыханая. І з трывогаю прыкмячаюць, што пагляд у яе нейкі зацкаваны, нібы хтосьці ўсё жыццё гоніцца за ёю. Яна ж пра свае беды расказваць не любіць. Дахаты нярэдка вяртаецца апоўначы альбо нават пад ранак. Іншы раз у сябровак начуе. Такое здараецца, калі надта стомленая. Альбо мароз. Альбо непагадзь. Дый вяртацца, шчыра кажучы, не надта хочацца, бо нічога добрага яе ў вёсцы не чакае. Сястра ж сама яшчэ маладая, і ёй таксама хочацца пажыць, так бы мовіць, з большым камфортам. У яе, да ўсяго, двое дзетак-малалетак. Дык Алена па магчымасці дапамагае: даглядае іх, прыбірае ў хаце, па гаспадарцы дзе-што робіць. Адносіны да яе тут нібыта і неблагія. Муж сястры, калгасны механізатар — добры і чулы чалавек. Ён разумее дзяўчыну. І ўсё ж пачуваецца яна ў гэтай хаце ўсё роўна лішняй.

У сястры, да ўсяго, і хата невялічкая. Кухня, зала ды спальня. Алену нават не прапісалі тут — жылплошчы не хапае. Так і жыве — непрапісаная. Зноў прыгадалася параўнанне з бамжом. Але ж яна так не падобна да прадстаўнікоў гэтага бяздомнага і бязадраснага племені. Яна прагне нармальнага чалавечага жыцця: хоча працаваць, зарабляць, каб вадзілася свая капейка, мець уласны куточак, добра было б, каб і сваю сям'ю. Яна была б стараннай, клапатлівай жонкай і матуляй. Ды дзе ж ён, той рыцар? Зусім жа адна-адненькая, нібы рабіна пасярод поля. Бацька неяк запрашаў да сябе. Нават і ездзіла да яго. Ды з алкаголікам хіба можна ўжыцца.

8 сакавіка Алену ніхто не павіншаваў ні з жаночым святам, ні з днём нараджэння. А так хацелася свята, што ажно

слёзы градам. Хацелася і сяброўвак на працы чым-небудзь пачаставаць. Але чым? У сястры не возьмеш, а свайго няма.

Як гэта балюча — паўсюль пачуваць сябе лішняй.

* * *

Гэтая сумная замалёвачка ўбачыла свет у нумары «Зари» за 8 красавіка 2000-га. Праз тыдзень ці два ў іванаўскі карпункт газеты патэлефанавалі з Брэста: «Хочам пагаварыць наконт вашага артыкула “Лішняя”». Першае, што прыйшло ў галаву: сваякі, няйначай, хочуць апраўдацца, маўляў, яны добра да дзяўчыны адносяцца. Ужо наважыўся прысараміць іх за тое, што думаюць толькі пра сябе, а на бедную сястру ім напляваць. Але гэта былі зусім чужыя людзі. Як высветлілася, яны прачыталі публікацыю, і ім надта ж прыйшлася даспадобы яе гераіня. Параіўшыся, вырашылі яны пазнаёміць з Аленай пляменніка, які «…не п’е, не курыць, працавіты, адно што занадта сціплы, баіцца падысці да дзяўчыны. Як яны пажэняцца, дык бацькі забяспечаць іх дабротным домам у ваколіцах Брэста». Сустрэўшыся ў адзін з прыездаў у рэдакцыю з цёткаю хлапца, асабіста ўпэўніўся, што гэта простыя, шчырыя, працавітыя, прыстойныя людзі. Каб зрабіць такі вывад, дастаткова было паслухаць сталую жанчыну ды паглядзець на яе спрацаваныя, парэпаныя пальцы. «Калі яна дасць згоду, мы хоць зараз паедзем у Іванава ў сваты». Вярнуўшыся ў свой райцэнтр, на рабочым месцы Алену не застаў. Калегі падказалі, што яна ў бальніцы. Сапраўды, там яе і знайшоў. Аднак прымаць сватоў з Брэста яна наадрэз адмовілася, бо ў яе ёсць хлопец, і яны кахаюць адно аднаго. Па выхадзе яе з бальніцы яны, хутчэй за ўсё, возьмуць шлюб.

Пасля гэтай кароткай размовы гераіню сваёй газетнай публікацыі ніводнага разу не сустракаў і нічога пра яе не чуў. Але часам не-не дый падумаецца: як там яна, ці ўсё ў яе добра…

**Моцная жанчына**

Эльвіра Георгіеўна з тых, пра каго кажуць: усё сама. Прычым, за што б ні бралася, усё ў яе атрымліваецца хоць трошачкі, ды лепей, чым у іншых. І гаспадыня ўсім на зайздрасць, і прыгажуня, і ў кампаніі заўсёды ў цэнтры ўвагі, і на працы да яе ніякіх прэтэнзій (хоць і працы тае — сакратарка

ў маленькай непрыкметнай канторы), і апранаецца стыльна, так, што мужчынскае вока — хочаш не хочаш — чапляецца… Ідэальная, дый годзе.

А вось сямейнае жыццё не ладзіцца. Першы муж сышоўся з іншай жанчынай, другі спіўся і збег, як кажуць у такіх выпадках, у нікуды. Боўтаецца недзе па свеце.

— І чаго ім яшчэ не хапала, — дзівіліся суседкі.

Эльвіра Георгіеўна жыве ў казённым дзвюхкватэрным доме. Гэткім даўгім цагляным бараку, раздзеленым на дзве паловы. Яе палова і дома, і двара выгодна адрознівалася ад сумежнай нават пры беглым аглядзе. Вокны ахайна пафарбаваны ў блакітны колер, за шыбінамі модныя бялюткія цюлі, агеньчыкі ярка квітнеючых вазонаў, клумбы роўненькія, дагледжаныя, без адзінай зялінкі, дворык утульны і чысценькі. Жыллё хоць і не багатае, без дарагой аздобы і мэблі, затое няма нічога лішняга і адчуваецца тонкі густ таго, хто тут гаспадарыць. Сумежная палова — поўная супрацьлегласць гэтай: вокны шэранькія, дворык загрувашчаны ўсялякім патрэбным і непатрэбным друзам, парог складзены з нічым не змацаванай цэглы… Паркан як бы адзін на дзве сям'і, аднак калі тая палова, што належыць Эльвіры Георгіеўне, трохколерная — зялёна-чырвона-белая, дык суседская, мяркуючы па ўсім, фарбы і не нюхала.

Калі адна надта ж спагадлівая суседка незвычайнай, па яе перакананні, жанчыны папрасіла напісаць пра яе як пра нейкі ўзор прадстаўніцы слабой (на самой справе, хутчэй, якраз наадварот) паловы чалавецтва, пры сустрэчы неяк міжволі ўсплыло першапачаткова не запланаванае пытанне пра мужоў. Замест запланаваных «як пасняваеце» і «як вам удаецца».

Эльвіра Георгіеўна нічога пра сябе не ўтойвала.

Ёй нядаўна споўнілася сорак год. Яна выпраменьвае свежасць (што духі ды ўсялякая іншая парфума супраць гэтай натуральнай, прыроднай жаноцкасці!). Кароткая стрыжка, правільныя рысы твару, прыгожыя дагледжаныя рукі, доўгія перламутравыя пазногці, крыху гарэзлівы, легкадумны пагляд… Чамусьці падумалася, што жанчына з такімі вытанчанымі рысамі, прыгожымі вуснамі і пальцамі абавязкова павінна курыць. Яна, аказалася, не курыць і ніколі нават не спрабавала задыміць. У словах яе, праўда, асаблівай вытанчанасці

не знайшоў, аднак гэты недахоп кампенсаваўся выключнай шчырасцю.

— А што тут утойваць, — прастадушна папярэдзіла ўласны адказ, падабраўшы пад сябе вызваленыя з уступцаў ногі і абхапіўшы рукамі калені, ямчэй мосцячыся ў мяккае крэсла. Відаць, прывыкла адчуваць сябе вольна і нязмушана ў любой сітуацыі і з кім заўгодна. Прыезд карэспандэнта яе аніколькі не збянтэжыў — хутчэй пацешыў.

— У свой час хлопцы за мною табунамі хадзілі. Я выбрала самага дужага і гаспадарлівага. Напачатку песціла яго, як дзіця. Адчувала ў сабе столькі энергіі, што, здавалася, здолею сама забяспечыць сям'і бязбеднае існаванне. Маталася ў Польшчу, Расію, мела немалыя грошы. Ездзіць падабалася — нават стома амаль не брала. З працы адпускалі (начальству з кожнага рэйса прэзенты прывозіла). Муж даглядаў дзяцей. У нас іх двое. Цяпер ужо самастойныя. Ён, бачыла, сумаваў па рабоце, хацеў уладкавацца ў будаўнічую арганізацыю, ды я не пусціла. І пазней таксама не пускала. Заробкі ж там ніякія. Хаця… Мо і не трэба было трымаць. Дзеці ж ужо былі старшакласнікамі. Ды такія сур'ёзныя, самастойныя. Але мне падабалася, калі ён сустракаў мяне свежанькай і шчаслівай, калі ў доме парадак і не трэба з дарогі яшчэ нейкі час стаяць каля пліты. Пакуль пераапранешся, на стале ўжо і першае, і другое, і трэцяе… Усё гарачае, духмянае, апетытнае. І ніякай табе мітусні ды тузаніны.

Дзякуючы сваёй разваротлівасці Эльвіра Георгіеўна стварыла для сям'і адносны дастатак. Мужа апранала з густам. А густ у яе — дай бог кожнай жанчыне. З кожнай паездкі што-небудзь ды прывязе. Ён апране абноўку, а яна сядзіць і цешыцца. Потым прыгнала патрыманы «Мерседэс», аб'явіла ўрачыста: «Ну, вось, цяпер будзеш катаць нас». А ён у адказ: «Не, Элачка, будзеш ты сама катацца. Бывай здарова…» І пайшоў у чым стаяў. Нічога больш з сабою не прыхапіў.

— А калі праз некалькі месяцаў, восенню, па вопратку прыйшоў, я не пазнала яго: асунуўся, пацямнеў, агрубеў увесь, нават голас памяняўся, ці мо проста ахрып. Кажу: вяртайся, паглядзі, на каго ты стаў падобны — на бамжа нейкага. А ён: «Я ж працую. Дамы стаўлю. Цяжка, ды мне падабаецца». Пакінуў дзецям падарункі і знік. Нават не

пагаманілі толкам. А неўзабаве — неяк надзіва хутка — пабудаваў дом і сабе (пазыку ў банку ўзяць пашчасціла), перасяліўся з рабочага інтэрната. У новае жытло прывёў новую жонку. Кажуць, яна кроку не зробіць без яго згоды. Зусім нейкая несамастойная. Называецца, знайшоў на сваю шыю хамут. Цяпер яму трэба дбаць і пра работу, і пра хатнія справы. Ніяк не датумкаю, навошта яму ўсё гэта, навошта было мяняць бесклапотнае і сытае жыццё на клопатнае і, напэўна ж, калі не паўгалоднае, дык усё адно беднае. Я ж бачу, прыкмячаю.

Я, у сваю чаргу, здзівіўся, як гэта мая субяседніца не можа зразумець той простай ісціны, што яе першаму мужу не хапала побач з ёю галоўнага: пачувацца гаспадаром. Выказаў гэты свой досвед. Яна пагадзілася, але па-свойму: маўляў, гэта ўсё тэорыя. А жыццё складваецца так, як складваецца… Сышоў муж і сышоў. Што ўжо тут. Займела новага. А то ў хаце ўсё ёсць, а мужа… няма. Гэты, другі, любіў закінуць за каўнер, але, вырашыла, абы жывая душа ў доме. Затое чалавек ён мяккі, шчыры. Хто сёння не п’е. Такіх ва ўсім горадзе па пальцах можна пералічыць. Так што хай сабе… Яе цярпення на дваіх такіх хопіць.

— Ведаеце, я яго за ўсё сумеснае жыццё (няхай сабе і кароткім было яно) ні разу не папракнула. Бывала, прывядуць ці прынясуць яго сябры да дзвярэй, а ён і парога адужаць не мае сілы. Хапаю тады пад пахі (балазе лёгенькі быў, не тое што першы), цягну да канапы, распранаю, накрываю: спі… Раніцаю пакармлю. Пра ўчарашняе — ані слова. Ён дзівіцца: былая жонка даўно адлупцавала б. Доўга не мог звыкнуцца. Аднойчы нават сказаў: насварылася б хоць, ці што, а то на душы скразнякі ад гэтага твайго маўчання; нібыта памёр і ў рай трапіў. Я толькі пасмяялася… А як я яго ад лахманоў адвучвала, — яна ажно ў ладкі пляснула, паднесла складзеныя далонькі да вуснаў. — Ён жа прыйшоў да мяне ў засаленай сіняй кашулі з працёртым да дзірак каўняром, нейкім шэрым, заплямленым швэдары, гэткіх жа шэрых залатаных штанах і ўшчэнт разбітых растоптах. У першы ж дзень купілі яму абноўку, памыўся, пагаліўся, на чалавека стаў падобны, а на світанні, пакуль спаў, усё яго рыззё я спаліла ў грубцы. Разнерваваўся, як даведаўся. Да новай адзежы доўга не мог

прывыкнуць: то цісне, то колецца… Ды я стаяла на сваім: нікуды з хаты ў брудным не выпускала. Прыйдзе напіты — распрану, памыю ўсё… Ён у мяне з іголачкі хадзіў. Злаваўся, пляваўся, але хадзіў. А ведаеце, што яго злавала найбольш, — яна хавала ў далонькі свой асляпляльны смех. — Калі я ўсаджвала свайго суджанага перад тэлевізарам у мяккі фатэль. Ён тэлевізар увогуле цярпець не мог, называў яго скрынкаю. Рэдкі фільм захапляў яго ўвагу. Вы, можа, смяяцца будзеце, але, разумееце, калі я чакала каго-небудзь у госці, мне страшэнна хацелася, каб госць, зазірнуўшы ў дом, абавязкова ўбачыў такую карціну: у пакоях парадак і чысціня, у зале ў мяккім фатэлі перад тэлевізарам муж (найлепей, каб з газеткаю ў руках, але газеты ён, даруйце, таксама не чытае) і, да ўсяго, каб ён яшчэ жаваў нешта альбо піў чай… Такой карціне, без сумнення, кожны пазайздросціць. Гэткая сямейная ідылія. Уяўляеце?

Я ўявіў сабе іншае:

— Атрымліваецца, вам спатрэбіўся муж для мэблі.

Яна не зразумела рэплікі. А паўтараць яе не мела сэнсу — не зразумела б, калі б і сто разоў паўтарыў.

— Я ж не прымушала яго працаваць. Сядзі сабе, цешся, як той кот. Сама ўсю работу цягну.

Нарэшце я задаў ёй даўно прыгатаванае, але цяпер ужо як бы і не актуальнае пытанне:

— Як паспяваеце?

— Як? Вельмі проста. Я ж па гараскопу — Блізняты. А гэта значыць, што магу і жыць, і працаваць за дваіх. Так яно і ёсць на самой справе. Я не магу спакойна сядзець, калі ў мяне дзесьці непарадак. Гэта ўжо ў крыві. У мяне і матка, і бабуля такімі акуратысткамі былі, што мне да іх вой як далёка.

Другі муж пажыў у Эльвіры Георгіеўны каля года. Пасля раптам знік; яна нават не ведае, у якім напрамку.

Трэцяга мужа «браць» пабойваецца. Раптам і ён уцячэ. Людзі тады ўжо пачнуць касавурыцца на яе падазрона, маўляў, калі ўсе ад яе ўцякаюць, значыць, яна сама вінаватая. Таму лепей устрымацца. Мужыкі — народ капрызны, непрадказальны. Ніколі не ведаеш, чаго ад іх чакаць. Што-што, а гэта Эльвіра Георгіеўна ведае не па чутках. Сапраўдныя ж цяплічныя ўмовы стварала сваім абраннікам. Чаго ім яшчэ трэба?

***«150 пісьменніцкіх радкоў»** — так называецца аўтарская рубрыка, якая, пачынаючы з 1 верасня 2007 года, па суботах выходзіла ў самай масавай на Брэстчыне газеце «Заря». Газета рускамоўная — нататкі ж падаваліся на мове арыгінала, па-беларуску. Чытач успрыняў яе прыхільна, пра што сведчыць вялікая колькасць станоўчых водгукаў.*

*Для гэтай кнігі адабраны тыя з апублікаваных нататак, якія найбольш дапасоўваюцца да яе агульнай канцэпцыі.*

**НАРАДЖЭННЕ Ў СТАЛАСЦІ**

Мы нарадзіліся ў сваёй Беларусі, нацыянальнасць бацькоў — беларусы, па дасягненні паўналецця мы — грамадзяне Рэспублікі Беларусь… І пры ўсім гэтым усё ідзём і ідзём да ўсведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці. І даходзім ажно ў сталым узросце (калі яшчэ даходзім), прычым кожны па-свойму. Зрэшты, па-свойму — не значыць, што па-рознаму.

У абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў чалавек ва ўзросце каля сарака год прынёс свае творы. Некалькі кароценькіх напісана па-беларуску, астатнія — абсалютная большасць — па-руску. Беглае знаёмства паказала: аўтар — не філолаг, не ведае як след ні рускай, ні беларускай моў; а вось адчуванне мовы ёсць, таму яна (найперш беларуская) падалася блізкаю да літаратурнай. Здзівіла немалая колькасць паланізмаў. Як высветлілася, малады чалавек працаваў нейкі час перакладчыкам з польскай, а зараз, ужо даўно, — мытнік.

— Па-беларуску ў вас лепш атрымліваецца, ёсць шанс апублікавацца ў часопісе, кнігу выдаць; а руская мова нейкая рафініраваная, бясколерная ў тэкстах, — сказаў яму пры наступнай сустрэчы тое, што думаў.

Пасля непрацяглай гаворкі ён папрасіў рукапісы:

— Хачу перастварыць іх па-беларуску.

— Такі вялікі аб'ём? — здзівіўся я.

— Асілю.

Я хмыкнуў, уражаны яго намерам, і вярнуў рукапісы. Рускамоўныя. Пакуль падрыхтаваў да друку невялічкую гумарэску і дачакаўся яе выхаду на старонках «Зари» пад загалоўкам «Кампраміс», ён пераклаў творы.

Літаральна на днях дачытаў яго аповесць «Сяліба» і вось ужо каторы дзень пачуваюся чалавекам, які зрабіў адкрыццё. Вось жа яна, тая самая нацыянальная самаідэнтыфікацыя беларуса, абсалютная і па-мастацку дасканалая. Яе шукаюць многія мастакі, але знаходзяць адзінкі. А тут — чалавек, які пачаў пісаць па-беларуску на чацвёртым дзясятку і робіць гэта пакуль што навобмацак.

А пра што твор? Ды звычайны лёс звычайнага беларуса, які яшчэ да Першай сусветнай вайны быў на заробках у Амерыцы, пасля, падчас вайны, у бежанцах у Расіі, затым пад Польшчаю, зноў перажыў вайну, пасля вайны быў вывезены ў Сібір, вярнуўся дахаты неймавернымі намаганнямі жонкі, урэшце, пражыўшы 99 год і 9 месяцаў, ціха і без пакут, седзячы на сваім любімым услоне на роднай сялібе, адышоў у іншы свет.

І цяпер яшчэ знаходжуся пад уражаннем таго, з якім імпэтам схапіўся аўтар перастварыць напісанае па-беларуску. Ды як зрабіў гэта!

Аказваецца, вось якім яно бывае — нараджэнне беларуса! І тут як апякло: а сам ці не гэтак жа нараджаўся? Пасля службы ў войску прынёс вершы ў рэдакцыю іванаўскай раёнкі, а там якраз Мікола Купрэеў — знаны пісьменнік. Прачытаў ён сшытачак і патлумачыў, чаму менавіта па-беларуску змагу нешта зрабіць у слоўнай творчасці.

Агледзеўся: ды такіх прыкладаў процьма. Нават славутыя нашы нацыянальныя геніі Янка Купала ды Якуб Колас таксама некалі, праўда, у зусім юным узросце, пачыналі пісаць першы на польскай, другі — на рускай мове.

Такая ўжо, відаць, доля ў беларуса — нараджацца ў сталасці.

## УСЁ ВАКОЛ — ЛІТАРАТУРА

Дэмабілізаваўшыся з войска, на другі ж дзень цывільнага жыцця вырушыў да Яе.

Мы ніводнага разу не бачыліся, але нешта ўжо паяднала нас. Выпадкова займеўшы Яе адрас на другім годзе службы, узяў ды і напісаў дзяўчыне. Яна адказала. У наступным лісце змясціў вершык — да гэтага нікому і не паказваў сваё крэмзанне, а тут… Чаму якраз Ёй першай? Як кажуць: напэўна, так трэба было. Яе адказам на нязграбную паэтычную спробу быў малюнак: вясковае акно, з якога бачна чорная хмара, маланка ды лісточак на адзінокай галінцы. Усё як у вершы: «Лісточак рве віхор-свавольнік / З галінкі тонкай у акне… / Я за акном, як той нявольнік — / Пад хвалі б твар падставіць мне». З кожным новым лістом малюнкаў у мяне дадавалася. Прыемна было на душы ад таго, што нехта, зусім незнаёмы, гэтак блізка прымае створанае табою, што вось мы далёка і не ведаем адно аднаго і ў той жа час мы разам глядзім на тую ж навальніцу з аднаго акна.

Яна пісала, што жыве на хутары недалёка ад райцэнтра. Растлумачыла ў апошнім перад маёй дэмабілізацыяй лісце, як можна дабрацца да сялібы, нават намалявала яе.

Па дарозе лёгка думалася пра перапіску, пра сустрэчу, якая павінна быць, напэўна, нейкай незвычайнай. Мы ж упершыню пабачымся, а ўжо нібыта і родныя.

Вунь і хата з белымі вугламі ды белымі аканіцамі ў глыбіні двара. Прастую да яе па поплаве. Суцэльная паэзія ва ўсім, што дзеецца, што ўнутры і перад вачыма: грэбелька, буслянка, усё вясковае...

Каля хаты Яе брат і сястра. Дапытліва так углядаюцца ў госця. Паяўляецца Яна і запрашае ў хату. А там невялічкае застолле. Якраз і госць дарэчы.

Прыемна ўчарашняму салдату апынуцца сярод разважлівых дзядзькоў-сялян. Гэта аднавясковец купіў у гаспадара карову; яна дужа спадабалася чалавеку, і той прынёс падзяку — магарыч.

Гутарка нагадвае паэзію Коласа — гэткая яна па-вясковаму каларытная, цёплая, роздумная...

Пасля ўжо даведаўся, што гаспадар у маладосці пісаў жонцы з фронту вершаваныя пісьмы, а яго дачка, да якой

прыехаў, сабрала дома агромністую бібліятэку беларускай паэзіі, не прапускае ў райцэнтраўскай кнігарні ніводнай паэтычнай навінкі.

Вось табе і жыццё — суцэльная літаратура. І не толькі паэзія, але і проза: у той жа дзень Яна прызналася, што выходзіць замуж за хлопца, з якім даўно сябруе, ужо і дата вяселля прызначана.

…Вяселле адбылося, адно што на некалькі месяцаў пазней. Мы ўжо больш чым дваццаць год разам. Ужо і дзеці выраслі. Абмяркоўваем з імі навінкі сучаснай літаратуры.

Люблю прыязджаць на хутар у любую пару года. Так і не перастаў ён быць для мяне літаратурай — увесь: з бусламі на буслянцы каля хаты, з парослым дрэвамі ды хмызам узгоркам за хатай, з сенакосам, з усім, што перад вачыма і ў вачах.

Пазавіхаўшыся з касой альбо сякерай, сядаю ў хаце за стол і пішу. І чую, як цешча ў кухні кажа жонцы, нібы супакойвае:

— Ай, нічога, што піша, але ж не п’е.

Ну, хіба ж гэта не літаратура!?

## ПРА ШЛЯХЕТНАСЦЬ І ЛАПЦЮЖНАСЦЬ

Неяк, памятаю, запісалася, як падалося, нечакана арыгінальная думка: «Біяграфія: так было, але гэта няпраўда. Мастацкі твор: так не было, але гэта праўда». Сэнс яе толькі на першы погляд мудрагелісты, а па сутнасці просты: напрыклад, жыццяпіс заможнага берасцейскага шляхцюка XVIII або XIX стагоддзя гэтак жа не здольны ўвасобіць у сабе характар усяго свайго часу, няхай і ў межах толькі канкрэтнага краю, як і жыццяпіс селяніна гэтага ж часу.

Але ж у нашым уяўленні так ці іначай сфарміраваўся нейкі абагулены вобраз продка — прадстаўніка, напрыклад, пазамінулага стагоддзя альбо пачатку мінулага. Адкуль? Дык кнігі ж у школе чыталі пра тое, хто мы і адкуль, музеі наведвалі, дзядулек-бабулек слухалі…

І што ж за вобраз продка сфарміраваўся ў нашай масавай свядомасці? З кім ні загаворваў на гэтую тэму, усе — і моладзь, і людзі сталага ўзросту — дэманстравалі адзін і той жа крыўдны стэрэатып: ат, якім мог быць наш балотна-лясны продак — дзікун ды лапцюжнік. Прадстаўнікі старэйшага

пакалення пры гэтым зазвычай дадавалі: калі б не савецкая ўлада, ты й па сёння ў лапцях хадзіў бы, а так вунь якую адукацыю атрымаў. Так, савецкая ўлада сапраўды клапацілася пра роўныя магчымасці сваіх грамадзян ва ўсім — ад набыцця адукацыі да сацыяльных выгод. І гэтая сацыяльная роўнасць сёння з усіх рэспублік былога СССР у найбольшай ступені захавалася ў Беларусі.

Здавалася б, усё добра, працуй і памнажай здабыткі (інтэлектуальныя, матэрыяльныя, мастацкія, спартыўныя…) і славу Радзімы. Вось толькі як лацвей рабіць гэта, усведамляючы, што менавіта з твайго пакалення ці не даўней як з пакалення тваіх бацькоў пачаўся адлік цывілізацыі ў тваім краі, а вобраз беларуса, а тым больш палешука, перастаў атаясамлівацца з сахою ды лапцямі? Ці ўсё ж зняць з покуці лапці і адчуць, што ў жылах тваіх яшчэ й блакітная кроў, гэта значыць шляхетная або, па-руску кажучы, благородная, бруіць?

Тут удакладню: гаворка не пра замену стэрэатыпаў «цёмны і бедны» на «годны і багаты». Былі ж ва ўсе часы як адны, так і другія. І ў літаратуры і тых, і іншых вобразаў досыць — хоць усіх пісьменнікаў пералічвай. А найбольш абагульнены? Нават не так: усярэднены? Сярэдзіну не дарэмна ж залатою называюць.

Дык вось, у Мінскай губерні ў 1817 годзе пражывала 596 382 чалавекі, з іх шляхты (дваран) — 58 726. Гэта прыкладна дзясятая частка. А ў Пінскім павеце да шляхетнага саслоўя адносіўся амаль кожны чацвёрты. Нехта скажа: няйначай, кожны лапцюжнік лічыў сябе тады шляхцюком. Так, былі і бедныя… Бліжэй да ісціны ўсё ж такое вызначэнне: не надта багатыя. Затое адназначна адукаваныя. Афіцыйна шляхта падзялялася на ўладальнікаў дзедзічных (вотчынных), закладных ды арандаваных, гэта значыць тых, хто меў адносіны да зямлі, а таксама на акалічную, чыншавую ды служачую, якую ўвасаблялі ваенныя, настаўнікі, выдаўцы, чыноўнікі і да т. п.

Натуральна, лапці з іх ніхто не насіў. Вось толькі ў музеях чамусьці ні іх абутку, ні вопраткі амаль не знайсці. Дырэктар музея тэатра Брэсцкай СШ № 12 Анна Кавалёва яшчэ толькі збіраецца стварыць у Брэсце музей старога побыту, у якім жадае прадэманстраваць, напрыклад, наступныя, здавалася б, дробязі: якою парфумаю карысталіся, чым упрыгожвалі сябе

і свой побыт берасцейцы сто, дзвесце і болей год таму. Справа гэтая на сёння неверагодна важная, яна падорыць нам процьму прыемных адкрыццяў, якія канчаткова знішчаць міф пра лапцюжнасць нашых продкаў.

Да гонару навукоўцаў, іх уклад у стварэнне такога вобраза куды меншы, чым літаратараў. Вось партрэт замужняй жанчыны-паляшучкі сярэдзіны XIX стагоддзя, намаляваны славутым вучоным Паўлам Шпілеўскім: «так званая світка (верхняя вопратка) з цёмна-сіняга сукна мае пакрой дамскага паліто з таліяй, з разрэзамі ўнізе і незлічонымі на грудзях і ля кішэняў узорамі з шарсцяных цясёмак, пераважна чырвоных і пунсовых. Рукавы шырокія, з абшлагамі, акаймаванымі каляровымі матузкамі; каўняры стаячыя, па краях закругленыя; на нагах (тут асабліва ўважліва чытайце! — *А. К.*) — казловыя башмакі з высокімі каблукамі, іншы раз чырвонымі, і востраканечнымі наскамі. (…) На шыю, паверх белай сарочкі з адкладным каўняром, надзяваецца некалькі матузоў рознакаляровага бісеру…». Не горшы і партрэт мужчыны-палешука: «Мужчыны носяць світкі цёмна-бурага колеру, футравыя высокія шапкі і казловыя боты з высокімі галянішчамі, у якія зазвычай усучваюць вузкія белыя панталоны».

На адным з малюнкаў, якімі праілюстраваны выдадзеныя ў 1850-х гадах «Заходнерускія нарысы» Шпілеўскага, мастак П. Аненскі намаляваў беларускага дудара побач з дзяўчынаю, якая прадзе нітку. Ён — у дабротных ботах, яна — у ладненькіх чаравічках. Вось і мяркуй тут, ці то гэты вобраз дудара бліжэй да сярэднестатыстычнага, ці… «Сымона-музыкі»?

Дадам вытрымачку з «Матэрыялаў па этнаграфіі Віленскай губерні», выдадзеных Упраўленнем Віленскай Вучэбнай Акругі, пра адзенне жанчын у Хомскай воласці Кобрынскага павета (цяпер Драгічынскі раён): «…белыя спадніцы і белыя сарочкі з чырвонымі прошвамі; на нагах боты або башмакі… У дзяўчат на шыі пацеркі яркіх колераў».

Калі гэтых прыкладаў малавата, можна звярнуцца да рамана Мікалая Елянеўскага «Час святара» (часопіс «Нёман», № 4, 2007), у якім між іншым гаворыцца, што ў Кіеве на кірмашы пінскіх гандляроў пазнавалі па сарочках і нагавіцах з найтанчэйшага сукна, а таксама па беласнежных шаўковых хусцінах. І гэта ў пачатку XIX стагоддзя. Аказваецца, нашы

гандляры апраналіся багацей, чым хто іншы з тых, хто прыязджаў у Кіеў на кірмаш ці то з захаду, ці з усходу.

Яшчэ адзін міф, цесна звязаны з гэтым — лапцюжным, тычыцца прыгоннага права. У нас пра яго гэтулькі гаварылася, гэтак мы спачувалі прыгонным і гэтак радаваліся вызваленню іх з-пад прыгнёту, што калі ў 1911 годзе ў Пінску вырашылі адзначыць гадавіну адмены прыгонніцтва, то не знайшлі ніводнага былога прыгоннага. На Піншчыне прыгонных папросту не было, а былі дваровыя, што не адно і тое ж. А ва ўсёй губерні толькі 75 шляхецкіх сем'яў мелі прыгонных. І гэта з дзясяткаў тысяч. Лічы, такой з'явы нашы продкі амаль не ведалі.

…Прыкладаў такога кшталту хапае, іх можна прыводзіць бясконца, але ці не занадта жыццярадасная карціна атрымліваецца? У літаратуры беларусы-палешукі — цёмныя, прыгнечаныя, спрацаваныя, бяздольныя, бедныя… Тут — заможныя, нібыта нават і шчаслівыя. Дзе праўда?

Ат, цяпер, можа, і не будзе лішнім прысаладзіць тагачаснае жыццё-быццё тых, хто пакінуў нам у спадчыну багацюшчую побытавую культуру, а мы прынялі толькі «адзін лапаць, адзін чунь» ды «пяць лыжак заціркі». Не кажу ўжо пра велічную архітэктуру ды іншыя матэрыяльныя вартасці.

Ці не крыўдна будзе за нас нашчадкам, калі пра наш час яны будуць меркаваць па выпадку, які здарыўся гадоў дваццаць таму ў нас на Палессі. Механізатар выараў на полі куфэрак. У ім знайшоў карты мясцовасці (няйначай, памешчыцкіх уладанняў), усялякі посуд ды іншыя каштоўныя прадметы побыту. Як ён распарадзіўся знаходкай? Вялізнай сярэбранай лыжкай мяшаў свінням корм, а карту на момант прыезду журналіста паспелі ўшчэнт збузаваць мышы.

Не, мы ж не такія! Мы гэткія вытанчаныя, высокакультурныя, высокаадукаваныя, мы сапраўдныя патрыёты сваёй зямлі!

## ЕЎРАБАБКА НА ЕЎРААБРУСЕ

Нядаўна сваячка расказала пра страсці ў невялікім калектыве, дзе яна працуе, вакол прыёму важнецкіх гасцей са сталіцы ды не надта далёкага замежжа. Калектыў гэты вясковы. Раённае начальства закамандавала, каб для такіх пашанотных персон быў накрыты… еўрастол.

Бедныя вясковыя інтэлігенткі абзвоньваюць сваю гарадскую радню ды распытваюць, што ж гэта такое — еўрастол.

Па сваім уласным вопыце я мог сказаць толькі адно: еўрастол — гэта калі за паўдня табе пададуць тры не дужа апетытныя стравы і ты пакідаеш застолле з думкаю, дзе б нармальна паесці.

Дзіўна ўсё ж: маючы багацюшчы вопыт прыгатавання нацыянальных страў, мы нібыта саромеемся ўласных унікальных традыцый і ў сваёй хлебасольнасці папросту губляем межы разумнага сэнсу. Сапраўды, ці можа хто даць дакладнае азначэнне, што ж такое «еўрастол»? Можа, шведскі? Экзатычна: паклаў сабе ў талерку тое-сёе — танюткіх скрылікаў каўбасы ды вяндліны — і спажывай, стоячы, як на вакзале. Наогул, у Еўропе шмат краін, і кожная мае сваю нацыянальную кухню. Якая ж з іх найбліжэй да вызначэння «еўрастол»? Для некаторых беларусаў, аказваецца, якая заўгодна, толькі не свая, беларуская. Не лічаць яны сябе еўрапейцамі, дый годзе, хоць Беларусь і месціцца ў цэнтры Еўропы.

Паказальна, што з усяго калектыву, у якім каля трыццаці чалавек, толькі тры чалавекі выступілі за тое, каб частаваць гасцей, што называецца, па-беларуску, па-вясковаму. А паколькі пра еўрастол нічога канкрэтнага ніхто не здолеў даведацца, вырашана было: той, хто прапанаваў гатаваць беларускія стравы, няхай сам гэтым і займецца.

І зноўку пачаліся званкі да сваякоў, маўляў, а па-беларуску — гэта як? Няўжо так, як у вёсцы, як для сябе гатуюць? Спахапіліся: а што ж мы сабе гатуем? Аказалася, што са спаконвечных нашых страў не так і шмат сёння ў шырокім ужытку: бліны, дранікі, квашаніна… Дый квашаніна не ў кожнага ёсць — яе замянілі гароднінныя кансервы на ўксусе. А посуд які ў нас? Аказваецца, гліняныя гаршкі мала ў каго засталіся. Няма льняных абрусаў ды сурвэтак, ды хлебніц з саломкі… Зрэшты, пабегалі па вёсцы, дык дзе-што назбіралі. У гліняных гаршчэчках напражылі бабкі ды купатаў са шкваркамі, насмажылі вялізных бліноў, а да іх падалі гарачую верашчаку, нарэзалі сала з трайною праслойкаю, пальцам пханае каўбасы, паставілі квашаную капусту, прыпраўленую ўкропам, салёных агурочкаў з дубовай бочкі… Хлеб і той быў дамашні, з печы, ды вельмі ўдалы — смачны нават без анічога, сам

па сабе. Іншыя стравы — смажаная рыба, вяндліна — толькі дапаўнялі гэтыя, самыя галоўныя, і да іх чарга папросту не дайшла, бо перавагу госці без падказак аддалі нацыянальным стравам: гарачым, духмяным, апетытным і дужа карысным. Гаспадары адно прадэманстравалі, як скручваць у трубку бліны ды мачаць іх у верашчаку. Пасля частавання яны доўга прымалі словы ўдзячнасці; госці запэўнівалі, што нічога смачнейшага ў сваім жыцці не елі.

Калі сваячка распавядала пра фінал так званай аперацыі «Еўрастол» ды дзякавала за падказкі, падумалася, што, пераймаючы ад багацейшых краін Еўропы стыль жыцця, нам усё ж ні ў якім разе нельга забываць пра свой нацыянальны каларыт. Гэта, бадай, самае каштоўнае, што ў нас ёсць. Еўрамэбля, еўравокны, еўрадзверы, еўраінтэр'еры, еўрасантэхніка, еўрафасады — добра, бо гэта зручнасць і даўгавечнасць. Але, седзячы ў еўракватэры на еўракухні, лепш частавацца беларускімі еўрабабкай у гліняным еўрагаршку, пастаўленым на льняны еўраабрус, чым немаведама чыім еўрабутэрбродам з тонкім скрылікам еўравяндліны і вялізным лістом еўрасалаты. А яшчэ лепш, калі інтэр'ер кухні стылізаваны пад усё беларускае. Ад гэтага ён не страчвае еўрапейскасць, а падкрэслівае яе. Дый адчуваеш сябе ў такім інтэр'еры па-сапраўднаму дома, а не ў еўрагасцініцы.

## АХ, ВЁСКА, ВЁСКА…

Усеўшыся каля акна ў дызель-цягніку Брэст—Янаў-Палескі, праз якія дзесяць-пятнаццаць хвілін зірнуў у вялізны квадратны ілюмінатар. Імжа густа заштрыхавала шыбіну кароценькімі і даўжэйшымі празрыстымі рысачкамі. З гэтага краявід за акном падаваўся велічным жывапісным палатном — featureразнакаляровым, але ў сцішаных танах. На зялёным, амаль бірузовым поплаве паўсюль белыя плямінкі. Прыгледзеўся: вунь сямейкамі і паасобку рассыпаныя шампіньёны, па-нашаму — пячуркі. А вунь скамечаныя белыя паперкі — смецце. Яны прыкладна аднолькавыя па велічыні, здалёк — проста белыя плямы на зялёна-бірузовым фоне. Але… як усё ж хараша, эстэтычна выглядаюць белыя грыбочкі і як пачварна — смецце. Апошняе ніякіх асацыяцый не выклікае, а вось пячуркі… Адразу ж прыгадалася родная вёсачка і род-

ная хата, вакол якой з трох бакоў — поплаў. На ім напрыканцы кожнага лета — у пачатку восені калгас рассцілаў ільнотрасту, каб яна «даспявала». Чамусьці пячуркі надта любілі расці якраз пад гэтымі бясконца доўгімі дарожкамі з ільну. Выскачыш на світанні, калі з чырвонага вядра выліваецца за далягляд загадкавае пунсовае варыва, і пакуль тое варыва выльецца ды расцячэцца сувоем па наваколлі, у цябе ўжо поўны кошык і поўная майка, завязаная знізу і ператвораная ў торбу з ручкамі.

На шыбіне нешта заварушылася. Гэта конік! Наш конік хутчэй руды, чым зялёны. Сядзіць і заднія «капыты» пацірае адно аб другое. Ці то не бачыў я яго з самага пачатку, ці аднекуль во толькі прыскакаў. Гэта ж мой дзіцячы лекар. Улетку на тым жа поплаве каля роднай хаты лавіў з сябрамі яго суродзічаў, і яны лячылі нашыя ранкі-драпіны на руках і нагах. Рабілася гэта проста: злоўленага коніка падносілі да драпінкі і не надта моцна сціскалі ў пальцах брушка. З яго паяўлялася кропелька рудой мікстуры, якою змазвалі параненае месца. Можа, яно і так хутка зажыло б, але мы лічылі, што гэта конікі ўсё зажыўляюць.

Паўспамінаў, палюбаваўся, можна і пачытаць. У руцэ тоўстая чорная кніга, падобная да Бібліі. Але гэта сшыткі-нататкі пісьменніка, які нарадзіўся на іншым кантыненце. Якраз натрапіў на блізкае: «…у вакзальнай кавярні. Вунь за тым круглым столікам у куце добра і доўга пасядзеў у чаканні цягніка. З ахвотаю выпіў смярдзючага рому і з’еў кавалак рыбіны. Ён кліча да сябе, гэты кут. Гэткі ён родны, гэткія цёплыя (і свежыя) аб ім успаміны. Тут думкам і пачуццям пасля лёгкага “прычасця” зрабілася ўтульна, улагоджанаму жывату — уедна…

Часовае, часовае прыстанішча, як і родная хата, зямное жыццё…»

Асацыяцыі, аднак: ад будзённа-побытавага да вечнага. «Мой родны кут, як ты мне мілы…» Усміхнуўся пакліканай чужымі і сваімі развагамі лёгкай на ўспамін мелодыі.

— Гэй, зямляк! — паклікаў нехта ад процілеглага акна.

Я пазнаў чалавека толькі тады, калі ён нагадаў, што некалі званіў і па-зямляцку прасіў напісаць пра тое і тое, абяцаў добра аддзячыць, а я не прыехаў і не напісаў. Па праўдзе, я чакаў, што ён яшчэ раз пазвоніць і назаве дату, калі

мне можна пад'ехаць. Зараз ён быў на такім падпітку, што кепка з яго дужа хісткай галавы ўвесь час злятала на падлогу, а ў яе нешта ўсё капала з носа. Дзве гадзіны ён упэўніваў сябе і ўсіх у вагоне, што вунь сядзіць пісьменнік і журналіст, які не выканаў сваё абяцанне і ўвогуле нейкі невядома які, і бацька ягоны быў у вёсцы такім недарэкам, што ўсе смяяліся і здзекаваліся з яго… Дзве гадзіны я сядзеў моўчкі, нават і не дыхаў, і ўсё думаў: гэта таксама мая родная вёска, ТАКАЯ. Я выслухаў усё, што думае пра мяне, маіх бацькоў і продкаў ТАКАЯ вёска, бо да гэтага ведаў зусім іншыя думкі зусім іншай вёскі. Я нават паўтарыў мо сто разоў радкі свайго верша пра тое, нібыта я «хмурынка над роднаю хатай, / Што з цёплага коміна выйшла…».

Людзі спачатку цыкалі на п'янага, маўляў, чаго ты прыстаеш да чалавека, ці не бачыш, што абазнаўся. Пасля перасталі звяртаць увагу.

Праз дзве кашмарныя гадзіны чалавек выйшаў, і я з палёгкаю ўздыхнуў. Дваццаць хвілін пасяджу спакойна, а там і мне выходзіць.

І тут — ужо смешнае. У вагон уваходзіць даўні знаёмы, заўважае мяне і крычыць: «Гэта вы!..» Называе паважліва па імені і па бацьку і амаль з парога абвяшчае: «А я вас па тэлевізары бачыў. Гэта ж вы ўжо такі пісьменнік, што ажно па тэлевізары паказваюць…» Я і ўбачыў, і адчуў вакол дзясяткі пар скіраваных на мяне акругленых вачэй.

Дабіў мяне гэты дабрадзей.

Перад выхадам на сваёй станцыі помным з маленства рухам злавіў на шыбіне коніка-эскулапа і беражліва перанёс яго ў торбу на нейкую паклажу. Падумаў: цяпер буду залечваць табою душэўную рану. Праўда, не прыдумаў як, якім спосабам. Толькі ступіў на перон, конік як бач выскачыў з прасторнай схованкі на асфальт. Нечыя нага, здавалася, ужо прыдушыла беднае насякомае, але не, яно зноў апісала доўгую дугу ў паветры, пасля вылузнулася з-пад іншых чаравікаў, туфляў, басаножак… А я ўсё стаяў і перажываў, аж узмакрэў, каб натоўп не растаптаў такую мілую жывую істоту.

Калі ўбачыў, што конік даскакаў да травы і схаваўся ў ёй, на душы зрабілася светла і лёгка. Душэўнай раны як і не было. Конік сам знайшоў, як залячыць маю дарослую рану.

## У БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ — ДУХ СВЯТЫ

Раніцою мы спяшаемся на працу, увесь рабочы дзень заняты здабываннем хлеба надзённага, ходзім у крамы, гатуем ежу, вырашаем гаспадарчыя справы, трошкі глядзім тэлевізар, трошкі слухаем радыё, сядзім на тэлефоне, смяёмся, плачам, завіхаемся ў хаце або ў двары, карацей, круцімся з дня ў дзень у адным і тым жа, як нам здаецца, зачараваным коле… За дробнымі клопатамі неяк і не заўважаем, што ў гэты ж час, у гэты во момант, як мы памешваем лыжкаю варыва альбо прасуем бялізну перад тэлеэкранам і сочым за героямі чарговага «мыльнага» серыяла, будуецца наш нацыянальны дом.

Не, нашыя патрэбы не толькі да прымітыўнага «паесці ды апрануцца» зводзяцца. Мы чытаем «АиФ» ды «Камсамолку», на канапе вунь часопіс «Алеся», па святах або нават часцей, дзеля падтрымкі душэўнай раўнавагі, мы наведваем царкву, молімся, спавядаемся…

Духоўнасць — таксама наш хлеб надзённы. Менавіта яна і ёсць тая самая прыгажосць, дзе, паводле славутага выказвання Дастаеўскага, д’ябал з Богам змагаюцца, а полем бітвы з’яўляюцца сэрцы людзей. Яна мае шмат увасабленняў. Гэтая гутарка зводзіцца да двух, думаецца, даволі істотных або нават стрыжнёвых: царква і славеснае мастацтва. Іх можна назваць стрыжнёвымі хоць бы таму ўжо, што два гэтыя духоўныя сусветы адпачатку паяднала ў сабе Біблія, а родапачынальнікамі славянскага пісьменства былі духоўнікі Кірыла і Мяфодзій.

Як усё гэта зрабіць адным цэлым — падмуркам ці то нясучымі канструкцыямі нацыянальнага дома? Ці думалі большасць з нас калі пра тое? Прадчуваю: нават многіх з тых, хто прачытаў процьму кніг і рэгулярна наведвае храм, гэтае пытанне заспела знянацку, маўляў, што яшчэ за дом такі нацыянальны, прычым тут праваслаўная або іншая царква, якая ёй справа да літаратуры, а тым больш беларускай…

Аказваецца, усё гэта не проста можа быць адзіным цэлым — гэта ўжо рэаліі нашага жыцця. Трэба толькі прыкмеціць іх, каб паспець, не прашляпіць, самому паўдзельнічаць ва ўзвядзенні ўласнага нерукатворнага дома, каб не пачувацца ў ім лішнім. Усё для гэтага ёсць, і пачатак зроблены, не хапае хіба толькі «рабочых рук». Пачатак, дзякуй богу, грунтоўны і прадугледжвае абавязковы і шматабяцальны працяг.

Так, у Мінскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы па суботах правіцца літургія на беларускай мове, у Мінскіх духоўных семінарыі і акадэміі як прадмет вывучаецца родная мова, артыкулы на дзвюх мовах друкуюцца ў «Царкоўным слове» і шэрагу іншых выданняў.

Выдадзена Евангелле з серыі «Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста» на чатырох мовах, у тым ліку на беларускай. Гэта ўжо чатырнаццаты пераклад на родную мову з тых, што ўжо існуюць. Асаблівасць перакладзенага Евангелля ў тым, што па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта яно можа чытацца на богаслужэннях.

Высокую ўзнагароду — ордэн святога праведнага Сергія Раданежскага — уручыў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт клірыку Свята-Духава кафедральнага сабора святару Сергію Гардуну, які вядзе богаслужэнні на беларускай мове, шмат працуе на ніве нацыянальнай спадчыны і яе духоўных традыцый, а таксама прымаў актыўны ўдзел у перакладзе Евангелля на родную мову.

Пры Свята-Петра-Паўлаўскім саборы Мінска ўтворана Беларускае Праваслаўнае Брацтва, якое штогод выпускае рэлігійную літаратуру шырокай тэматыкі пераважна па-беларуску. У цяперашнім каталогу брацкіх выданняў — царкоўныя календары, часопіс «Праваслаўе», кнігі і нарысы па гісторыі рэлігіі, статыстычныя даведнікі аб цэрквах, прыходах і манастырах Беларусі, манаграфія «Беларуская мова і царква», зборнікі духоўнай паэзіі, паўнаколерныя буклеты, серыі брашур, акафісты, малітвасловы ды іншае.

Адзін з нумароў «Беларускага праваслаўнага календара» паведамляў: «Трывала ўсталявалася ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы Мінска беларускамоўнае богаслужэнне… З 2004 года беларускамоўная літургія правіцца кожную суботу тыдня. Усё часцей звяртаюцца людзі з просьбамі павянчаць, пахрысціць альбо памянуць спачылых па-беларуску».

Упершыню выдадзены на Беларусі зборнік малітваў на беларускай мове «Праваслаўны малітваслоў».

Нядаўна Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт уручыў Ганаровыя граматы Маскоўскага Патрыярхата і Беларускай Праваслаўнай Царквы «За старанныя труды дзеля славы Святой Царквы» берасцейскім пісьменнікам Валерыю Гапееву, Міколу Панасюку і Мікалаю Елянеўскаму.

Апошні ў сваім рамане-хроніцы «Час святара», прыводзіць факт, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Мінскую Духоўную Семінарыю паступала штогод больш за сотню новых сачыненняў, гэта значыць практычна ўсе кнігі не толькі айчынных, але і замежных аўтараў, напрыклад, Купера, Дзікенса, Тэкерэя. Святары, у сваю чаргу, не толькі чыталі іх, але і палемізавалі з класікамі, пры гэтым дэманструючы зайздросныя дасведчанасць і прынцыповасць (сёння такой палемікі якраз і не хапае). Так, свяшчэннік Мікалай Коласаў у 1903 годзе, напрыклад, пісаў, што «Максім Горкі ў апавяданнях “Канавалаў”, “У стэпе”, “Мальва” і іншых запабягае перад гвалтам і сілай, што галоўныя героі ў яго — басякі і прайдзісветы, для якіх радзіма, айчына — пустыя словы». Такая палеміка не раз’ядноўвае, а якраз судакранае мастацкі і духоўны сусветы; і яшчэ больш узвышае іх, гартуе, мацуе якасна.

На гэтым магутным інтэлектуальным грунце ўзраслі талент і высокая грамадзянскасць галоўнага героя «Часу святара» М. Елянеўскага — настаяцеля Лунінскай (Лунінецкі раён) Барысаглебскай царквы Платона Ціхановіча, які ў 1875 годзе стварыў першую беларускую граматыку. Падкрэслю — беларускую. У яго гонар тут ладзяцца паэтычныя чытанні пад назваю «Лунінская восень».

…Працэс беларусізацыі ахапіў і ўсе астатнія канфесіі, прычым некаторыя яшчэ ў большай ступені. Беларускі нацыянальны дом будуецца. І, як бачым, не толькі інтэлігенцыя, але й духавенства ўсё больш і больш спрыяюць гэтаму. Працэс набывае сапраўды ўсенародны і незваротны характар.

**ПАЛЕМІЧНЫ МАРАФОН**

З рэалій берасцейскага літаратурнага жыцця-быцця і з пакутлівага роздуму над гэтай самотнай рубрыкай сама па сабе выкрышталізавалася новая тэма. Як заглыбіўся ў яе: эге, ды мы не проста палемізуем — мы ў пастаянным стане палемікі. Прычым вось ужо роўна пяць стагоддзяў, пачынаючы ад пісьменнікаў-палемістаў (гэта навуковае вызначэнне) Іпація Пацея — аўтара «Уніі», «Гармоніі», «Размовы берасцяніна з братчыкам», Іллі Марахоўскага (аўтар кніг «Гармонія» і «Рэляцыя») ды Афанасія Філіповіча, аўтара знакамітага «Дыярыўша», збору публіцыстычных артыкулаў. Усе

гэтыя пісьменнікі нарадзіліся ў XVI стагоддзі, гэта значыць у сярэднявеччы. Першыя двое палымяна адстойвалі унію, а Філіповіч — праваслаўную веру. Палемізавалі, значыць. Дарэчы, паводле грэчаскай першакрыніцы, *палеміка* — гэта вайна, спрэчка, варожасць. Балазе сучасныя слоўнікі тлумачаць гэтае слова як «*спрэчка ў друку, на дыспуце, на сходзе і т. п. пры абмеркаванні якіх-небудзь пытанняў (навуковых, палітычных, літаратурных і т. п.)*». Ну і добра: спрэчка — не вайна, хоць і падразумявае ваяўнічасць. Бо калі без апошняй, то гэта ўжо не палеміка, а дыскусія — публічнае абмеркаванне спрэчных пытанняў.

Агледзеўся (а тут і глядзець далёка не трэба — на рабочы стол, на якім яшчэ адзін такі стол, адно што камп'ютарны): вось усе папярэднія выпускі рубрыкі і ўсе водгукі чытачоў, апублікаваныя і не. Спачатку, здавалася, сама рубрыка палемізавала з астатняю плошчай газеты. Апошнія ж некалькі выпускаў перараслі ў цэлую палемічную старонку. Вось і сёння чытач з Пружанскага раёна Уладзімір Чэрнік прадставіў свой водгук на тое, што гаварылася ў папярэдніх выпусках — цалкам міралюбівы. А вось на камп'ютарным рабочым стале… Палеміка з водгуллем сярэднявечча, сапраўдная сеча. Вось яе так званая перадгісторыя.

Тэлефанаванне з Кобрына. Пісьменніца Наталля Касцюк, якая працуе ў Кобрынскім дзіцячым доме, папрасіла пачытаць яе артыкул у праваслаўным часопісе «Фома», які выдаецца ў Маскве, маўляў, ці не ўбачыце ў ім якой крамолы. Набіраю на камп'ютары «Фома.ru», шукаю адзінаццаты нумар за мінулы год, знаходжу артыкул «Учимся говорить по-русски». У ім пра тое, як Наталля працуе з маленькімі дзецьмі, што маюць тыя ці іншыя адхіленні ў развіцці (у большасці дыягназ — «агульнае недаразвіццё маўлення»). Карацей, вучыць элементарнаму — вымаўленню звычайных слоў. Для беларускамоўнага беларуса «крамола» тут навідавоку. Калі дзіця вымаўляе цвёрда **«чаво»,** то яна папраўляе, маўляў, правільна — «чего» (гукавы варыянт — «чево»). Падразумяваецца, што так правільна па-руску. Зразумела, праграма ж рускамоўная. Падказваю: прыклад для часопіса ўзяты не зусім удалы; нібыта калі дзіця гаворыць па-беларуску, то гэта няправільна. Спахапілася: вой, сапраўды, можна ж было якое іншае слова прывесці,

каб не ўзнікала ілюзіі проціпастаўлення моў. Няправільна, гэта калі дзіця ні на якой мове не гаворыць, а выдае набор неспарадкаваных гукаў. Якраз пра гэта і гаворка ў артыкуле, а вось прыклад… Ну, не даўмеўся да такой вось тонкасці чалавек, выхаваны ў рускамоўным асяроддзі, які пасля стаў рускамоўным пісьменнікам. Але гэты ж чалавек захапляецца беларускай літаратурай, спрабуе пісаць па-беларуску, перакладае з яе, шкадуе, што ў свой час не авалодаў ёю дасканала, пры нагодзе выступае за тое, каб беларуская мова заняла належнае ёй месца ў дзіцячых садках, школах і ВНУ… Вось толькі тэма артыкула не пра гэта. У выніку палеміка на інтэрнэтаўскіх старонках часопіса разгарнулася не вакол выхавання ўвогуле, а вакол мовы, вакол гэтага **«чаго-чаво».** Ды якая! Яна займае ў дзесяць разоў большую плошчу, чым сам артыкул. Апантаныя апаненты не-не дый збіваюцца на адкрытыя абразы ў адрас беднай выхавацелькі, маўляў, едзь у Расію і там вучы дзяцей гаварыць па-руску. Дагаварыліся нават да таго, што, маўляў, выхаваныя такою вось «беларусаненавісніцай» дзеці вырастуць янычарамі і знішчаць беларусаў.

О, Божа літасцівы! Як усё заблытана! Каб разблытаць клубок, падзяляю, што мяне *парадавала* ў палеміцы і што *засмуціла*.

*Парадавала*. Тое, што так многа беларусаў, у тым ліку і берасцейцаў, адгукнулася на артыкул, што гэтак яны апантана адстойваюць родную мову, свае нацыянальныя інтарэсы (якасць і колькасць у спалучэнні дэманструюць моц, з якою ніяк нельга не лічыцца); пільнасць — вось яшчэ адзін важны момант (грамадзяне з унутранай патрэбы адсочваюць любыя (знарочыстыя ці выпадковыя) замахі на ўшчымленне нацыянальных інтарэсаў і б'юць ва ўсе званы); кіраўніцтва часопіса парадавала выключнай карэктнасцю — нават павінавацілася за такі недагляд і гатова прадставіць старонкі для абмеркавання чыста моўнай тэмы; Наталля парадавала тым, што яна шукае, як адаптаваць дзяцей да няпростага свету, навучыць іх хоць бы элементарнаму — вымаўленню слоў і ўменню слухаць іншых, знаёміць іх з усім, што вакол іх, каб хоць неяк арыентаваліся ў часе і прасторы — ну, хоць бы на так званым побытавым узроўні, тым, што адразу ж прыняла блізка да сэрца маю заўвагу і выказала гатоўнасць надалей быць не проста

больш пільнай, але і выступіць на старонках таго ж часопіса з новым артыкулам, у якім шчыра прызнаецца ў сваёй не меншай любові да беларускай мовы, чым да рускай, прывесці прыклады, якія гэта пацвярджаюць.

*Засмуціла.* Тое, што апаненты «адкрылі агонь на паражэнне», не далі ніякай магчымасці рэабілітавацца, спляжылі аўтарку ўшчэнт у той час, як яна рыхтавала для часопіса сваю «работу над памылкамі» — тымі самымі памылкамі, за якія і спляжылі; тое, што артыкул выклікае ўражанне, нібыта ніякай Беларусі і беларускай мовы для аўтаркі сапраўды не існуе.

Артыкул для такога часопіса патрабуе шырэйшага ахопу прасторы вакол тэмы размовы. Недагледзела — атрымала. Заслужана? Так, але ж не гэтак збіваць чалавека і не вешаць на яго шыльду з надпісам «Люты вораг Беларусі». Валоданне беларускай мовай нікому не дае права вяршэнства над іншымі суайчыннікамі, яно толькі дадае адказнасці.

А ўвогуле, справа, мусіць, нават не ў тым, якой мовы больш, а якой менш. Мова — гэта ж у значнай ступені выразнік культуры. Немагчыма варожа ставіцца да рускай ці якой заўгодна культуры. Да бескультуршчыны — іншая справа; яна нясе ў сабе і варожасць, і растленне, і нянавісць, а ў нашым выпадку раз’ядноўвае як людзей, так і народы. Культура ж ні пры якіх абставінах не можа раз’яднаць, яна толькі зблiжае-з’ядноўвае. Моўная — у тым ліку. Як толькі мы гэта зразумеем, палемічны марафон, які доўжыцца вось ужо пяць стагоддзяў, скончыцца. У крайнім выпадку перарасце ў дыскусійны. Моваю любові свет створаны. І Беларусь толькі такою і ніякаю іншай мовай ствараецца.

## ЦІ ТРЭБА АНАТАМІРАВАЦЬ СТАТУЮ?

Дачка зноў цярпліва вучыць вершык. Не доўгі і не кароткі. Трымае ў руцэ кнігу з заціснутым у ёй пальцам, які выконвае ролю закладкі, і прамаўляе ўголас завучаныя радкі, гайдаючыся ад напружання. Паўвечара прабубніла ў сваім пакойчыку. Гэтым разам, як ніколі, зрабілася шкада дзіцяці. «Нешта тут не так. Нешта не тое з выкладаннем літаратуры», — круцілася і круцілася ў галаве. І дакруцілася да розных думак-дылем ды супярэчлівых высноў. Аж не па сабе зрабілася: якія ж яны непедагагічныя. Адна «пакацілася»

ў накірунку, якому і сам праціўлюся. Але ж… гэта палеміка — і з самім сабою, і з чытачом.

Словам, дакаціўся я да вялікага сумніву ў тым, што, напрыклад, чатырнаццацігадовы чалавечак колькі б ні завучваў, скажам, лісты Таццяны да Анегіна, ён наўрад ці здольны ва ўсёй паўнаце ўвабраць у сябе свет «Евгения Онегина» Пушкіна — самага зразумелага, самага яснага паэта, альбо засвоіць усю эпапею Льва Талстога «Война и мир», альбо асэнсаваць глыбіні рамана «Мастер и Маргарита» Булгакава… Творы беларускіх класікаў бачацца лягчэйшымі для разумення і засвойвання, але і тут хапае момантаў, разлічаных на чытача больш сталага ўзросту. Праўда, сярод школьнікаў ёсць і вундэркінды, якія і падтэкст бачаць, і па-за тэкстам знойдуць гэтулькі ўсяго прыхаванага, што сам аўтар здзівіўся б: во колькі схованак нарабіў, ажно сам на іх забыўся. Але гэта адзінкі ў класе.

А яшчэ ж і выразнае чытанне існуе. І добра — дзеці вучацца дэкламаваць, развіваюць маўленчыя здольнасці і многае іншае. Але… Ці мала з якіх прычын яны проста не здольныя пранікнуцца тымі пачуццямі, якімі ахоплены лірычны герой верша альбо паэмы хрэстаматыйнага аўтара. І даводзіцца — з-за страху адхапіць нізкую адзнаку — фальшывіць, выпінацца, так і не дайшоўшы (гэта вышэй магчымасцяў падлетка) да глыбіннай сутнасці твора. А калі яшчэ настаўнік вынесе прысуд: маўляў, чаму ж ты такі непрабівальны, халодны, не здольны адчуць боль, трывогі, сумненні і пакуты лірычнага героя? Гэта ўжо прамы шлях да зараджэння ў падлетку комплексу непаўнавартасці. Зрэшты, такі комплекс мае ўласцівасць хутка знікаць. Найбольшая бяда ў іншым: хоць бы школьнае літаратурнае штурмаванне не пакінула ў юнай свядомасці варожасць да класікі ўвогуле (замест устойлівага эстэтычнага густу). Гэтая варожасць не дазволіць чалавеку і ў сталым узросце, калі свядомасць выспела для адэкватнага ўспрымання складаных мастацкіх увасабленняў, спрычыніцца да лепшых набыткаў айчыннай і сусветнай літаратуры.

Што ж атрымліваецца? Найпершая задача школы — хоць бы не адвярнуць вучня ад класікі ўвогуле, а закласці ў ім жаданне спасцігнуць недасяжнае сёння праз пяць, дзесяць, пятнаццаць, дваццаць год.

І тут прыгадалася: у мае школьныя гады ўсе, як адна, старшакласніцы вялі адмысловыя тоўстыя сшыткі, у якіх было ўсё, што цікавіла дзяўчат у іх узросце. Там былі анкеты і пажаданні сяброў і сябровак, аднакласніц і аднакласнікаў, гульні, прыгожыя выслоўі, любімыя песні і вершы (так-так, вершы, у тым ліку і ўласнага сачынення); усё гэта аздаблялася малюнкамі, выразанымі з каляровых паштовак кветачкамі, ілюстрацыямі, фотаздымкамі куміраў… Гэта было тое, што мы называем сёння масавай культурай. Кніг гэтага напрамку ў літаратуры тады, у краіне, якая называлася СССР, не было. А запатрабаванні мас былі. Класіка цяжкая, да яе цягнуцца трэба, яна — навырост, а гэта — у самы раз.

Таму і не дзіўна, што як толькі маскультура ў выглядзе бульварных раманаў і падобнага ім чытва хлынула на прасторы былога Савецкага Саюза, на яе накінуліся нават былыя медалісты, тыя, хто прыгожа дэкламаваў класіку і пісаў выдатныя сачыненні пра «эгоизм Печерина» ў «Герое нашего времени» Лермантава.

Цяпер дзяўчаты-старшакласніцы сшыткаў-анкет не заводзяць. Маскультуры паўсюль і так па вушы. Бедныя класікі зноў адпачываюць.

Напэўна, занадта ўжо згушчаныя тут фарбы. Але ж тое нават не палеміка, як сказана ў пачатку нататкі, а, хутчэй за ўсё, толькі пасыл да яе. Проста ў нейкага аўтара некалі прачытаў: «Выкладаць літаратуру — ці не тое самае гэта, што анатаміраваць статую?»

## ТАБЛЕТКА АД ПАСПЕШЛІВАСЦІ

Мастацкае абагульненне рэчаіснасці. Складаная, аднак, рэч. А чытач не-не дый папікне пісьменнікаў: маўляў, прайшла перабудова, знік Савецкі Саюз, Беларусь аформілася ў незалежную дзяржаву, а нічога такога эпахальнага ўзроўню «Ціхага Дона» Міхаіла Шолахава або «Людзей на балоце» Івана Мележа ў літаратуры так і не створана.

Але ж каб абагуліць нешта, яго трэба глыбока асэнсаваць ды на гэтай аснове яркі вобраз стварыць. Неяк і сам спрабаваў тое рабіць, паказваючы пераход ад сацыялістычнай уласнасці да прыватнай. Маляваў хлопца-героя і…

Карацей, ён з дзяўчатамі-аднагодкамі адбывае начную змену на таку. Тут нараджаецца каханне да мясцовай швачкі Жанны — камсамолкі-актывісткі. Яна зграбная, вытанчаная, трымаецца з годнасцю і выпраменьвае ледзь улоўны водар дарагой парфумы. Яна нікога да сябе не падпускае, у тым ліку і юнага героя — калгаснага слесара.

Узімку Жанна прыходзіла ў клуб у белай «таблетцы». І гэтак яна ёй пасавала, гэтак міла трымалася на смуглявачарнявай галоўцы — вачэй не адвесці. У вячэрнім змроку яна здалёк свяціла хлапцу недасягальнай зорачкай, змушала шалёна калаціцца сэрца.

Ён толькі аднойчы правёў Жанну дахаты. І яна зрабілася яшчэ больш недасягальнай — распавяла, што яе запрасілі ў горад працаваць у камсамоле і нават паабяцалі пакой у інтэрнаце. Няшчасны кавалер адчуў яшчэ большую сваю нікчэмнасць.

Але прамінула колькі там гадоў. Наш герой не бачыўся з каханай. Ён пачаў ездзіць у горад рамантаваць іншамаркі, якія хлынулі праз адчынены «жалезны занавес», займеў аўтарытэт «спяца па маторах» і неўзабаве наогул перабраўся ў райцэнтр. Разбагацеў. Пачаў ездзіць у Польшчу, гандляваць. Пра каханую ўспамінаў, але было не да любошчаў, дый характар меў ваўкаваты, за спадніцамі не ўлягаў. І вось неяк заскочыў на сваім «мэрсе» ў вёску і напароўся на сваю «белую таблетку». І здзівіўся сам сабе — не адчуў ранейшага жадання прытуліць яе да сябе. А тут сябар яшчэ: «Не прытуліш — фермаю пахне».

Словам, хлапец даведаўся, што Жанна — даярка. Як прыйшла з развалам Саюза неразбяруха, філіял КБА ліквідавалі. Можна было ў школу тэхнічкаю. Не захацела. У краме ўсе месцы заняты «сваімі». Сабралася ў дзіцячы садок поварам, а яго таксама закрылі. Падалася ў кладаўшчыкі, заплаціла адзін раз за недастачу і ўцякла. А на ферме прыжылася. Мужа прыдбала здалёк, бо тутэйшымі хлопцамі пагарджала, і яны махнулі на яе рукой. Той «далёкі» не-не дый праходжваўся па яе рэбрах ботамі — за востры язычок і за пыху. Пачала прыкладвацца да чаркі…

Хлапец здзівіўся і таму, што яна ішла па вуліцы ўсё ў той жа белай «таблетцы», а сябар на яго здзіўленасць кінуў:

— О, гэтая «таблетка» ўжо і ў транспарцёры з гноем пабывала.

…Вось так дапісаўся да гэтага месца і давай далей глядзець на жыццё, якое пачало зноў мяняцца літаральна на вачах. Як бы пачуваліся гэтыя героі зараз, у цяперашніх варунках — сацыяльных, эканамічных, дый палітычных?

Хлапец папаўся на граніцы з кантрабандаю? Пастаўлены санкцыямі падатковых і праваахоўных органаў на мяжу банкруцтва, вярнуўся да слесарства ў багацейшага гаспадара, але ўбачыўшы, што той нажываецца на ім, вяртаецца ў вёску, да свайго першапачатковага стану (тым больш што тут з'явіўся які-кольвек заробак)?

А Жанна? Яе звольнілі за п'янства, тым больш што старую ферму замянілі на новую, сучасную, дзе ад работнікаў патрабуюцца выключныя акуратнасць і адказнасць? Яна ўладкавалася на гэтую ферму зноў, і яе жыццё набыло новую якасць і сэнс, бо з'явіліся грошы, яна аказалася запатрабаванай як актывістка? Можа, яе нават выбіраюць старшынёй прафкама або сельсавета ці намеснікам кіраўніка гаспадаркі; а там, глядзіш, на павышэнне ў горад? І яна будзе ўспамінаць прамінулыя гады як нейкую бездань, з якой, дзякаваць богу, выбавілася. А хлапец, магчыма, той жа самы час будзе прыгадваць як самы спрыяльны і шчаслівы для яго.

Ці ўсё ж нейкія высновы тут рабіць ранавата? У нас жа не проста героі, а абагульненыя вобразы сучаснікаў-вяскоўцаў. І абагульнены вобраз эпохі. Вось было б гэта бульварнае чытво, тады ўсё роўна, як павернецца сюжэт — абы востры, займальны, непрадказальны, трагічны ці, наадварот, шчаслівы. А тут паспешлівасць якраз і не на карысць.

Безумоўна, гэта суб'ектыўны адказ на пытанне пра адсутнасць эпахальнага твора пра сучасную эпоху. Можа, такі твор якраз ужо й напісаны, можа, нават здадзены ў які літаратурны часопіс ці выдавецтва? Пісьменніку ж дадзена не толькі былое асэнсоўваць, але й будучыню прадказваць.

Але ж пакуль чытачу і так ёсць чым заняць сябе: Марыніны з Дашковымі працягваюць выдаваць «на гара» свой «фаст-фуд». Як прыядуцца, нібы модныя чызбургеры з Макдоналдса, дык і свае дабротныя «салбургеры»-раманы з'явяцца. Як кажуць, попыт нараджае прапанову.

## ЖЫЦЦЁ — СУЦЭЛЬНЫ СЕРЫЯЛ

На той час, калі на экраны нашых тэлевізараў, на газетны і кніжны рынак прыйшла — прыгожа, упэўнена, як жаданая і даўно чаканая госця — масавая культура, я ўжо быў тэарэтычна абазнаны з гэтаю з'яваю ў мастацтве. Таму «Дзікую ружу» амаль дваццаць год таму ўспрыняў насцярожана, маўляў, вось ён які, буржуазны прыёмчык — яркая карцінка, прыпраўлены каханнем мудрагелісты і непрадказальны сюжэт, а галоўнае, пасвячэнне спажыўца прадукту ў прыватнае жыццё герояў без нейкіх там мастацкіх абагульненняў і ўвасабленняў. Як кажуць, чым прымітыўней, тым цікавей. Пасля былі (помніце?) «Проста Марыя», «Багатыя таксама плачуць», шэраг бясконцых серыялаў; цяпер увага мільёнаў нашых суайчыннікаў — інтэлектуалаў і так званых ЗПР, старых і малых — прыкавана да «Не нарадзіся прыгожай», «Таццянін дзень», «Каханне як каханне» (астатнія фільмы чытач і сам назаве, прычым куды больш, чым аўтар гэтых радкоў). Гледзячы на ўсё гэта, на тое, як людзі, якія яшчэ ўчора стаялі ў доўгіх чэргах, каб прыдбаць поўныя зборы сачыненняў класікаў, у адно імгненне саслізнулі з гэтай вышыні ў салодкі туман жыцейскіх хітрасплячэнняў і страсцей, першае ўражанне было: людзі папросту стаміліся. На вышыні ж трэба ўтрымлівацца, гэта значыць напружвацца, але колькі ж можна? Каб зразумець класіка, хочаш ці не хочаш, а мусіш хоць трошкі наблізіцца да яго ўзроўню, а тут самі аўтары (кнігі, сцэнарыя) наблізіліся да цябе, злавілі, так бы мовіць, тваю частату і эксплуатуюць яе табе на ўцеху, сабе на выгоду. Як кажуць, усім добра.

А што ў такой сітуацыі рабіць беларускаму літаратару, выхаванаму ў традыцыях Міхаіла Шолахава, Янкі Брыля, Васіля Быкава?.. Працягваць ствараць бессмяротнае і гібець у галечы, бо за сапраўдную літаратуру з тых часоў, як распаўся СССР, не плацяць ганарары аўтарам ні літаратурныя часопісы, ні выдавецтвы? Таксама настроіцца на частату абывацельскага светаўспрымання і выдаваць штогод па меладраме ці па кінасцэнарыю якой беларускай «мыльнай оперы»?

Апошняе, можа, нават і карысна было б. Асабліва для пісьменніка, не абцяжаранага месіянскімі амбіцыямі. Як кажуць, хочаш, каб цябе чыталі, здолей улавіць і абавязкова ўлічвай густы не толькі эліты, але і масавага чытача.

Толькі гэтак падумаў, і вось на табе з усіх бакоў сюжэты. Як да гэтай во хвіліны быў зацыклены на класіцы, то адзін сюжэт выношваў-выстройваў гадамі. А тут: браты, сёстры — родныя і стрыечныя, аднакласнікі, аднавяскоўцы, суседзі, сябры… Што ні чалавек, то меладрама, ды закручаная ў гэткі неверагодны сюжэт, а галоўнае — з невядомай і непрадказальнай развязкай-завяршэннем. Перанясі ўсё гэта на тэлеэкран — за вушы нікога не адцягнеш. Мексіканскія ды бразільскія серыялы сплывуць з памяці народнай, як іх і не было.

Во толькі адарваў ад вуха тэлефон. Жанчына, якую ведаю з дзяцінства, паўгадзіны распавядала пра сваю бяду і прасіла парады. Муж яе некалі з'ехаў у Маскву на заробкі і там загінуў. Яна — вясковая настаўніца, руплівая гаспадыня, прыгажуня і разумніца. Ужо больш чым дзесяць год жыве адна, нядаўна выйшла на пенсію, дарослым дзецям памагае, бо жвавая ад прыроды, моцы хапае. І вось слухаю яе і вушам не веру: пазнаёмілася з мужчынам, які гэтак з ёю пяшчотна абыходзіцца, што жыццёвую раўнавагу страціла. Пасля выпадкова даведалася — не адна яна ў яго. Але ж ён ажаніцца хоць сёння гатоў, нават угаворвае. Тым часам да яе пачаў сватацца яшчэ адзін. У справах сардэчных ён — абсалютная процілегласць першаму, па-мужыцку грубаваты, але дужа гаспадарлівы (роўнага яму ва ўсёй вёсцы не знайсці). Сышлася б з ім, ды той ні на хвіліну з галавы не выходзіць. Ягоная пяшчота ледзь да вар'яцтва не даводзіць жанчыну. Да яго хоць зараз пабегла б ці да сябе ў хату прыняла, ды не адчувае грунтоўнасці (тут ягоныя даўнейшыя і палюбоўніцы, і дзеці, і яе дзеці), а рэшту жыцця хоча пражыць годна і спакойна, і абавязкова параю, бо самота ўжо перахапіла горла. Вось так стаіць у разгубленасці паміж двума палярна рознымі мужчынамі і не ведае, што рабіць, шукае падказкі збоку.

Эх, вынесці б на тэлеэкраны гэтую гісторыю з такім блізкім усім нам вясковым антуражам, ды яшчэ ў дэталях — куды толькі падзелася б тая Пушкарова ды героі ўсіх астатніх «мыльных опер».

Яшчэ адзін вельмі блізкі мне чалавек да нядаўняга часу развозіў грузавіком тавары па крамах. Гэтым разам жонку пасадзіў у кабіну — пакатацца. Ля адной крамы накупляў марожанага, адно працягнуў жонцы, а астатнія прадаўшчыцам,

што прымалі тавар, параздаваў. Жонка, відаць, з рэўнасці, ва ўсіх на вачах размазала сваё «Эскімо» па ягоным твары. Ён пасля работы пакінуў аўто і дахаты болей не вярнуўся, жыццё закруцілася ў такі трагічны сюжэт, што праблемы Андрэя Жданава ды абедзвюх Таццян — Барынавай і Разбежкінай, у параўнанні з ім — курам на смех.

Як добра падумаць: што ні чалавек, што ні сям'я, то свой серыял. Жыццё — неператўзыдзены майстар сюжэта. Ніякаму генію ад літаратуры не дадзена пераўзысці яго. Іншая справа — пераўвасабляць створанае Жыццём у слове. Няйначай, аўтары меладрам так і робяць, «не мудрствуя лукаво», і маюць поспех. А чаму драм? Чаму менавіта трагічнае адценне ў абазначэнні жанру? Відаць, у гэтым таксама свая прыцягальнасць ёсць. Дый, як заўсёды казаў наш знаны берасцейскі пісьменнік Мікола Купрэеў, «жыццё можна назваць трагедыяй ужо таму толькі, што яно заканчваецца смерцю».

Дарэчы, сёння ўжо назіраецца спад цікаўнасці людзей да так званага бульварнага чытва. Вельмі верагодна, што, зрабіўшы гістарычны віток, гэтая цікаўнасць зноў вернецца да класікі. Што ж тады? Беларуская літаратура так і ўвойдзе ў новы — класічны — віток, не спазнаўшы масоўкі-бульваршчыны, задаволіўшыся імпартаванай? А маглі б жа, маглі б. Па-руску ж нямала выдалі такога дабра пад сваімі, а болей пад чужымі раскручанымі прозвішчамі. У тых тэкстах ёсць Афрыка і Сібір, няма толькі Беларусі.

Можа, гэта і добра; можа, няхай Беларусь і беларусы будуць вышэй усяго гэтага? Але ж добра і іншае: напрыклад, калі беларусы масава спажываюць не чужое, а сваё не толькі ў матэрыяльнай сферы.

## ТРОХГРАШОВЫЯ ЗГАДКІ

Ад таго часу, як Беларусь займела свае ўласныя грошы (а чаму й не? па плошчы мы пераўзыходзім Бельгію, Нідэрланды, Швейцарыю і Партугалію разам узятыя, і каб без уласных грошай), мінула ўжо столькі часу, што здаецца, нібыта яны былі заўсёды. Але звязаныя з імі гісторыі асвяжаюць у памяці гады так званага станаўлення ўласнай грашовай сістэмы.

Дык вось, першымі былі «зайцы». Маладым асобам, якія той час не засталі, тлумачу: так называліся першыя белару-

скія грошы таму, што на іх змяшчаліся выявы звяроў, што насяляюць краіну — вавёркі на самай меншай намінацыі, зубры — на самай большай, а паміж імі ваўкі, ласі, рысі, бабры, зайцы...

Дык вось першая згадка з 1992 года. Раніцай неяк вызіраю з акна рэдакцыі іванаўскай раёнкі, а на супрацьлеглым баку вуліцы бабуля падскоквае і зрывае нешта з аголеных асенніх галін агромністага дрэва. Прыгледзеўся: ніжнія галіны таго дрэва нібыта ў лісце ўвабраныя. І гэта глыбокай восенню. Пайшоў паглядзець, што там такое дзеецца. І ўбачыў: на галінкі былі нанізаны ці не сотні купюр беларускіх грошай — пераважна з выявамі зайцоў, хоць траляліся і ваўкі, і ласі, і нават некалькі зуброў.

Трохі пазней у Пінску, непадалёку ад рынку, ледзь не спатыкнуўся аб чалавека. Брудны, зморшчаны, ён ляжаў проста на тратуары. Сыпаўся драбнюткі дождж, а ён рукі «вольна ўшыркі раскінуў» і спіць. Ля ног у яго кепка. У кепцы некалькі дробных купюр з выявамі тых жа зайцоў ды ваўкоў. Некалькі такіх паперак прыліпла то тут, то там да тратуарнай пліткі.

Жанчына трасе чалавека за плячо:

— Гэй, гэй, вашыя грошы рассыпаліся.

Мужычок адрывае ад пліткі галаву, моршчыцца, няўцямна варочае зрэнкамі, нарэшце абыякава адмахваецца рукой:

— А, гэтыя. Гэта ж драбяза.

І ён зноў кладзе галаву на бардзюр, заплюшчвае вочы.

Абураная жанчына нервова цьфукнула і задрабніла абцасікамі далей ад бамжа.

А вось гэтая карцінка ўжо з так званай новай грашовай эры, калі з беларускіх купюр зніклі звяры і засталася толькі архітэктура. Яна, дарэчы, была і на першых банкнотах, вартасць якіх перавышала сто рублёў — вось ім якраз і адпавядала выява зубра. Так ужо сталася, што звяры прапалі ў выніку інфляцыі.

Дык вось яшчэ адзін грашова-камедыйны сюжэцік-ілюстрацыя той пары.

Ля крамы хлапец усеўся на сметніцу і спіць, схіліўшы на грудзі галаву. У яго каля ног, на зямлі — кепка. Відаць, зляцела з галавы, покуль спаў. А ў кепцы вецярок тармошыць,

трэпле жоўтыя і зялёныя купюры з выявамі велічных збудаванняў. Няйначай, нехта пажартаваў. Бачна ж, што хлопец не жабруе, а мірна адпачывае. Цікаўныя прахожыя зазіраюць у кепку і заходзяцца ад смеху. Самыя гарэзлівыя дастаюць з кашалькоў драбязу і папаўняюць змесціва кепкі.

Напэўна, яны ўяўляюць сабе, як хлапец ачомваецца ад сну і з пахмелля зырыцца на грошы ва ўласнай кепцы.

**ХАМУТ**

Вясна! Так хочацца лёгкасці! Але… Хамут… Уся вёска атаясамлівае вясну з хамутом. Бо трэба запрагаць каня і араць зямлю.

Эге, калі тое было! Цяпер усё механізавана! Цяпер, пачуўшы слова «хамут», адразу ж уяўляем адмысловыя металічныя абручыкі самых розных канструкцый і велічыні, якія служаць для злучэння труб альбо дэталяў.

А яшчэ хамут застаўся ў нашай свядомасці хоць бы як метафара: запрэглі ў хамут — значыць, цягні, як конь, свой плуг, дзе пад плугам маецца на ўвазе праца. Але не, не толькі праца. Займеў якія вялікія клопаты — хамут на шыю.

Як жа ўніверсальна ўсё ў жыцці і побыце людзей. Хамут — яго ж і рамантызаваць можна. Як? І навошта? Гэта ж ужо анахранізм, прычым нават для вяскоўцаў. Ну, па-першае, пакуль яшчэ не для ўсіх, бо ў прыватных гаспадарках, дый у калектыўных, нямала коней, а па-другое, рамантызаванае нешта — гэта ж несмяротнае.

Дык вось гісторыя пра тое, як хамут выкаціўся з даўніны ў час сённяшні і стаўся сапраўдным замілаваннем.

…Малыя гарадскія дзеткі гадкоў так васьмі-дзевяці цягнуць з хлеўчука той самы сапраўдны хамут у хату… На паўдарозе іх спыняе сівы гаспадар: «Куды?» У хаце якраз ляжыць нябожчык, а дзецям уздумалася гульні гуляць. Тлумачаць: «А мы хочам паглядзець праз хамут, хто забярэ таго, хто ў труне — чэрці альбо анёлы». Яны нядаўна пачулі ад старэнькага дзядулі дзівосную гісторыю, нібыта ён сам некалі, як быў малы, назіраў з печы праз хамут, як нябожчыка забіралі з труны анёлы. О, як хораша ўсё адбывалася. Уся хата асвятлялася, расступаліся столь і дах, і анёлы неслі бязважкае цела высока за аблокі. Гучала мелодыя, якая напаўняла незямной

асалодай. А людзі, што сядзелі і стаялі ў хаце, нічога не бачылі і не чулі. Тое можна былоназіраць толькі праз хамут і менавіта з печы, з прамежку паміж комінам і сцяной. Дзед, напэўна, распавядаў гэта ды пасміхаўся сабе ў сівыя вусы. Мудра так усміхаўся. Ведаў, няйначай, што показка засядзе ў дзіцячай памяці і што яна ў далейшым жыцці абераржэ іх ад празмерных перажыванняў у часіну страты блізкага чалавека дый проста ў цяжкую часіну.

Во, аказваецца, якую ролю мог іграць звычайны хамут. Але не, не звычайны — ён яшчэ абавязкова павінен быў пахнуць свежым конскім потам; гэта дзед падкрэсліваў праз кожнае сваё слова. Містыка? Не — звычайная народная мудрасць. Яна гэткая ж натуральная, як і поле араць. Калі ты не зведаў працы да поту, то твой хамут — твая праца — не адорыць цябе гэткім «яснабачаннем», і ва ўсім перажытым і перабачаным не выгледзіш ні найвялікшай філасофіі жыцця, ні… рамантыкі. А гэтыя паняцці заўсёды поруч.

На днях выпала спаткацца на радзіме з тымі маленькімі гарадскімі дзецьмі, якія даўным-даўно цягнулі ў хату хамут, каб паназіраць, хто забярэ нябожчыка. Адзін цяпер займае высокую пасаду ў банку, другі — паважаны спецыяліст у іншай не менш пашанотнай галіне камп'ютарных тэхналогій. Ведаеце, што яны прыгадалі падчас разняволенай сваяцкай гутаркі? Так-так, той самы хамут. Яны цяпер ведаюць, чаго варты чалавек і памяць пра яго. І яны, нягледзячы на прыналежнасць да зусім, здавалася б, нерамантычных прафесій, — невыпраўныя рамантыкі. Як па разуменні аўтара гэтых радкоў, шчаслівыя людзі.

Ведама, у кожнага свой хамут. Але так важна знайсці ў ім нешта рамантычнае. А калі ён яшчэ і потам набрынялы — тут і мудрасць, і да яснабачання — не таго, містычнага, а звычаёвага, жыцейскага — не далёка.

## МЯНУШКА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНТЭКСЦЕ

Аднойчы, працуючы над чарговым апавяданнем «Мерка» (імя галоўнага персанажа), злавіў сябе на думцы, што пісьменнік надзяляе сваіх герояў імёнамі па той самай схеме, па якой вёска нараджае ў нетрах сваёй калектыўнай фантазіі мянушкі сваім жа насельнікам. Менавіта вёска, бо тут

усе жыхары як на далоні. А ў горадзе кожны сабою заняты і прыглядацца да іншых часу няма. Хіба мо ў калектыве ці ў якой кампаніі прыжывецца кінутае нейкім у адрас калегі альбо дружбака прозвішча. Але што да гэтага гораду? Не, не тыя маштабы, дый каларыт не той.

Уклад вёскі, стыль яе мыслення і паводзінаў фарміраваліся стагоддзямі, як бы гэта адзіны арганізм, і нават назвы сельскіх паселішчаў часам нагадваюць мянушкі, бо з'явіліся не так сабе, а выведзены з нейкай якасці, нейкіх канкрэтных абставінаў-акалічнасцей: за лесам — Залессе, коні тапіліся — Канатоп, княская дружына стаяла — Дружылавічы, шмат камення было — Камень, Камянюкі, Камянец, крэменю — Крэмно, вапны — Белая, рамеснікі знаныя праславілі паселішча на ўсю акругу — то і назвы ў іх гонар, а ім самім прозвішчы, нібы ганаровыя званні — Каваль ці Кавалевіч, Столяр, Токар і да т. п. Яны і ў пашпартах запісаны — перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Але прозвішчы сведчаць пра тых далёкіх продкаў, ад якіх пайшоў той ці гэты род, а не пра іх сённяшніх носьбітаў. А вось мянушка — трапная характарыстыка канкрэтнага чалавека, якая, што таксама праўда, можа і на цэлае сямейства пашырыцца, а бывае — і на вёску, альбо вёска агулам нечым так праславіцца, што ёй у акрузе як бач прыклеяць ярлык. Гэтая «свінячая», бо некалі па ёй было не праехаць — свінні ў каляінах па ўсёй вуліцы цалюткае лета бакі грэлі, а ў гэтай «цыбульнікі» жывуць, бо нехта прыдумаў, што тут з цыбулі варэнне варылі…

Вёска — узор для пісьменніка, як надзяляць сваіх герояў трапнымі імёнамі. Настолькі трапнымі, што нярэдка мянушка нават сапраўднае прозвішча засціць. Шукаючы аднойчы патрэбную сям'ю ў незнаёмым паселішчы, не мог дапытацца ў сустрэчных, дзе гэтыя людзі жывуць, пакуль гаворка не зайшла пра іхнюю мянушку… А потым разгаварыліся з чалавекам: каго яшчэ як клічуць у вёсцы. Ого, на тузін раманаў прозвішчаў: Чорт — бо застрэліў бусла, які збіраўся пасяліцца на ягонай хаце, Юдка — у час вайны быў паліцаем ды выдаваў аднавяскоўцаў, што памагалі партызанам, Кітайка — бо вочы вузкія, Чыгун — бо шыракаплечы, Галубок — проста ціхмяны, бяскрыўдны чалавек, Лётчык — двойчы на мата-

цыкле злятаў у адзін і той жа кар’ер і нават не падрапаўся, Міленькая — бо, гамонячы з іншай жанчынаю, усё паўтарала гэтае слова, Ліхач — бо на калгаснай машыне хутка ездзіў… У майстроў слова — гэткія ж трапныя імёны літаратурных персанажаў, якія, так бы мовіць, гавораць самі за сябе. Прыгадаем хоць бы Андрэя Летуна Міхася Лынькова — таксама аматар лётаць, адно што на паравозе. А як розняцца між сабой прозвішчы герояў Івана Мележа Дзятліка ды Карча ў рамане «Людзі на балоце», Уладзіміра Караткевіча — Дубатоўка ды Беларэцкага ў «Дзікім паляванні…». Прозвішчы-антаганісты па адным гучанні сваім. І натуральныя, з жыцця, як і прозвішчы-мянушкі ў іншых творах нашых класікаў: Задума ў Гарэцкага, Здольнік у Купалы… Перамяшай іх з пералічанымі вышэй вясковымі — не адрозніш, дзе вёскай прыдуманыя, дзе пісьменнікамі.

Няйначай у тым і заключаецца найвялікшае майстэрства літаратара, каб створанае ім злівалася з рэальным жыццём настолькі, быццам гэта і ёсць само жыццё.

Ну, а вёска… Яна, як тое ўласціва любому жывому арганізму, мяняецца — ці то сталее, ці старэе, ці, наадварот, маладзее, што і адбываецца ў сённяшніх аграгарадках. І гэтыя змены — таксама прадмет літаратурнага асэнсавання. Як гаворыцца, будуць новыя творы, будуць і героі новыя. А ў герояў — імёны. У мастацкіх тэкстах любое імя якраз накшталт мянушкі. Але ж у новага пакалення — і мянушкі новыя. Толькі ці не будуць яны запазычаныя з усяго свету? Мы ж сямімільнымі крокамі ўзнімаемся да цывілізацыі, увесь свет бачым і засвойваем. У нас відэа, тэлебачанне з сотнямі праграм, інтэрнэт, мабільная сувязь… Праўда, прыходзім з усім гэтым да… глабалізацыі. Ці не засмокча яна ў свой вір і нашую вёску, і літаратуру — апошняе апірышча ўсяго нацыянальнага? Не дай божа, прачытаем у наступным вясковым рамане пра Пакемона з Дэнверам, а не пра Пытэля з Доляй.

## ЖЫВАЯ ПРЫТЧА

Яна стаяла каля дзвярэй вакзала, загадкава пазіраючы на пахаджан. На грудзях вялізная белая скрынка са шчылінкай і надпісам-заклікам ахвяраваць хто колькі можа на рамонт сабора Аляксандра Неўскага ў Кобрыне. Нічога агульнага

з жабрачкай, хутчэй наадварот — нейкае ўсеабдымнае разуменне ўсяго і ўсіх у чыстым, як я тады падумаў, птушыным, паглядзе.

— Ахвяруюць? — спытаў і з цікавасці, і з патрэбы хоць з якою карысцю пабавіць час.

— Хто як. Бывае густа, а бывае…

Жанчына прыцмокнула языком. Яна аказалася прыветнай, усмешлівай, добразычлівай:

— Адны баяцца, як бы не выглядаць у вачах іншых жміндамі, іншыя ж гатовы яшчэ й назбіранае мною выкрасці. Чацвёра добрых чалавек далі па пяцьдзясят тысяч. Першую, як зараз помню, камерсант падаў. Другую — удава праваслаўнага святара. Яна якраз зарплату атрымала, а сама ў Кобрыне ў кавярні працуе пасля смерці свайго святога айца. Трэцюю нейкі незнаёмы мужчына. Мужчыны радзей ахвяруюць, але большыя сумы. А чацвёртую… О, чацвёртая найлепей помніцца. Неяк скіравала ў суботу на кірмаш, дзіўлюся, людзі весяляцца, мяне як і не заўважаюць. Думаю, чаго дарэмна стаяць. І тут устае з-за стала хлопец. Нападпітку такі — выпівалі якраз кампаніяй. Падыходзіць, дае мне пяцьдзясятку, кажа: «Лепш на храм ахвяраваць, чым прапіць». Вось якія людзі трапляюцца. А іншы — з выгляду ну чыста анёл — не пасаромеецца кінуць драбязу, якая ўжо й з грашовага абароту выйшла. Але я на іх не ў крыўдзе. Бог ім суддзя.

Людзі заўсёды на нешта ахвяруюць. Зайшоў у адну краму, другую, трэцюю… Бясконцы паток у прадуктовых аддзелах — як жа без хлеба надзённага; не абдзелены і Бахус — апошняе ахвяруюць людзі на ўяўныя радасць і насалоду; гандлёвыя рады на кірмашах гудуць, што вулей, нясе і нясе сюды грошы народ. У кніжнай краме прыглядаюся да пакупнікоў — і тут іх нямала: купляюць падручнікі, рэцэпты здароўя, соннікі, дэтэктывы і меладрамы, гартаюць, перабіраюць мастацкія кнігі, класіку, бывае, што і ахвяруюць на іх…

Скажаце — ахвяраванне і пакупка не адно і тое ж. Па вялікім рахунку — адно. Бо ахвяруючы на храм, альбо жабраку, альбо дзіцячаму садку, альбо дому састарэлых, чалавек абавязкова нешта набывае — ці то спакой, ці ўпэўненасць у сабе, ды нават і пачуццё сваёй запатрабаванасці, значнасці, душэўную раўнавагу, узвышэнне над самім сабой.

Гэты набытак, бадай, важнейшы за ўсе астатнія.

Але, але… Літаральна на днях размаўляю з чалавекам, які прынёс свае вершы, усе да аднаго звернутыя да Усявышняга. Прыехаў з вёскі. Усё ў яго жыцці неяк не ладзіцца. Дачка няўдала выйшла замуж за лайдака і валацугу і не ведае, як выбавіцца з гэтае пасткі. Неяк насварыўся на яго, дык з хаты выгнаў. Жонка даўно памерла. Маці таксама. Старэнькі бацька ляжыць нямоглы, але й да яго дарога загрувашчана, нібыта валунамі, вялікімі крыўдамі. Ёсць яшчэ сястра. Але й да яе ногі адмаўляюцца несці. Некалі бацька збудаваў ёй дабротную хату, жыве не надта заможна, але й не бядуе. Муж гаспадарлівы, дзеці па гарадах гнёзды звілі, прыязджаюць у госці, радуюць старых. А тут… Ну чаму, чаму бацька так многа ахвяраваў дачцэ (цэлую хату на талерачцы з блакітнай акаймовачкай паднёс) і так мала яму, сыну? Цяпер сястра даглядае старога, гатуе ежу, прыбіраецца, а ў яго нават размова з бацькам не клеіцца, таму і наведваць даўным-даўно перастаў.

Колькі год таму ў вёсцы пачалі будаваць храм, дык дняваў і начаваў там — насіў пясок, цэглу, каменне, вартаваў будаўнічыя матэрыялы, любую работу рабіў бясплатна, аж пакуль той храм не расчыніў перад прыхаджанамі дзверы. І цяпер ходзіць, моліцца, ахвяруе на патрэбы царквы ці не палову пенсіі. Усё спадзяецца, што будзе пачуты і аднойчы жыццё наладзіцца. Але вось зноў дачка прыязджала ўся ў слязах, прасіла грошай. А што ён дасць? Драбязу? Як і яму ад бацькоў драбяза перападала, у той час як сястры — цэлая хата.

Жывая прытча, дый годзе. Хацеў сказаць чалавеку, маўляў, а ці не папрыбіраць вам тыя валуны-крыўды з дарогі, што вядзе да бацькі? Ці не паехаць да зяця ды пагаманіць пра жыццё-быццё, а не сварыцца на яго? Але ж пра тое і ў кнізе кніг Бібліі пішацца, і ўся класічная літаратура — таксама пра тое. Калі не любіць чытаць — дык і пропаведзі пра тое ж. Трэба толькі здолець пачуць. А гэтая здольнасць звонку не прыходзіць, яна альбо ёсць унутры чалавека, альбо яе няма. Можа, добра пашукаць?

Пагартаў вершы. Почырк неразборлівы, але ўсё перачытаў. Каля сотні радкоў. І кожны звернуты высока-высока, у недасяжную вышыню. І ні радочка — бацьку, да бацькі, пра бацьку. Але не нам судзіць.

**ПЕСНЯ**

На сцэне Відамлянскага Дома культуры жанчыны ў нацыянальным убранні. Пяюць народныя песні. І пяюць па-народнаму, з тымі ж прадаўнімі пераліvamі.

Слухаюць іх, утульна размясціўшыся ў глядзельнай зале і раптам суцішыўшы дыханне, госці з Германіі — усяго 39 чалавек. (Праўда, немцамі назваць іх неяк не паварочваецца язык, бо і самі сябе яны называюць сербска-лужыцкім меншынством у гэтай краіне. У іх і мова свая захавалася, пераважна сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення, якое, дарэчы, якраз склала абсалютную большасць замежнай дэлегацыі на Берасцейшчыну.)

Песня ў адно імгненне вярнула замежных гасцей да нашага агульнага славянскага кораня. О, трэба было бачыць, як услухоўваліся яны ў кожны гук, як паблісквалі ў вачах слязінкі, як кіраўнік групы і ініцыятар паездкі — член пісьменніцкага саюза Германіі Хрысціян Шнайдэр са сцэны дзякаваў за песні (а іх выконваў не толькі жаночы вакальны ансамбль, але і маленькія дзеткі, якія таксама расчулілі гледачоў), уручаў падарункі, у тым ліку і кнігі. А па дарозе з Відамлі ў Брэст доўга тлумачыў аўтару гэтых радкоў, што яго родная сербска-лужыцкая мова, альбо зорбская, як вымаўляюць немцы, катастрафічна вымірае, і вось ён якраз з’яўляецца на радзіме неафіцыйным лідэрам грамадскага руху за захаванне мовы досыць шматлікай народнасці, якая ў прасторавым вымярэнні займае прыкладна палову ўсёй тэрыторыі былой ГДР, што мяжуе з Чэхіяй ды Польшчай. Ён непрыхавана дзяліўся сваім адчаем: моладзь зусім не ведае мовы продкаў, карыстаецца нямецкай, а прапанова выкладаць унікальную мову ў школах успрымаецца людзьмі, а тым больш урадам, як нейкае блюзнерства. А нам Хрысціян Шнайдэр зайздросціў, бо са сцэны чуў толькі беларускую (за нязначным выключэннем) мову і знаходзіў у ёй крэўную роднаснасць са сваёй. Аж самому крыўдна зрабілася: у нас, у адрозненне ад нямецкіх славян, ёсць усе магчымасці для пашырэння ўжытку роднай мовы, яе развіцця, павышэння прэстыжу, але замест гэтага знаходзіцца нямала «дзеячаў», хто да мазалёў збівае ногі, збіраючы подпісы людзей за тое, каб іх дзеці вучыліся ў небеларускай школе. І цяпер думай: ці не напаткае нас, беларусаў, лёс

лужыцкіх сербаў? Ці не апынемся мы, беларускамоўныя, гэткімі ж шнайдэрамі ў сваёй краіне? Але калі яны — этнічная меншасць, то мы — большасць, мы — беларусы ў Беларусі. Таму і дзіўна назіраць, як беларус ва ўласнай краіне самахоць адмаўляецца ад уласнай мовы.

Спадар Шнайдэр тым часам дастаў з сумкі песеннік: «Тут усе песні на мове нашай народнасці. Вось гэтую песню я прашу цябе перакласці на беларускую мову і прапанаваць ансамблю, які мы толькі што слухалі. Гэтая песня вельмі падобная да вашых, беларускіх, і па мелодыцы, напеўнасці, і па сэнсе. Бярыце гэты песеннік з сабою». Хапіла беглага знаёмства з тэкстам, каб зразумець: гэтая народная песня сапраўды вельмі падобная да нашых народных. Яна пра тое, як лірычны герой не можа заснуць увечары, бо ўваччу, нібыта днём, калышуцца жытнёвыя хвалі, пяе пташка над полем, далей зелянее авёс, серабром адлівае ячмень, каля сцяны густой пшаніцы таксама пташка бегае, вёрткая і няўлоўная, на лядах жаба спявае, і лёгка засынаецца з думаю пра гэта, і да ўсіх сербаў ляціць светлае пачуццё… Сусед напявае гэтую песеньку, каб беларус глыбей адчуў яе каларыт, і ўвесь аўтобус як бач падхоплівае яе і пяе з такою насалодаю, што ўжо і ў самога слёзы на вейкі нагарнуліся — гэта сэрца адгукнулася на нешта спрадвечна роднае. «Я абавязкова перакладу гэтае хараство і пастараюся захаваць усю яго аўтэнтычнасць», — цвёрда вырашыў, даслухаўшы далёкую-блізкую песню.

Гэты эпізод заняў зусім нязначнае па часе месца ва ўсёй праграме чатырохдзённага знаходжання дэлегацыі на Берасцейшчыне. А было ж і святкаванне Дня Перамогі ў Брэсцкай крэпасці, калі з вуснаў нямецкіх грамадзян прагучала: «Гэта наша агульнае свята Перамогі над фашызмам», была экскурсія па Камянцы, Белавежскай пушчы, калі на ўваходзе ў рэзідэнцыю беларускага Дзеда Мароза госці раптам убачылі, што яны размінаюцца з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Пасля секунднага шоку ўся група не згаворваючыся павітала кіраўніка дзяржавы дружнымі воплескамі, а Аляксандр Рыгоравіч пажадаў ім прыемнага адпачынку. Пасля яшчэ доўга прыгадвалі госці гэты выпадак, маўляў, як жа добра ўсё супала, а Хрысціян Шнайдэр паказаў уласны артыкул у нямецкай газеце пад назваю «Бог яго па-

слаў нам» якраз пра жыццё ў Беларусі. У ім у якасці загалоўка выкарыстаў фразу простага чалавека з Гомельшчыны і ўвогуле цэлы газетны разварот аддаў споведзям беларусаў, з якімі сустракаўся.

Пасля Берасцейшчыны дэлегацыя яшчэ чатыры дні правяла ў Мінску, наведала возера Свіцязь, музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку і Якуба Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына.

Але то ўжо іншая песня.

## ВОСЬ ТАКІЯ СВАЯКІ

Свет усё ж, як людзі кажуць, цесны.

На велічным свяце «Душа народа ў песнях іх жыве», прысвечаным 125-годдзю беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, якое адбылося тры дні таму ў Брэсцкім абласным тэатры драмы і музыкі і на якім бібліятэка імя Максіма Горкага прадставіла багатую ды з густам аформленую кніжную выставу «Пачынальнікі», сярод мноства ўражлівых і прыемных момантаў быў адзін амаль містычны. Прынамсі, асабіста для мяне.

Перад вачыма — дзясяткі газетных і часопісных публікацый, прысвечаных юбілярам. Зачапіўся паглядам за «Лісты да Якуба Коласа» ў «Драгічынскім весніку». Чытаў і не верыў вачам: усе яны падпісаны прозвішчам Крэйдзіч. Хто ж такі? Аказваецца, што зямляк з вёскі Бездзеж (мая вёска Заверша ўваходзіць у Бездзежскі сельсавет). Завуць Георгій Маркавіч. Аднагодак Якуба Коласа. Бачыўся з будучым народным пісьменнікам у 1903–1904 гадах, калі настаўнічаў у Лунінцы. Нават стаў прататыпам персанажа з аповесці «У глушы Палесся».

У адным з лістоў да народнага пісьменніка, датаваным 1947 годам, ёсць пра гэта: «У канцы аповесці Вашай я знайшоў і сябе… Я быў удзячны Вам за тое, што Вы, не ў прыклад іншым, намалявалі мяне самымі лёгкімі штрыхамі. Дзіўнай падалася Ваша ўніклівасць: я ж не казаў Вам, што чытаю Бокля, Вы самі здагадаліся, мяркуючы па знешнасці». У аповесці напісана: «Гэты чалавек напэўна чытае Бокля». Калі нехта не ведае, то Бокль — аўтар «Гісторыі цывілізацыі Англіі». А што да знешнасці юнага настаўніка пачатку мінулага стагоддзя, то ён вылучаўся сярод іншых тым, што насіў доўгія валасы.

Ліставаўся Георгій Маркавіч з Коласам з 1947 па 1952 год. Гэтыя лісты знайшла ў фондах літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў Мінску вядомая журналістка з Лунінца Таццяна Канапацкая.

Лёс майго земляка-аднафамільца быў няпросты: скончыў Пецярбургскі настаўніцкі інстытут, настаўнічаў у Петраградзе, зноў на Палессі, а пасля вярнуўся ў родны Бездзеж, адкуль таксама напісаў Якубу Коласу вялікі ліст, у якім павіншаваў песняра з 70-годдзем.

Народны пісьменнік адказваў яму, але тыя адказы пакуль не знойдзены. Мне вельмі ж карціць не толькі лісты знайсці, але як мага больш даведацца пра самога Георгія Маркавіча. Мяркуючы па ўсім, гэта быў вельмі неардынарны чалавек з высокай эрудыцыяй і, безумоўна, са шчымліваю душою. Магчыма, таксама спрабаваў сябе ў літаратуры, публікаваўся.

Дзіўна ўсё ж: праз гэтыя пісьмы, праз подпісы пад імі, згледзеўшы ўласнае прозвішча, Коласава постаць зрабілася яшчэ раднейшаю. Як бы адкрыліся нейкія далёкія сваяцкія нітачкі-сувязі. Гэтай нітачкай якраз стаў Георгій Маркавіч Крэйдзіч. Толькі, крый божа, не падумайце, што ў сваякі да Коласа набіваюся. З такім волатам нават духоўнае сваяцтва трэба заслужыць. Але гэты выпадак сапраўды дадаў той чалавечай цеплыні ва ўспрыманні вялікага пісьменніка і грамадзяніна, якую не заўсёды можа даць у гэткай меры чытанне яго твораў, слуханне яго песень, сузіранне здымкаў…

Можа, таму да народнага песняра гэтак масава хінуўся-гарнуўся народ, дый цяпер горнецца, што повязь гэтая жывая пасяляе ў сэрцах шчаслівае адчуванне і ўласнай спрычыненасці да нечага вялікага і святога.

Свет цесны. Беларускі свет — тым больш. Мы ўсе ў ім — сваякі.

## ШТО ПАЧЫТАЦЬ ЗА СТАЛОМ?

Калі мне кажуць, што традыцыя вінапіцця з’явілася ў савецкі час, я ў адказ прыводжу ўрывак з верша нашага, беларускага, сярэдневяковага паэта, філосафа і энцыклапедыста Яна Пратасовіча, надрукаванага ў 1608 годзе ў кнізе «Inventores rerum...» («Вынаходнікі рэчаў»):

…у нас хутчэй гарэлку, чым віно, адчуеш,
Бо працьму знойдзеш такіх белагаловых,
Якія гарэлкай так начастуюцца,
Што ледзьве мужоў сваіх перад сабою бачаць.
Таму такіх зусім не трэба цалаваць,
Але хутчэй ім добрага кія даць,
Перацягнуць па хрыбце, каб не піла,
А гаспадарку сваю пільнавала...

Вось так: усё паўтараецца, адно што ў новых дэкарацыях. Праз тры сотні год Пратасовіч параўнаў апісаны Плутархам у пачатку нашай эры звычай рымскіх патрыцыяў цалаваць сваіх жонак пасля вяртання з працяглых ваенных паходаў, каб даведацца, ці ж не ўжывалі тыя ў іх адсутнасць віно, са сваім часам, у які ўжо не віно, а гарэлку хлябешчуць. Дый хто? Жанкі!

І вось мінула яшчэ чатыры сотні год…

Эх, пачулі б нашы далёкія продкі сённяшнюю размову сваіх пераемнікаў у справах Бахусавых:

— Вох і начыталіся мы ўчора.

— Па кніжцы на брата.

— А пасля яшчэ й адзін рукапіс разам прачыталі.

— Мусіць, гэта з-за рукапісу галава зараз расколваецца.

— Што ж, тады скідваемся ды купляем яшчэ кнігу, палечымся.

— Але грошай хапае толькі на рукапіс.

— Тады палечымся рукапісам.

Вось які начытаны сучасны чалавек. У любой краіне такіх хапае. Але не ў кожнай чытач здатны зразумець, пра якія кнігі і рукапісы размова ў прыведзеным вышэй дыялогу. Наш — здатны.

А якія ж у тых кніжак назвы прыгожыя ды разлічаныя на чытачоў з самымі рознымі густамі і палітычнымі поглядамі: «Беларусь сінявокая» — для сапраўдных беларускіх рамантыкаў, «СССР» — для тых, хто сумуе па СССР, «Цытадэль» — для ветэранаў, «Еўрагрош» — для бедных жыхароў краін Еўрасаюза, «Казанова» — зразумела без тлумачэнняў… Пералік кожны можа працягваць да бясконцасці.

Цікава: калі выбіраюць людзі сабе спажытак па яго назве, то нормы спажывання залежаць ужо ад прафесіі чалавека.

Напрыклад, сталяр набіраецца ў дошку, шавец — у сцельку, качагар — у дым, святар — да чорцікаў, жывёлавод — да парасячага вішчання, чыгуначнік — у дрызіну...

Яно й не дзіва, бо ў нас не толькі на вяселлях ці якіх іншых урачыстасцях, але й на хаўтурах робіцца ўсё, каб чалавек аб'еўся ды абпіўся. Дзеля гэтага спачатку ўвесь стол запаўняецца ўсялякімі дужа каларыйнымі — мяснымі, рыбнымі, мучнымі і іншымі — стравамі, а пасля пачынаецца так званы прымус (гэта калі гаспадары прымушаюць гасцей піць, а як хто не п'е, то гарэлку яму за каўнер выліваюць). У народзе нават жарт такі ходзіць: «Усяго хапала на вяселлі: і выпіўкі, і закусак; адно дрэнна — прымусу не было». Ці не значыць гэта, што без прымусу мы й не пілі б? Ну не хочам мы піць! Але чаму ж пасля гэтак задаволены, што нас прымусілі выпіць? Во дзе загадка чалавека.

Так і не навучыўшыся піць па сваёй волі, мы, тым не менш, неўпрыкмет пачалі прымаць пляшку за эталон: даведаўшыся, напрыклад, колькі грошай жонка заплаціла за боты, мужык, бывае, прысвісне, маўляў, ого, гэта ж скрынка гарэлкі! Ды што там эталон, гарэлку паставілі ўпоравень з разліковымі банкаўскімі білетамі; яе так і называюць: вадкая валюта.

Але прабачце: мы ж не пра традыцыю вінапіцця, крый божа, а пра традыцыю кнігачытання.

Ну дык як: кніжку прачытаем? Можа, «Міраж»? Ці «Бульбаш»? Ці рукапіс? Ці паберажом валюту? Усё ж гэта сапраўды валюта, няхай сабе і вадкая. Народ так сабе нічога не прыдумляе.

## НА КУХНЮ — З ПЕРАКЛАДЧЫКАМ

Распачаў, скарыстоўваючы летні адпачынак, рамонт у кватэры. І нібыта трапіў у замежжа, а яшчэ дакладней — у старажытны Вавілон падчас стоўпатварэння. Майстры (нашы, беларускія) нешта кажуць, раяць, як і што лепш зрабіць, але каб зразумець іх — хоць перакладчыка выклікай.

Ставілі днямі новую кухню. Дык усё дапытваліся, патрэбен *скінालі* ці не патрэбен. Пераглядваемся з жонкай: каб жа ведалі, што гэта такое, адказалі б. А гэта, аказваецца, звычайная дэкаратыўная панэль, якая закрывае сцяну паміж верхнімі і ніжнімі шафамі кухоннага гарнітура. Яе паверхня

выканана з таго ж матэрыялу, мае той жа колер і размалёўку, што і… *пацформінг*. «Ну, калі *скінальі* такое ж (такі? такая?), як *пацформінг,* тады ўсё зразумела», — пакпіў бы гумарыст. А адмысловец тлумачыць: *пацформінг* — гэта *сталешніца*. Добра, хоць па-руску растлумачыў, усё ж руская мова — другая дзяржаўная, зразумелая ўсім. І толькі рэдка хто прыгадае, што ёсць у гэтай дэталі мэблевага гарнітура і беларуская назва — *стальніца*. У некаторых нашых палескіх вёсках, праўда, так называюць яшчэ і ўвесь верх стала разам з шуфлядамі. Вось як яно атрымліваецца: здавалася б, і рэч не выйшла з шырокага ўжытку, а беларускае слова ўжо пакрылася досыць тоўстым пластом забыцця.

Яшчэ адно дзіўнае слова — *барамікс*. Як пачую яго, дык Бармалей адразу ўяўляецца. Між тым гэта адмысловая тынкоўка з каменьчыкамі, якую ў нас яшчэ толькі апрабоўваюць, пакрываюць ёю сцены калідораў, кухняў у кватэрах. Адкуль такая назва — ніхто не ведае. Як, зрэшты, не ведаюць людзі, адкуль узялося слова *фіцінг*. Ім майстры імянуюць усялякае дробнае сантэхнічнае начынне…

Вось так дзень да дня, тыдзень да тыдня слухаю майстроў, дапытваюся, што абазначаюць новыя для мяне словы, а ў галаве круцяцца словы нашыя спаконвеку, але для многіх сучаснікаў, мусіць, яшчэ больш дзіўныя, чым прыведзеныя вышэй замежныя. Ну, хоць бы такія: *юрок, асноўніца, цэўка, ручэйка*… Бабулі ў вёсках, ведама, адразу ж успомняць, што *юрок* — гэта драўляная лапатка з дзвюма альбо чатырма дзірачкамі для матання ніткі ў клубок (дзякуючы яму паскараецца працэс матання, ён жа засцерагае пальцы ад парэзу ніткаю, а галоўнае — з яго дапамогай клубок атрымліваецца вельмі шчыльны, нібы камень), што *асноўніца* — прылада для снавання нітак, з якой яны пасля пераносяцца на кросны (ткацкі варштат), што *ручэйка* — верацяно з наматанай на яго ніткай, што *цэўка* — трубачка з наматанаю на ёй ніткаю ў адмысловым чаўнаку, з дапамогай якога прасоўваюцца папярочныя ніткі саматканага палатна. Такіх вось спаконвечных адміраючых слоў, якія тычацца аднаго толькі ткацтва, налічыў паўсотні. Хто іх ведае? Між тым саматканыя рэчы ў кожнай сям'і ёсць, у тым ліку гарадской.

Якраз у тэму нядаўняя перадача на канале «Дыскаверы» пра ткацтва ў Англіі. Гляджу і вачам не веру — гэта ж дакладна нашы, палескія, беларускія, кросны да апошняй *цыпкі*-трысцінкі. Пакуль вядучая распавядала пра тое, як нейкі майстар мадэрнізаваў вытворчасць (прыдумаў, каб *чаўнок* сам слізгаў туды-сюды папярок палатна, а не рукамі яго закідаць то злева, то справа) і такім чынам у некалькі разоў павялічыў прадукцыйнасць працы, я разважаў-гадаў, ці то нашыя продкі паралельна з англічанамі прыдумалі абсалютна ідэнтычныя варштаты, ці нехта ў некага запазычыў канструкцыю. І калі запазычыў, то хто ў каго? На карысць таго, што мы, ва ўсякім разе, нічога не запазычвалі, тое, што ўсе дэталі кроснаў маюць спракаветна славянскія назвы ды яшчэ з тутэйшым дыялектным каларытам. А яшчэ ж з гісторыі ведаем, што продкі нашыя ў старажытныя часы пастаўлялі льняное палатно ў шмат якія краіны, у тым ліку ў Англію. А лён тады на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі» быў мярылам вартасці тавару, як тыя ж золата, серабро і да т. п.

Вось бы яшчэ дазнацца, ці ёсць у англійскіх назвах дэталяў і вузлоў кроснаў хоць бы напамінак пра славянскае паходжанне. Ну няўжо толькі мы аднекуль запазычваем лексіку!? Не, і нашымі словамі здаўна карыстаюцца іншыя народы. Дык каму-каму, а нам грэх хаваць ад сябе і суседзяў уласныя моўныя скарбы і карыстацца чужымі. Бывае, схаваеш нешта гэтак надзейна, што і сам пасля не знойдзеш. Вось жа закапалі недзе сваю *стальніцу,* дык цяпер чужым *пацформінгам* карыстаемся.

## САМЫ ЯРКІ ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

Пачалося лета, і пасыпаліся прапановы наконт адпачынку — дзе і як. Варыянт першы ад калег з Мінска — на плыце ўніз па Ясельдзе. Варыянт другі ад калег з Брэста — па славутых мясцінах свайго краю. Варыянт трэці ад сваякоў-вяскоўцаў — на хутары ў цешчы. Варыянт чацвёрты ад сяброў-суседзяў — на моры, гэта значыць бліжэй да экватара. Усе рэальныя і прыкладна аднолькава даступныя.

Як тут не разгубіцца — усюды добра, а выбраць трэба нешта адно, бо кароткага адпачынку на ўсё не хопіць. Што ж тады рабіць? Суседзі, сябры, знаёмыя здзіўляюцца: як што?

Што можа быць лепшае, чым мора? І кожны пачынае прыгадваць, як адпачывалася на Чорным моры, у Турцыі, Балгарыі… Там камфорт, чыстая цёплая вада, сонца… Там весела. А ў нас, маўляў, такі сум. «А дзе вы былі ў нас? — пытаюся. — У Белавежскай пушчы былі? А ў Камянцы, у музеі ў Белай вежы? А ў Тураве, Нясвіжы, Міры, Жыровічах, Косаве, на возеры Свіцязь?.. А ў сваім родным Іванаўскім раёне ў музейным комплексе Напалеона Орды? Там ужо ёсць чым палюбавацца».

Народ маўчыць, няйначай, пераважоўвае пачутае. Яно то добра — спалучыць вывучэнне свайго краю з адпачынкам, але неяк нязвыкла, дый камфорт…

Зрэшты, на сваёй зямлі пад кожным кустом камфортна! Абы палатка была. Дый агратурызм развіваецца, можна гэтак камфортна ўладкавацца, што пакойчык на курорце будзе ўспамінацца як кашмар.

Сваёй сям'ёй з чатырох чалавек дзе толькі ні адпачываў за жыццё. Дык што можа быць прасцей: апытаю сваіх, які адпачынак ім прыгадваецца з найбольшай прыемнасцю ці з якога адпачынку найбольш тых успамінаў, вось табе і лепшы варыянт.

Па шчырасці, мяне не здзівіла тое, што і жонка, і абедзве дачкі пра мора ўспомнілі толькі ў апошнюю чаргу, хоць тыя адпачынкі былі ці не самымі камфортнымі. Але… старэйшая Насця найперш назвала Нясвіж і Мір, а таксама начлег на возеры Свіцязь. Малодшай Каці запомніліся прыгоды ў бабулі Насці на хутары, пушча, дзе яна нашукала грыбоў, завышанскія вужы, птушаняты ў гнёздах, якіх карміла чарвячкамі для рыбалкі. Жонка прыгадала шчупачка, які выскачыў з Ясельды высока ўгару, дагнаў у паветры кручок яе вуды (якраз выцягнула, каб праверыць нажыўку) і хутка трапіў у смачную юшку, якую згатавалі на кастры. Гэта было пад вечар. А раніцой мы купаліся ў белым малацэ туману. На дне гэтага туману мірна драмалі ў шалашы нашы змораныя ўсялякімі прыгодамі на свежым паветры дзеці. Такой асалоды на моры не паспытаеш.

Разгарнуў свае дзённікі, пашукаў запісы, зробленыя падчас адпачынкаў. Вось апісанне паездкі па гістарычных мясцінах, вось пушчанская адысея, вось пра возера Выганаш-

чанскае, вось вясковыя замалёўкі, а вось… Ах, якое душэўнае смакоцце паспыталі мы адным летам на возеры Завышанскім. Здымкі, замалёўкі, нарысы вядомага ў рэспубліцы натураліста і проста добрага сябра Васіля Жушмы вабілі ў гэты кут няўтрымна. Стаяла ў вачах, як ён плыве ў чоўне, і вось у прыцемку на нос гэтага чоўна сядае сава ды ўзіраецца ў твар госця. Так карцела перажыць што-небудзь падобнае. І перажылі. Вось фрагмент дзённікавай нататкі:

«…Каля самае палаткі пад нагамі Насці ды Каці прашмыгнуў вуж і надта ж напалохаў дзяцей. Напэўна, яны яго яшчэ больш напалохалі сваім крыкам. Наступная прыгода надарылася позна вечарам. Жонка пайшла да вады папаласкаць рукі. Раптам як закрычыць, маўляў, у хмызе нечыя вочы свецяцца. Шмат вачэй. Падышоў і адразу ж паклікаў дзяцей, патлумачыў усім, што гэта светлячкі. Удзень злавіў аднаго светлячка, але ён аказаўся самцом. А самцы не свецяцца. Пасля мы знайшлі ў дупле (нізенькім, можа, паўметра ад зямлі) птушанятак, якіх вельмі ўпадабалі дзеці. На світанні да нас наведалася мышка. Дзеці кінулі ёй сыру, і мы ўсе разам паснедалі. Тая мышка — тоўстая, нібы хамячок — наведвалася да нас яшчэ колькі разоў. Непадалёку ад палаткі на пяньку сек дровы для кастра, а з таго пянька вылецела аса і балюча ўкусіла за нагу. Там аказалася асінае гняздо. Саву хоць і не ўбачылі, затое слухалі штоночы, як яна вухкае. Ажно мароз па скуры прабягаў. Налавілі ладных плотак і ляшчоў і згатавалі ўсялякіх апетытных страў».

Пра адпачынкі на моры — хоць бы радок у нататніку. А добра ж і там адпачывалася. Яшчэ як добра. Вось толькі ўспомніць няма чаго, асабліва калі ёсць іншыя па-сапраўднаму яркія ўспаміны.

Значыць, вырашана: калі ўжо адпачываць, дык каб было што ўспомніць.

**ХЛОПЦЫ П’ЮЦЬ… «АКЦІВІЛ»**

Спачатку не паверыў сваім вачам, пасля — вушам. Перад гэтым, літаральна на днях, начытаўся ў газетах пра тое, што моладзь співаецца, ужывае наркотыкі, хуліганіць, ды так, што ад дэкаратыўных парканаў адно друз ды шчэпкі ляцяць, што лёгка падпадае пад дурнотны ўплыў, што яна разбэшчаная

і ўвогуле, так бы мовіць, няма каму даверыць будучыню — моладзь дэградуе…

Гм, дурнотны ўплыў… Гэтая тэма ўжо звініць у вушах. Не можа быць, каб такі стэрэатып з'явіўся сам па сабе, без аніякіх падстаў. Але ж от прывычка: самому ўсё праверыць і давяраць толькі тым довадам, якія пацверджаны ўласнымі назіраннямі.

Дык вось, назіраю, значыць, за гэтым «уплывам» ужо цягам трох гадзін, покуль еду дызель-цягнікам ад Пінска да Брэста. Насупраць размясціліся на драўлянай лаве трое коратка падстрыжаных юнакоў студэнцкага ўзросту, а цераз праход, на карацейшых лавах, трое мужчын — ім дакладна за сорак. Мужыкі ў чыстых светлых кашулях, паголеныя і наадэкалоненыя, адзін нават у гальштуку… Твары, праўда, не сказаць, каб надта свежыя, дый галасы сіплаватыя, але яны засяроджана перамаўляюцца пра нешта сваё, мяркуючы па ўсім, надта важнае, чым заслужылі не адзін шанаўлівы пагляд суседзяў спераду і ззаду. Адно моладзь занятая сабою, рагоча, валтузіцца на лаўцы, нібыта спакойна, як во мужчыны, нельга пасядзець. Суседзі, асабліва бабулі, паспелі ўжо нават кінуць на хлопцаў не адзін незычлівы пагляд. Але ім хоць бы хны.

Тым часам старэйшыя, працягваючы сур'ёзна абмяркоўваць нейкую няўвязку на буйной, хоць і сельскай, будоўлі, пераміргнуліся і адзін з іх дастаў з партфеля тры паўлітэркі піва. Ажывіліся. Нехта сказаў, што замест піва лепш бы пракуліў сто грамаў «белай», маўляў, і галаву ўправіць, і падвесяліць, і не шкодна для здароўя. Яны адпівалі з рыльцаў і зноў заглыбляліся ў складаныя вытворчыя разлікі, выводзячы на чыстую ваду праекціроўшчыкаў.

Хлопцы-студэнты таксама дасталі пляшкі. Белыя. На этыкетках прачытаў: «Акцівіл». Дакладна такія часам купляю сваім дзецям у якасці пачастунку. Юнакі таксама пачалі адпіваць з рыльцаў і ажыўлена гаманіць пра сваё. Адзін з іх выцягнуў з заплечніка ноўтбук, расчыніў і ўключыў яго… З ледзь заўважных шчылінак дынаміка забарабаніла па вушных перапонках абрывістая музыка. Бабулі зноў кінулі на хлопцаў незадаволеныя пагляды, маўляў, вам адно бугі-мугі ў галаве. Мужчыны таксама незадаволена хмыкнулі (нейкія малакасосы, бачыце, перашкаджаюць іх важнецкай размове пад піўко), паўзіраліся ў нязвыклыя белыя пляшкі, нехта на-

ват выказаў здагадку, што гэта неблагая маскіроўка, але, убачыўшы, што ў бутэльках сапраўды малочны прадукт, паціснулі плячыма і дружна пайшлі ў тамбур курыць.

А хлопцы нібыта нікога й не заўважалі вакол сябе. Яны сцішылі гук (гэта ўладальнік камп'ютара напачатку дэманстраваў магчымасці дынамікаў), папрасілі гаспадара паставіць ім модную сёння групу «Evanescence», ажыўлена перамаўляліся. Цікава, пра што можа быць гаворка ў сучаснай моладзі, якая п'е… «Акцівіл»? Покуль даехалі да Брэста, налічыў чатыры тэмы, якія не-не дый разбаўляліся адступленнямі. Першая — пра камп'ютар: новыя праграмы, тонкасці работы ў інтэрнэце, спробы стварыць уласны сайт, антывірусныя праграмы… Другая — вучоба: на гэтую тэму гаварылі яшчэ больш сур'ёзна, чым мужчыны пра будаўнічыя праблемы, а калі адзін з юнакоў папрасіў пашукаць у інтэрнэце курсавую па хіміі, праз пятнаццаць хвілін яна была знойдзена, і дыскета з яе запісам знайшла прытулак у заплечніку. Трэцяя тэма — спорт: усе трое наведваюць спартыўныя секцыі і доўга выхваляліся адзін перад адным дасягненнямі; а яшчэ ўсе трое вельмі любяць бавіць час у басейне. Падумалася: дык вось чаму ад іх сыходзіць такі здаровы дух, вось чаму такія рухавыя, свежыя з твару, мускулістыя. Чацвёртая тэма — дзяўчаты: адзін з іх едзе ад дзяўчыны і апісваў, якая яна, пры гэтым звяртаючы ўвагу на такія якасці, як увішнасць, гаспадарлівасць, памяркоўнасць… Няйначай, сабраўся жаніцца. Сябры адно выказвалі падтрымку дружнымі «У-у-у!» ды «О-о-о!».

Мужчыны паспелі апаражніць паўлітэркі і бліжэй да Брэста ехалі ўжо амаль моўчкі, слухаючы хлопцаў. Збоку гэта выглядала так, нібыта яны выдыхнуліся. Затое юнакі як ні ў чым не бывала валтузіліся, смяяліся, гаманілі пра зразумелыя і незразумелыя для навакольных рэчы і па-ранейшаму выпраменьвалі сілу і здароўе. І ўжо ніхто не глядзеў на іх спадылба альбо з дакорам.

Я моўчкі назіраў за ўсім і перабіраў у памяці сваіх знаёмых ды сваякоў прыкладна такога ж узросту, як гэтыя хлопцы, і не прыгадаў ніводнага п'ючага, а тым больш дэградаванага. То па кім жа мы мяркуем пра ўсю сучасную моладзь? Па двух-трох выключэннях з правіла? Ці не лепш спачатку на сябе паглядзець?

***

Куфаль піва на стале. Керамічны. Руды. Чым больш выпіваеш, тым больш ён падобны да вежы. Вось ужо ён сапраўдная старажытная абарончая вежа. Там, усярэдзіне, войска, якое падрыхтавалася адбіць варожую атаку. Перакульваю вежу ў сябе, высыпаю ў сябе войска. Цяпер я магутны, непераможны. Ува мне ў сярэдзіне войска, здольнае адбіць любую атаку любога ворага. Я ўжо сам — непрыступны мур.

***

Перадзім'е разаслала бяскрайнюю скуру невядомага дзіва-звера. Белую, з рудою рэдзенькай шчэццю ды з бярозава-альховаю пярэстаю грываю.

***

Пацалункі і тыя не такія салодкія пасля ўсіх гэтых амерыканскіх дурнаватых фільмаў, дзе героі бясконца аблізваюць адно аднаго.

***

…Нічога не робіць, адно думае (сядзіць — думае, ходзіць — думае, стаіць — думае…). І ўсё насміхаецца з тых, хто нешта робіць. Бач які.

***

Біяграфія: так было, але гэта не праўда.

Мастацкі твор: так не было, але гэта праўда.

***

Не займеў своечасова новы перакідны каляндар, перакінуў лісты старога на першую старонку, і… захацелася яго пагартаць.

А як пагартаў, то падумаў: чаму б гэты каляндар не скарыстаць яшчэ колькі разоў. Перагортваеш наступную старонку, і прыгадваеш па запісе, што ў гэты дзень летась ці пазалетась рабіў. Вось спаткаўся з леташнім сваім зімовым настроем:

Завіруха
на блакітнай палітры
акварэлі мяшае.
Белую,
белую…
Круціць,
круціць…
Слізгае пэндзлем па шэрай,
зноўку круціць, размешвае…
Жоўтага кінула —
гарачы, што вугольчык.
З чорным і шэрым
круціць яго.
Нібы хутарок вячэрні
закружыўся
ў белым танцы…
У зялёнай,
колеру елкі,
застыла,
Прымроіла нешта,
спатыкнулася,
у чорную ўпала,
Выскачыла:
«Вох-вох!»,
У белай памылася-
папаласкалася,
Заспявала,
ізноў закружыла:
белая — шэрая,
белая — сіняя,
белая — жоўтая,
белая — чорная,
белая — зялёная,
белая — белая…

Гартаю далей. Вясна. Вёска. За хатаю хмызняк і невялічкая сажалка ў ім. Стаім з дзецьмі на беражку і назіраем, як пад сонечнымі промнямі крышыцца тонкі лёд. Спачатку ён прагнуўся пасярэдзіне, як дзяруга, прымацаваная краямі да берага, а тады пачаў крышыцца. Бяру кавалачак ільдзінкі велічынёю з вучнёўскі сшытак. «Глядзі, тата, божая кароўка», — паказвае дачушка на ўмерзлае ў лёд насякомае. А вунь яшчэ нейкі доўгі чорны жучок, а вунь клоп-цыклоп… «Яны ўжо не ажывуць?» — пытаюцца дзеці. «Паглядзім». Раскрышваю льдзіну. Збіраю жучкоў і раскладваю іх на чорным старым пянёчку. Сонца тут сама што прыпякае. Хвіліна-другая, і жучкі пачынаюць варушыцца. Дзіцячай радасці няма межаў. Яны нават прыкмячаюць, як з усіх шчылін у божай кароўкі выступае брудная рудая вадкасць. «Гэта не гной, а неабходныя ў момант адаптацыі выдзяленні», — супакойваю сваіх дзяўчынак.

Пачатак лета.

Любуемся ў вёсцы, як цвітуць трускалкі, правяраем, ці ўжо дзе вылупіліся ягадкі. Рукі натыкаюцца на нешта мяккае,

як поўстка футравага звярка. Трэба ж, гэта каліўца бярозкі з нязвыкла лапушыстымі лісточкамі…

У дарослай бярозы лісток жорсткі, у маладой — ліпкі, а ў маленькай — пушысты. Бліжэй да мяжы гэтых каліўцаў процьма. Найбольш — з попельнымі, а ўверсе нават чырванавата-барвовымі і яшчэ больш лапушыстымі лістамі. Ці не асінкі гэта? Але чаму лісце вастрадзюбае, а не кругленькае? Нават паспрачаліся з жонкаю:

— Асінка.

— Ясакар.

— Асінка.

— Граб.

— Асінка.

— Вяз.

Некалькі шырокіх лісцяў дубка раскрылі свае далонькі проста з зямлі. Колькі ні разгортваў трускалкі, колькі ні прыглядаўся — не, няма сцябла.

Занатоўваў гэта ўсё, каб не забыць. І добра, што застаўся на рабочым стале гэты каляндар, а не паляцеў у сметніцу. Вось, на старонцы «20 ліпеня», напамінак пра яшчэ адну летнюю прыгоду. Дзьмухавец заляцеў у фортку ды прыкаляндарыўся на гэтую старонку. Пушыстым верхам ён лёг на двойку, а чорнай вертыкальнай рысачкай — на нуль. Прыгожы. Згледзеў яго на календары, прыехаўшы во толькі з Завышанскага возера, дзе адпачываў у палатцы з жонкаю ды дзвюма дочкамі.

Асеннія лісты нагрувашчаны гаспадарчымі ды газетнымі запісамі-клопатамі. Аж вось дзень, ад якога застаўся не толькі светлы ўспамін, але і малюнкі дзяцей. Валавельская школа (Драгічынскі раён) была запрасіла ў госці. Перад сустрэчаю дзеці прачыталі маю кнігу «Палескі Напалеон», да некаторых твораў намалявалі ілюстрацыі і падарылі іх аўтару. А якая цёплая атрымалася ў нас гутарка! Як яны слухалі! Колькі пытанняў задавалі!

Вось табе і перакідны каляндар.

***

У Мікашэвічах ёсць помнік легендарнаму партызанскаму генералу Васілю Каржу.

Неяк настаўніца мясцовай школы распавяла звязаную з гэтым імем гісторыю.

— На ўроку пытаюся ў вучняў, каму пастаўлены помнік у цэнтры нашага пасёлка. Так і не прыгадалі. Падказваю: Каржу. І зноў пытаюся: ведаеце, хто гэта? «Камерса-а-ант», — дружна выбухнуў клас. Аказваецца, у аднаго з самых «крутых» бізнесменаў пасёлка прозвішча таксама Корж.

***

На паліцах кнігарняў усё болей прозвішчаў і ўсё меней Імёнаў.

***

Жанчыны бываюць поўныя, а бываюць раскошныя.

***

Азіраюся спрасонку. Мае нагавіцы стаяць на каленях прада мною, абапёршыся на зэдлік.

***

Селянін пра жонку:

— Яна ў мяне добрая дый прыгожая. Наглядзецца на яе не магу. Але, бывае, раз'юшыцца ды пасінее. Чаго яна гэтак?

***

Сёння жыць так, нібы заўтра ад цябе будзе залежаць лёс планеты.

***

Прадзіраюся з кошыкам па лясным гушчары. Раптам ажына сваім вострым шыпам зрабіла на руцэ каля задаўненага следу ад дзіцячай прышчэпкі невялічкі надрэзік, а з лісціка на яго ўпала празрыстая кропелька. Прырода зрабіла мне чарговую прышчэпку. Балючую. Няйначай, каб не хварэў на абыякавасць да навакольнага хараства.

***

Ну навошта, навошта лічыць людзей горшымі, чым яны ёсць насамрэч? Яны й так далёка не анёлы.

***

Еду за рулём аўтамабіля. Даганяю легкавік. У заднім акне — тварык хлопчыка. Цікаўны такі. Дзіўлюся. І гэтак карціць тым хлопчыкам стаць.

***

Не раскрываюся цалкам нават перад самім сабою, не тое што перад іншымі. Здаецца, як толькі раскрыю нейкую таямніцу ў сабе, то ўжо стану нецікавы ні сабе, ні іншым. Папросту перастану быць, рассыплюся. Як бы гэтая таямніца — адмысловы магніт, да якога прыцягнута ўсё астатняе маё — і вонкавае, і ўнутранае.

***

З таго, што я мог бы зрабіць, зрабіў толькі тое, чаго не мог не зрабіць.

***

Толькі тое і робім: то прыспешваем час, то імкнёмся супыніць яго.

***

У 35 год ён моцна захварэў і сабраўся паміраць. І перад смерцю гэтак закарцела выказацца. І выказваўся 65 гадоў…

***

Агонь грызе палена доўгімі жоўтымі зубамі. Як стары бабёр.

***

Абыходзь упэўненых — яны недалёкія. Цягніся да тых, хто сумняваецца — яны шукаюць.

***

У светлы летні поўдзень пчолы здаюцца сонечнымі шарыкамі, якія снуюць туд-сюд з вулея і ў вулей.

***

Горка пацямнелага снегу на чорнай зямлі плавілася гэтак хутка, нібы грудка тлушчу на гарачай патэльні.

Неўзабаве гэтая грудачка ператварылася ў лужыну. А ў яе ўпаў жаўток — чырвонае веснавое сонца.

***

Яго ўсе заклікалі стаць багатым і заўзята вучылі, як стаць багатым. Маўляў, з такою галавою, ды гэтак сціпла жыць. Але ён так і памёр разумным.

***

На зямным шары, асабліва калі глядзець на яго з космасу альбо хоць бы калі ўзяць у рукі яго макет — глобус, няма ні глухога кутка, ні глыбінкі, ні правінцыі, ні захалусця, ні цэнтра цывілізацыі… Усё тое людзьмі прыдумана.

***

На пачцы з-пад цыгарэт я напісаў бы:

«Калі зацяжка дапамагае вам заглыбіцца ў одум, вырашыць важную праблему быцця, калі яна — сутворца яркага літаратурнага вобразу, не бойцеся, курыце. Нават калі цыгарка скароціць вашае жыццё, той карацейшы адрэзак акажацца больш поўным і насычаным, чым бясследны даўжэйшы.

Калі вы проста так курыце, тым больш не бойцеся цыгаркі, бо каму патрэбна жыццё, ад якога ніякай нікому карысці — адзін толькі дым».

***

Добра косіцца ў шэсць гадзін раніцы. За хатаю ў цешчы трава — сцяной. Непадалёк, за яблынямі, жонка клубніцы прaполвае. Знайшла адну — першую — спелую. Паклала на мяжу — дзецям.

За сцяною ў хаце сапуць два сонейкі — Каця ды Насця. Калі спыняюся, невядома якім чуццём лаўлю праз сцяну іх сцішанае мірнае сапенне.

Аднак жа й камарэча! Лезе ў нос, у вушы. Ганю касою маленьку жабку: ш-ш-ых — скок, ш-ш-ых — скок. Скачы ўжо, малая, а я пастаю, паслухаю, як пасапваюць там мае.

Ля вуха дзынкнула, як брусок аб касу, пчала. Зараз прайду яшчэ адзін пракос і пайду за стол пісаць. Дзіўна ўсё ж: усе лічаць, што я папрацаваў і іду пасядзець за сталом, каб

спачыць, а на самай справе я адпачыў і збіраюся пайсці папрацаваць.

***

Іванаўскі паэт Валодзя Гетманчук любіць прыгадваць выпадак, як аднойчы прыйшоў да мяне, а я ў склепе сяджу ў густым цыгарэтным дыме на нейкім паржавелым вядры і пішу, паклаўшы на калені паперу, апавяданне.

— Ах, што гэта за дзівоснае было відовішча, — аж прыцмоквае ён языком.

Тое апавяданне называлася «Партрэт». Слабенькае задалося, але ў друк прайшло — было апублікавана ў часопісе «Першацвет» (№ 2, 1995 год). Успамін пра тое, як яно пісалася, куды даражэйшы за сам твор мне самому.

Я ж люблю ў кампаніі прыгадаць выпадак пра Валодзю, як ён ледзь не апоўначы выцягнуў мяне з хаты (там, на вуліцы, маўляў, такое, такое!..) і паказаў сапраўды дзівоснае відовішча: вецер пад вулічным ліхтаром кружыў вогненнае восеньскае лісце. Мы доўга моўчкі любаваліся невыказнай прыгажосцю. Пасля гэтак жа моўчкі падалі адзін аднаму рукі і разышліся, беражліва несучы ў свае сны прыродную паэзію.

***

Здаецца, яна нават калі й дорыць нешта некаму, дык не дзеля тых, каму дорыць, а дзеля сябе: маўляў, во, глядзіце, гэта ж я, я, я...

***

Вясковая цётка скардзіцца суседкам ля калодзежа:

— Гэта ж так пакутую, так пакутую. Мой дзень у дзень п’яны прыходзіць. Б’ецца, калоціць да паўночы, спасу няма. Уся ў сіняках хаджу.

— Дык кінь яго, развядзіся, пакуль не забіў.

— Не магу, шкада, праклятага! Прападзе ж без мяне.

***

— Бабуля, у мяне баліць галава, — хныкае малая.

— А, дзіцятка маё, — шкадуе ўнучачку бабуля, пакутліва моршчыцца, ледзь стрымліваецца, каб не застагнаць. Бабуля

ўжо не ведае, дзе ў яе не баліць. — А, дзіцятка маё, хадзі я цябе пашкадую.

***

Ён вельмі хацеў праславіцца. І праславіўся. Тым, што вельмі хацеў праславіцца.

***

Адзін пісьменнік напісаў твор, у якім спачатку ярка вымаляваў асалоду ад п'янства і распусты (маўляў, прыцягну, заінтрыгую, падчаплю, як рыбіну на прынаду, чытача), а пасля, у другой частцы, паказаў гэтак жа маляўніча, якая яна падманлівая, такая асалода. І... гібельная.

Чытач першую частку прачытаў як бач, а другую ледзь пачаў — куды толькі тая цікавасць падзелася.

**Упэўненасць**

Я цвёрда ўпэўнены ў тым, што ні ў чым нельга быць цвёрда ўпэўненым.

**Сталенне**

Раней я быў з некім.
Пасля — ні з кім.
Цяпер — са мною іншыя.

**Новая казка пра новы час**

Забылася таполя, як шумець трэба;
Зязюля забылася, куды ёй ляцець…

**Кансерватызм**

Мужык не мае ні тэлефона, ні тэлевізара, ні якіх іншых атрыбутаў сучаснай цывілізацыі. У яго ўсё яшчэ з часоў сваёй даваеннай маладосці: стары гадзіннік з зязюляю, гаспадарчае начынне, гаршкі, корабы… нават вопратка льняная, а боты хромавыя. На пытанне «Чаму?» адказвае:

— Я гэтак хараша доўга ў сваім часе пажыў, мне гэтак утульна ў ім, што не пераказаць. А вы ў адным не паспелі агледзецца, не тое што зразумець яго, наталіцца ім, як ужо ў другі пераскокваеце, а пажыць толкам і не паспяваеце.

**Кішэні дзіравыя**

— Вось пастаўлю вялізную цяпліцу, насею ў ёй гуркоў ды памідораў, пасля прадам і стану багацеем, — выхваляецца вясковы лайдак ды выпівоха перад бабулямі, што паселі пад плотам на лаве, каб пагрэцца на сонейку.

Тыя адно пасміхаюцца з гэтых слоў, а самая дасціпная згарнула сваё пытанне ў дудачку-трубачку дый прадудзела:

— Хлопча, ты ж тыя грошы як бач згубіш, бо ў цябе ж усенькія кішэні дзіравыя.

**Сюжэт**

А што, калі іншапланецяне вырошчваюць нас, зямлян, як мы вырошчваем, скажам, жывёлу? Адно што мы выкарыстоўваем жывёл для атрымання мяса, а яны нас — для атрымання пачуццяў, якіх у саміх няма. Яны папросту насалоджваюцца імі, нібы якімі бясшкоднымі (а ці нават і шкоднымі) наркотыкамі.

**Паэт**

Ідзе скрозь войны, кроў, смерць… Наступіў на лісточак:

— Вой, я лісток растаптаў!

**Прыцяжэнне**

Селі ў вагоне разам, насупраць адзін аднаго, ворагі (некалі зварагаваліся, ужо і самі не помняць, з якое прычыны). У вагоне поўна народу, дык мусіш быць побач. А неўзабаве амаль усе выйшлі. Можна было б і разысціся па розных кутках. Ды не разыходзяцца. Нешта як не дае адарвацца адно ад другога.

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

*Лімаўскі фальварак*

**КРЭЙДЗІЧ** Анатоль Мікалаевіч

**РОДНАЕ, ШЧЫМЛІВАЕ**

Кніга прозы

Рэдактар *М. П. Станкевіч*
Мастак *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *Я. К. Вашчанка*
Камп'ютарная вёрстка *А. І. Дзядзюля*
Стыльрэдактар *В. С. Рацэвіч*

Падпісана ў друк 09.04.2012. Фармат 60×90 1/16.
Папера газетная. Гарнітура Times. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 13,00. Ул.-выд. арк. . Тыраж 1100 экз. Заказ.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Друкарня «Перамога».
ЛП 02330/0494182 ад 03.04.2009.
Вул. Таўлая, 11, 222310, г. Маладзечна, Рэспубліка Беларусь.